МАНАЛОГ ПАЭТА ПРА ВЕРНАСЦЬ І ДРУЖБУ

АПОВЕСЦЬ ПРА КАХАННЕ

ПАМЯЦІ МУСЫ ДЖАЛІЛЯ

ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРА ЛІТАРАТУРУ

ЗА ЎЛАДУ САВЕТАЎ

АКЦЁРСКІЯ ДЭБЮТЫ

ХОЧАЦЕ ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ ПРАВЕРЦЕ

ПЧОЛЫ АДДАЮЦЬ ЯД
МАЛПЫ НА МЕСЯЦЫ
ХТО КАМАНДУЕ ДОМА
ПРЫЧЫНА ХВАРОБЫ — ТЭЛЕВІЗАР

ГУЛЯЮЦЬ МІНСКІЯ ХАКЕІСТЫ.



**2**

**ЛЮТЫ**

**Мінск 1966**

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Заснаваны ў 1953 годзе — № 2 ЛЮТЫ 1966**

## У НУМАРЫ:

Вокладка **У. Філіпенкі.**







**Аркадзь КУЛЯШОЎ**

●

# ПРА АСІНЫ

Развесіўшы з самай зары на вятры
Сушыць павучыныя сеці,
Аблытала бабіна лета бары
Маной аб нягаснучым леце.

Аблытала дот, што зарос бур'яном,
Бліндаж, што не вытрымаў буры,
Асіны, што лісцяў гарачым агнём
Закрылі агонь амбразуры.

Асіны, асіны! Між цёмных ялін
З нізін прабіваюцца ўгору
Іх яркія вогнішчы!.. Хто на ўспамін
Пакінуў іх змрочнаму бору?

Хто іх запаліў тут? Бязлітасны шквал
Пякельнае артпадрыхтоўкі?
А можа пяхоты апошні прывал,
Каманд пахавальных рыдлёўкі?

«Хіба ўжо,— трывожыцца полымя іх,—
Не кружыцца смерць над дамамі,
Братэрства і згода пакуты жывых
З калючых дратоў паздымалі?..»

Глытаючы вецер акопны і пыл,
Суровымі сведкамі часу,

Яны — нібы ўдовы на варце магіл —
Застылі ў чаканні адказу.

Як камень халодны нямых курганоў,
Гняце іх цяжкое чаканне.
І полымем вечным жалобных кастроў
Над светам палае пытанне.

●

Сябры, каго вайна скасіла кулямі,
Дыханне ваша чую за спіной.
Зноў грозна, разварушанымі вуллямі,
Гудуць франты... Не ціхне вечны бой.

Зноў прыпадае з жалем Бесядзь родная
Да каранёў дуброў, да ног сяліб —
Хвалюецца, што нечысць вадародная
Даверлівых яе атруціць рыб.

Дубы глядзяцца ў глыб ракі, і кволыя
Спяшаюцца да завадзяў сады,
Каб стрэсці з плеч напалмавае полымя,
Што прагне перакінуцца сюды.

Вам цяжка дыхаць, вы ў адчаі просіце
Зямлю, каб адпусціла вас назад
На вольны свет. Я знаю, вы зайздросціце
Жывым. А ім хіба лягчэй нашмат?

●

Бег цень мой на гару, каціўся з кручаў,
Ніяк не мог угнацца я за ім,
Калі ён ранак дня майго раскручваў
На палатне дарогі суравым.

А ў поўдзень мой спякотны, незваротны
Ужо кароткім крокам мерыў цень
Шляхоў шыракатканыя палотны,
Жадаючы нібы прадоўжыць дзень.

Парой вячэрняй з хуткасцю абознай
Ён цягнецца так доўга ад таго,
Што не жадае на вярсце апошняй
Гаспадара пакінуць аднаго.



Мае сяброўства — цень мой пажыццёвы,
З якім прайшоў праз дым, агонь, ваду,
Якому не здраджаў, які гатовы
Са мною ўпасці там, дзе я ўпаду.

●

Салдатаў веку, што па грозных цэлях
Вядуць агонь з траншэй перадавых,
Ужо не забіваюць на дуэлях
Забойцы каранованыя іх.

Аб паядынку не папераджае
Іх, як калісьці, секундант маны,
Ланцуг — яго вялікасць — іх знішчае,
Душу ад цела вее Бог вайны.

Хваробай вокамгненнаю — інфарктам
Расстрэльваюць кароткае жыццё,
І незлічоных страт агульным актам
Спяшаюцца спісаць у небыццё.

Але, сярод ахвяраў незлічоных
Не спісаныя памяццю жывых,
Яны агонь вядуць па цэлях чорных
З магіл сваіх! З траншэй перадавых!

# МАНАЛОГ

Памяці паэтаў
З. Астапенкі і Ю. Таўбіна.

1

Калі і дзе, я ўдакладняць не стану
Таго, што больш не выклікае прэк,
Бесчалавечнасць выпаліла рану
На часе тым, што адышоў навек.

А забыццё, каб сэрцы з нешматслоўнай
Зямлі бесчалавечную віну,
Схавала месца смерці безназоўнай
Пад дываном, сатканым з дзірвану.

І хоць дзірван, што рану ўкрыў старанна,
Стаў палыном на мёртвай глебе той,
Не зарасла зямлі жывая рана,
А зарасла зямля яе травой.

Дзе б я ні быў, дзе б мне ні давялося
Убачыць дол сівы ад палыну,
Пякуча сэрца сціснецца, і лёс я
Загінуўшых без весткі памяну.

**2**

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасць вам?
Дзе дзверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсці? Якіх пытацца брам?

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

Няма куды сваю жалобу ўскласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэткім шчасці
У маладосці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я — ваша памяць, вы — маё сумленне,
Я — дрэўка, вы — трывалы сцяг на ім.

**3**

Устоіць той, хто варт,
На старт, сябры, на старт!
Юлі ТАЎБІН.

Быў кожны з вас адважных стартаў вартым,
Шкада, што фініш быў не вартым вас.
Па-рознаму адлегласць паміж стартам
І фінішам нам адмярае час.

Адным, хто доўга жыў, зрабіўшы мала,—
Кароткім падарожжам за труной,
Другім, хто шмат зрабіў, пражыўшы мала,—
Адлегласцю ў бяссмерце даўжынёй.

Нядоўгім быў ваш век, як век падзёнак,
Мае сябры!.. Суровы сівер змёў
Са старту вас. Вы — кнігі без старонак,
Лісты без дрэў, дарогі без слядоў.

Нялёгка мне працягам быць тых самых
Нязходжаных шляхоў, быць вартым тых
Спраў абарваных, кніг недапісаных,
Якім не ўзняцца з фінішаў сваіх.

**4**

Не бачыўся я ўсё жыццё амаль
З сябрамі незабыўнымі маімі.
Зноў выклікае на размову з імі,
Навекі разлучыўшая нас, даль.

Каня свайго сядлаю і ў дарогу,
Цяжэйшую з усіх былых дарог,
Кіруюся адзін,— як маналог
На пошукі жывога дыялогу.

Але ці след спяшацца мне, калі
Цень падаўжэў, конь пакалечыў ногі,
І там, куды я еду, дыялогі
Спяць вечным сном, набраўшы ў рот зямлі?

Не прыпыняйся, не жахайся, слова!..
Хай адвячорак доўгім ценем лёг —
Магчыма немагчымая размова
Датуль, пакуль магчымы маналог.

**5**

Як мне сябрам паклон адважыць нізкі,
Дзе адшукаць іх захавання дол?
Ляглі маўклівым сведчаннем на стол
Адзіныя іх помнікі — дзве кніжкі.

Друкарняю адціснуты як след,
На вокладках два прозвішчы і даты
Іх нараджэння новага на свет.
Два томікі, як два чырвоных святы!

Смяротнага спаборніцтва з пяром
Не вытрымаў ні штык, ні сталь рыдлёўкі,
І не змагла імгла нямой дамоўкі
Верш задушыць халодным забыццём.

Два томікі — два помнікі. З партрэтаў
Глядзяць сябры. Мы дружбе служым зноў...
Іншых служб не трэба для паэтаў —
Ні ладана, ні жаласных прамоў.

**6**

Глядзіце без дакору і пагарды
Вы на мяне з экранаў вашых кніг,
Як кінастужак спыненыя кадры,
Гатовыя крануцца кожны міг.

На старце вы. Ад быстрае пагоні
Мне не ўцячы, а вам не перагнаць

Мае маршчыны і сівыя скроні,
Якім рукой да фінішу падаць.

Для тых, хто вас не бачыў, вы — партрэты
Адстартаваўшых год. А для мяне —
Вы назаўжды майго юнацтва леты,
Што не падстаўяць скроняў сівізне.

Для іншых вы — ахвяры радавыя
Крутых гадоў, бязлітасных судоў,
А для мяне — вы маршалы, якія
Камандавалі б арміямі слоў.

## 7

Так, мы — сябры па сэрцу і па зброі,
Вядомы арсенал байцоўскі наш:
Чарніла і чарнільніца, пяро і
Хімічны альбо просты каландаш.

Мне нечым перад вамі ганарыцца,
Сябры!.. Адны ў нас пушчы і палі,
Засмаглымі радкамі з іх крыніц мы
Адзін і той жа халадок пілі.

Мне на жыццёвых шалях перавагі
Лёс не адважыў. Толькі ў тым яна —
Што доўгі шлях маёй няўтольнай смагі
Не абарвала ранняя труна.

Што я далей друкую крок, нібыта
Па бітым шкле — па муках, па вайне...
А ўсё, што мною знойдзена, набыта,
Належыць дружбе нашай, а не мне.

## 8

Хваробу, што здароўе падкасіла,
Нібы быка, за рогі мы бяром,
Пакуль жыве ў нядужым целе сіла
З уладай таямнічай над пяром.

Лепш цяжка жыць, чым быць бадзёрым трупам —
Гарэць агнём, якога ўжо няма,
Былой уладай пахавальны марш
Забараняць іграць крытычным трубам.

Лепш вечны сон, чым гэткай явы сны.
Хай на парозе небыцця такога
Мяне ў калыску з труннае сасны
Кладуць жывога так, як нежывога.

Нашто мне зрок, навошта гучны крок,
Хвілін імклівасць, цішыні хвіліны,
Турботы дня, апошнія навіны,
Крывёй не перагнаныя ў радок?



## 9

Мой маналог, як палымяны конь,
Пачуўшы подых бур, стрыжэ вушамі,
Спяшаецца, паразмаўляўшы з вамі,
Ад вечнага агню ў жыцця агонь.

Між намі лёс правёў размежаванне:
Вы — скрыжаванне рук, я — крокаў рух.
Аднак саюз мужчынскі — не каханне,
Дзе трэці лішні пакідае двух.

Наш брацкі вузел не парве, я знаю,
Ні адгрымеўшы, ні наступны бой.
Я, ваша памяць, вас не пакідаю,
Бяру з сабой, як клятву, як набой.

Злучыліся: з дарогамі дарога,
З лістамі дрэва, са слязою пыл,
І ў сэрцы там, дзе ўсёй зямлі трывога,
У тры разы прыбавілася сіл.

Іван ШАМЯКІН



# АХ, МІХАЛІНА, МІХАЛІНА

Аповесць

Мал. Л. Асецкага

Слухаючы яе першы раз у шумным кафэ пры абласной гасцініцы, я, як кажуць у нашым пісьменніцкім асяроддзі, «загарэўся тэмай» — падумаў: гэта ж гатовы сюжэт, у такім выглядзе жыццё рэдка дорыць яго нашаму брату. Але ў гісторыі не было канца. Яго трэба было прыдумаць. Гадзіны праз дзве пасля размовы я ўжо меў некалькі варыянтаў развязкі. Аднак хацелася ведаць, як такі заблытаны вузел развяжа само жыццё. А таму, прызнаюся, калі настойліва дамагаўся для яе прыёму ў сакратара абкома, то рабіў гэта не толькі ад шчырага жадання і грамадскага абавязку — памагчы чалавеку, але і з некаторага эгаістычнага меркавання — наблізіць фінал і пасля даведацца, які ён у жыцці, і параўнаць з маімі — ці ўдалося адгадаць? Што зробіш — прафесія часам вымушае да хітрасці!

К канцу дня мы з ёй былі ў прасторным кабінеце перад аўтарытэтным сталом, за якім сядзеў з выгляду вельмі просты чалавек — зусім не аўтарытэтны ў тым значэнні гэтага слова, да якога мы за пэўны час прывыклі.

Пятро Гаўрылавіч тады быў яшчэ новым чалавекам за гэтым сталом. Прыйшоў ён у абком з інстытута, з пасады рэктара. Натуральна, што не паспеў яшчэ набыць глыбакадумнай паважнасці, знарокавай стомленасці і рассеянасці ў размове з людзьмі. Акрамя таго, у інстытуце яму, відаць, нярэдка прыходзілася выслухоўваць споведзі такіх жа, хіба трохі маладзейшых, дзяўчат і жанок. Я па тэлефоне коратка пераказаў яму сутнасць таго, што пачуў сам ад жанчыны. Можа таму ён разглядаў яе сваімі блізарукімі вачамі праз акуляры з добрай увагай і шчырай цікаўнасцю, вельмі прыхільнай, неабражальнай, якая хараша супакойвае наведвальніка.

Але яе гэта, відаць, мала супакоіла.

Там, перада мной адным, яна ні на хвілінку не бянтэжылася, нават калі расказвала пра самыя інтымныя свае пачуцці і перажыванні. Гаварыла проста, натуральна, дзе з болем, дзе з абурэннем, а дзе і з гумарам, хоць смешнага ва ўсёй гісторыі мала.

А тут ніяк не магла пачаць сваю споведзь. Залішне доўга камечыла пацёртую дужку рыдыкюльчыка, глядзела долу на бліскучы паркет. Разы два глянула на мяне. Адзін раз так, быццам папрасіла: «Пачніце вы, скажыце што-небудзь. А то мне цяж-

ка»; другі — з нейкай дзіўнай, больш інтымнай, чым дазваляла наша кароткае знаёмства, усмешкай.

Пятро Гаўрылавіч не прыспяшаў жанчыну. Разглядаў не толькі яе твар, але і рукі, пальцы, прыгожыя, аднак, ужо трошкі загрубелыя, як ва ўсіх вясковых настаўніц. Нарэшце, не вытрымаў, сказаў амаль афіцыйна:

— Слухаю вас, Міхаліна Казіміраўна.

Тады яна пачала расказваць. І ўжо ў першыя хвіліны я здзівіўся: гэта быў зусім іншы расказ, больш таго — другога чалавека. Не, яна расказвала тое ж самае, нават, калі хочаце, больш лагічна, паслядоўна і спакойна, толькі карацей — менш падрабязнасцей і менш здагадак пра думкі і намеры людзей, якія мелі дачыненне да яе лёсу. І менш даверлівасці, больш стрыманасці. Увогуле гэта натуральна: адна справа — расказваць пісьменніку, другая — сакратару абкома, у кабінеце, дзе сама абстаноўка прымушала да стрыманасці і нават да некаторай афіцыйнасці.

Я гэта разумеў. І аднак жа ніяк не мог вызваліцца ад уражання, што слухаю зусім другога чалавека, чую зусім другі расказ, падобны да першага толькі сваёй знешняй фабулай. Што здарылася — уцяміць не мог. Змяніўся настрой жанчыны? Ці можа за нейкія чатырыпяць гадзін я сам так трансфармаваў гэты матэрыял, так «перавары́ў», зрабіў «сваім», што дакладны паўтор, ды яшчэ ў другіх інтанацыях — ужо «не маё», чужое, інакшае, чым патрэбна мне. Але чаму ў кафэ я ўсяму верыў, а цяпер і раз, і другі, і трэці ўсумніўся ў праўдзівасці сітуацый, якія ўзнікалі на працягу яе своеасаблівай трагедыі, яе шчасця і бяды? А з'явілася адчуванне фальшы — і знікла жаданне пісаць. Ужо недзе напалавіне я слухаў яе амаль абыякава. Думаў: «Я зрабіў добрую справу, памог ёй сустрэцца з сакратаром — даволі; у мяне хапае іншых спраў, клопатаў, сюжэтаў».

Але — не! Я зноў паверыў ёй і зноў «загарэўся тэмай», калі яна так незвычайна, так шчыра выказала сакратару сваю просьбу.

Ішоў час, была другая работа, і гісторыя Міхаліны Казіміраўны, хоць я не раз успамінаў яе, ляжала ў маім творчым запасніку.

Мінула амаль два гады. Тое, што называецца ў нас творчай камандзіроўкай, занесла мяне ў адзін палескі раён. Я трэці раз сустрэўся з настаўніцай і пераканаўся, што яна не змяніла, даведаўся, пра той працяг яе радасці і гора, які можна бадай назваць канцом...

Цяпер я ўжо не мог не напісаць. Але з чаго пачаць? Безумоўна, з яе першага расказа...

У тую раніцу звычайнага будняга дня з'явілася ў мяне дзіўнае жаданне: надзець сваё найлепшае плацце і тую кофтачку, якую падаравала Антаніна Аркадзеўна. Кофтачку гэтую я вельмі берагла і надзявала толькі ў самыя ўрачыстыя святы, бо другой такой кофтачкі не было нідзе — яе звязала свякруха сама і звязала так, што жанчыны ахалі, калі ўпершыню бачылі гэты белы цуд з чорнай і чырвонай акаймоўкай; вочы ў іх загараліся зайздрасцю. Жонка сакратара райкома знарок прыязджала і прасіла Антаніну Аркадзеўну, каб тая звязала такую кофтачку ёй. Я была пры іх размове. Антаніна Аркадзеўна зачырванелася, разгубілася.

«Што вы, што вы, галубка. У мяне ўжо сляпыя вочы. Ды і звязаць так можна толькі раз у жыцці».

Сакратарысе, відаць, стала няёмка, што патурбавала такой недарэчнай просьбай заслужаную настаўніцу, і яна хуценька развіталася.



О, як мне было радасна чуць і назіраць гэта! Помню, я не ўтрымалася, абняла свякруху, пацалавала ў шчаку, хоць увогуле да такіх пяшчотаў не прывучана і не люблю іх. «Якая вы слаўная, Антаніна Аркадзеўна! Як я люблю вас!»

Яна ласкава адхіліла мяне, сказала:

— Не такая я добрая. Вучні лічаць мяне злоснай. Як бы ў цябе не было, як у таго Сашкі. Ён кажа: «Бабуська, я вельмі-вельмі люблю цябе». А праз хвіліну: «Баба, ты — бяка, не буду цябе любіць».

Сашка — мой сын, яму тры гадкі.

Але я люблю яе, сваю свякруху. І цяпер нават. Паважаю. Яна — разумны чалавек і сапраўдны педагог. Аднак не скажу, што ва ўсіх нашых адносінах была поўная шчырасць. Я трошкі баялася яе, бо адчувала, што пры ўсёй надзвычайнай дабраце і ласкавасці яна ставілася да мяне неяк насцярожліва, быццам таксама баялася, што я магу зрабіць нейкую непрыемнасць, калі не ёй самой, то Генадзю. Калі яна праўда баялася, то, як бачыце, недарэмна, было ў яе чуццё.

Надзець плацце, я адчувала, можна без тлумачэнняў. Генадзь напэўна ўвогуле не прыкмеціць: ён абыякавы і да свайго ўласнага ўбрання і да майго. Свякруха далікатна прамаўчыць. Мала што можа прыйсці ў галаву маладой жанчыне! Няхай пакрасуецца, калі ёй так захацелася. Але кофтачка... Тут не стрымаецца ўжо муж. Спытае. Бо кофтачку гэтую — матчын падарунак яго жонцы ў дзень вяселля — ён таксама бярог раўніва. І што я адкажу? Не магла ж я сказаць, што заўсёды, з малых год, з нецярплівасцю чакала сустрэчы з кожным новым чалавекам. Праўда, заўсёды мне здавалася, што новы чалавек прынясе нейкую новую радасць, яшчэ чуць больш падыме заслону, за якой — дзівосны, казачны свет. Відаць, гэта ў мяне ад таго, што я расла ў лесе, але на чыгунцы. Бацька мой быў пуцявы абходчык. Будачнік, як у нас кажуць.

Міма будкі штодня праносіліся цягнікі, у вокнах пасажырскіх мільгалі твары, з тамбураў таварных прыветліва махалі кандуктары. Але людзі гэтыя ніколі не маглі зайсці ў нашу будку. А мне так хацелася малой, каб хоць раз цягнік спыніўся і ўсе пасажыры, многа-многа людзей, зайшлі да нас у госці. О, якое б гэта было свята, здавалася мне! Колькі цікавага яны маглі б расказаць, паездзіўшы па свеце. У нашу будку ўвогуле рэдка хто заходзіў, яна была сярод пушчы, далёка ад вёсак. Наведваліся толькі суседзі — будачнікі, ляснік, зрэдку паляўнічыя, і ўлетку, калі збіралі чарніцы, у святочныя дні забіраліся ў такую далеч жанчыны. Яны такі праўда прыносілі радасць — незвычайныя расказы пра вясковыя прыгоды і здарэнні, якія здаваліся мне самымі цікавымі казкамі. У інстытуце, у гарадскім мнагалюддзі гэтае нецярплівае чаканне новых людзей, вядома, было прыглушана. А тут, у сельскай школе, яно зноў з'явілася.

Аднак... што пра мяне маглі б падумаць і муж і свякруха, каб я прызналася, што адзецца па-святочнаму мне захацелася таму, што сёння ў школе ўпершыню з'явіцца новы завуч, які толькі ўчора вечарам прыехаў з другога раёна.

Паводзіла я сябе ў тую раніцу, відаць, незвычайна. Можа, залішне была ўвішнай. Ці, можа, нечакана задумвалася, бывае са мной такое, зноў-такі пэўна ад ляснога маленства, ад чыгункі, на якой я магла нерухома стаяць гадзінамі і глядзець, як над нагрэтым насыпам плывуць хвалі мроіва, як скачуць праз рэйкі «зайчыкі», ці слухаць, як гудуць правады. Між іншым, гэтак жа, як хацелася, каб у будку прыйшлі новыя людзі, так мне хацелася ведаць усе словы, якія бягуць па дратах.

Мы селі снедаць. Антаніна Аркадзеўна не любіла неарганізаванасці, паспешлівасці, «перакусаў на хаду», як гэта робяць многія нашы калегі. Мы снедалі, абедалі, вячэралі грунтоўна, можна сказаць, урачыста, у зале — самым большым і светлым пакоі, за добрым сталом, засланым белым льняным настольнікам, з поўнымі прыборамі.

Я, як толькі выходзіла са спальні і казала свякрусе, якая ўставала раней: «Добрай раніцы, мама», — ужо здагадвалася, чый дзень яна рабіла — свой ці мой. Маіх дзён было менш, часам тыдзень і больш я была ў хатняй працы толькі добраахвотнай памочніцай. Але калі ўжо Антаніна Аркадзеўна вырашала, што дзень павінен быць мой, то давала мне поўную самастойнасць, сама нават не заглядвала на кухню... Я павінна была згатаваць снеданне, падаць на стол, прыбраць... У свае дні яна ніколі не прасіла дапамогі, хоць, праўда, рэдка адмаўлялася ад яе. Так яна прывучала нявестку да парадку, выхоўвала акуратную гаспадыню, добрую жонку свайму сыну. Я ж была дзікая, лясная. Мяне інстытут не вельмі «абгабляваў». Не вучылі ж нас там смачна гатаваць, прыгожа стол сервіраваць і культурна прыслужваць... мужу. Між іншым, мне доўга здавалася, што Генадзь яшчэ больш «сукаваты», чым я, што ён абыякавы да ўсяго гэтага педантычнага парадку, які завяла і падтрымлівала маці, што ён, як малое дзіця: дзе ні ступіць — зробіць беспарадак. Я не аднойчы думала пра свякруху: «Усіх яна ўмее выхоўваць, нават мяне так хутка «прыцёрла» да свайго густу і ладу, а ўласнага сына не здолела выхаваць».

Той дзень быў мой. Мне адной прыйшлося гатаваць снеданне, падаваць на стол. І гэта трохі сапсавала настрой: адчувала, што не паспею прыбрацца сама так, як хацелася. А тут яшчэ гэтая кофтачка





не давала спакою. Якую прычыну прыдумаць, каб надзець яе?

— Што з табой, Міхаліна? Нейкая ты сёння... узбуджаная,— і паглядзела на сына: ці не пасварыліся мы? Яна вельмі асцерагала нас ад сварак.

Генадзь еў і чытаў. Ён часта так рабіў. Адзін парушаў урачыстасць трапезы. Гэта яго дурная звычка не падабалася і мне: я не раз казала, што ён падае дрэнны прыклад Сашку.

Генадзь дагэтуль, здаецца, нічога не чуў — так захапіўся часопісам. А матчына пытанне пачуў адразу і адказаў за мяне з паспешлівасцю, не пракаўтнуўшы страву:

— Гэта яна прамову рыхтуе ў гонар завуча. Урачысты панегірык.

Я засмяялася: словы мужа падказалі мне хітрую думку.

— Як ён, Геня, — ты ж сустракаў іх учора,— не сухар?

— Аляксандр Дзямідавіч? Здаецца, нічога... Не сухар.

— Жарты разумее?

Муж адарваўся ад кніжкі, паглядзеў на мяне. Усміхнуўся:

— Міка! Адна ты ўмееш пачынаць знаёмства з жартаў.— І прыгадаў, як мы з ім пазнаёміліся.

— А хіба дрэнна?

— Ну, нам не было калі яшчэ жартаваць. Памаглі згрузіць рэчы, выпілі на чамаданах па чарцы — і бывайце здаровы, уладжвайцеся самі. Мы ўсё-такі выхаваныя людзі. Інтэлігенты.

— А што калі мы з Маяй прывітаем яго на дзвярах? Мама, у каго з класікаў ёсць што-небудзь такое... на прыезд начальніка? Падкажыце. Оду якую-небудзь...

— У каго? Не ўспомню я адразу. Ты ж — літаратар.

— І я не помню. Ну, мы зімправізуем. Не пакрыўдзіцца?

Антаніна Аркадзеўна з ласкавым дакорам паківала галавой.

— Выдумшчыца ты, Міхаліна.

— А пакрыўдзіцца — адразу будзем ведаць, што за чалавек.

— Ён то не пакрыўдзіцца. Але што падумае пра вас Павел Адамавіч? — спытаў Генадзь.

Ёсць у нас дужа сярдзіты стары — фізік, які чамусьці проста, здавалася, ненавідзеў нас, маладых настаўніц. Толькі настаўніц. Жарты нашы часам псуюць яму настрой на тыдзень. Ён чмыхае, плюецца і нават даходзіць да таго, што скардзіцца на нас вучням, але зноўтакі толькі хлопцам са старэйшых класаў, якім завышае адзнакі, а ўсім дзяўчатам заніжае. За гэта мы яго моцна клявалі на педсаветах. Але ўвогуле сур'ёзна не злаваліся на старога жонаненавісніка, кпілі з яго дзівацтва, дражнілі, адным словам — забаўляліся.

Прыгадаў яго Генадзь — і я пляснула ў далоні.

— О, у такім разе мы абавязкова гэта зробім! Адразу двух зайцоў заб'ем! Трох! Пазнаёмім завуча з нашым «Анікумам».

Чаму «Анікум»? Адзін інспектар некалі сказаў пра Паўла Адамавіча: «Арыгінальны стары! Унікум!» А хадзілі плёткі, што стары тайком зазірае да сваёй кумы Ані. Нашы насмешніцы тут жа перакруцілі: замест «Унікум» — «Ані-кум».

Аднак, што гэта я расказваю дробязі?

Адным словам, я знайшла прычыну, каб здзейсніць сваё жаданне. Ва ўсялякім разе плацце, пасля такой размовы, магла надзяваць смела. А вось кофтачку...

Прачнуўся наш сын. Паклікаў мяне, як заўсёды,— гучна, настойліва:

— Ма-ма!

На Сашкаў кліч мы часта раней, калі ён толькі навучыўся гава-

рыць, кідаліся ўтрох. Але потым я паводзіла сябе больш стрымана і давала бацьку першаму нацешыцца сынам. Рабіла гэта не без хітрасці. Я трошкі раўнавала яго да Сашкі, калі гэта можна так назваць. І да маці. Калі Генадзь чытаў і клікала я, то пяць разоў, можа, трэба было паўтарыць, ці павысіць голас, каб адгукнуўся. А пакліча Сашка — адразу чуе, адразу кідаецца да сына. І калі маці кліча — адгукаецца хутчэй, чым на мой голас. Дробязь, але мяне гэта трохі крыўдзіла, ва ўсякім разе закранала не вельмі прыемна. За маю маленькую крыўду гэтую помсціў Сашка. Так было і ў тую раніцу.

— Чый я чую галасок? — замілавана забубніў у зацямнёнай спальні Генадзь.— Хто мяне кліча?

Сашка адказаў сярдзітым дзіцячым баском:

— Адыдзі. Не цябе заву. Я маму заву.

Вось яна, тая маленькая сынава помста за няўвагу да яго мамы. Я думала: «Як ты не падхалімнічай, як не дзьмухай на яго, не сюсюкай, а дзіця ўсё адно цягнецца да мяне, хоць я часам і шлёпанцаў даю».

— А мамы няма,— схлусіў Генадзь. Ход быў несумленны. Але і за гэта яму адплаціў Сашка — гучна паклікаў бабу. Антаніна Аркадзеўна была кінулася на кліч, але я ўтрымала яе.

— Дайце ім памірыцца,— сказала я.— Патомны педагог Качанок ніяк не можа зразумець дзіцячую псіхалогію. Не ўмее ён дружыць з Сашкам.

— Не, чаму? Калі яны застаюцца ўдвух, то гуляюць добра. Я назірала,— заступілася за сына маці.

— Значыцца, мы з вамі залішне песцім Сашку.

— Так. Я думала пра гэта. Выходзіць, адно — выхоўваць чужых і зусім другое — сваіх. Калі пачуцці перамагаюць розум, развагу...

Я адчула, што старой захацелася паразважаць на педагагічную тэму, яна любіла гэта, гаварыла падоўгу, але мне было сумна слухаць. Таму я перапыніла яе:

— Я надзену сёння кофтачку. Можна, мама?

Пасля прыгадвала, што першую фразу я сказала залішне рашуча. А дазвол папрасіла лісліва і нясмела, як малая. Нечаканы пераскок на зусім іншую тэму і гэтыя мае інтанацыі, відаць, проста такі ашаламілі Антаніну Аркадзеўну. Яна здзіўлена паглядзела на мяне. Але яна была псіхолаг, педагог, а таму тут жа схавала сваё здзіўленне, толькі пранікліва зазірнула мне ў вочы. І я прачытала ў яе вачах, тую ж трывогу, якую часам лавіла раней у словах, позірках, усмешках і ва ўсім штодзённым стаўленні свякрухі да мяне. Тады я не разумела, чаго яна баіцца.

— Якое ты дзяўчо яшчэ, Міхаліна. Табе яшчэ так хочацца падабацца? — свякруха ўсміхалася, але нявесела, і ў словах яе быў дакор.

У мяне запалалі шчокі. Зрабілася сорамна і... з'явілася злосць. Трохі не сарвалася з языка: «А вам хочацца, каб на мяне было брыдка глядзець?»

Але я схамянулася. Антаніна Аркадзеўна сама вучыла мяне адзявацца прыгожа, з густам, падбіраць па колеру суkенкі, кофтачкі, капялюшыкі. Яна адчувала колер, як мастак. Таму кінуць ёй такі папрок было б несправядлівай жорсткасцю. А я сама больш за ўсё ненавіджу ў людзях чэрствасць, душэўную грубасць. Не дай божа мне калі гаварыць людзям жорсткія словы, хоць мне такіх слоў сказалі нямала. Але я не крыўдую. І тады толькі на міг у мяне з'явілася нядобрае пачуццё да свякрухі. Ды я тут жа патушыла тую іскрынку. Панурылася, пачала збіраць са стала талеркі.



Антаніна Аркадзеўна зразумела сваю памылку і паправіла яе. Паднялася, ласкава абняла мяне за плечы.

— Ты нібы дазволу ў мяне пытаешся? Міхаліна, дзіця маё! Мне радасна бачыць цябе ў кофтачцы. Гэта — праца маіх рук. Як жа я магу не радавацца, што яна да твару табе і ты харашэеш у ёй? Ты дарэмна так шкадуеш яе. Для цябе я звяжу не адну...

Сашка памірыўся з бацькам. Яны дурэлі і рагаталі. Мы стаялі абняўшыся і слухалі іх, шчаслівыя ад замілавання.

Яны пайшлі ў школу раней, маці і сын. А я пакуль прыбрала на кухні, дала наказы няньцы, якая прыходзіла гуляць з Сашкам. А калі адчыніла шафу, каб адзецца, то адчула, што знікла маё жаданне ўбрацца па-святочнаму. Не, я не адчувала сябе пакрыўджанай. Праўда, помню, падумала, што завуч, мабыць, даўно ўжо ў настаўніцкай і з усімі пазнаёміўся. Не будзе ж новы чалавек прыходзіць пазней за ўсіх. А таму я напэўна буду знаёміцца апошняй. І добра. Чаго мне крыўдзіцца? Гэта, можа, нават цікавей, больш натуральна, прасцей. Жаданне сустрэць яго жартам здалося недарэчнай дзіцячай фантазіяй. Прыйдзе ж такое ў галаву! І такім жа недарэчным здалося жаданне адзецца незвычайна, па-святочнаму. Навошта? — падумала я.

І аднак усё-такі адзелася незвычайна: нацягнула сваё старое студэнцкае плацце. Не насіла яго гады чатыры. Пасля родаў яно не налазіла на мяне. Ды і тады яшчэ было цеснае, а таму — кароткае: у ім я стала падобна на вучаніцу. Чаму сярод добрага дзесятка розных убораў я выбрала гэтае — сказаць не магу, не ведаю. Напэўна ніхто, ніколі, ніякія псіхолагі не змогуць растлумачыць такія павароты ў нашай жаночай псіхіцы. Але, паверце, не на злосць свякрусе ці мужу я так зрабіла. Далібог. Не было ў мяне злосці. Не.

Зразумела, што зрабіла глупства, толькі ў настаўніцкай, калі ўбачыла, як паглядзела на мяне Антаніна Аркадзеўна. Вельмі яе ўразіла маё плацце. Пакрыўдзілася яна. Але, відаць, менш вінавaціла мяне, больш — сябе за сваё пытанне. Балюча ёй было. Гэта я адчула. І мне стала брыдка за свой учынак. Генадзь таксама паглядзеў на мяне са здзіўленнем і неразуменнем. Ды, здаецца, усе настаўнікі зганілі маё плацце, не разумеючы, чаму я, жанчына з густам, раптам так адзелася. Павел Адамавіч, «Анікум» наш, яўна знарок бессаромна разглядаў мае калені. Я мусіла схавацца за стол.

На маё шчасце, завуча яшчэ не было. Яго чакалі. Пра яго гаварылі. І мяне зноў апанавала хваляванне. Я пачала яго чакаць з такой жа нецярплівасцю, як у маленстве чакала кожнага новага чалавека, і з тым жа прадчуваннем, што з ім прыйдзе штосьці незвычайнае, радаснае. Сэрца як бы рвалася яму насустрач: білася мацней і мацней. Гарэлі шчокі.

І вось адчыніліся дзверы...

Я трохі не ахнула. Не, не бойцеся, ніякай нечаканай сустрэчы не адбылося, бо ніякіх рамантычных гісторый у мяне ніколі раней не было. Я ўпершыню ўбачыла гэтага чалавека. Ён быў звычайны. Мужчына год трыццаці, хударлявы, стройны, з выразным, але не сказаць каб прыгожым, проста так — сімпатычным, як кажуць жанчыны, тварам. Сэрца маё ёкнула і сарвалася з месца ад таго, што здалося: даўно-даўно і вельмі добра ведаю гэтага чалавека. Ён — з маёй мары, з той, дзявочай, калі ўпершыню пачынаеш думаць пра таго, хто павінен прыйсці ў тваё жыццё, узяць за руку і павесці за сабой, стаць бацькам тваіх дзяцей, пачынаеш уяўляць яго і ствараеш вобраз выдуманага абранніка.

Ён быў такі — Аляксандр Дзямідавіч. З мары. Генадзь не такі. Генадзя мне падаравала звычайнае жыццё. Я не марыла пра яго нават пасля таго, калі мы пазнаёміліся на трэцім курсе і пачалі сустракацца, хадзіць у кіно, у тэатр, на вечары. Я люблю людзей увогуле, мне цікава з кожным чалавекам, і мне цікава было з ім, з Генадзем. I я пераканала сябе, што люблю яго. Хіба я ведала, якая яна любоў? Праўда, калі на пятым курсе ён прапанаваў выйсці за яго замуж, я была трохі разгубілася і завагалася, папрасіла даць мне падумаць. Але дзяўчаты, мае сяброўкі па курсе, крычалі ад захаплення, а можа, ад зайздрасці: «Ліна, ты радзілася ў сарочцы. Такі хлопец! Золата! З такой сям'і! Само шчасце ідзе да цябе. А ты яшчэ думаеш! Дурная!» Прыкладна гэтак жа напісалі мне маці і старэйшая сястра, жонка ляснічага: «Пашлюць у такую глухамань, як наша, дык ніякага жаніха не знойдзеш. За трактарыста выйдзеш».

Калі нарадзіўся Сашка, я зусім упэўнілася, што люблю Генадзя, што інакшага кахання не бывае, не бывае і інакшага шчасця, як маё, што мары мае тыя дзявочыя — з кніжак, з дваранскіх раманаў, а не ад нашага жыцця, дзе ўсё куды прасцей.

Ажно — не, выходзіць, не прасцей.

Ён, завуч наш новы, спыніўся каля дзвярэй, неяк асабліва ўсміхнуўся. Ці, можа, мне з тае хвіліны пачало здавацца, што ўсё ў яго асаблівае? Прывітаўся.

— Добрай раніцы, калегі.— I сказаў: — Будзем знаёміцца. Але не называйце сябе. Я хачу сам пазнаць кожнага з вас. Мне расказваў пра вас Андрэй Пятровіч і тыя, з кім я пазнаёміўся раней. Цікава, усіх пазнаю?

Гульня такая многім спадабалася. Маладзейшыя настаўніцы прыветліва засмяяліся, ажывіліся. I тут жа паважна змоўклі, калі завуч праз увесь доўгі пакой пайшоў да старэйшай сярод нас.

— Антаніна Аркадзеўна? Без пафасу скажу: я рады, што буду працаваць разам з вамі. Ведаю вас даўно, чытаў вашы артыкулы, больш таго — выкарыстоўваю вашы думкі ў сваёй будучай дысертацыі. Каюся. Добры дзень вам, мой старэйшы таварыш,— ён затрымаў яе руку ў сваёй, глядзеў у вочы, сапраўды радасна ўсміхаўся.

Антаніна Аркадзеўна запунцавелася, як дзяўчынка, і разгубілася — не ведала, што адказаць. Нават падзякаваць забылася.

Ад таго, што завуч падышоў да яе першай і заслужаная настаўніца так разгубілася,— усім зрабілася хораша.





А мне стала і радасна і...страшна. Праўда, мяне скаваў страх... Раптоўна. Як токам ударыла — і ўсю паралізавала.

Завуч павярнуўся да нашага «Анікума», які, здавалася, не звяртаў ніякай увагі на гульню ў пазнаванне і, каб не траціць дарэмна час, праглядаў кантрольныя работы, ставіў дзяўчатам двойкі і тройкі, хлопцам — чацвёркі; пяцёрку атрымаць у яго было немагчыма. «На пяцёрку я сам фізіку не ведаю»,— адказваў ён на нашы папрокі.

— Павел Адамавіч?! — гэтак жа запытаў і сцвердзіў адначасова завуч.— Наш выдатны фізік. Самы прынцыповы чалавек. Таварышы расказвалі пра вас столькі добрага!

— Хлусіце вы! — выпаліў у адказ стары.— Нічога добрага пра мяне яны не маглі расказаць! Я не паненка, не трэба мне вашы кампліменты! Я вас буду цаніць па вашай рабоце, а не па расказах!..

Настаўніцы абурана загаманілі.

— Як вам не сорамна, Павел Адамавіч!

— Будзьце ж далікатным!

— Чаму вы думаеце, што пра вас маглі расказваць дрэннае?

— Не раўняйце па сабе!

Аляксандр Дзямідавіч не разгубіўся.

— А я і хацеў вам сказаць камплімент толькі за работу. Больш ні за што. А работа не з'яўляецца сакрэтам. Слава пра яе далёка ідзе. Я чуў пра вас, калі яшчэ вучыўся ў педінстытуце. Ад вашых вучняў.

Стары быў пакораны. Што ён мог адказаць на такія словы! Ды і Аляксандр Дзямідавіч пацiскаў ужо руку настаўніцы — нашаму географу і астраному. Яе таксама пазнаў:

— Найдабрэйшая Марына Антонаўна...

Гэткі старамодны, амаль з дваранскіх часоў, эпітэт, ды па ім мы здагадаліся, што завуч ведае ўсё. Яна сапраўды вельмі добрая, Марына Антонаўна, з усімі сябруе, усім памагае, але славутая не добратой, а здзіўляючым няведаннем свайго прадмета. Пасля некаторых яе «геаграфічных адкрыццяў» у Антаніны Аркадзеўны ледзь не здарыўся сардэчны прыступ. Яна па два дні вохкала і абуралася.

— Божа мой, якое дрымучае невуцтва! Дваццаць гадоў вучыць дзяцей і не ведаць, дзе востраў Калімантан і колькі кіламетраў мае акружнасць зямлі па экватары.

А Генадзь рагатаў; яго быццам цешыла і такое невуцтва немаладой настаўніцы і абурэнне маці, якая была ў школе, што даведнік — усё ведала, па ўсіх прадметах.

Мне, скажу шчыра, не падабалася, што за такі кароткі час завучу ўсё расказалі. Пра кожнага. А сустракаўся ён з мужчынамі. З Генадзем у тым ліку.

«Плеткары горшыя за баб»,— падумала я пра нашых мужчын са злосцю. Але ў той жа час было зусім неабыякава, што сказалі пра мяне. Хацелася, каб сказалі гэтак жа хораша, як пра свякруху маю. Хацелася пачуць нешта такое ж. Усе мы — як дзеці, бываем смешныя і наіўныя. Я разумела, што сама гульня гэтая ў пазнаванне — дзіцячая забаўка дарослых людзей, ухваляла Паўла Адамавіча, які абурыўся, але ўсё адно чакала, як дурная дзяўчынка, хвалявалася.

I проста спалохалася, калі Аляксандр Дзямідавіч сказаў нашай рusічцы:

— А вас я не ведаю. Даруйце.

Яна, ціхая, сарамлівая, пакрыўджана пачырванеўшы, назвала не імя сваё і імя па бацьку, а прозвішча.

У мяне закалацілася сэрца. Пазнае ці не пазнае? Абураючыся супраць мужчын, што яны пра ўсіх расказвалі, я ў той жа час дума-

ла, што мне будзе абразліва і балюча, калі ён кіне вось гэтак жа: «А вас я не ведаю». Хацелася, каб ён ведаў мяне, ведаў усё. Тады напэўна скажа нешта асаблівае — як нікому. Радаснае, прыемнае. Інакш не можа быць. Ён павінен адчуць. Мне ўжо ніколечкі не было страшна, што нехта мог не зусім высока атэставаць мяне, як настаўніцу. Гэта стала другарадным. Галоўнае — у іншым: каб ён ведаў, адчуў, звярнуў увагу, сказаў нешта такое, што кажуць жанчыне,— словы, якія для другіх нічога не гавораць і нічога не значаць, якія разумеюць толькі двое.

Далібог, мне здалося, што пахіснуліся шафы і сцены, калі ён падышоў. А потым усё засланілі яго вочы, добрыя, карыя і трохі сумныя.

Ён сказаў:

— А вы — Мая, піянерважатая.

Усе засмяяліся. І — дзіўна — тое, што са мною ніхто не пазнаёміў яго завочна, не кранула мяне, наадварот — узрадавала. Генадзь сказаў гучна, як бы пакрыўджана:

— Гэта мая жонка — Міхаліна Казіміраўна. Яна вядзе беларускую літаратуру.

Тады збянтэжыўся ён, Аляксандр Дзямідавіч. Зачырванеўся, замаргаў, мармытаў прабачэнні і... доўга не выпускаў маёй рукі. А мне было прыемна, што ён трымае яе, руку. Мне раптам зрабілася весела, і я смяялася, разглядаючы зблізку яго твар — лоб, вочы, вусны...

З гэтага пачалося. Але не думайце, што нешта здарылася назаўтра ці праз тыдзень. Не. Нічога не адбывалася амаль паўгода, да самай вясны. Праўда, у той дзень пасля работы, за абедам, Генадзь з неўласцівай яму нахмуранасцю і раздражнёнасцю спытаў:

— Што гэта ты ўбралася, як для спектакля?

Яшчэ на ўроку я адчула: пастунова, як сілы да хворага, вяртаецца мая юнацкая гарэзлівасць. Ад гэтага было хораша, радасна. Я адказала Генадзю са смехам:

— Баялася ўпадабацца новаму завучу.

Ён, цяля такое, адразу палагаднеў ад маёй жартаўлівасці. Але Антаніна Аркадзеўна, безумоўна, зразумела больш. Яна спалохалася. Я ўбачыла гэта пазней, не ў той міг і не ў той дзень. Інакшай зрабілася яе насцярожанасць. Не, яна не асцерагала мяне. Яна пражыла жыццё, многа ўведала, яшчэ больш прачытала і разумела, што ад гэтага не ўсцеражэш. Горш яна не стала адносіцца, можа, нават лепш: у дробных сямейных спрэчках і канфліктах нашых з Генадзем часцей, чым раней, трымалася майго боку. Але хутка я ўцяміла, што робіць яна гэта не ад душэўнага збліжэння, а бадай што ад аддалення, адчужанасці. З чалавекам вельмі блізкім заўсёды паводзіш сябе прасцей і не баішся, што ён можа пакрыўдзіцца за нязгоду з яго думкай, за папрок, заўвагу, крытыку. З чужым, з госцем, напрыклад, трымаеш вуха востра: каб — крый божа! — чым не пакрыўдзіць. Так і яна, Антаніна Аркадзеўна. Яна задужа інтэлігентная.

Ды яшчэ хіба адно здарылася на другі дзень. Я надзела, ідучы ў школу, усё найлепшае. І кофтачку гэтую. Між іншым, у тую раніцу, здаецца, я прыкмеціла, што свякруха спалохалася. Мяне гэта толькі рассмяшыла і пацешыла.

Я трошкі была расчаравана, што ў настаўніцкую перад урокамі ён не з'явіўся, Аляксандр Дзямідавіч. Але потым была, як кажуць, узнагароджана. Мы сустрэліся ў калідоры пасля званка. Я ішла ў самы дальні клас. Відаць, ён не пазнаў мяне адразу, бо на твары яго адбілася здзіўленне: адкуль узялася яшчэ адна настаўніца? З усімі ж



пазнаёміўся. А потым пазнаў — і яшчэ больш уразіўся. Збочыў, прытуліўся да сцяны, даючы дарогу, спыніўся.

Я сказала: «Дзень добры» і прайшла міма, але тут жа адчула, што ён стаіць і глядзіць услед. Мне трэба было павярнуць у бакавы калідор. Я не ўтрымалася — аглянулася. Але, ён стаяў і глядзеў. Спалохаўся, як вучань, што робіць недазволенае. Сарваўся з месца, амаль уподбег кінуўся па калідоры да настаўніцкай. На перапынку я зазірнула ў расклад і ўбачыла, што ён мінуў клас, у якім быў яго ўрок.

Пасля я думала пра гэту нашу сустрэчу ў калідоры з гарэзлівай дзявочай весялосцю. А больш я ні пра што не думала. Праўда, мне проста было хораша, весела. Весела жылося, весела працавалася. І — далібог жа — за ўсе пяць месяцаў ні разу не з'яўлялася думка, што гэта — каханне і што яно можа разбурыць нашу сям'ю, зрабіць няшчасным Генадзя, Сашку, Антаніну Аркадзеўну... Адзін раз мне, праўда, стала страшна. Ляжала з мужам, ён цалаваў мяне, а я падумала пра яго, пра Аляксандра Дзямідавіча, захацелася, каб пацалаваў ён... Тады я спалохалася: што са мной робіцца? Можа цэлы дзень на душы брыдка было, быццам зрабіла штосьці дужа паганае, амаральнае... Ён жа жанаты, Аляксандр Дзямідавіч. Але. Мае двое дзяцей. Старэйшая дзяўчынка хадзіла ў першы клас, а хлопчыку ішоў усяго другі год. З жонкай яго, Любай, мы хутка пазнаёміліся. Сама яна за тыдзень з усімі пераэнаёмілася — з настаўнікамі, з калгаснікамі, з упаўнаважанымі.

Я чула, як брыгадзір калгаса сказаў пра яе: «Баба-гром». Сапраўды, Люба адразу загрымела на ўсё наша вялікае сяло — на тысячу хат. Голас у яе быў басавіты, гучны. І сама яна мажная, дзябёлая, распаўнелая, вагою, напэўна, разы ў два цяжэйшая за свайго ударлявага мужа. Але з твару прывабная, такая бялявая, з амаль дзіцячымі блакітнымі вачамі і мяккімі лініямі, ніводнай жорсткай рысы. На твары яе як бы адбівалася паўнюткае шчасце, якое толькі можа мець жанчына.

Люба — заатэхнік. Адразу працаваць не пайшла, але ў праўленне калгаса з'явілася і рашуча сказала:

— Прывяду да ладу ў хаце, падгадую трохі Дзімку і прыйду да вас на ферму парадак наводзіць. А то парадку ў вас там малавата.

Старшыня мог пакрыўдзіцца, бо ферма лічылася лепшай у раёне. Але не пакрыўдзіўся. Далікатна адказаў, што заатэхнік у калгасе ёсць.

— Ведаю. Але ж яна — дзяўчына, несямейная. Ёй усё адно дзе рабіць. Мы з ёю дамовімся палюбоўна.

І ў праўленні неяк адразу пагадзіліся, што ў бліжэйшы час камандаваць фермай будзе гэтая «Баба-гром», што не ўзяць яе на працу будзе проста немагчыма.

Тыдні праз тры пасля прыезду «мадам Муліца» (так іранічна адазваўся Павел Адамавіч; ён адзін не прыняў запрашэння) наладзіла прыём. Гасцей гэтая жанчына ўмела прымаць. З размахам. Запрошаны былі ўсе настаўнікі і ўвесь актыў: старшыні калгаса, сельсавета, сельпо, урач, загадчык фермы, лясніч ы. Набралася поўная хата. Гаспадыня ўсіх сустракала і праз пяць хвілін амаль усім казала «ты». Жанчынам дык пэўна ж усім. Здаецца, толькі з Антанінай Аркадзеўнай утрымалася ад такога панібрацтва.

Мне і «немцы» нашай Розе Абрамаўне Люба адразу загадала:

— Ах, якія вы інтэлігентачкі! Хоць дзьмухай на вас. Каторая вунь няхай надзене мой халат і злазіць у пограб, дастане сцюдзень.

А другая пасвеціць. Памажыце. А то я запарылася. Яшчэ гэты пісюн з рук не злазіць,— і яна пяшчотна пацалавала хлопчыка.

Сталы ламаліся ад закускі — варанага і смажанага, сырога і печанага. А яна ўсё яшчэ выгружала з печы, з каморак, з шафаў — напоўненыя талеркі і міскі. Увішнасць яе здзіўляла. Завіхаючыся, яна не спускала з рук сына, з гонарам тлумачыла, што ён ні да каго, акрамя яе, не ідзе. Але відаць было, што ёй проста прыемна гэтак ва ўсіх ролях сваіх пакрасавацца перад гасцямі.

Такая яе бесцырымоннасць збянтэжыла Розу Абрамаўну. А мяне рассмяшыла. Мне спадабалася гэтая жанчына. Яе грубаватая прастата, натуральнасць. Яна нечым нагадвала маці маю. Мама таксама ўсім казала «ты» і п'яных будачнікаў сцёбала дубцом. І ніхто пасля на яе не крыўдзіўся.

Я накінула халат і палезла ў пограб. Там падзівілася багаццю: можа сотні дзве банак з рознымі саленнямі, варэннямі. Дамавітая гаспадыня!

За сталом яна таксама сядзела з малым на руках. І пільна сачыла, каб усе выпівалі да дна і елі як мага больш. Не выпіць у яе нельга было. Немагчыма. Яна не прызнавала ніякіх адгаворак — ні хворай печані Андрэя Пятровіча, ні хворага сэрца Марыны Антонаўны.

Усе пілі. І ўсе жартавалі. Люба ўмее «задаць тон», каб гулянка ішла весела. У такой бяседзе людзі хораша знаёмяцца і збліжаюцца. І раскрываюцца неяк па-новаму. З некаторымі я два гады разам працавала, а не ведала, хто на што здатны. Напрыклад, ціхмяны, маўклівы ў школе механік наш — выкладчык працы Іван Данілавіч выявіўся такім гумарыстам, што мы ўсе качаліся ад смеху. Ён усіх заразіў. Прыгоды розныя, анекдоты, здарэнні, праўдзівыя і тут жа, пэўна, выдуманыя, сыпаліся, як з мяшка. Мужчыны, калі падвып'юць, робяцца што дзеці: адзін перад адным паказваюць сваю дасціпнасць. Жонкам работа новая тады — прытрымліваць іх языкі.

Галоўная тэма такога п'янаватага зубаскальства, як заўсёды,— адносіны паміж мужамі і жонкамі, праблема, якую называюць «зірнуць налева».

Пасля нейкага анекдота ці здарэння, не помню, Люба сказала:

— О, няхай бы мой Аляксандр паспрабаваў зірнуць налева, то, відаць, доўга не мог бы пацяміць, дзе права, дзе лева. Я яму шоры такія б наставіла... Во, калі ласка, калі табе вельмі хочацца круціць галавой, то круці: налева — на Дзімку, направа — на Гальку, а проста ўперад — на жонку... Назад хочаш глянуць — цешчу магу паставіць. Любуйся.

Сказала яна сур'ёзна, пагрозліва; многія жонкі робяць такія «прафілактычныя папярэджанні». Але прынялі яе словы рогатам. Я таксама смяялася. Наўрад ці з любіных грубаватых жартаў. Яны былі прычынай смеху, але не прычынай усяго майго настрою — узнёслага, гарэзліва-вясёлага, як ніколі, на такіх вечарынках. Звычайна я не люблю п'янак. Брыдка. А ў той вечар мне ўсё падабалася. І сярод усяго — падабалася, як паводзіў сябе Аляксандр Дзямідавіч. То прытвараўся, што дрыжыць перад сваёй суровай «палавінай», але праз пакорлівасць гэтую прасочваўся і пырскаў добры гумар. То раптам лёгка і проста, як дарослы дзіцячыя наскокі, як бы забаўляючыся, адбіваў яе папрокі і пагрозлівыя папярэджанні. Але самае прывабнае было, як ён умеў згладжваць жончыну вуглаватасць. Неяк так разумна, што і для яе не крыўдна, і нязграбны жарт яе, ад якога хтосьці чырванеў, рабіўся зусім прыстойным і па-сапраўднаму дасціпным.



Вось бадай усё, што прыгадваецца за ўсю зіму. Не, яшчэ адно, можа, самае галоўнае, але гэта ўжо было пад самую вясну, з гэтага па сутнасці пачаліся ўсе падзеі. Ва ўсякім разе, калі пра мяне цяпер кажуць, што я «страціла розум», то я сапраўды такі страціла яго менавіта пасля таго вечара, пасля Галіных слоў, вучаніцы маёй... Зноўтакі, здавалася б, такое глупства, на якое звычайнаму чалавеку, нармальнаму, як кажуць, не варта было б звяртаць увагі. Мала што выдумаюць вучні!

У нас у школе нядрэнны драмгурток. Многія гады ім кіравала Антаніна Аркадзеўна. Відаць, яна хацела падрыхтаваць сабе змену, бо ў першы ж год уцягнула туды і мяне. Свякруха не памылілася: тэатр мяне захапіў. Я спрабавала іграць яшчэ ў сваёй школе, але ў нас не вельмі ладзілася. А ў інстытуце чамусьці, сама не ведаю чаму, спявала ў хоры. Лаўраў не здабыла.

Цяпер жа менш вабілі акцёрскія ролі, а больш — рэжысёрская работа. Па маёй падказцы гурткоўцы загарэліся жаданнем паспрабаваць свае сілы ў класічнай драматургіі. Узялі «Чайку». І я ставіла яе пад кіраўніцтвам Антаніны Аркадзеўны. Працавалі з уздымам. Штовечар рэпеціравалі, хоць блізіліся экзамены.

На рэпетыцыі раптам пачаў прыходзіць Аляксандр Дзямідавіч. Спачатку вучняў бянтэжыла яго прысутнасць. А мяне — не. За колькі месяцаў мы, настаўнікі, звыкліся са сваім завучам, і ніхто яго не баяўся; хоць часта наведваўся на ўрокі, нікога ён не бянтэжыў, бо ніколі ні ў чым не праяўляў сваёй начальніцкай улады, заўвагі, разбор урока рабіў спакойна, тактоўна, па-таварыску. Таму і рэпетыцыю пры ім я правяла спакойна, не надаўшы асаблівай увагі яго прыходу — няхай паслухае, чым мы займаемся вечарамі. Але калі ён прыйшоў і другі раз і трэці, мяне апанавала нейкае дзіўнае радаснае хваляванне, і я працавала з тым душэўным уздымам, які, напэўна, у вашага брата, пісьменніка, называецца натхненнем.

У той вечар мы рэпеціравалі чацвёрты акт, гэты трагічны фінал. Ніну Зарэчную іграла дзесяцікласніца Люда Шыцька, любіміца маёй свякрухі. Дзяўчына была энтузіястка, на ёй, па сутнасці, трымаўся ўвесь гурток, з восьмага класа сур'ёзна рыхтавала сябе ў актрысы, яна і ў вучобе ішла на срэбраны медаль. І сапраўды гэтым летам паступіла ў тэатральны. Але я ніколі не верыла, як і Антаніна Аркадзеўна, што з яе выйдзе таленавітая артыстка. Занадта халодная яна, усё — ад розуму, ад сілы волі, працавітасці. Няма лёгкасці пераўвасаблення, што, па-мойму, вызначае сапраўдны талент. І цеплыні душэўнай, пачуццёвасці не хапала. Безумоўна, дзіця яшчэ, пэўна і не кахала нікога, а тым больш не перажыла ніякай душэўнай драмы. Ведала пра гэта з кніг толькі. Адным словам, калі ў першых актах актрыса разумела Ніну, бо і сама гэтак жа імкнулася да славы... дзяўчынка самалюбівая!.. то апошняя сцэна ёй ніяк не ўдавалася. Фальшывыя пакуты, пафас і — ніякага пачуцця. Помніце, Ніна раптам адчула, што з кожным днём растуць яе душэўныя сілы? «Я цяпер знаю, разумею, Косця, што ў нашай справе — усё адно, ці мы іграем на сцэне ці пішам — галоўнае не слава, не бляск, не тое, пра што я марыла, а ўменне цярпець. Умей несці свой крыж і веруй!» Не ўмела мая Люда сыграць усю гэтую сцэну так, каб ёй можна было паверыць. І не разумела, што я ад яе хачу. Нават расплакалася. Мне прыйшлося многа разоў іграць самой, паказваць. Вось так трэба, толькі так. Люда пэўна лічыла, што я іграю горш за яе, бо скептычна крывілася. Вельмі можа быць, што я іграла дрэнна, але трагедыю Ніны і яе жаданне пачаць новае жыццё, здаецца, перадавала. І каханне да

Трыгорына: «Я люблю яго. Я люблю яго нават мацней, чым раней...»

Вось так мы рэпеціравалі. А ён, Аляксандр Дзямідавіч, сядзеў у зацененым куточку моўчкі і слухаў. Вучні, найбольш занятыя, пэўна і забыліся, што завуч прысутнічае, бо паводзілі сябе, як звычайна — шумна, незалежна. Адна я не забывалася. Не глядзела ў той бок, але кожны міг, кожную хвіліну, і тады, калі іграла сама, і тады, калі сядзела і сачыла за ігрой вучняў, адчувала яго позірк. Вочы яго як бы выпраменьвалі цяпло і ласкава, хораша гэтак, грэлі мяне.

Скончылася рэпетыцыя — ён не застаўся, неяк непрыкметна знік, пакуль мы слухалі развагі нашага тэарэтыка Валодзі Кныша пра сістэму Станіслаўскага. Пасля Саша прызнаўся: баяўся, каб не прыйшлося застацца са мной адзін на адзін у пустой школе. За сябе баяўся.

Я распраналася ў настаўніцкай. Чамусьці затрымалася там, апранаючыся. А вучні спрачаліся ўсё яшчэ. Нарэшце, пачалі выходзіць. І я чую за дзвярамі ў калідоры голас Галі, дзесяцікласніцы, яна іграла Машу і, па-мойму, іграла лепш за ўсіх... Чортава лялька, што яна ляпнула! Цягнулі яе за язык!

— «Дзяўчаткі! Хлопчыкі! Аляксандр Дзямідавіч закаханы ў Міхаліну Казіміраўну. Далібог, клянуся!.. Як ён глядзеў на яе, каб вы пабачылі!»

Што са мной зрабілася! Я знямела і аслупянела. Ад нечаканасці. Ад радасці. І ад страху.

«Ён кахае! Кахае! Кахае! — спявала дурное жаночае сэрца.— Няўжо праўда кахае?» А розум аналізаваў, не даваў узляцець, адарвацца ад зямлі, да якой прывязвалі другія прыхільнасці, другія пачуцці і абавязкі.

Ужо зразумелі вучні. Разнясуць па сяле. А можа і настаўнікі таксама даўно ўжо зрабілі такое ж адкрыццё? З далікатнасці толькі маўчаць. Можа, таму падвоена ласкавай, добрай і ўважлівай стала Антаніна Аркадзеўна? Яна разумная і хітрая, у яе свой метад выхавання. А Генадзь, наадварот, з кожным днём становіцца больш раздражнёны. А што будзе, калі разнясецца плётка? Але ж я ні ў чым не вінаватая. Я ніводным рухам, ніводным позіркам не дала яму прычыны. Пяць месяцаў я да яго — як усе, і ён да мяне, як да ўсіх. І далей будзе так...

Не, далей не магло быць так. Праўду кажучы, я гэта зразумела тады, у пустой настаўніцкай. Я доўга там стаяла, бо раптам падумала, што ён чакае мяне недзе ў школьным двары, за майстэрняй ці за гаражом. І баялася выходзіць. Тады страх пераадолеў каханне, парыў душы. Але спакою мне ўжо не было. Я адчула гэта дома ў той жа вечар, і ў тую ж першую бяссонную ноч. З кім бы я ні гаварыла — з сынам, мужам, свякрухай, што б ні рабіла — думала пра яго. Думала штохвілінна. Баялася і чакала наступнага дня, каб хутчэй прыйсці ў школу і ўбачыць яго.

У школе, на шчасце, нічога не здарылася. Дзень прайшоў звычайна, як і тыя сто пяцьдзесят дзён дагэтуль. Толькі хіба Галя ды Люда сачылі на ўроку за мной з крыху залішняй дзявочай цікаўнасцю.

Але неўзабаве, перад самым Першым маем, здарылася такая нагода.

У суседнім раёне геолагі шукалі нафту. І пайшла гаворка, нават у газеце прамільгнула, што адна скважына дала фантан. Вучні загарэліся: з'ездзіць паглядзець! Нейкія сорак кіламетраў — гэта ж рукой падаць. Дырэктар доўга адбіваўся: вясна, дарога гразкая, машына старая... Але вучні хутка даведаліся ад шафёраў, што дарога нішто. Урэшце вырашылі ехаць. Выбралі па некалькі чалавек з класа — лепшых, бо машына адна. Узначальваць паездку павінен быў палітэхнізатар наш Іван Данілавіч. Ён жа — аўтамеханік — і павядзе машыну. Дагледзіць за вучнямі і расказаць ім, што трэба, пра нафту і пра ўсё іншае даручылі Алегу Барысавічу, нашаму маладому матэматыку, эрудзіту, «хадзячай энцыклапедыі», як мы называлі яго жартам, і мне, літаратару. Мяне, праўду кажучы, выбралі таму, што ў гэты дзень не было маіх урокаў: вы ж ведаеце, гадзіны на родную літаратуру скарачаюць з году ў год, хутка нам трэба будзе мяняць прадмет.

Я радавалася паездцы не менш за вучняў: зноў-такі сустрэчы з новымі людзьмі, уяўлялася мне,— з цікавымі, бо з людзьмі гэтай рамантычнай прафесіі — з геолагамі — ніколі яшчэ знаёміцца не прыходзілася.

Але ў раніцу назначанага для паездкі дня нас чакала расчараванне: захварэў Іван Данілавіч. Ён, на здзіўленне ўсяму сялу, пачынаў купацца ў красавіку. Колькі год яму гэта сходзіла, і за ім усталявалася слава загартаванага чалавека. А тут пасля першага купання схапіў запаленне лёгкіх. Вучні чуць не плакалі ад роспачы. Бегалі, каб угаварыць каго-небудзь з калгасных шафёраў, але ў калгасе час гарачы — пасяўная! Дачакаўшыся сваіх пасыльных і ўбачыўшы па іх тварах, што вярнуліся яны ні з чым, мы панура сталі каля машыны. Хлопцы нявесела жартавалі і ціха скланялі дырэктара, які не дазволіў нікому з іх весці машыну. «На якое ж ліха мы яе вывучалі тры гады, калі нам не давяраюць руля!»

— Чаго захацеў — руля! Табе цялячы хвост круціць нельга даверыць.

— Алег Барысавіч! Давайце каманду: у паход! Ногі на плечы...

— А што? Праўда! Чаму нам не пайсці пехатою? Толькі, вядома, без дзяўчат.

— Ох, героі якія! Вы хучэй за нас языкі высалапіце. Задавакі!

— Калі Міхаліна Казіміраўна згодна пайсці, то возьмем і вас.

— Згодна! З такімі лыцарамі — хоць на край свету,— засмяялася я.— Але з умовай, што вы без мяне пераадолееце адну маленькую перашкоду: угаворыце Андрэя...

Хлопцы скіслі, бо добра ведалі, што дырэктар і слухаць не будзе, адразу ж пагоніць усіх на ўрокі. А ісці ў класы ў такі сонечны красавіцкі дзень, цёплы, радасны, нікому не хацелася. Сарвалася паездка — хоць памянташыць языкамі.

Ды раптам у гараж, дзе мы стаялі вакол машыны, прыйшоў Аляксандр Дзямідавіч. Усе падумалі: завуч з'явіўся, каб пасласць на ўрокі. Але на здзіўленне нам, ён моўчкі праверыў, як замацаваны ў кузаве лаўкі, павярнуў ключ запальвання, паглядзеў на прыборы, падняў капот, у маторы пакорпаўся і сказаў, як заўсёды коратка:

— Сядайце, паедзем.

Ніхто з хлопцаў слова не вымавіў — так гэта было нечакана. Ніхто дагэтуль, мабыць, і не ведаў, што завуч водзіць машыну.

Натуральна, што я, адзіная настаўніца, павінна была сесці ў кабіну. Гэта само сабой разумелася з самага пачатку. Але калі я села побач з ім, то адразу адчула, як затахкала сэрца. Закалацілася проста. Ад радасці, ад страху? Не ведаю. Ведала адно: нешта мусіць здарыцца. Падумала, што гэтаму трэба перашкодзіць. Спыніць ма-

шыну, пакуль едзем па вёсцы, міма нашага дома. Навошта мне, калі едзе сам завуч? Як узрадуецца Сашка, што я вярнулася:

«У цябе няма ўлокаў?»

«Няма, няма, мой маленькі. У мяне вольны ўвесь дзень, і я буду з табой. Мы пойдзем на рэчку».

«І ў лес».

«І ў лес».

«І зловім зайчыка... Маленькага, такога», — і пакажа ручкамі.

«Ты мой зайчык! Ты мой слаўны! Ні на каго я цябе не прамяняю, ні на якія паездкі».

Праўда, я думала так, гаварыла з сынам. А машына імчалася. І я не спыняла яе. Сядзела, як зачараваная. Чым? Можа, яго рукамі, якія лёгка ляжалі на абаранку. Замільгалі бярозы пры гасцінцы, такія святочныя, вясёлыя, з малюсенькімі, нават яшчэ не зялёнымі, а нейкімі жаўтаватымі лісточкамі. А потым — лес. Але мне было не да любавання веснавым хараством. Вялікі лес ад нас далёка, кіламетраў за пятнаццаць. Да яго мы пэўна паўгадзіны ехалі, калі не больш. Аднак я не помню, гаварылі мы што адно аднаму ці ўвесь час маўчалі. Здаецца, гаварылі нешта пра вучняў, пра дарогу... Але я не помню... Я ўжо не думала ні пра Сашку, ні пра Генадзя. Ні пра што. Я чакала таго невядомага, што павінна здарыцца. Я не ведала, што гэта будзе: слова, ці яго рука ляжа на маю, ці ён павернецца, выпусціць руль, і мы ўрэжамся ў дрэва... Усё адно. Я чакала, як у гарачцы. Здаецца, мяне нават трохі ліхаманіла.

Дарога пайшла гразкая, выбітая грузавікамі. Матор натужна роў, машыну кідала і трэсла. У кузаве галёкалі і рагаталі вучні, іх падкідвала, як мячы.

І тады яно здарылася.

Ён нахіліўся, амаль узлёг на абаранак грудзьмі і, пільна ўглядаючыся ўперад, прашаптаў:

— Міхаська...

Я ўстрапянулася, як злоўленая птушка. Так мяне клікала толькі адна маці. І ніхто больш. Мне вельмі падабалася гэтае простае, ласкавае хлапчуковае імя. Мама таксама часцей называла поўнасцю — Міхаліна, дома і ў школе ўсе мяне называлі Міхалінай. Дзяўчаты ў інстытуце адкінулі першую частку і зрабілі — Ліна. Генадзь адкінуў «Ліна» і перавёў глухое «х» у «к» — Міка. Яму падабалася, а мне не вельмі: здавалася чужым, замежным. Цяпер, калі я вырасла, выйшла замуж, мама рэдка казала Міхаська, толькі калі выказвала пяшчоту. Я, можа, гады два ўжо не чула гэтага свайго імя. Натуральна, што я ўстрапянулася і... замерла тут жа: а што далей?

Машына забуксавала ў гразі. Ён пераключыў скорасць. Матор захліпаўся ад натугі. У кабіне зрабілася горача. Чуць выскачылі з лужы на драўляны насціл грэблі. Зноў затрэсла, падкінула. Зноў загалёкалі хлопцы, завішчалі дзяўчаты. Ім весела. Вясна, падарожжа і... ніякіх турбот...

І тады ён сказаў ціха-ціха:

— Я люблю...

Быццам вельмі моцнага, п'янкога і незвычайна салодкага віна каўтнула я. Закружылася галава і захацелася смяяцца. Але я маўчала, аддаўшы вочы дарозе.

Ён паўтарыў гучней:

— Люблю...— і як бы задыхнуўся і яшчэ ніжэй схіліўся над рулём.

Я маўчала. Ён паклікаў нясмела, вінавата:



— Міхаліна Казіміраўна...

Я павярнулася, падарыла яму ўсю цеплыню вачэй сваіх і сказала сур'ёзна, з трапятаннем:

— І я... і я...

Тады ён засмяяўся. І я таксама. Напэўна абаім нам зрабілася вельмі хораша. Лёгка і проста. Аб тым, што нас чакала наперадзе, мы, безумоўна, тады не думалі. Мы нібы перадужалі цяжкую перашкоду, якая раздзяляла, і цяпер зблізіліся, зрадніліся. Адразу адпалі ўсе фармальнасці і ўмоўнасці. Мы маглі гаварыць пра ўсё на свеце, пра самыя патаемныя і самыя інтымныя рэчы, як могуць гаварыць толькі вельмі блізкія людзі.

Машына выскачыла з гразі на сухую дарогу. Скончыўся малады лісцвянік — алешнік ды асіннік, і пачаўся стары бор — рэдкія сосны адна ў адну, аблітыя сонцам.

Хлопцы гукнулі «ўра!» Мне здалося, што гэта яны нам, нашаму прызнанню, радасці. І я зноў засмяялася. І ён, Саша, засмяяўся. Але, Саша... Я тут жа ўпершыню гэтак звярнулася да яго. Атрымалася натуральна, быццам не завуч сядзеў побач, а мой малы Сашка. Яго гэта так кранула, што ён на нейкі міг забыўся на руль, схапіў руку маю, пацягнуў, каб пацалаваць.

— Міхаська...

Машыну павяло ў бок, на сосны. Ён паспеў крута выраўняць яе.

Ап'янелыя ад вясны, бору, траскі і гэткіх віражоў, раўлі ад захаплення хлопцы. А мы, супакоіўшыся нарэшце, пачалі гутарыць проста, па-дамашняму, пра ўсялякія прыемныя дробязі: пра вучняў, пра настаўнікаў... Толькі двух чалавек не ўспаміналі: Генадзя і Любу. Мы без змовы забыліся на іх. Свет для нас дваіх існаваў без усяго таго, што магло быць перашкодай нашаму каханню, нашай душэўнай блізкасці.

Ніякага нафтавага фантана мы не ўбачылі. Шчыліну даўно заткнулі. Засталіся рэшткі буравога абсталявання, масляністыя плямы на пяску ды... заспаны і сярдзіты дзед-вартаўнік, які чамусьці трымаў у сакрэце, як ваенную тайну, куды перабраліся геолагі. Вучняў такая карціна засмуціла, але нас з Сашам нікольк. Нам нават ад гэтага было весела, што фантана няма. Ды і ці быў ён? Ці было ўсё іншае да гэтага дня?

Каб паездка не была дарэмнай, Алег Барысавіч прапанаваў з'ездзіць на Прыпяць — паглядзець разліў. Мы падтрымалі з радасцю. Яшчэ б! Мы паехалі б хоць на край свету, бо ў кабіне былі двое, як у космасе, ніхто не замінаў нам, і ніхто нічога благога не мог падумаць.

Дабраліся да Прыпяці. Дарога была нялёгкая. Але нам, чым даўжэй, тым лепш. Выехалі на пясчаны пагорак, з якога адкрыўся абшар залітага вадой лугу. Вучні кінуліся па касагоры ўніз да вады. І Алег Барысавіч. А мы засталіся. Мы стаялі за машынай, нябачныя. І ён абняў і пачаў цалаваць мяне. Горача... Казаў ласкавыя, непатрэбныя словы. І я цалавала яго і казала такія ж словы. Аднак у нейкі міг мне зрабілася сорамна, што мы вось так цалуемся, хаваючыся за машынай. І, здаецца, упершыню я падумала пра Генадзя, пра майго маленькага Сашку. Вырваўшыся з абдымкаў, я пайшла за вучнямі. Твар гарэў, і, напэўна, ад пацалункаў прыпухлі вусны. Я баялася набліжацца да вучняў. Яны клікалі мяне, а я рабіла выгляд, што не чую, і ішла ўбок па сухім грудзе, што далёка, можа, да самай Прыпяці, жаўцеў пяском пасярод мора іскрыстай вады.

Назад мы ехалі моўчкі, як вінаватыя. І трэба сказаць, я была



ўдзячна яму за гэтае маўчанне. Яно таксама зблiжала нас: аднолькавыя перажываннi, пачуццi... На паўдарозе Аляксандр Дзямiдавiч даў весцi машыну дзесяцiкласнiку Валодзю Багуну, а сам палез у кузаў. I гэта таксама было тактоўна i хораша. Размова з вучнем, простая, немнагаслоўная (хлопец трохi бянтэжыўся), неяк супакоiла, адвяла ад думак пра маё каханне, пра тое, чым яно можа скончыцца.

Але дома мне стала страшна. Антанiна Аркадзеўна была добрая, клапатлiвая. Нагрэла вады, прыгатавала святочную вячэру. Генадзь кпiў. Ён яшчэ раней выказваўся скептычна пра гэтую нашу паездку i цяпер быў задаволены, што мы нiчога не ўбачылi. Лашчыўся Сашка. I я сказала сабе:



«Усё! Нiчога не было i нiчога не будзе! Усё застанецца ў маiм сэрцы, назаўсёды пахаванае».

Але паклiкаў ён — i я на ўсё забылася, на ўсе свае зарокi. Ён шапнуў мне ў школьным калiдоры:

— Мiхаська, я чакаю цябе сёння за рэчкай, у бярэзнiку.

I я пабегла, як васьмiкласнiца на першае спатканне, — са страхам, з нецярплiвым трапятаннем, з радасцю i болем.

Потым мы сустракалiся колькi разоў, вось так хаваючыся ў дальнiх пералесках. Хованкi такiя не абражалi — была ў iх рамантыка i рызыка. Навокал красавала вясна, лясы поўнiлiся каханнем. I мы адарвалiся ад зямлi i ўзляцелi ў неба. Здарылася тое, што непазбежна павiнна было здарыцца, калi двое, не юныя ўжо, вось так кахаюць. Пасля хвiлiн салодкага ап'янення прыйшла цвярозасць. Яшчэ лежачы на яго гарачай руцэ, я без страху, без панiкi, без расчаравання i раскаяння, але вельмi сур'ёзна, як нiколi раней, падумала:

«Бясконца так прадаўжацца не можа. Раней цi пазней нас выкрыюць. I што тады?»

Я спытала ў яго:

— Саша, а што далей?

Ён не адказаў адразу. Маўчаў доўга. Я здагадалася, што ён думае пра тое ж самае i, можа, нават больш пакутлiва, больш сур'ёзна. I мне чамусьцi зрабiлася сумна i балюча. Я сказала:

— Давай з'едзем куды-небудзь. Я вазьму свайго Сашку...

Ён устрапянуўся.

— А я?..

Не даказаў, не выказаў усяго... Але гэта i непатрэбна было. Хiба не зразумела, што ён гэтак жа думаў пра сваiх дзяцей? I як я не магла пакiнуць свайго Сашку, так i ён не мог пакiнуць сваiх Дзiмку i Гальку. Не любiць жонку, пакахаў другую... Але для яго гэтае каханне — не радасць, а трагедыя. Не той ён чалавек, каб лёгка ўсё пакiнуць, на ўсiх забыцца, дзеля дзяцей ён гатовы несцi свой крыж да скону жыцця.

Другая жанчына магла б папракнуць: «Навошта ж ты спакусiў мяне?» Я не кiнула нi слова папроку. Завошта? За тое, што даў мне хоць кароткую радасць? Наадварот, я, здаецца, пакахала Сашу за гэтую яго чалавечую слабасць яшчэ мацней. I сябе не ўпiкала, не карала. Што адбылося — таго не вернеш. Але не думаць пра тое, што чакала i мяне i яго, не магла. Сказала:

— Тады нам не трэба сустракацца... Я не магу так. Саша, мiлы, зразумей, не магу вось так хавацца, хлусiць. Я ўсё жыццё пражыла сумленна. Баюся я, што не вытрымаю i ва ўсiм прызнаюся Генадзю. Што тады будзе?..

Ён зноў доўга не адказваў. Моўчкi глядзеў на неба, дзе загаралiся зоркi.

«Няма яе, зоркi нашага шчасця»,— сумна думала я.

— Мне будзе цяжка. Мне вельмi нялёгка ад Любiнай любвi,— ён уздыхнуў i тут жа быццам спалохаўся жонкi: — Не, я нiчога дрэннага пра яе не кажу. Яна цудоўная мацi, гаспадыня...

Я перапынiла яго, сказала:

— I мне будзе цяжка.

— Я разумею цябе,— з болем адказаў ён.

— I я разумею цябе, Саша. А таму няхай наша каханне застанецца такiм у нашых сэрцах, яго нiхто не забрудзiць. На большае ў нас не хапае мужнасцi...

— Не хапае,— сумна згадзіўся ён.— У мяне не хапае.

— Ведай, Саша, родны мой: я кахаю на ўсё жыццё. Пакліч — і я прыйду. Але не сюды! А цяпер — усё! — і я імкліва паднялася.

Ён спрабаваў затрымаць — я не спынілася.

Расплата прыйшла не адразу — тыдні праз два пасля гэтага апошняга нашага спаткання. Відаць, той, хто высачыў нас, меў нейкае сумленне і доўга вагаўся, не адважваўся ўнесці разлад у дзве настаўніцкія сям'і. Але ўрэшце ўсё-такі спакусіўся. Кажуць, што высачыў нас калгасны брыгадзір, сам п'янюга і бабнік. Для мяне гэтыя два тыдні, можа, былі самыя пакутлівыя ў жыцці. Я як бы развітвалася з каханым назаўсёды, развітвалася доўга, пакутліва: кожны дзень бачыла яго і кожны дзень адчувала, як мы паволі аддаляемся адно ад аднаго, каб ніколі не быць разам, ніколі не зведаць радасці гарачых абдымкаў, пацалункаў, блізкасці. Адначасова карала сябе за здраду Генадзю, з якім лёс і наш сын парадніў на ўсё жыццё. Кажуць, пакахаўшы другога, жанчына пачынае ненавідзець мужа, які звязвае яе. Не, я да Генадзя не адчувала ні нянавісці, ні агіды. Я проста шкадавала яго. І сябе. Разоў колькі парывалася прызнацца яму. Спыняў мяне не столькі страх — што пасля будзе са мной? — колькі думка пра тое, што адбудзецца ў сям'і яго, Аляксандра Дзямідавіча. Люба, з яе няўрымслівай бесцырымоннасцю і грубасцю,— гэтыя якасці яе раней падабаліся і смяшылі — цяпер стаяла перада мной страшнай зданню адплаты. Я халадзела ад адной думкі пра «Гром-бабу». Гэта было як прадчуванне.

Яна, Люба, уляцела да нас коршакам. Увечары, калі ўсе былі дома — Антаніна Аркадзеўна, Генадзь. Слухалі па радыё канцэрт. Ой, як яна лаялася! Як груба і брыдка! Не ў цяпліцы расла я, не ў інтэлігенцкай сям'і, розных людзей бачыла і розныя сваркі і лаянкі чула. Але такой... Які бруд яна вылівала на маю няшчасную галаву! Я проста аслупянела, анямела, хоць і думала раней пра такую кару і як бы рыхтавалася да яе. Ніводным словам я не адказала на яе знішчальны залп.

Генадзь глядзеў на мяне, ашаломлены больш, чым хто, такім нашэсцем і такімі жахлівымі абвінавачваннямі яго жонкі, якую ён нават ні разу сур'ёзна не прыраўнаваў — не было прычыны. Не ведаю, як выглядала я, але ў яго быў выгляд, варты жалю, бездапаможна-разгублены. Ён маліў мяне вачамі: «Скажы, што няпраўда гэта ўсё!»

Далібог жа, я шчыра шкадавала мужа. Для такога самаўлюбёнага і ўпэўненага чалавека гэта быў страшны ўдар. Як горны абвал на галаву.

Пакутлівую кару для ўсіх нас спыніла — дзякуй ёй! — Антаніна Аркадзеўна.

— Не крычыце, калі ласка! — сурова загадала яна Любе.— Вы не на базары. Вядзіце сябе прыстойна. Мы не прывыклі да такіх слоў... Пра ўсё можна сказаць па-чалавечаму...

Люба не сумелася і не змоўкла, аднак сцішылася — перастала крычаць і лаяцца.

— Я вяду сябе прыстойна. А вось яна... Нявестка ваша... Няхай раскажа, як заманіла чужога мужа ў лес. Эх ты, настаўніца! Бессаромныя вочы твае! Табе што — свайго не хапае?

— Ідзіце адсюль, прашу вас,— ветліва, але настойліва папрасіла раз'юшаную жанчыну Антаніна Аркадзеўна.— Вы сваё зрабілі і — калі ласка... Мы самі разбяромся.

— Не разбярэцеся вы — я разбяруся! Я за сваё — горла перагрызу! — пагразіла Люба, аднак выйшла, злосна грукнуўшы дзвярамі.

Не ведаю, колькі цягнулася маўчанне — секунды ці мінуты. Не ведаю, што рабілі яны, маці і сын, якія твары ў іх былі. Я не глядзела на іх. Не таму, што баялася. Не. І не сказаць, што была ў тым утрапенні, прастрацыі, калі робішся абыякавым да ўсяго на свеце. Таксама не. Я глядзела ў акно, у цёмны сад, які нядаўна адцвіў: чамусьці прыгадвалася маладая трава, усыпаная пялёсткамі; думала, што бадай цяжэй за ўсё будзе развітвацца з садам. Я палюбіла гэты добры сад і аддала яму нямала працы і клопату. Сад любіць Сашка. Ад успаміну пра сына сціснулася сэрца. Я падумала, што яго прыйдзецца забіраць соннага. І яшчэ падумала пра другога Сашку: што можа з ім зрабіць гэтая жанчына, якая пераконана, што муж — яе ўласнасць і адна яна мае права на яго любоў? О, уласнік! Ён сапраўды можа перагрызці горла за сваё.

— Ну... што скажаш, дарагая мая жоначка? — пачула я незнаёма-хрыплы, але знаёма-здзеклівы Генадзеў голас.

Не адказала. Падумала, што ў Сашы ніколі не можа быць такога голасу. Генадзь гэтак жа здзекліва размаўляе і з вучнямі, калі бывае не ў гуморы. Маці не раз казала яму, што так гаварыць з людзьмі нельга, гэта абразліва. Але мяне ў той міг ён не мог абразіць.

— Маўчыш? — павысіў ён голас.

Я павярнула галаву і... не ведаю чаму... усміхнулася.

О, як апякла яго мая ўсмешка! Ён аж падскочыў. Заенчыў:

— Яна яшчэ ўсміхаецца! Мама! Ты паглядзі! Яна ўсміхаецца!..— Ён выплюнуў такое ж брыдкае слова, якое паўтарала Люба, падбег і... ударыў мяне па твары.

Тады закрычала Антаніна Аркадзеўна:

— Не смей! Не смей! Я не дазволю, каб мой сын біў жанчыну! Не дазволю. Ганьба! Ганьба! Завошта яна будзе любіць цябе? Ты сам... сам ва ўсім вінаваты! Сляпы, самаўлюбёны эгаіст! — яна закрыла твар рукамі, села і заплакала.

Генадзя проста ашаламіў такі паварот:

— Мама! — амаль захныкаў ён, як хлапчук, на нейкі міг забыўшыся нават пра мяне і пра ўсю драму.

Я пайшла ў спальню. Захутала соннага Сашку ў коўдру. Чула, як Генадзь тэатральна стагнаў:

— Божа! Завошта? Завошта? Што я зрабіў? Чаго ёй не хапала? Ганьба на ўвесь раён!

Мяне амаль рассмяшыла, што больш за ўсё ён баіцца ганьбы на ўвесь раён. Я дык ніколечкі не баялася ніякай ганьбы, хоць ведала, што людзі асудзяць у першую чаргу мяне. Ну, і няхай...

Калі я выйшла з Сашкам на руках, ён, Генадзь, здзівіўся і, відаць, не на жарт спалохаўся.

— Ты куды? — ён і не падумаў, што я пайду, павінна адразу ж пайсці, што інакш і не можа быць.

Ён лічыў, што ўсё застанецца па-ранейшаму. Ён змірыўся б, я ведаю, нават падсвядома, у патаемных кутках душы, радаваўся б, што я правінілася і цяпер цалкам залежна ад яго, і напэўна з асалодаю штодзённа сек бы папрокамі, як той мужык вінаватую бабу дубцамі.

— Ты куды? — перапытаў і, нарэшце, зразумеўшы, што я зусім сур'ёзна хачу пайсці ад яго, закрычаў: — Не дам! Сына не дам!

Разбуджаны Сашка расплюшчыў вочкі, сонна паклікаў:

— Мамка.

— Пакладзі сына! Мой сын! — крычаў Генадзь.

Зноў яго адхіліла маці, сярдзіта загадала:

— Не крычы! Спалохаеш дзіця,— і спакойна папрасіла: — Не гарачыся, Міхаліна. Раніца за вечар мудрэйшая. Хіба мала месца ў гэтым доме? Не трэба гарачыцца, дзеці. У жыцці ўсё бывае. Трэба разабрацца спакойна.

Я паківала галавой: не, не магу. І яна, старая разумная жанчына, сумна адступіла, каб прапусціць мяне да дзвярэй.

Я пайшла да нашай нянькі — да цёткі Уліты, удавы, жанчыны, па-вясковаму разуменню, дзікаватай: не па-сялянску няўвішнай, павольнай, аскетычнай у сваіх патрэбах, але надзвычайна акуратнай і чыстай. У сяле так яе і называлі — Уліта Чыстая. Я спачатку нават думала, што прозвішча ў яе такое. За чысціню Антаніна Аркадзеўна і ўпрасіла яе, каб яна паняньчыла Сашку. А пасля адзінокая жанчына так палюбіла нашага хлопчыка, што, калі і не трэба было, у выхадныя дні, улетку, усё адно наведвалася па колькі разоў на дзень.

Уліта ўжо спала, але нашаму з Сашкам позняму прыходу не здзівілася. Яшчэ адна яе асаблівасць: нічога яе не здзіўляла, і нічога і нікога яна не баялася. Я думаю, што ў гэтай малапісьменнай жанчыны выхавана найвышэйшая культура пачуццяў, да якой большасць з нас яшчэ не дарасла.

— Пасварыліся? — спытала яна так, быццам сварка ў нашай сям'і была звыклай з'явай. А гэта ж не так, мы ніколі не сварыліся. Здаралася, што Генадзь бурчэў, я ўспыхвала, як запалка, але заўсёды побач была разважлівая, разумная Антаніна Аркадзеўна.

Я не адказала Уліце. Што я магла адказаць у той міг? Яна сказала, укладваючыся на падлозе, бо ложак адступіла нам з Сашкам:

— Нічога, памірыцеся. Мілыя сварацца — толькі цешацца. Твой,— Уліта ўсім казала «ты»,— хоць ціхі, а мой нябожчык, бывала, з кулакамі лез. А нічога — жылі.

Вось тады мне захацелася заплакаць. Усю бяссонную ноч я бязлітасна карала сябе: чаму я не такая, як іншыя жанчыны? Пэўна, я брыдкая, разбэшчаная эгаістка. Не думаю пра блізкіх сваіх, разбіваю жыццё Генадзю, які так упэўнены, што ашчаслівіў мяне, ажаніўшыся... А галоўнае — Сашка. Яго, маленькага, які нічога не разумее, адрываю ад бацькоўскай ласкі, ад бабулі, якая так хораша ўмее выхоўваць... Пакутлівая гэта была ноч. Першая такая і не апошняя.

А ўзышло сонца — і я неяк нечакана і дзіўна супакоілася. Быццам абтрэсла з сябе ўсё, адагнала, як дурны сон, напілася ранішняй расы і... распусцілася, як бутон, зазззяла маладосцю і бадзёрасцю. О, гэтыя пераўтварэнні і павароты ў маёй душы — да чаго яны давядуць!..

Пайшла ў школу, як нічога не было. І зусім не баялася сустрэцца з Генадзем, з ім — Сашам. І што яны сустрэнуцца — таксама не баялася. Але яны не прыйшлі — ні той, ні той... Аляксандр Дзямідавіч тыдзень не хадзіў — захварэў. Пасля з'явіўся з пабляднелымі сінякамі і загаіўшыміся драпінамі.

Я ўвайшла ў настаўніцкую і адразу ўбачыла па тварах сваіх калег, па іх настрою, што Люба папрацавала як мае быць, што яна і не думала нават, каб хоць крыху стаіць ад людзей сваю драму, наадварот, раззваніла па ўсім сяле, паскардзілася дырэктару, сакратару партарганізацыі, а неўзабаве я даведалася — і вышэй: у раяна, у райкам. Яна не мела і кроплі літасці не толькі да мяне, але і да свайго мужа, да сваёй уласнасці, якую хацела такім чынам утрымаць, зберагчы.

Настаўнікі былі ашаломлены, што я прыйшла вось такая, па-святочнаму адзетая, прыгожая, амаль вясёлая. Магчыма, гэта была мая памылка. Іх шакіравала. Яны не ведалі, як на мяне глядзець, што казаць, нават мае лепшыя сяброўкі — Роза Абрамаўна і Мая. Адзін Павел Адамавіч, наш дзівак «Анікум», безумоўна, на злосць усім, быў са мной, як ніколі раней, добры, ласкавы, жартаваў. Не, не толькі на злосць. У яго свае перакананні, якія ён пасля выказваў мне...

Усе астатнія настаўнікі трывожыліся, што няма Аляксандра Дзямідавіча. Ён — старшыня камісіі. Ішлі экзамены. У восьмых і адзінаццатым. А дзесятыя яшчэ займаліся.

Я пайшла ў дзесяты «Б», мой любімы клас, з якога большасць нашых акцёраў. Пайшла да званка, бо ўрока ў той дзень майго не было. Захацелася паглядзець: ведаюць вучні? Ведалі. І, мабыць, абмяркоўвалі гэтую сенсацыю, бо ўсе былі ў класе і збянтэжыліся, калі я ўвайшла. Не чакалі. Я не думала казаць ім што-небудзь. А тут не вытрымала. Сказала:

— Я ведаю, што вы чулі і яшчэ пачуеце, і праўду і плёткі. Плётак будзе больш, як заўсёды пры такіх гісторыях. Вы ўжо дарослыя людзі, і мне хочацца, каб вы ўмелі разабрацца і зразумець без абывацельскіх забабонаў... Ведайце адно, адну праўду ва ўсім гэтым: я кахаю Аляксандра Дзямідавіча.

Здарылася дзіўнае: вучні заапладзіравалі маім словам. Хлопцы гучна і весела запляскалі. Дзяўчаты сарамліва апусцілі вочы. Такая неспадзяваная рэакцыя збянтэжыла мяне і трохі спалохала. Я падумала, што паводжу сябе не зусім натуральна, тэатральна неяк, пэўна, ад нервовай узбуджанасці. Ці не лепш мне схавацца, як Генадзю, і не выходзіць з маленькай і чысценькай хаты, пакуль не ўтаймуюцца страсці? Але вельмі хацелася пабачыць Сашу. Як адчувае сябе ён? Няхай бы хоць адным позіркам падбадзёрыў сваю гаротную каханую! Больш мне нічога не трэба ад яго.

Яго чакалі. Уся камісія. Экзамен жа! І ўсе цікаўныя: як павядзе сябе гэты спакойны, паважны чалавек? Да яго пайшоў сам дырэктар. Тады яшчэ ніхто не ведаў, што Люба сапраўды зрабіла яго хворым.

Я гуляла з адзінаццацікласнікамі ў валейбол. І бачыла, адчувала, як з усіх акон — не за гульнёй! — а за мной, толькі за мной адной, сочаць дзесяткі вачэй! І тыя, што чакалі экзаменаў. І тыя, што былі на ўроках. Сярод мноства вачэй — вочы Антаніны Аркадзеўны. Яе позірк я сапраўды такі адчувала ўсёй істотай. І сцялася, спалохалася, як вінаватая школьніца, калі старая настаўніца выйшла са школы і наблізілася да пляцоўкі. Я зразумела, што свякруха хоча пагутарыць са мной, і баялася гэтай размовы, баялася, што яна папросіць ці нават загадае вярнуцца дадому, і я, слабая, скаруся яе разумнай і хітрай уладзе. А мне хацелася бунтаваць, як ніколі ў жыцці. Бунтаваць супраць усіх канонаў, законаў, традыцый, супраць людзей і абставін, якія стварылі людзі. Было і радасна і страшна ад гэтага свайго нечаканага бунтарства.

Антаніна Аркадзеўна паклікала мяне:

— Міхаліна, калі ласка, на хвілiначку.

Я завагалася: ісці ці не ісці?

Але на пляцоўцы застылі дзве каманды. Глядзелі на мяне. Чакалі. Вучні... Я не магла пры іх не адгукнуцца на такую спакойную просьбу заслужанай настаўніцы. Што б ні здарылася — ёсць педагагічны такт. Нарэшце, падумала я, трэба прайсці праз усе выпрабаванні — нагаворы, угаворы, пагрозы, праклёны... і выстаяць!

Антаніна Аркадзеўна сказала мне ціха і тактоўна:

— Міхаліна, дзіця маё, ты як п'яная. Нельга так. Ты кідаеш выклік усім — настаўнікам, калгаснікам. Я разумею: гэта ад нервовай узбуджанасці. Але людзі не зразумеюць. Ідзі дахаты.

— Да якой? — тут ужо сапраўды з выклікам спытала я.

— Да Сашкі,— адказала яна.

І я скарылася. Не, дадому не пайшла, але на валейбольную пляцоўку не вярнулася. Пайшла на гарод, дзе працавалі дзевяцікласніцы, палолі памідоры і гуркі.

Роза Абрамаўна падпільнавала, калі я была адна, у баку ад людзей, падбегла са спалоханымі вачамі.

— Міка, дарагая, што ж гэта будзе?

— Нічога не будзе,— адказала я.

— Каб ты пачула, што пра цябе кажуць.

— Калі ласка, прашу: не трэба перадаваць, што пра мяне кажуць. Я сама ведаю...

Яна збянтэжылася. Ёй хацелася паспачуваць. Шчыра. Я не прыняла спачування. Не магла прыняць, бо не адчувала сябе ні пакрыўджанай, ні няшчаснай. І з тае хвіліны лепшая мая сяброўка пачала патроху аддаляцца, пазбягаць мяне, замыкаючы ланцуг ізаляванасці. Праўда, у яе хапіла тактоўнасці не парываць адразу. Яна яшчэ колькі разоў наведвалася да мяне, але ранейшай шчырасці паміж намі не было. Дружба астывала, халаднела.

З гарода мяне паклікаў дырэктар, наш добры Андрэй Пятровіч, які ні разу, колькі я ведаю яго, не ўзвысіў голасу ні на вучня, ні, тым больш, на настаўніка. Ён толькі што вярнуўся ад завуча. Я ведала, што ён хадзіў да Сашы, а таму ішла з нейкім новым страхам. Ва мне дзіўна ўжываліся ў тыя хвіліны бунтарства і... страх. Але страх трымаўся, пакуль была невядомасць — што скажуць, што зробяць? Прасвятліліся мае адносіны з людзьмі — страх знікаў, а бунтарства, наадварот, расло.

Андрэй Пятровіч сядзеў у сваім кабінеце, як кажуць, што хмара: пануры, згорблены, рэдкія сівыя валасы ўскудлачаныя, як у хлапчука пасля бойкі; дыхаў цяжка, быццам прабег з канца ў канец нашага расцягнутага на тры кіламетры сяла. На прывітанне маё не адказаў. Сесці не запрасіў. Я села сама. Яго гэта, відаць, здзівіла і абурыла. Ён зірнуў з-пад ілба, адкашляўся і глухім голасам, з маленнем і пагрозай спытаў:

— Мілая мая, што вы робіце?

— А што я раблю?

— У нас зрываюцца экзамены...

Я хмыкнула:

— Ад нашага кахання?

Ён не чакаў такой дзёрзкасці і доўга глядзеў на мяне са здзіўленнем і няўцямнасцю: маўляў, што зрабілася з жанчынай?

— Вы яшчэ смеяцеся?

— А чаму я павінна плакаць? Ад таго, што прыйшло каханне?

Тады ён закрычаў, стукнуўшы кулаком па стале:

— Дурнота на вас найшла, а не каханне! Дурнота, мілая мая! Разбэшчанасць! Зажырэлі! Зазыкавалі! Сумленне страцілі! Чэсць! Сорам! Дай бабе волю!.. Трапілі б вы ў рукі добраму мужу, а не такому кісялю, як ваш...

— А вы дамастроевец, Андрэй Пятровіч,— сказала я з вясёлай усмешкай, уявіўшы, што было б, каб Генадзь паспрабаваў мяне паском навучаць. Дырэктару мае словы — што вядро халоднай вады: адразу сцішыўся, зрабіўся афіцыйна-сухім.



— Кахайце каго хочаце, але не выстаўляйце сваё каханне на паказ, вы не дзяўчынка, вы, дзякуй богу, маці ўжо, у вас дзіця... Ва ўсякім разе, як дырэктар, я не дазволю, каб вы дэманстравалі перад вучнямі, як гэта вы толькі-што зрабілі... Яны — дзеці, а вы — педагог...

— Не лічыце дзесяцікласнікаў дзіцяткамі... Яны не ў цяпліцы раслі,— па-свойму баранілa я вучняў, але было крыўдна, што і ў маім любімым класе знайшоўся дробны шпіёнчык (відаць, нехта з дзяўчат), які ўжо так хутка данёс пра нашу размову.

— Дзе б яны ні раслі, але я не дазволю... Я забараняю вам рэпеціраваць «Чайку»...

— О-о!

— Можаце думаць пра мяне, што хочаце. Але я не жадаю, каб вы зараз, у вашым стане, з вашымі вельмі дзіўнымі поглядамі ўплывалі на вучняў. З заўтрашняга дня лічыце сябе ў летнім адпачынку.

Такая рашучасць і катэгарычнасць нашага ціхага добрага Андрэя Пятровіча ўтаймавалі на нейкі міг маё бунтарства. Яго хапіла толькі на тое, каб саркастычна падзякаваць і горда пакінуць кабінет.

А дома, у адзіноце, мне зноў хацелася плакаць. Добра, што са мной быў мой маленькі Сашка, радасць мая і пацеха, смяшлівы непаседа, вялікі фантазёр і бунтар — гэткі ж, як і маці. Мне здалося, што ён, Сашка,— не часцінка Генадзя і таго кахання, якога, напэўна, не было, якое мы, відаць, прыдумалі, а часцінка гэтага незвычайнага кахання, трагічнага і радаснага, якім я жыла.

Я цэлы дзень хадзіла з сынам па тых мясцінах, дзе мы сустракаліся з ім, з вялікім Сашам.

Уразіла, што Сашка за ўвесь дзень ні разу не папрасіўся да таткі. Я не зларадніча ла з гэтай прычыны. Мне сапраўды шкада было Генадзя, дарэмна ён так стараўся прывязаць сына, перацягнуць на свой бок.

Бабулю Сашка ўспамінаў, прасіўся да яе. І гэта было самае цяжкае — растлумачыць маломy, чаму мы не можам пайсці ў «наш дом», у «наш сад», да бабусі...

Але пад вечар яна наведалася да нас сама — Антаніна Аркадзеўна. Убачыла яе — і зноў апанаваў страх: навошта яна ідзе? Угаворваць? Прасіць? Не, яна не ўгаворвала. Увогуле не ўспамінала пра нашу драму, быццам нічога і не здарылася. Расказвала пра экзамены — хто з вучняў як адказваў, хто куды хаваў шпаргалкі. Я была ўдзячна ёй за гэта. Але калі яна папрасіла дазволіць Сашку пайсці з ёй, я ўся скаланулася, падумала нядобразычліва:

«Во як ты пад'язджаеш да мяне, як хітруеш. Не!»

Але яна нібы прачытала мае думкі. Сумна ўсміхнулася:

— Не бойся. Ніхто ў цябе сына не адніме. Мне ты можаш паверыць? Пагуляе — і я прывяду назад.

Пра Генадзя — ні слова, пра тое, што яму хочацца пабачыць сына.

Ёй нельга было не паверыць. Каб яна патрабавала, я, безумоўна, узбунтавалася б. Але яна прасіла хораша, спакойна, і я дазволіла.

У той жа вечар я перажыла яшчэ адно, можа, самае цяжкае.

Прыйшла Уліта з калгаснай працы — з сенакоса: зарабляла на працэнты сена для сваіх коз. Удзень, калі я вярнулася са школы, яна адыходзіла добрая, ласкавая, а ўвечары — ну, проста плюнула на мяне позіркам. Слова не сказала. Праўду кажучы, я такі баялася гэтага: аскетка, праведніца, не даруе яна мне, калі пра ўсё даведаецца. Але спадзявалася на яе дабрату, міласэрнасць і разважлівасць.

Заўсёды і на ўсё ў яе быў свой адменны погляд, свая думка. Ажно — не, на гэты раз перамагла людская, бабская. Калгасніцы, безумоўна, асуджалі мяне. З імі — і Уліта.

Я з жахам чакала, што яна вось-вось папросіць мяне са сваёй хаты. Куды я пайду? Але Уліта маўчала. Моўчкі палола грады, моўчкі даіла казу, напілася малака з чэрствым хлебам... Проста катавала сваім такім маўчаннем. А тут яшчэ Антаніна Аркадзеўна доўга не прыводзіла Сашку. Якія толькі думкі не лезлі ў маю разгарачаную галаву! Здавалася, што ўсе ўступілі ў змову, каб зламаць, скарыць мяне, прынізіць, растаптаць маё каханне. Але разам з падазронасцю рос бунтарскі дух.

«Не, не скарыце! Не зламаеце! Не паддамся! Не! Не! Але каб выстаяць, трэба не абараняцца, а наступаць».

Я лічыла, што ўжо «наступала», тады ў школе, калі гаварыла з вучнямі, з дырэктарам. Трэба такім чынам размаўляць і з гэтай старой манашкай. І я загадала, ветліва, але ўладарна, як гаспадыня, як рабіла гэта амаль тры гады:

— Уліта, схадзіце, калі ласка, за Сашкам да... Антаніны Аркадзеўны.

І — о, цуд! — жанчына паслухмяна і нават ахвотна пайшла. А вярнулася з Сашкам ужо іначшая, амаль ранейшая — гаваркая, добрая, хіба трохі больш стрыманая. Тады я спытала ў яе з інтымнай даверлівасцю:

— Уліта, можа вам непрыемна, што я пасялілася ў вас? Майце на ўвазе, што гэта, відаць, надоўга.

Яна ўздыхнула і адказала не адразу.

— Ох, дзеткі,— ніколі яна да мяне так раней не звярталася, і гэта чамусьці непрыемна кальнула.— Хацела я табе паказаць парог, калі пачула ад людзей... Ды Антаніна Аркадзеўна просіць: прытулі, кажа, паглядзі... Бог вас разбярэ! Гэта ж дзіва, каб свякруха за такую нявестку заступалася.

Не надта мне прыемны быў такі свякрухін клопат. Падазрона падумала: «Мабыць, яшчэ адна хітрасць, каб скарыць мяне, хітрасць разумная, прадбачлівая, якую магла прыдумаць толькі Антаніна Аркадзеўна». Але ў той жа час я не магла не адчуваць, што гэта — мацярынская хітрасць, для шчасця сына, унука — майго сына... І яна кранула мяне, расчуліла. Уночы я ціхенька плакала ў падушку. А раніцаю зноў быццам нанава на свет нарадзілася. І хацелася мне толькі аднаго: убачыць яго, майго Сашу.

Пайшла ў школу. Экзаменаў у той дзень не было. Займаліся толькі дзесятыя класы, і ў пакоях было пуста і ціха. Саша не з'яўляўся ў школу. Можа таму гэтая летняя пустэча здалася мне такой злавесна-змрочнай і агарнула балючым смуткам. Ён душыў, смутак, я задыхалася ў зацененай таполямі халаднаватай настаўніцкай, адчувала, што мне трэба бегчы адгэтуль і хутчэй — на сонца, на вецер, на рэчку. Ды, аднак, не магла зрушыць з месца, сядзела, як прывязаная, бяздумная, спустошаная...

Скрыпнулі дзверы — я падскочыла: ён! Не, Павел Адамавіч. Стары падышоў і працягнуў мне руку, чаго амаль ніколі не рабіў — за руку штодня не вітаўся, хіба толькі ва ўрачыстых выпадках, калі каго віншавалі ці калі з'язджаліся пасля летняга адпачынку і збіраліся на першы педсавет.

— Міхаліна Казіміраўна, хачу без сведкаў паціснуць вашу руку,— сказаў ён.— Вас асуджаюць, а я, паверце, у захапленні. Я, ведаеце, стары дзівак-дзівадла, але ўмею бачыць глыбей, чым другія.



Пра вас я быў невысокай думкі, бо ніяк не мог разгледзець вашай любові да мужа і яго — да вас. Думаў: дзяўчо з сучасных, падхапіла культурненькага ды багаценькага і трымаецца рукамі і зубамі. Ажно вы вунь якая! Натуральная! Адно шкадую: што ён — не герой. Аляксандр Дзямідавіч. Не. Не герой.

— Не трэба пра яго так, Павел Адамавіч,— папрасіла я.— Мне не трэба ад яго ніякага геройства.

— А вось гэта ўжо талстоўска-бабская філасофія, прабачце мне. «Усім ахвярую дзеля таго, каго кахаю». А калі ён не варты такой ахвяры?

— Ён варты.

Павел Адамавіч незадаволена чмыхнуў, як заўсёды, калі яму нешта не падабалася. Чмыханне яго трохі развесяліла мяне. Я глядзела на сярдзіты твар, на рудыя пракураныя вусы, якія варушыліся, як у маржа... І тут нечакана з'явілася дзёрзкая думка.

— Павел Адамавіч, што вы скажаце, калі я папрашу вас зрабіць мне адну паслугу?

Ён зацікаўлена насцярожыўся.

— Перадайце запіску Аляксандру Дзямідавічу. Але так, каб... Разумееце?

Стары спачатку зрабіў вельмі здзіўленыя вочы, пасля зморшчыў твар і... заліўся бязгучным смехам.

— А што? І перадам. Пражыў жыццё, шмат чым займаўся, а ў такой ролі быць не прыходзілася.

Я тут жа ўзяла вучнёўскі сшытак і чырвоным алоўкам, якім выпраўляла і падкрэслівала памылкі, з ліхаманкавай паспешлівасцю дрыжачай рукой напісала:

«Саша, любы мой! Жыву думкамі пра цябе. Жадаю толькі аднаго: сустрэцца з табой. Няхай гэта будзе апошні раз. Прыходзь увечары туды, дзе мы сустрэліся першы раз. М.»

— Можаце прачытаць,— сказала я Паўлу Адамавічу, перадаючы згорнуты лісток.

— Паверце, што я не стану чытаць. Павінен жа хоць у аднаго чалавека на зямлі жыць такі анахранізм, як рыцарства,— ён зноў засмяяўся.

Праўду скажу, не верыла я, што Саша прыйдзе, бо добра ўяўляла, як пільнуе яго Люба. Але чакала спаткання з такой нецярплівасцю, што недзе пад вечар у мяне, здаецца, пачалася гарачка. Паліла галаву, трэсла цела, як у ліхаманцы. О, гэты чэрвеньскі вечар! Я падумала тады, што яго ўвогуле не бывае. Які ж гэта вечар, калі змяркаецца недзе амаль апоўначы! Нават у сям'і, дзе ўсё ладна і мірна, і то ў такі час мужу нялёгка адлучыцца з дому, ды яшчэ калі жонка такая, як Люба.

Я так і не дачакалася, калі змеркнецца, каб пракрасціся за раку, у бярэзнік. Адвячоркам у маленькую і чысценькую Уліціну хатку заглянуў Павел Адамавіч. Не прасіла я, каб ён прынёс адказ і не чакала, што стары можа вось так проста зайсці. Але адразу зразумела: адказ! І рванулася насустрач:

— Ну, што? Павел Адамавіч, даражэнькі!

— Якія вы ўсе нецярплівыя, закаханыя. Манашкі тваёй няма?— агледзеўшыся, перадаў мне заклеены канверт. Я тут жа разарвала яго. Такі ж вучнёўскі лісток, гэтак жа паспешліва напісаныя словы, толькі простым карандашом:

«Міхаська! Радасць мая і гора маё! Люблю, люблю, люблю. І праклінаю сам сябе, што я такі бязвольны і слабы. Не магу так,

як ты. Асуджай мяне, забудзь, каб я ўсё жыццё караў сябе. Я прыйду да цябе. Прыйду! Але не сёння. Не хачу, каб ты бачыла мяне сёння. Падаю да тваіх ног і цалую».

Не люблю я ні высокіх слоў, ні палымяных клятваў, а тым больш — тэатральных жэстаў. Я прагнала б прэч мужчыну, каб ён упаў перада мной на калені. Не трэба мне цалаваць ногі, каб даказаць любоў. Але не гэта мяне ўразіла. Я не чакала радасці, не спадзявалася на блізкае спатканне. І аднак ад такога пісьма мне чамусьці зрабілася вельмі балюча.

Павел Адамавіч, відаць, убачыў гэты боль на маім твары, бо спачувальна ўздыхнуў.

— Не прыйдзе. Я ведаю. Ён сказаў мне. Не герой! Не!

— Не трэба...— зноў папрасіла я.

— Не буду,— паабяцаў ён і зморшчыў твар.— А яна, фермерша! О, якая гэта тыгрыца, скажу я вам! Сатана, а не баба. Здагадаласятакі, што я не проста так прарваўся да яе мужа, падпільнаваўшы, калі яна выйшла з хаты. Не ад гарачай любові да яго, гаротніка. І трохі не дала мне па шыі. Выштурхала без усялякіх цырымоній. «Няма чаго, кажа, старым казлам лезці ў чужы гарод». Як вам падабаецца? — Павел Адамавіч пырснуў. Смех яго на міг развеяў мае маркотныя думкі.

Я спытала:

— Што ж яна, пад замком трымае яго?

— Горш. Так размалявала, што і хацеў бы... Эх, дзярмовы я рыцар! Даваў слова маўчаць...

Толькі тады я зразумела, што Люба зрабіла з Сашам. Жахнулася ад такога дзікунства! Абурылася. Пашкадавала, як маленькага, і, безумоўна, адразу даравала пісьмо. Яно набыло зусім іншы сэнс. І ад таго зноў зрабілася амаль хораша, лёгка. Уявіла, як Люба пагнала старога, і засмяялася ўголас:

— Дык, кажаце, чуць не атрымалі па шыі?

— Лічыце, што палучыў. Ва ўсялякім разе «старога казла» зарабіў.

— Прабачце, Павел Адамавіч, што з-за мяне...

— Прабачаю... І, між іншым, скажу вам па сакрэту, што і яе, тыгрыцу гэтую, я паважаю больш...— стары, безумоўна, хацеў сказаць «больш, чым яго» — Аляксандра Дзмідавіча, але асекся, успомніўшы, відаць, маю просьбу.— Калі ўжо ставіць за мэту — утрымаць сваё, дык трымаць трэба так, як яна, а не так, як гэты твой інтэлігенцік Генадзь... Малюск! Кісель, як кажа Андрэй Пятровіч...

Дзіўна, але мне было непрыемна, што ён такой думкі пра Генадзя, амаль гэтак жа непрыемна, як і тады, калі ён без павагі казаў пра Сашу. Я не думала пра мужа дрэнна, нічога кепскага яму не зычыла і пагаджалася, што ва ўсім вінавата адна я — мой характар, мая натура...

Пацягнуліся ціхія летнія дні. Настаўнікі раз'ехаліся. Ды і сустракацца мне з імі не хацелася. Хоць не — няпраўда. Калі Антаніна Аркадзеўна не з'яўлялася нешта з тыдзень, я адчула сябе кепска — адшчапенкай. А я люблю людзей і адзіноцтва для мяне, можа, самае страшнае. Ды і Сашка прасіўся да бабулі. А хіба магла я пайсці да іх сама? Атрымалася б, што прыйшла каяцца, падаць да мужавых ног. Карай, але злітуйся. Даруй грэх мой. Што-што, а раскаянне не з'яўлялася ні на міг нават тады, калі мне было асабліва цяжка.

Уліта, якая здолела ўтрымацца маўклівай, нахмуранай не больш як дні тры, пасля штовечар трубіла пра пакорлівасць мужу. Я ж



цяпер магла пакарыцца толькі таму, каго любіла. А больш нікому — ні чорту, ні богу, ні мужу, ні свякрусе. Дзівілася з самой сябе, што столькі год пакаралася без любві.

Але я шчыра ўзрадавалася, калі Антаніна Аркадзеўна прыйшла зноў. Нават тое, што Сашка кінуўся ад мяне да яе і ўвесь час лашчыўся да бабулі, не кранула маёй рэўнасці, не спалохала, што сына могуць пераманіць хітрасцю. Дзіцяці трэба не толькі адна маці, яму трэба людзі, цэлы свет людзей, якія любілі б яго. Тады і ў малога будзе выхоўвацца такая ж любоў да людзей. Простую гэтую педагагічную ісціну я добра разумела. Я ўсё разумела. Але...

Антаніна Аркадзеўна зноў колькі дзён ніводным словам не нагадвала мне ні пра Генадзя, ні ўвогуле пра нашы адносіны. Ды я насцярожана чакала: чым жа скончыцца яе маўчанне? Нарэшце яна не вытрымала, спытала:

— Міхаліна, дзіця маё, я не староннi чалавек і маю права на такое пытанне: як жа яно будзе далей?

— А ніяк не будзе,— не задумаўшыся, адказала я. Гэтак жа, як Розе Абрамаўне. Такая мая пераконанасць уразіла і засмуціла свякруху. Яна доўга сядзела з такім выглядам, што мне здавалася: восьвось паднімецца і, не развітаўшыся, не сказаўшы слова больш, пойдзе назаўсёды. І я трохі баялася гэтага. Не, яна не пайшла, розум у яе ўладарыў над пачуццямі. Памаўчаўшы, Антаніна Аркадзеўна сказала:

— Я ведаю сына лепш... У яго мяккае сэрца. Ён можа дараваць.

Я падумала чамусьці амаль з радасцю:

«А вось гэта ей падказаў не розум, а пачуцці. Мацярынскія».

І адказала:

— Антаніна Аркадзеўна, вы — разумная. Няўжо вы сур'ёзна думаеце, што пасля гэтага я буду больш паважаць Генадзя? Не кажучы ўжо пра любоў.

Яна ўздыхнула і сказала сурова:

— Вы — маладыя — эгаісты, задужа многа думаеце пра сябе і забываеце на дзіця. У вас — сын.

— Мяне такі папрок не можа крануць, бо гэта няпраўда. Я забываюся на Сашку?! Ды я начамі не сплю — думаю пра лёс сына. У мяне сэрца разрываецца. І дзеля Сашкі, толькі дзеля яго я гатова вярнуцца...

Свякруха ўстрапянулася, вочы яе бліснулі радасцю. Ды я тут жа пагасіла іх.

— Але з адной умовай... Простай... Каб наш саюз з Генадзем быў саюзам роўных і... вольных. Каб ён не паводзіў сябе ўладаром, як казалі раней, сваёй богам дадзенай палавіны. І каб ніколі нічым — ні словам, ні дзеяй — не абразіў гэтую маю любоў... Яна — святая... Для мяне... І, вы разумееце, я не дазволю, каб нехта караў мяне за яе... Згодзіцца Генадзь на такую ўмову?

Антаніна Аркадзеўна сказала без надзеі, упалым голасам:

— Пра гэта вы дамоўцеся самі.

— Згодзіцца,— упэўнена адказала я.— Але ніколі не выканае. Для гэтага хіба такая трэба сіла волі, як у Генадзя! І незалежнасць ад людской думкі. І душэўная культура. Цераз тыдзень, калі не раней, пачнуцца сцэны рэўнасці, папрокі... А я гэтага не сцярплю. Вы ведаеце мяне, Антаніна Аркадзеўна. Я зноў мушу перабірацца з Сашкам да Уліты. І тады ўжо для людзей будзе камедыя. А я не хачу камедыі! Не! Няхай лепш будзе драма!

Тады ж Антаніна Аркадзеўна прызналася, што з першага знаём-

ства я нечым спалохала яе, што яна дзіўна нeяк і незразумела баялася мяне і праз гэта не любіла так, як павінна была палюбіць. А цяпер знікла боязь і з'явіліся зусім іншыя пачуцці. Якія — яна не растлумачыла. Але, помню, сказала:

— Сэрца маё часта поўніцца гневам і злосцю. За сына, за ўнука. Але пасылаць табе праклёны, зычыць няшчасця я не магу. За штосьці, за што — сама не разумею, я пачала паважаць цябе. Не толькі Сашка, але і ты, віноўніца, прыцягваеш мяне. Можа, мне хочацца зразумець цябе. Можа, усцерагчы ад большай бяды.

І сказала яшчэ вось што:

— Добра. Няхай будзе драма. Але без усялякай хітрасці, я хачу папярэдзіць. Не дамагайся па-бабску яго... Ён — не герой.

Я скаланулася: словы Паўла Адамавіча. Няўжо расказаў? Такое здрадніцтва чалавека, якому даверылася, было б цяжка перажыць, яно скіравала б мой бунт супраць людзей. Не, на шчасце, падазронасць мая тут жа развеялася.

Аднак я паспела адказаць Антаніне Аркадзеўне:

— Для мяне ён герой. Адзіны. З усіх...

— Дзіця маё, яшчэ ў старажытнасці людзі казалі: любоў сляпая. Але... не абурайся, калі ласка, я зусім не намерана ганіць яго. Я хачу засцерагчы цябе не ад яго. Ад Любы... Май на ўвазе, што гэта жанчына не думае, што будзе ад яе ўчынкаў — камедыя ці трагедыя. Яна аднолькава здатная на ўсё.

Што Люба такая — гэта я добра ведала. І аднак падумала, што ўсё-такі свякруха хітруе — хоча нагнаць страху з адной мэтай: каб, напалоханыя, мы не рушылі далей, тады, магчыма, паступова выветрым любоў з сэрцаў і галоў нашых, і час, лепшы лекар, усіх верне на свае месцы. Старая ведала, што большасць такіх драм у жыцці завяршаецца знешне шчаслівым канцом: перадурэюць і ўтаймуюцца. Я не стала разбураць яе надзеі. Няхай спадзяецца.

Дзе-якія чуткі пранікалі і ў маю «цытадэль». Ва ўсякім разе я ведала, што Люба дамагаецца, каб мяне выгналі са школы. Спачатку я не баялася гэтага. Верыла ў сваіх калег: не пакрыўдзяць, завошта ім выганяць мяне? Вера мая ўмацавалася, калі Мая расказала, як абараняў мяне на педсавеце Павел Адамавіч, і дырэктар, наш добры Андрэй Пятровіч, нібыта згадзіўся з ім. Боязь і няўпэўненасць з'явіліся, калі аднойчы зусім неспадзявана я сустрэлася каля пошты з Любай.

— Ты шчэ тут? — закрычала яна на ўсю вуліцу і зноў сыпанула бруднымі словамі, пры хлопчыку маім, спалохала дзіця.— Ну, я буду не я, калі не выжыву цябе адгэтуль. Каб мая ўлада, я павесіла б цябе на гэтай вярбе, сучку такую.

О, гэта было жахліва! На маё шчасце, нікога блізка не было. Але ўсё адно, слова не вымавіўшы ў адказ, я схапіла Сашку на рукі і пабегла прэч ад гэтай страшнай жанчыны.

— А што — сорамна?..— зларадна крычала яна ўслед.

З таго часу я пачала баяцца і яе асабіста і ўсяго таго, што яна можа зрабіць; перасцярога Антаніны Аркадзеўны набыла сур'ёзны сэнс. Можа праз гэтую боязь я не пайшла на спатканне, калі ён, Саша, паклікаў.

Дзён праз колькі, пасля маёй сустрэчы з Любай, у нядзелю, Мая, піянерважатая, прынесла мне яго пісьмо. Ён клікаў зараз жа, пасярод дня, за рэчку, у Сямёнаўскі бор.

Я не пайшла. А пасля шкадавала. І цяпер шкадую. Мне так хацелася пабыць з ім хоць хвіліну. Можа, у апошні раз. І ён, безумоўна,



хацеў выканаць сваё абяцанне — прыйсці да мяне. Можа, у той дзень яму напаткалася адзіная магчымасць. А я не пайшла. Брыдка і дагэтуль ад думкі, што я пабаялася. Каго? Любы? Ды яна ж сама баіцца мяне!

Хоць у адзіноце, суме, а ўсё адно летнія дні ляцелі хутка. Я пачала ўжо не без трывогі чакаць, калі скончацца канікулы, з'едуцца настаўнікі, і я прыйду ў школу. Як павядзе сябе Генадзь? Застанецца ці перавядзецца ў другую школу? Я асабіста вырашыла: нікуды не паеду. З-за прынцыпу. Каб не думалі, што лічу сябе вінаватай.

Мяне паклікалі ў школу раней, недзе ў канцы ліпеня. Прыехаў загадчык райана — Леанід Міхеевіч Аўсянік. Я ведала гэтага чалавека яшчэ з інстытута. Праўда, ён скончыў на два гады раней. Але яго ўсе ведалі ў інстытуце, бо ён быў актывіст, прафсаюзны кіраўнік. У раёне таксама хутка пайшоў угору. Адзін год папрацаваўшы ў школе, стаў інспектарам райана, а яшчэ гады праз два яго высунулі на загадчыка: малады энергічны кадр! Злосныя языкі на настаўніцкіх канферэнцыях пляткарылі, што Міхеіч мае трое любоўніц і бярэ з дырэктароў хабар... свежай рыбай. Сапраўды, усюды ён пахваляецца, што лепшы рыбалоў з усіх раённых кіраўнікоў, і, праўда, прывозіць самы багаты ўлоў — увесь актыў есць яго рыбу. Але, кажуць, што ніхто ніколі не бачыў, каб сам ён злавіў нешта большае за чырвонапёрку ці ёршыка.

Аўсянік быў у кабінеце дырэктара адзін. Ды і ўвогуле, здаецца, у школе нікога не было. Пуста, холадна. Пахла свежай фарбай, крэйдай, вільгаццю — не прасохлі яшчэ пасля пабелкі сцены. Сустрэў загадчык райана мяне прыветліва. Запрасіў сесці. А сам хадзіў па кабінеце, качаўся, як шар, кругленькі, тлусценькі, нечым вельмі задаволены, расчырванелы, у ззяючай бялюткай нейлонавай сарочцы. Абцасікі яго модных чаравікаў прыліпалі да пафарбаванай падлогі. Заставаліся сляды. Мне карцела сказаць, што не трэба хадзіць па ўсім пакоі, псаваць непрасохлую падлогу. Але той жа страх невядомасці зноў скоўваў. Я сядзела, як школьніца.

Ён абышоў вакол мяне, можа, разы тры, быццам прымерваўся, з якога боку лепш падступіцца. Сказаў добразычліва, лагодненька, але з афіцыйнага месца, зайшоўшы за дырэктарскі стол.

— Міхаліна Казіміраўна, абавязак мой нялёгкі, але служба вымушае. Аднак ніякіх маралей чытаць вам не збіраюся. Скажу адразу: многія людзі і педсавет... патрабуюць перавесці вас у другую школу. Куды-небудзь далей — так прасіла адна асоба...

Даведалася, як хочуць мяне пакараць,— знік мой страх. Не скажу, што весела, але я засмяялася:

— У ссылку, значыцца?

Аўсянік спружыніў на насочках сваіх завостраных, як ракеты, чаравікаў, таксама засмяяўся:

— У ссылку,— і выйшаў з-за стала.

— Завошта?

— Ну, гэта вы ведаеце лепш, чым я. Хоць — хе-хе — і мне вядома.

— Не. Я не ведаю...

— О, вы, як кажуць юрысты, не прызнаеце сваёй віны,— голас мяккі, проста аксамітны, шуршэў недзе ўжо ззаду. Патрэсквала фарба на падлозе — прыліпалі чаравікі; як таму гарачаму стаенніку, яму не стаялася на месцы.

— Хіба ёсць закон, які забараняе настаўніцы пакахаць?

Ён засмяяўся юрліва і яшчэ бліжэй ад мяне, над самым вухам.

— О, я разумею. Як чалавек, я ўсё разумею, Міхаліна... Вам нікуды не хочацца адгэтуль?

— Педсавет не мог патрабаваць, не пагаварыўшы са мной. Чаму не выслухалі мяне?

— Гэта правільна. Але некаторыя асобы дайшлі да парткома, да Васіля Іванавіча. Цераз маю галаву.

— І куды вы рашылі саслаць мяне? У Сібір? — ужо без жарту, са злосцю спытала я.

— О, не! — ён засмяяўся амаль у вуха мне.— Бліжэй. У Затонскую школу.

— Дзякую. Вы літасцівыя.

— Усяго на ўсяго за сорак кіламетраў.

— Вось за гэта і дзякую, што не так далёка. Але нікуды я не паеду!

— О-о, я ў захапленні!.. І разумею Муліцу. Такой жанчынай нельга не захапіцца. Вы і мяне заваражылі... Але,— ён цяжка ўздыхнуў,— я — чыноўнік. Я мушу нагадаць, што існуе такая непрыемная рэч, як загад... Перавесці настаўніцу Жарчынскую...

Дзіўна ўразіла, што загадчык районa назваў маё дзявочае прозвішча. Я падумала, пра Генадзя: «Няўжо і ён прасіў, каб мяне перавялі? Мог прасіць, каб не пераводзіцца самому, не пакідаць утульнага дома, маму. Мамчын сынок!» — і мяне ахапілі абурэнне і злосць.

А маю задумлівасць Аўсянік вытлумачыў па-свойму. Я раптам пачула яго гарачае дыханне. Цяпер ён не гаварыў — шаптаў:

— Я разумею цябе, Міхаліна. Паехаць туды — значыцца, пазбавіцца ўсіх радасцей... Хто там ёсць у гэтай васьмігодцы? Старыя дзевы. А табе трэба прастор. Перад тваімі чарамі не можа ўстаяць ніводзін мужчына. Я зачараваны. Адзін твой ласкавы позірк, і я зраблю ўсё, што ты пажадаеш... Усё... усё,— рука яго лягла на маё плячо...

Я паднялася з крэсла павольна, азірнулася на акно. Ён мабыць падумаў, што зараз кінуся яму на шыю, і прыўзняўся на насочках, пацягнуўся да мяне. Я размахнулася і адвесіла яму аплявуху.

Ад нечаканасці Аўсянік войкнуў, як малы. Я злосна тыцнула кулаксм у яго блішчастую фізіяномію. Пацэліла, мабыць, у зубы, бо балюча ўдарыла костачкі пальцаў. Гэта раз'ятрыла мяне, і я пачала лупцаваць яго абедзвюма рукамі па чым папала. Ён не супраціўляўся, не закрычаў, не ўдарыў у адказ, не схапіў за рукі, каб стрымаць. Засланіўшыся рукамі, адступаў да дзвярэй. Адчыніў іх спіною і толькі тады, калі апынуўся ў калідоры, страшны, з перакошаным, ажно нейкім фіялетавым, тварам, прахрыпеў:

— Ну, ты мяне папомніш!

Нікога ў жыцці я не біла, хіба малая зрэдку цягала за чупрыну брата, а ён мяне. А тут як успомню, з якой злосцю і... асалодай я дубасіла гэтага выпеставанага парсюка, робіцца смешна і страшна. За сябе страшна — што магу так біць чалавека.

Мабыць ад усяго разам — ад крыўды, абразы, ад біцця гэтага — сама, там жа, у кабінеце, істэрычна разрыдалася, ніколі ў мяне такой істэрыкі не было. Можа гадзіну раўла, білася, як у ліхаманцы, усё ніяк супакоіць сябе не магла.

Дні праз тры наш добры Андрэй Пятровіч з вінаватым выглядам даў мне прачытаць загад раёна. Пераводзілі мяне не ў Затон, не, далей, у суседні раён, сельскагаспадарчая тэрыторыя якога далучана да нашага.





Я паехала ў район. Па дарозе, як кажуць, завяла сябе. Таму да Аўсяніка ўскочыла з ходу, амаль адпіхнуўшы сакратарку, якая з нехарактэрнай для яе рашучасцю хацела загарадзіць дарогу: «У Леаніда Міхеевіча нарада».

Як ён разгубіўся спачатку, гаротны Леанід Міхеевіч, калі ўбачыў мяне! Ажно ў самой у мяне астыў ваяўнічы запал. У яго сапраўды сядзелі чалавекі тры ці чатыры незнаёмых мне людзей.

Я сказала:

— Калі вы зараз жа не адменіце свой загад, я пайду і раскажу пра ўсё ў райкоме і пракурору.

Ён збялеў, але на імгненне. Не паспела я перавесці дыханне, як ён тут жа, як чараўнік, пераўтварыўся. Куды дзеліся яго разгубленасць, спалох! Заклаў рукі за спіну, прыўзняўся на насочках — бог і цар! Паважны, спакойны. Відаць, добра рыхтаваўся да майго прыходу, збянтэжыла яго толькі нечаканасць. Сказаў добразычліва, з усмешкай:

— Жарчынская, вам не да твару шантаж. Такой жанчыне! Ваша гордасць выклікала павагу. Не ўніжайцеся да шантажу. Паверце: загад — не мая ініцыятыва. Такога загаду ад мяне патрабаваў партком. Пагаварыце з Васілём Іванавічам!

Адразу ён абяззброіў мяне. Я зразумела, што весці вайну з Аўсянікам няма сэнсу, што мой расказ пра яго паводзіны сапраўды будзе прынімацца за шантаж. А шантажыст — горш за даносчыка. Я сама ненавіджу такіх людзей.

Пайшла ў партком. Там я не магла зайсці да сакратара з ходу. Не района... Я ніколі не вызначалася смеласцю перад старэйшымі па чыне. Ды і не было ў мяне дагэтуль прычын мецъ справу з высокім начальствам. Дэкан факультэта, дырэктар школы, завуч — не вышэй. На маё шчасце, яны былі чулыя, сардэчныя людзі. Аўсянік — першы такі на маім шляху. Ён адзін не мог разбурыць маю веру ў чалавечую дабрату.

У прыёмнай мяне трымалі доўга. Сакратарка, непрыгожая жанчына ў гадах, далажыўшы пра мяне, не вельмі прыветліва запрасіла сесці і чакаць. Пра мяне тут ведалі, пра маю гісторыю. Але, безумоўна, ніхто не ведаў, што тварылася ў маім сэрцы! Аўсянік пастараўся — даў характарыстыку, можа, і не вельмі благую па іншых пунктах, але такую, каб на выпадак чаго застрахавацца: маўляў, ад такой жанчыны ўсяго можна чакаць. Сакратарка выйшла і адразу ж у прыёмную, нібыта па справе, пачалі заглядваць работнікі парткома, усё больш маладыя інструктары. Аглядалі мяне, як нейкую славутасць. Гэта пачало абражаць. Як хваля, узнімалася абурэнне, і я пачала баяцца за самую сябе — не нарабіць бы глупства!

Адзін малады інструктар гучна сказаў за дзвярамі:

— Не дзіва. У такую і я закахаўся б.

Гэта мяне развесяліла і супакоіла.

Да сакратара прыйшоў старшыня райвыканкома (я ведала яго), прывітаўся і таксама з цікавасцю агледзеў: што за птушка такая заморская? Другім прайшоў з выгляду сярдзіты малады чалавек у цёмных акулярах. Ён не прывітаўся і, здаецца, не праявіў ніякай цікавасці. Неўзабаве туды ж, за абабітыя карычневым дэрмацінам дзверы, прашмыгнуў і Аўсянік, спружынячы на насочках, самаўпэўнены, ззяючы. Весела кіўнуў мне, як бы падбадзёрваючы: маўляў, не гаруй, Міхаліна!

Ён жа праз хвіліну і паклікаў мяне. Шырока адчыніў дзверы, як перад ганаровым госцем:



— Прашу вас, Міхаліна Казіміраўна.

Я ведала нашага сакратара Васіля Іванавіча даўно, гады два ўжо. Ён часта прыязджаў у калгас, не мінаў школы. Гэта падабалася настаўнікам. І сам ён падабаўся. Просты, вясёлы, інтэлігентны. Любіў пагаварыць з людзьмі. На яго даклады клуб бітком набіваўся.

Чаму ён не захацеў пагутарыць са мной адзін на адзін, каб я магла раскрыць яму душу, вось так, як вам? Навошта яму было збіраць цэлае бюро? Я разумею: яго настроіў Аўсянік. Але чаму ў нас часта разумныя людзі слухаюцца Аўсянікаў? Я ведаю, што зрабіў гэты тып. Ён прадставіў мяне як небяспечную спакусніцу не толькі кіраўнікам, але і іх жонкам, а тыя, безумоўна, зрабілі належнае папярэджанне мужам і суровы наказ: ніякай літасці такой, як я!

Як толькі я ўбачыла гэтых чатырох «важно восседающих за столом мужей», то адразу зразумела, што ні шчырая споведзь, ні слёзы, ні просьбы мае не памогуць. Усё тут даўно вырашана і запісана.

Трое разглядалі мяне з той жа мужчынскай цікаўнасцю. А чацвёрты, малады, у акулярах, быў абыякавы да ўсяго на свеце.

Васіль Іванавіч спытаў афіцыйна, суха:

— Што вы хочаце,— зазірнуў у паперку і вычытаў маё прозвішча па мужу,— таварыш Качанок?

— Я хачу застацца ў сваёй школе. Завошта мяне, без маёй згоды, пераводзяць нямаведама куды?

— Вы скампраметавалі сябе ў гэтай школе.

— Чым?

— Вы не разумееце, чым? — шчыра здзівіўся Васіль Іванавіч.

— Не. Не разумею.

— Ну, ведаеце...— развёў ён рукамі.

— У Міхаліны Казіміраўны свой погляд на сям'ю, на каханне,— сказаў Аўсянік з добранькай усмешачкай.

— Погляды бываюць розныя, а маральны кодэкс у нас адзін,— аўтарытэтна і сурова, амаль пагрозліва, сказаў малады ў акулярах, зноў-такі не зірнуўшы нават на мяне.

— Вось іменна! — падхапіў сакратар.— Маральны кодэкс у нас адзін. А вы яго парушылі...

— Вашага пераводу, акрамя ўсіх другіх, патрабуе муж. І сам просіцца ў суседнюю школу. Ён спадзяецца...— кінуў Аўсянік самы важкі аргумент, пацвердзіўшы маю здагадку.

Больш мне не было чаго сказаць тады, акрамя аднаго:

— Я не паеду!

— Мы вас гвалтоўна не высылаем. Можаце пашукаць сабе другую работу. Ці ў другім раёне,— заключыў старшыня райвыканкома.

Аўдыенцыя закончылася, як пісалі ў старых раманах.

Пасля я лаяла сябе: трэба было ваяваць, бо другой такой магчымасці мне не даюць. Не хочуць слухаць, гаварыць. Я прыязджала ў аблана — там паціскалі плячамі, ветліва ўсміхаліся і адсылалі назад: няхай разбяруцца ў раёне. Пісала міністру — ён не адказаў. Я разумею: у міністра хапае больш важных спраў... Ужо мінае месяц, як пачаўся навучальны год, а я хаджу, як адшчапенец, без працы, без заробку... Завошта?

Гэтым ціхім, але вымаўленым з крыўдай, з болем «завошта» Міхаліна Казіміраўна скончыла расказваць сакратару абкома. Пятро Гаўрылавіч ні разу не перапыніў жанчыну, выслухаў да канца, сур'ёзна, уважліва.

Я пісаў ужо, што расказвала яна ў абкоме далёка не так падрабязна, як перадаю гэта я, пасля трох незабыўных сустрэч з ёй і праз два гады пасля першых двух, не раз прапусціўшы матэрыял цераз сваю творчую прызму. А яна, гэтая прызма, як і фізічная, пераломлівае святло падзей, характараў і ўтварае спектр — гаму фарбаў.

У расказе Міхаліны Казіміраўны сакратару ўся сцэна з Аўсянікам у школе, якую яна мне аднаму ў кафэ расказала з усімі дэталямі, з дыялогам, была дакладна вось такая: «Пасля сур'ёзнай размовы ён, Аўсянік, пачаў заляцацца да мяне. Я абурылася, пагразіла, што раскажу людзям і жонцы яго». І так — шмат што, без падрабязнасцей.

Я разумеў яе стрыманасць, тактоўнасць і дабрату: нікога асабліва не падвесці, нават Аўсяніка. Але ад гэтай сціспасці трацілася ўражанне той незвычайнай шчырасці і праўдзівасці, што так захапілі мяне раніцай. Я астываў.

Маю цікавасць абудзіла... паўза. Маўчаў Пятро Гаўрылавіч. Разглядаў гэтую дзіўную жанчыну — не з цікаўнасцю, не,— а з нейкай паглыбленасцю, па-бацькоўску строга і ласкава,— інстытут навучыў яго быць уважлівым да такіх гарачых сэрцаў і галоў. Думаў, жадаючы пэўна асэнсаваць яе ўчынкі з вышыні свайго жыццёвага вопыту. А яна глядзела на мяне, прасіла позіркам:

«Падтрымайце. Скажыце што-небудзь. Вы ж чулі, як я дрэнна тут расказала, не так, як вам».

Мне хацелася яе падтрымаць. Хіба не з гэтай мэтай я прывёў яе сюды, у абком? Раніцай я проста гарэў, абураўся супраць чэрствасці, бюракратызму раённых маралістаў. А тут, у прахалодным афіцыйным кабінеце, дзе са сцяны на нас трохі насмешліва глядзеў найвялікшы тэарэтык паходжання сям'і, яе мінулага і будучага, Энгельс, я раптам падумаў:

«Пра ўсё ты расказала вельмі шчыра. На дзіва. А вось пра тое, чаму табе так хочацца застацца ў гэтай школе, нічога выразнага я не пачуў ні тады, ні цяпер. Прынцып? Жаданне даказаць свае права на такое каханне?»

Я падумаў, а Пятро Гаўрылавіч сказаў дакладна тое ж самае:

— Я вас, Міхаліна Казіміраўна, вельмі ўважліва слухаў. Усю вашу споведзь. І, паверце, разумею... Ну, можа, не ўсё. Пастарэў,— ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся.— Але ўсё ж... Аднаго я толькі не разумею. Па маёй, прабачце, логіцы вам самой трэба прасіцца ў другую школу. Чаму вы так настойліва дамагаецеся, каб застацца ў гэтай?

Яна адказала не адразу — як бы сумелася, нервова зацерабіла дужку рыдыкюльчыка.

Цяпер ужо я загадваў ёй вачамі:

«Будзьце шчырай да канца».

— Спадзеяцеся памірыцца з мужам? — спытаў Пятро Гаўрылавіч.

— Не! — рашуча і катэгарычна адмовіла жанчына такую перспектыву.

— То чаму ж?

Міхаліна Казіміраўна падняла галаву, паглядзела на сакратара даверліва і ў той жа час баязліва. Такой я не бачыў яшчэ яе, такога яе позірку, паставы.

— Я люблю яго. Я люблю яго яшчэ мацней. Пакіньце мне адзіную радасць — штодня бачыць яго.



О, як яна сказала гэта, людзі добрыя! Мяне што токам ударыла. Мяне проста ашаламіла такая яе просьба. І я зноў загарэўся, бо зноў паверыў у незвычайную сілу яе запозненага, а таму амаль трагічнага кахання. Вядома ж, бязлітасна і несправядліва пазбавіць яе гэтай адзінай радасці. Цяпер я баяўся, што сакратар не зразумее, і гатовы быў кінуцца, каб падтрымаць жанчыну.

Пятро Гаўрылавіч доўга маўчаў, таксама, мабыць, здзіўлены. Пасля паківаў галавой, усміхнуўся.

— Ну, скажу вам, умееце вы ашаламляць... шчырасцю... нават такіх сівых зуброў, як мы з Іванам Пятровічам. Ці то ў вас гэта непасрэднасць, амаль дзіцячая, ці... акцёрская здольнасць... Але паспрабуйце пераўвасобіцца, як кажуць. Сядзьце на маё месца. Магчыма, я здолею пераканаць таварышаў з раёна, каб вас пакінулі ў гэтай школе. Але ж я сапраўды ўжо, як бачыце, сівы зубр. Пажыў, пабачыў... І ведаю, паверце, што такое каханне, так сказаць, сілу яго ведаю. Вы не хочаце вяртацца да мужа. Я разумею і не збіраюся пераконваць вас, хоць па свайму становішчу абавязаны быў зрабіць гэта. А ён, ваш каханы, трымаецца сям'і. Сям'я ёсць сям'я. Зноў-такі не збіраюся даказваць вам, што гэта такое. А ў вас зноў пачнуцца тайныя сустрэчы. Зноў скандалы, бо ад людзей схавацца нельга. А вы — настаўнікі, працуеце з дзецьмі...

— Не будзе сустрэч! Нічога не будзе! Клянуся вам! — горача і зноў-такі вельмі шчыра выгукнула Міхаліна Казіміраўна, перапыніўшы павольныя разважанні сакратара.— Ніхто дрэннага слова не скажа пра мяне. Калі ласка. Прашу вас. Хочаце, я напішу вам клятву, абяцанне? Урачыстае.

Пятро Гаўрылавіч строга нахмурыўся — і яна змоўкла, трапяткая, узбуджаная, спалоханая, што знікае апошняя надзея. Паглядзела на мяне з маленнем:

«Памажыце!»

Я супакоіў яе ўсмешкай: усё будзе добра.

Гэтак жа, як я паверыў, што такая жанчына стрымае слова, я паверыў і ў тое, што Пятро Гаўрылавіч не здолее адмовіць,— добрая душа, у якой трывала жыве вера ў людзей. Ды, здавалася мне, пасля такога шчырага прызнання проста немагчыма не задаволіць яе просьбы. Пэўна, у любога «сухара» сэрца адтаяла б.

Пятро Гаўрылавіч паскроб алоўкам за вухам: нялёгка, маўляў, сядзець у гэтым крэсле, якія толькі праблемы не прыходзіцца вырашаць, якую толькі адказнасць не браць на сябе за другіх людзей!

Павярнуўся да мяне, сказаў з усмешкай:

— Паверым?

— Паверым, Пятро Гаўрылавіч.

— Глядзі. На тваю адказнасць.

— На маю.

Міхаліна Казіміраўна апусціла вочы, стаіла дыханне, баялася паварушыцца.

Сакратар, яшчэ раз уздыхнуўшы, зняў трубку тэлефона.

Амаль праз два гады я паехаў глядзець нашу нафту. Не тыя разведвальныя скважыны, якія шукалі вучні Міхаліны Казіміраўны. Тады пра гэтыя скважыны хадзілі легенды, але ніякіх фантанаў не было. Цяпер жа сапраўды ў знаёмых мне з маладосці мясцінах білі фантаны, і чорная кроў беларускай зямлі ўлівалася ў артэрыю

«Дружба», злівалася з нафтай далёкай Башкірыі і цякла да братоў-палякаў, чэхаў, каб даць жыццё іх машынам.

Прызнаюся, маючы ўяўленне аб нафтаразведцы і промысле па нашых неглыбокіх, але эфектных кінафільмах, я, падобна тым вучням, марыў убачыць хоць адзін фантан, які біў бы высока ў палескае неба. Відовішча! Але першы ж геолаг, з якім я пазнаёміўся, высмеяў такое маё ўяўленне. Толькі людзі тэхнічна няграматныя, нядбайныя аварыйшчыкі могуць дапусціць такі фантан, які пры тым ціску, які даюць рэчыцкія скважыны, быў бы катастрофай.

На скважынах, дзе ішла разведка, стаялі знаёмыя з кінафільмаў буравыя вышкі, гудзелі магутныя дызелі, і людзі, бурыльшчыкі, абыякавыя да ўсялякіх экскурсантаў, былі заняты цяжкай і аднастайнай працай.

На скважынах, якія ўжо давалі прамысловую нафту, наогул нічога не было, акрамя невысокіх калонак з сярэбраных труб. Па іх нафта цякла ў трапы, дзе ад яе аддзяляўся газ, і далей — у велізарныя срэбраныя рэзервуары. На промысле малалюдна. Але хлопцы, прафесія якіх мае гучную і амаль рамантычную назву — апаратары, больш гаваркія, чым разведчыкі, бо работа ў іх ціхая і чыстая — сачы за манометрамі, бяры пробы пеністай нафты ў піўныя бутэлькі ды аднось у лабараторыю, дзе дзяўчаты вызначаюць працэнт парафіну і іншых прымесеў.

Са знешніх самых эфектыўных прыкмет промысла — факел над зялёным жытам: спальваецца газ, які аддзяліўся ад нафты.

Цікава. Усё цікава. Але, на жаль, сюжэты — яны не палыхаюць накшталт гэтага факела, які відаць за многа кіламетраў, асабліва ўначы, не валяюцца вакол буравых і не фантаніруюць з глыбінь зямлі разам з нафтай. Яны—у глыбінях чалавечых характараў.

Знайсці сюжэтныя характары, дабрацца да іх бывае гэтак жа цяжка, як да нафты. А часам іх знаходзіш зусім выпадкова, як залатыя самародкі.

Вось чаму, не знайшоўшы пакуль што сюжэта на буравых і нафтапромысле, я зноў прыгадаў Міхаліну Казіміраўну. Зазірнуў у запісную, каб успомніць сяло, дзе яна працуе. Спытаў — ці далёка? Зусім блізка — кіламетраў пятнаццаць усяго.

А хто з нашага брата стрымаўся б ад такой спакусы — зазірнуць, даведацца, чым скончылася гэтая незвычайная гісторыя, як само жыццё «развязала» складаны вузел, завяршыла сюжэт?! Праўда, адчуваю, што дастанецца мне ад крытыкаў. Пэўна, не адзін з іх абурыцца: «Ездзіў чалавек у творчую камандзіроўку на нафтапромысел, а піша пра што?.. Жах! Пра любоў ды яшчэ пра якую!.. Каюся і схіляю сваю грэшную галаву: біце, мае даражэнькія сябры, такая ваша прафесія і такая наша доля».

...Прайшлі дажджы, і мая «калымага» ў двух палявых лашчынах добра пабуксавала. Вясна таго года была зацяжная, халодная, спачатку, у красавіку, сухая, а потым — дажджлівая. Ішлі апошнія дні мая, а тут, на Палессі, яшчэ цвілі сады, і жыта толькі выходзіла ў трубку.

Намучыўшыся ў гразі, запэцкаўшы машыну, запэцкаўшыся сам, я быў пашкадаваў ужо, што паехаў. Пераканаў сябе, што не можа яна так доўга заставацца там; калі не выжылі, сама ўцякла далей ад грахоў.

На краі сяла я спыніўся каля гурбы школьнікаў. Спытаў:

— Хлопцы, дзе жыве настаўніца Міхаліна Казіміраўна?

Чакаў, што дзеці пераглянуцца, паціснуць плячамі. Магчыма, хтосьці ўспомніць: «Была такая, але даўно ўжо няма яе. Паехала». Не. Хлапчукі ўсёй чарадой кінуліся да машыны.

— Дзядзька, мы пакажам! — і бесцырымонна, як шпакі ў дупло, палезлі ў машыну, на задняе сядзенне. Не паспеў я агледзецца, як іх набілася туды чалавек сем, а перад адчыненымі дзверцамі яшчэ стаяла цэлая чарга. Я ўзмаліўся.

— Браточкі! Хопіць! Хопіць! А то горка заплачуць мае рэсоры,— і асцярожна, каб каторы не трапіў пад кола, зрушыў з месца. Адзін з маіх нечаканых пасажыраў сур'ёзна спытаў:

— Дзядзька, а вы хто?

— Касманаўт,— пажартаваў я.

— Ого-о, касманаўты такія не бываюць.

— Якія?

— Такія.

Хацелася, каб у сваёй дзіцячай непасрэднасці яны па-вясковаму ахарактарызавалі мяне: чаму я не магу быць касманаўтам. Чакаў, што зараз нехта адкажа: «тоўстыя», ці, можа, яшчэ штонебудзь, больш трапнае. Не, змаўчалі.

— Ну, якія? — дапытваўся я.

— Старыя,— адказаў будучы вялікі дыпламат, выручыўшы сваіх сяброў.

Я зарагатаў і хацеў быў пачаць даказваць, што я зусім не стары яшчэ, што гэта ім, у іх восем-дзесяць год, так здаецца. Але хлопцы хорам закрычалі:

— Стоп! Вось тут! Тут! Да гэтай хаткі рулюйце.

Я збочыў з дарогі, што праторана пасярод вуліцы, на зялёны майскі мурог.

За пышным кустом бэзу, які яшчэ цвіў, і двума маладымі ліпкамі хацінка з адным акном на вуліцу ледзь была бачна.

Я падумаў з нечаканым смуткам: «Значыцца, не сышлася з мужам. Па-ранейшаму жыве ва Уліты». І мне ўпершыню стала шкада гэтай жанчыны. Але ў той жа час было і другое пачуццё — прафесійнае задавальненне. Калі я часам расказваў пра маю гераіню сваім сябрам, некаторыя заключалі: «Нічога, памірыцца з мужам. Нікуды не дзенецца». Мне ж, прызнаюся, чамусьці не хацелася, каб яна стала на калені перад мужам, такі фінал быў бы да банальнасці звычайны, і створаны мной вобраз пэўна адразу распаўся б, паблекнуў.

«Не,—падумаў я,—здаецца, не дарэмна яна столькі часу жыла ў маім «творчым запаведніку».

Можа, убачыўшы машыну, што спынілася каля хаціны, ці пачуўшы галасы дзяцей — вучні выгукнулі яе імя, Міхаліна Казіміраўна сама выйшла насустрач: неспадзявана адчыніла невысокую вузенькую калітку ў той час, калі я наблізіўся да яе, і спынілася на парожку, як бы загарадзіўшы дарогу.

Жанчына ні ўзрадавалася, ні здзівілася, ні збянтэжылася. Працягнула руку — прывіталася так, быццам мы бачыліся ўчора. Збянтэжыўся я — няпрошаны госць, падумаў: «Чорт мяне прынёс за трыста вёрст». Што сказаць? Пачаў як бы апраўдваючыся:

— Езджу, ведаеце, вывучаю жыццё. Ехаў міма — успомніў вас...

Яна нарэшце здагадалася, што госця трэба запрасіць. Адступіла з каліткі ў двор.

— Заходзьце, калі ласка.

Але ў двары, зачыніўшы за мной калітку, сказала:

— У хату не пойдзем. Палацы — бачыце якія. Пасядзімо тут,—

і кіўнула на нізенькую лавачку, каля гародчыка, што туліўся да глухой сцяны чужой хаты. Там быў цень. У гародчыку пачынаў ужо кусціцца любісцік і з краю зацвіталі піёны, а далей — маленькія прыгожыя градкі з добрай цыбуляй і гуркамі, якія толькі выганялі па другім кволым лісточку.

Двара ў гэтым «двары» ўсяго вузкая палоска, ад каліткі да хлеўчука, паўз хату, вельмі старанна падмеценая і пасыпаная жоўтым пясочкам. На дашчатым ганачку, да жаўцізны вымытым, ляжалі сасновыя галінкі. Здавалася, што нават кожная тоненькая жардзінка агародчыка таксама выскаблена і вымыта: ні сучка, ні карынкі. Пахла хвояй і бэзам.

Міхаліна Казіміраўна за два гады як бы трохі зблажэла і папрасцела. А можа такое ўражанне давала адзенне — просценькае дамашняе плацце-халацік. Натуральна, што ў горад яна прыязджала апранутая ва ўсё найлепшае, ды яшчэ падпудрылася, падфарбавалася, таму яе прыродная краса была там яркая, кідалася ў вочы. Цяпер яна была звычайная, простая, мілая, прыгожая маладая жанчына, трохі як бы стомленая за доўгі летні дзень. Але тады, пры першай сустрэчы, мяне мала кранула яе краса, ніколькі, ні на міг, не збянтэжыла нечаканая шчырасць і далікатнасць. А тут я адчуў сябе, як хлапчук, перад дарослай жанчынай. Не ведаў, з чаго пачаць размову.

— Як вам жывецца?

— Жыву.

— Адна?

— Не. Чаму ж? З сынам. Пайшоў недзе з бабуляй на луг.

— З бабуляй?

— Але. З Антанінай Аркадзеўнай.

Я чакаў, што зараз Міхаліна Казіміраўна пачне расказваць гэтак жа падрабязна, горача, як тады, у кафэ.

Не, яна маўчала. Мне здалося, што ёй хочацца хутчэй пазбавіцца ад такога госця.

Я сказаў, запінаючыся:

— Вы прабачце, Міхаліна Казіміраўна. Я ведаю: незапрошаны госць горш за татарына. Аднойчы вы даверыліся мне, шчыра расказалі... І я многа думаў пра вас. Можа, цяпер вам непрыемна?

— Не, калі ласка.

— Але мне хацелася б даведацца, што адбылося пасля...

— Нічога не адбылося.

— Ён тут, у вашай школе?

— Аляксандр Дзямідавіч? Ён — дырэктар нашай школы. Андрэй Пятровіч пайшоў на пенсію.

— І... як вы?

Вусны яе ледзь скрывіліся ад дзіўнай, незнаёмай і незразумелай усмешкі.

— Я ж давала слова. Сакратару. І вам. Помніце? На вашу адказнасць. Можаце заспакоіць сакратара. Са мной нават Люба, жонка яго, памірылася. Неяк яшчэ мінулым летам сустрэла і ласкава так кажа: «Ну, чаго ты дамаглася, дурная? За чужым пагналася — свайго страціла. Кусай цяпер падушку. Мне шкада цябе». І другія шкадуюць... Гэта, скажу вам, самае брыдкае. Злуе гэта мяне. Хочацца паслаць іх...— яна сапраўды злосна бліснула вачамі — як бы папярэдзіла: вы пашкадуеце — і вас пашлю к чорту.— Другая слюнцяйка Сашку лашчыць: маўляў, сіраціначка, без бацькі расцеш, з-за таго, што ў мамы вецярок у галаве аднойчы загуляў.



Па мордзе такім хочацца даць! Вось адно толькі.. А так — нічога. Працую. Толькі гадзіны на літаратуру зразаюць. Хутка да нуля давядуць. Пагаварылі б вы там, у Мінску...

Жанчыне, відаць, хацелася хутчэй перавесці размову на другую тэму. Але мне таго, што яна сказала, было мала.

— Міхаліна Казіміраўна, зноў-такі прабачце... Я разумею: не кожны мае права... Але аднойчы вы самі даверылі мне свае пачуцці... Таму мне здаецца, што вы не палічыце нахабным... Вядома, вы зусім не абавязаны адказваць...

Яна неяк сцялася ўся, падабрала пад лаўку ногі, азірнулася назад, на сцяну чужога дома, на гародчык, стоена ўздыхнула і — пасля доўгай паўзы — шэптам сказала:

— Я люблю яго. Я люблю яго нават мацней, чым раней.

І ўпершыню збянтэжылая: запунцавелася, апусціла вочы. Мне таксама зрабілася няёмка, быццам я нахабна, прымусам, вырваў у яе найвялікшую тайну, якую яна цяпер старанна хавае ад людзей. Два гады назад яна гаварыла пра гэтае сваё каханне без ценю збянтэжанасці нават сакратару абкома.

Мы памаўчалі, як два змоўшчыкі. Потым у мяне з'явілася агіднае жаданне — паспачуваць: усе мы занадта любім спачуваць другім.

— Цяжка вам,— сказаў я.

Яна бліснула вачамі.

— І вам захацелася пашкадаваць мяне? Нічога мне не цяжка. У кожнага сваё шчасце. У мяне — сваё...

Я быў прысаромлены. Але ад гэтага не стаў больш тактоўны.

— А калі перавядуць яго... Аляксандра Дзямідавіча куды-небудзь?

Жанчына спалохана ўстрапянулася, праніклівa паглядзела мне ў вочы: ці не ведаю чаго? ці не прывёз такую горкую навіну? Пераканаўшыся, што я спытаў проста так, усміхнулася.

— Не перавядуць. Люба не хоча. Каб яна хацела, то дамаглася б яго пераводу тады. Але ёй падабаецца тут. Асабліва цяпер, калі Саша — дырэктар. Акрамя таго, яна лічыць, што перамагла, усім паказала, як можна ўтрымаць мужа. Ей нават прыемна цяпер бачыць мяне, яна гатова падружыць, каб спачуваць і суцяшаць... О, вы не ведаеце Любы!.. У яе свой гонар!

— А Генадзь... ён таксама тут?

— О не! Ён адразу ж перавёўся. Тады ж... У райцэнтр.— Пра былога мужа свайго Міхаліна Казіміраўна загаварыла на поўны голас, проста, амаль весела, ахвотна, усё з той жа іроніяй, якую я прыкмеціў яшчэ тады, два гады назад, калі размова заходзіла пра Генадзя.

— Паўгода граў абражанага, не хацеў бачыць мяне. А ў тую зіму неяк з'явіўся позна ўвечары. У завіруху. У мароз. Абсыпаны снегам. Снег — у валёнках. Прыйшоў ад маці, як я пасля даведалася. А зрабіў выгляд, што ішоў пехатой ад райцэнтра. Расплакаўся. На калені ўпаў перад Сашкіным ложкам. Ножку пацалаваў у сонпага. І... не здзіўляйцеся... я прыняла яго. Больш таго скажу вам: у тую ноч я зразумела, што можна жыць і так. Мне не было ні брыдка, ні абразліва: ён — бацька майго дзіцяці. І можа быць, што мы сышліся б назаўсёды, каб... ён быў разумнейшы. А то, праспаўшы ноч, ён палічыў, што аднавіў усе свае правы на гэтую рухомую ўласнасць — на жонку... Раніцай пачаў дапытвацца, што, як і дзе ў нас было з Сашам.

«Было! — адказала я.— І будзе! І каб цябе гэта не мучыла і ты

не мучыў мяне, разыдземся па-добраму, як інтэлігентныя людзі». Ён пачаў крычаць, пагражаць, што цераз суд забярэ сына... Я проста выштурхнула яго з хаты, каб не разбудзіў Сашку. У другі раз ён прыйшоў той вясной, год назад. П'яны, непаголены, апушчаны нейкі. Плакаў шчыра: «Загубіла ты маё жыццё. Кім я стаў праз цябе? Паглядзі!» Мне шкада было яго, але я ўжо ведала, што там, у райцэнтры, ён жыве з урачыхай і ў тае будзе дзіця. Між іншым, яшчэ раней Антаніна Аркадзеўна, калі даведалася пра гэтую яго сувязь, упершыню вельмі прасіла мяне памірыцца, сысціся. Так прасіла, так прасіла!.. Далібог, дзеля яе і, вядома, дзеля сына я гатова была скарыцца, ужо рыхтавала сябе ўсё стрываць, нават яго папрокі. Але, на шчасце сваё, даведалася, што ў жанчыны, з якой ён звязаўся, будзе дзіця. Цяпер у нас з ёй аднолькавыя правы на яго. Але з той розніцай, што тая гатова зубамі трымацца, як Люба, а мне — лепш без яго. Я сказала пра гэта Антаніне Аркадзеўне. Яна моцна перажывала, бо зразумела, што няма больш на што спадзявацца. Ажно захварэла. І доўга, можа, месяцы тры, не хадзіла да мяне. Сашку Уліта да яе вадзіла. А пасля зноў пачала прыходзіць. Але ніколі ўжо не гаворыць пра сына і пра нашы адносіны. Толькі зрэдку па-старэчаму ўздыхае: «Ах, Міхаліна, Міхаліна!»

Словы гэтыя неяк дзіўна запалі мне ў памяць, і я, яшчэ можа з гадзіну гутарачы з ёй ужо пра іншае, староннее — пра школу, пра калгас, не раз у думках паўтараў іх з ронымі інтанацыямі:

— Ах, Міхаліна, Міхаліна...

Між іншым, я спытаў:

— Аляксандр Дзямідавіч дома?

Яна паглядзела на мяне з трывогай.

— Вы хочаце гутарыць з ім? Не трэба. Прашу вас.

Я ўспомніў, што тады, у горадзе, яна настойліва запрашала мяне прыехаць у іх школу, сустрэцца з вучнямі. Цяпер жа ні слова не казала пра такую сустрэчу. І я зразумеў, што ёй хочацца, каб чужы чалавек, які шмат што ведае, не лазіў па вёсцы, не распытваў, а хутчэй сеў у сваю машыну і паехаў туды, адкуль прыехаў.

Паціскаючы руку на развітанне, я зблізку пільна зазірнуў ей у вочы, спадзяваўся ўбачыць у іх схаваны смутак, боль. Не ўбачыў. Вочы здаліся шчаслівымі. І — дзіўна! — у мяне неяк адразу знік жаль да яе, які я, здаецца, адчуваў на працягу ўсяе размовы. Сапраўды, больш не хацелася ні шкадаваць яе, ні спачуваць ёй.

І я сказаў амаль весела:

— Ах, Міхаліна, Міхаліна!

Яна, відаць, зразумела і хораша ўсміхнулася. Але да машыны не правяла — адразу зачыніла за мной калітку і пайшла ў хату.

Я доўга праціраў шкло машыны, павольна заводзіў і разварочваўся, раз-пораз пазіраючы на хацінку. Але куст бэзу і маладыя ліпкі закрывалі маленькае акенца.

◆ ◆ ◆





Раман ТАРМОЛА

# ПАЭМА ГОДУ ТВАЙГО

## УСТУП

**Яго па частках сабіраюць людзі,**
**Яго пачаткам — першы месяц будзе.**
**Манцірую, нібыта кінастужку.**
**Дванаццаць частак — год паўнаметражны.**
**У ім і сонца,**
**і вясна,**
**і птушкі,**
**І ён, герой галоўны,**
**самы важны.**
**Я — рэжысёр і аўтар,**
**я з ахвотай**
**Усё раблю — і не ахрып ад крыку:**
**Адзін працую, скончана работа.**
**І вось прагляд: ён першы, ён адкрыты...**

## АДЗІНОТА

**Кінакадры: зіма ў студзені,**
**Дрэўцы ў інеі —**
**дзеці заспаныя.**
**Тэлевышка ля тэлестудыі**
**Новым годам,**
**як ёлка,**
**запалена.**
**Чалавек ідзе ціхай вуліцай.**
**О, як добра ты яго знаеш!**
**Невысокі, чуць-чуць сутуліцца,**
**Напяваць сабе звычку мае.**

Толькі вуснаў словы не кратаюць,
Сёння песні, відаць, не будзе.
Можа, у гэтым ты вінаватая,
Можа, студзень...

## УСПАМІН

Калісьці, кажуць, люты
У лапці быў абуты.
Пастукваюць па тратуары боцікі,
Дзяўчына йдзе — ні носіка, ні роціка,
І мяўкае, здаецца, футра коцікавае:
М-е-е-ерзну...
На кампліменты, кажуць, кожны ласы.
Няўжо і ты, чарнявая, няўжо?
У самы раз
тут не губляць мне часу —
Я ж столькі год к табе адной ішоў...
Вы пазычалі вочы у вясны?
У вас такі загар,
як у сасны...
Да вас прыходзяць сны?
. . . . . . . . . . . . .
Даруйце мне
за падыход наіўны.
Паверце, я вам праўду гавару.
Я ведаў, што сустрэцца мы павінны
У летнюю
ці ў зімнюю пару.
Не будзьце ж хоць і вы,
як месяц люты.
Бывае ж і такое у жыцці...
Як цягнуцца маўклівыя мінуты!
— Не трэба больш за мной ісці...
Не ў тым жыву я доме
і не ў гэтым,
Штодзень, калі з работы я іду,
Здаецца, што жыву на краі свету.
— Дазвольце ж,
на край свету правяду...

## СПАДЗЯВАННІ

Набрыняў не вадой,
а сокам
Сакавіцкі крупчасты снег...
Самалёт высока-высока
Супыняе на момант бег
І выкідвае нечакана
Дыму шлейф,
як сцежку адну.
Сонца! Сонца рашыў заарканіць,
Да зямлі бліжэй падцягнуць.
Адагрэе зямлю свяціла
І растопіць у сэрцах лёд.
Дзіва, можа здарыцца дзіва —
Крыгаход, ва ўсім крыгаход...
. . . . . . . . . . . . .
Як шкада... Жадання тут мала,
Разбіваюцца мары ўсе:
Сцежка ў небе амаль растала,
Гул матора за лесам сеў.



Толькі ў дрэвах —
вербах высокіх —
Не спыняе жыццё свой бег...
...Набрыняў не вадой,
а сокам
Нават снег, сакавіцкі снег...

## КРАСУЕЦЦА КРАСАВІК

Красуецца красавік
Перад дзяўчатамі,
хлопцамі,
сонцам.
І пачынае можа ў раз соты
Работу,
бы культмасавік.
Усіх запрашае на вуліцу,
Дзе ліпы ківаюць веццем,
Дзяўчаты да хлопцаў
туляцца
І шэпчуць: «Халодны вецер...»
І хлопцы бароняць плячыма,
Умомант адзін
пашырэўшымі...
І ветру ўжо немагчыма
Абдзьмухаць каханне першае.
Здаецца, усе выйшлі з дому
Па закліку
красавіковаму,
І кожны гамоніць словамі
Вясновымі, толькі вясновымі.

## АБДЫМКІ З МАЕМ

Сінявокі Май,
абдымай
Вечарамі яго любімую.
Ходзіць хлопец побач дарма,
Не наблізіцца, не абдыме.
Май не тоіць свае ўсмешкі,
У адказ падміргвае толькі:
— А навошта такая спешка?
Як і я,
хлапец сінявокі...
Я прыйшоў — і пайшоў,
а гэтаму
З ёй гуляць вечары і ранні...
Калі сэрца каханнем сагрэта,
Будзе, будзе прызнанне.

## ДОЖДЖ ВАЛАСОЎ

Дождж валасоў на хлопцаў твар ліецца,
Блакітных,
казытлівых валасоў.
Прыколка — бліскавіцай б'ецца,
Струмені звоняць —
сотні галасоў.
Іскрыцца твар...

Цяпер не супыніцца...
Шчаслівы смех,
як тысячы грамоў.
Дождж валасоў...
Ён пахне медуніцай,
Травою,
мохам,
свежаю ігліцай,
Сама дзяўчына,
нібы навальніца!
. . . . . . . . . . . . .
Дождж перастаў.
І у вачах успышкі
Патухлі...
Добра сцежкаю ісці...
— А можа пройдземся яшчэ хоць крышку?
— Пусці, руку пусці...

## ДАРУЙ, ЛІПЕНЬ!

Лісток зялёны да шчакі так ліпне —
Як марка да паштоўкі
ці пісьма.
Даруй мне, лета,
і даруй мне, ліпень,
Што побач чарнавокае няма.
. . . . . . . . . . .
Хлапец, нібыта заяц у аблаве,
Кідаецца.
А што яму рабіць?
Калі ўсё больш каханую губляеш,
Дык яшчэ больш
не хочацца згубіць.

## ПРЫЗНАННЕ САБЕ

На вышыню яе,
на вышыню —
Адносін чалавечых чысціню.
Каб я магла прызнацца: веру ўсім,
Прахожым проста,
дружбакам,
хлапцам.
Прыйшоў вясельна-навасельны верасень —
Звіні абцас...
Ніводная дзяўчына і не думае,
Што ходзіць нехта з думкаю благой.
І радасці,
і смутак,
і бяду маю
Нясу я да каханага майго.
. . . . . . . . . . . . .
Не панясу... Пустыя проста мары...
Назад я не вярнуся больш,
і ўсё ж.
Здаецца, я не дажджавая хмара,
Дождж валасоў — быў не асенні дождж.
Сама сябе на момант астудзіла
Раптоўнай думкай,
ўласнаю маной.
Ой, цягнуцца як тыдні,
дні,
гадзіны,



І сумна як увечары адной...
Як разабрацца, хто тут правініўся...
Я? Ён?
А ў чым яго віна?
Дождж валасоў, чаму тады не ліўся
Ты давідна...

## ЗАСНЕЖАНЫ СНЕЖАНЬ

За акном — зіма,
За акном — мінулае.
І адкуль жа смутак гэты,
Калі
Усё як быццам добра — нідзе не муляе,
Усё як быццам лёгка — нідзе не баліць.
І трамвай трашчыць, і мароз трашчыць,
Раздаюцца іх крокі ўначы так гулка!
Самы раз
малым ісці на спачын,
Самы раз
маладым імчаць на прагулку.
У заснежаны парк,
на вясёлы каток,
Дзе ў прыродзе і людзях гэтулькі любасці!
Ты гатова ісці?
Ён заўсёды гатоў!
Калі пойдзе адзін,
у другую ўлюбіцца...
Гэй, трамвай, на момант бег супыні!
Гэй, трамвайшчыца,
заўтра ля вокан яго пазвані...

———————— □□□

## У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ:

Аповесць Алены ВАСІЛЕВІЧ
«МАЯ ІДЫЛІЯ».

Апавяданні Аркадзя КАНДРУСЕВІЧА
і Аркадзя ПІНЧУКА.

Вершы Аляксея ПЫСІНА, Алеся СТАВЕРА,
Нэлы ТУЛУПАВАЙ, Міколы ФЕДЗЮКОВІЧА.

Ніна МАЕЎСКАЯ



# ЗАГІНУЎ ПАД КУРСКАМ

Апавяданне

Мал. У. Пашчасцева

Агата прачнулася на золку. Прачнулася ад цяжкага, трывожнага пачуцця, якое балюча сціснула сэрца. Было ціха. Так ціха, што Агаце здалося, быццам няма ніводнай жывой істоты на свеце. Стала страшна, закалацілася сэрца. Раптам яна здагадалася, уздыхнула з палёгкай — спыніўся гадзіннік. Босымі нагамі ступіла на халодную падлогу, вобмацкам знайшла на стале будзільнік і завяла яго.

«За ноч як хата настывае, і марозаў жа няма, — уздрыгваючы ад холаду, падумала яна. — Трэба за лета як падмураваць».

Яна зноў палезла пад коўдру. Сагрэтая за ноч пасцель, ужо астыла. Агата скурчылася і лягла.

Яна хацела заснуць, але не магла. Неспакойна было на сэрцы, нудліва. Думкі не давалі спакою, ніяк не можна было адагнаць іх. Стала расступацца цемра. Ужо цьмяна праступалі абрысы вокан. Дзесьці далёка на сяле хрыпла прагарлапаніў певень, забрахаў сабака. А ў хаце настойліва і гулка пытаўся гадзіннік: ці так? ці так? ці так? ці так?

Агата звыклася з адзінотай. Спачатку, калі Коля паехаў вучыцца ў горад, яна сумавала, асабліва доўгімі зімовымі вечарамі. Сын прыязджаў толькі ўлетку памагчы касіць сена. Калі ж яго прызначылі на работу, яшчэ радзейшыя сталі сустрэчы. Зваў ён маці да сябе.

Агата сушыла ў духу сыркі, збірала смятану і ехала да сына. Прыязджала, гаварыла: «Ну, сынок, надоўга я». А праходзіла дні тры, пачынала сумаваць: «У калгасе сама лён бяруць, бульбу вось-вось пачнуць капаць. Паеду я, сынок!»

Коля злаваўся:

— Ну, няўжо там без цябе не абыдуцца!

Ён ведаў, маці не застанецца. Браў білет і праводзіў да станцыі.

Агата любіла і ўмела працаваць. Яна і рэзку рэзала, і жала, і касіла сама, размашыста, па-мужчынску. «Бо хто паможа ўдаве? Вунь Сёмка бязрукі прывяжа касу за шыю і косіць аднаею рукою. А тыя, хто дужы ды здаровы, дык да іх не падступішся, кожны сабе стараецца». Потым стала лягчэй. Коля падрос. Выйшаў першы раз на сенажаць з мужчынамі, танклявы, відно, што хлапчук, але дужы. Агата ж ішла ўздоўж пракоса і галасіла. Аж людзі сталі гаварыць: «Вунь, Агата касу пахавала. Радавацца трэба бабе, а яна галосіць».

З таго лета лягчэй уздыхнула Агата.

Работа была для яе адзінай уцехай у жыцці. Ці лён слала, ці жала — клала саломінку да саломінкі, каласок да каласка. Але раптам з твару сыходзіла ўсмешка, і ўжо не з асалодай, а нібы са злосці рэзала жменю за жменяй калоссе. Працавала да стомы, каб прыйсці дадому, упасці, заснуць і ні аб чым не думаць.

Потым, калі прытупіліся пачуцці, змірылася сэрца са стратай, Агата не стала сцішнейшай. Працаваць павольна яна ўжо не магла. Учора яшчэ з вечара яна паставіла ў сенцах гумавыя боты. Ведала — заўтра на капцы. Дружная вясна ў гэтым годзе. Талая вада затапіла капцы з бульбай. Бульбу трэба было ратаваць, каб не прапала насенне.

Агата ўсё яшчэ ляжала ў ложку. Не хацелася ўставаць, ісці на работу, не хацелася бачыць людзей, слухаць іх гаворку.

«Лепш бы рэзку рэзаць паслаў, — падумала яна пра брыгадзіра. Не пайду, можа сёння абыдуцца дзень і без мяне». А сама ўсё дакарала сябе, што збаялася людскіх языкоў, пляткарак збаялася. Перад ёю паўстаў твар Зосі, вастраносы, з прытворнай усмешкай.

Аднойчы, калі жанкі прыселі на мураву, скончыўшы выбіраць бульбу, Зося сказала голасна, бы адчуваючы за сабою маўклівую падтрымку жанок:

— Агата, ці не чула ты, што ўсё сяло гаворыць? Кажуць, што твой Мікалай жывы.

Агата ўздрыгнула, яна адчула, як моцна затахкала сэрца, пачалі нямець ногі.

— То кажуць, ты і пенсію незаконна на хлопца атрымоўвала, — не ўтрымалася Зося.

Агата маўчала. Раптам змоўклі і жанкі. Потым пачалі паспешліва брацца за кашы.

Устала і Агата. Нібы не сваімі нагамі ішла яна па разрытым бульбянішчу. А сама думала: «Помсціць, канешне, помсціць...»

Працавала, а думкі былі далёка...

Успомніла, як у першы пасляваенны год бегалі яны, жанкі, па два разы на дзень да Зосі, якая хадзіла па пошту ў райцэнтр, — кожная спадзявалася, што муж ці сын абзавецца яшчэ, не можа быць, каб загінуў. Аднойчы, вяртаючыся з поля, зайшлі, як звычайна, да паштаркі. Яе дома не было. А старая маці ўсё казала: «Не ведаю, мае жаночкі, пачакайце, зараз сама прыйдзе Зоська».

Прыйшла Зося, нечым устрывожаная, сярдзітая.

— Ой, няма мне часу з вамі займацца. Трэ ўпраўляцца, а то зараз сцямнее. Заўтра ўранку пошту разнясу, — незадаволена загаварыла Зося і бразнула дзвярыма.

Але жанкі не пайшлі. Яны нават не сварыліся, а ціха стаялі ля хаты, бы пакорна чакалі, што яшчэ скажа Зося.

Потым Агата не вытрымала. Загарадзіла дарогу Зосі, якая выйшла на двор з вядром мешанкі.

— Пачакай! Не падохнуць твае свінні. Давай пошту, — яна вырвала вядро з Зосіных рук і паставіла яго на зямлю.

Жанкі кінуліся да Зосі. Яна схавалася ад іх у хаце. А потым выйшла на ганак.

З сумкі, якую шпурнула жанкам пад ногі, разам з белымі пакамечанымі трохкутнічкамі пісьмаў вывалілася жоўтая паперка на імя Агаты.

«Прапаў без вестак...»

Агата села на прызбу Зосінай хаты; ногі не ішлі, стала раптам млосна, так і прасядзела нерухома аж да цямна.

А Зося бразгала дзвярыма, кагосьці кляла. А праз колькі дзён

нейкія незнаёмыя людзі рабілі ў яе вобыск, казалі, што ўтойвала Зося пасылкі.

Стала новая паштарка, але вестак Агаце не было.

А цяпер усё сяло гаварыла, што Мікалай жывы. Агата не верыла чуткам. Прайшло ж столькі год. На людзях яна гаварыла: «Каб сяло ды веры не дало». А ў душу закрадваліся сумненні.

Усе гэтыя гады яна часта думала і сама: «Не можа быць, каб чалавек загінуў і ніякай весці аб ім не было. Іголка згубіцца — і тую знойдзеш, а то — жывы чалавек». Не верыла ўсё, што няма яго жывога, яе Мікалая. Думалася, можа, дзе ў шпіталь трапіў, мо калекай застаўся, без ног, без рук — ды і не хоча на вочы паказвацца. Сваталіся да яе — не пайшла. Ужо было хацела рашыцца, але мільганула думка: «А раптам вернецца». Так і не заўважыла, як пасівелі валасы, вырас сын. Усё з-за работы свету не бачыла. Коля стаў употай курыць. Агата не забараняла. Яна любіла пах дыму. Не вымятала акуркі, а клала іх на прыпечку. Здавалася ёй, у хаце ёсць мужчына, і неяк спакайней рабілася на сэрцы хоць на хвіліну.

Агата схамянулася: «Чаго ж я ляжу, зараз радыё загаворыць».

Яна ўстала, сунула ногі ў стаптаныя хатнія шлёпанцы, адзелася. Пачала запальваць у печы. «Калі ён жывы, дык чаму ж не вярнуўся, ці забыў вёску, хату, якую разам будавалі? Забыў мяне?» Да гэтага ёй і ў галаву не прыходзіла, што магла стаць паміж імі жанчына.

У печы пачалі разгарацца дровы. Агата, прысеўшы на невысокі зэдлік, абірала бульбу на сняданне. А сама то бачыла, як яе Мікалай лоўка завіхаўся з сякерай ля новага зруба, то ўспамінала, як тады клікала яго снедаць. А ён усміхаўся, махаў ёй рукой. Яна выносіла ручнік, конаўку вады. Палівала яму на рукі, а ён шумна, пырскаючы вадою, мыўся.



...Калі хата была амаль гатова, Мікалай усцягнуў на дах старое кола.

— Навошта, Мікола? — спытала Агата.

— А гэта суседзі ў нас будуць.

І вясной яны з'явіліся — пара маладых буслоў. Птушкі ладзілі гняздо, а потым, стаміўшыся, падымаліся высока, высока, кружылі над хатай, не варушачы крыламі, адпачывалі.

Аднойчы ранкам пасля дажджу Агата пайшла ў гародчык падняць збітыя кусты вяргіні. Але што гэта? Яна ўзяла ў рукі нямоглае, неаперанае бусляня. Хукала на яго, саграваала яго сваім дыханнем. Выйшаў з хаты Мікола.

— Мой дзед калісьці казаў, калі бусел скіне дзіця — год будзе неўрадлівы.

— Глупства, — сказала Агата.— Бачыш, жыта ў полі аж буяе.

Яна стаяла, прыхіліўшыся да нізкага плоту гародчыка, і глядзела ў поле. Хата іх была крайняя ў вёсцы. Да самай сцяны падступала жыта. У ціхія летнія вечары, калі прыслухацца, можна было пачуць, як шэпча калоссе.

Яна маладая тады была, Агата.



...Спахапілася, што наабірала многа бульбы, як на добрую сям'ю. Яна б, напэўна, яшчэ сядзела і абірала, каб не радыё. У рэпрадуктары штосьці зашумела, затрашчала,— гэта брыгадзір зараз пачне перадаваць нарад, скажа: «Добры дзень, таварышы калгаснікі», а потым, бы хто за ім пагоніцца, як аўтамат, пачне называць прозвішчы — каму на бульбу, каму на гумно. Агата ўстала, уключыла гучней рэпрадуктар.

Вось так аднойчы ўранку слухала, як пералічвае брыгадзір прозвішчы па радыё, Зосіна госця з Сібіры.

— Якія ў вас смешныя прозвішчы: Кот, Жук, Кашэль, бы мянушкі, у нас такіх няма.

Потым, калі брыгадзір назваў прозвішча Агаты, яна сказала: «Во, а такое ў нас ёсць». І яна расказала, што ёсць у іх старшыня калгаса Вярбіцкі. Зося пачала распытваць, як завуць таго старшыню. Імя было такое, як у Агацінага гаспадара. І па сяле разнеслася чутка, што Мікалай жывы, нават ведалі ўжо, як завуць яго новую жонку, якая яна з сябе. Толькі Агата нічога не ведала.

Успомнілася ёй навальнічная ноч, паспешлівы стук у шыбу, цокат конскіх капытоў. Нашы адступалі. Мікалай забег на хвіліну. Развітацца. Яна не пазнала яго: схуднеў, апаў з твару. Пахла потам і сырасцю гімнасцёрка, калі Агата кінулася яму на шыю.

— Родзіш сына, дай маё імя,— толькі і сказаў ён тады, нібы гэта было самае галоўнае для яго.

Нецярпліва пастукалі ў шыбу. Мікалай пацалаваў яе лоб, вусны і чамусьці рукі, калі знімаў іх са сваіх плячэй, пакідаючы Агату. Ніколі дагэтуль ён не цалаваў яе рукі.

Людзі спяшаліся ў лес. Бегла і Агата. Цяжарная, яна ледзьве дыхала, спатыкалася, сілы пакідалі яе.

Адступала армія...

Потым казалі, што бачылі Мікалая ў лесе, але Агата не паверыла: ці мала што нагавораць людзі, мо каму падалося. Але цяпер яна чамусьці ўспомніла пра гэта. Не, зноў не сама. Успомнілі людзі. На сяле толькі і гаварылі што пра Мікалая, быццам другіх навін не было.

«Людзі нядобра думаюць аб ім»,— сэрцам адчула яна аднойчы,

калі жанкі прыцішылі гаворку, заўважыўшы, што ідзе Агата. «А калі гэта праўда?» — жахнулася яна. Дагэтуль такая думка ёй ніколі не прыходзіла ў галаву. Цяпер, пра што б яна ні думала, што б ні ўспамінала, шукала Мікалаю апраўданне. Але часам яна і вінавацiла яго, ёй здавалася, што ён адзін быў вінаваты ва ўсім, што выпала ў жыцці ёй.

...Агата прыйшла з лясных шалашоў у вёску. Прыйшла з суседкай сваёй, бабкай Хвядорай. Тая ніяк не магла пакінуць яе адну. Вёска была пустая. Хвядора запаліла ў печы. Пачала грэць ваду, шукаць мяккія палатняныя полкі. Раптам хтосьці моцна загрукаў у дзверы. Хвядора адчыніла. Незнаёмыя ўзброеныя людзі гаварылі штосьці незразумела, па-свойму, мусіць, пыталіся, дзе аднавяскоўцы. Потым вывелі жанчын на двор.

Устрывожаныя шумам буслы ўзняліся на цыбатыя ногі, неспакойна, моцна заклекаталі. Руды салдат ускінуў аўтамат і даў чаргу. Адзін бусел уздрыгнуў, хацеў расправіць крылы, але яны бездапаможна, сутаргава апусціліся. Другі бусел узляцеў і закружыў над хатай.

Жанок пасадзілі ў машыну і павезлі ў былы раённы цэнтр.

Агата, азірнуўшыся на хату, убачыла, як над страхою віўся белы дым ды бусел усё кружыў і кружыў, як зачараваны.

Ужо ў машыне ў Агаты пачаліся схваткі. Руды немец сядзеў побач і толькі скоса пазіраў, як яна ад болю то выпроствалася, схапіўшыся за лаўку, то спаўзала з яе на каленцы. У гарадку на допыт яе не павялі, кінулі ў нейкі катух. Там яна і нарадзіла сына.

...Цяпер яе брала злосць на Мікалая, злосць за тое, што яна не можа смела глядзець людзям у вочы, за тое, што ён жывы. Крыўдзілася яна і на людзей: «Ну што ім да таго, што ён жывы, няхай жыве на здароўе. А чаму ён павінен быў загінуць? Вярнуліся ж другія...»

Цяпер Агату мучыў сорам, што Мікалай не абазваўся, што кінуў яе, сына. І яна аднойчы рашылася, паехала ў ваенкамат і сказала:

— Калі ён вінаваты, няхай адказвае. Людзі нядобрае думаюць пра яго.

...Агата выпаліла ў печы, управілася па гаспадарцы. Яна не спяшалася. На работу рашыла не ісці. «Адсыплю прызбу, каб не прэла хата». Узяла лапату і выйшла на ганак.

Лагодна прыгравала сонца. Агата пракапала канаўку, каб не застойвалася вада ў двары, падумала: «А можа рана прызбу адсыпаць?», як раптам яе паклікалі. Гэта Волька — паштарка.

— Сынок напісаў? — спытала Агата і заспяшалася да Волькі.

— Ды не, казённае,— сказала дзяўчына.

Яна спынілася, чакаючы, пакуль Агата пачне чытаць пісьмо. Так павялося ўжо ў вёсцы — сакрэтаў тут няма. Але Агата не спяшалася. Рукі дрыжалі, і яна ніяк не магла разарваць канверт. Ужо здагадалася, што гэта за пісьмо.

Апусцілася на вільготныя маснічыны ганка. Сядзела нерухома, бяздумнымі вачыма пазірала вакол. Раптам над ёй мільгануўся цень. Агата падняла вочы. Над хатай кружыў бусел. «Прыляцеў». Яна ў роздуме паківала галавой. Вочы яе сталі вільготныя. А бусел усё кружыў і кружыў над хатай. Цень яго крылаў падаў Агаце на твар. Агата плакала.

Потым яна паднялася і пайшла ў хату, чаго — сама не ведала. Яна шукала сабе работы, каб забыцца, каб мець палёгку. Бралася то за адно, то за другое. Паправіла і без таго акуратна засланы настольнік, уздумала прынесці вады — вядро было поўнае. Задумліва пастаяла





пасярод хаты. Позірк яе ўпаў на адбітак у люстэрку. Яна нібы не пазнала сябе, падышла бліжэй, правяла рукою па лбе, па маршчынках, што заляглі каля вуснаў. Ссунула на патыліцу хустку і правяла рукой па валасах. Разглядвала сябе, нібы бачыла ўпершыню.

Міжволі позірк яе ўпаў на Мікалаеў партрэт, што вісеў на сцяне. Вось ён, яе Мікола. Ёй стала не па сабе ад думкі, што ён такі малады, а яна пастарэла, пасівела. Ён быў нібы сын ёй цяпер. Яна доўга ўглядалася ў ягоны твар: бачыла мякка скрыўленыя ва ўсмешцы вусны, нос, чорныя іскрыстыя вочы. І чым больш яна глядзела на партрэт, тым сумнейшыя рабіліся ў Мікалая вочы, тым больш азмрочваўся твар. Мікалай быццам дакараў яе. У Агаты зашчымела сэрца. «Як магла я падумаць так пра яго, як? Ну, няхай іншыя, а я ж ведаю свайго Мікалая. Як я магла падумаць?» Яна нібы прасіла ў яго прабачэння, у яго, нежывога.

Яна доўга яшчэ стаяла перад партрэтам. Вочы яе туманілі слёзы.

Раптам заспяшалася. Хацелася пайсці да людзей, хоць да суседкі, але ўспомніла: «Сёння ж бульбу ў калгасе перабіраюць, толькі я не пайшла. З жанкамі ж весялей».

Яна ўнесла з сенак гумавыя боты.

Ніхто яе не папракнуў, што спазнілася.

— Няхай становіцца ўчотчыкам! Лягчэй жа! — толькі і сказаў хтосьці.

Агата здзіўлена паглядзела на ўсіх. Жанкі стаялі моўчкі, апусціўшы вочы. І яна адчула, што і для іх ён загінуў толькі сёння. Толькі сёння ён геранчна загінуў у баі пад Курскам.

◆ ◆ ◆



Сяргей ПАНІЗНІК

●

## ЗЕМЛЯКІ

Сярод дарог далёкіх, франтавых,
калі не раз прыходзілася крута,
у час прывалу землякі ўдваіх
закурвалі махорачную скрутку.
І раны ўраз пераставалі ныць,
і дух мацнеў у кожнага салдата,
калі ўрываўся ў горкі дым вайны
знаёмы вобраз іх бацькоўскай хаты.
Ды зноў баі з прыбоямі атак,
і мімаходам словы земляку:
— Калі што здарыцца... раскажаш... там,
і занясеш ёй картку за раку...
І я салдат. У мірныя гады,
як бацька у вайну, трымаю моцна зброю.
Я клятву даў перад вайсковым строем,
як бацька мой даваў яе тады.
Вучэнняў дні: і з потам, і без сну,
і з земляком размова на прывале...
І памяць аб Радзіме наплывае,
як цеплыня салдацкага агню.

## ПОМНІК

Вечар пахне чаромхай горкаю
і вясновым шурпатым ліўнем.
Запалілі праменні зорку
ля дарогі, дзе купы сліваў.

Гэта зорка над вечным помнікам
хлопцам, што не прыйшлі дахаты.
Яны беглі зімой той полем,
помстай праведнай узнятыя.

Не сышліся усе за вёскаю.
Без адлігі снягі аселі.
Ружавелі крывёю вёсны,
дзе баі на зямлі грымелі.

З той пары, калі дзень пагоркамі
адыходзіць за бераг сіні,
загараецца людзям зорка,
што ў атакі байцы насілі.

## БАЦЬКАМ

Не затрымаюся ў дарогах,
прыйду да весніц дарагіх
на вашы здобы-пірагі.

Каб зноў пажыць у ціхай хаце
і расказаць у соты раз,
як я выконваю наказ

даўнішняй бацькавай размовы.
І як служу, і як пішу,
і ў сэрцы як любоў нашу...

Не затрымаюся ў дарогах,
і з рукзаком прыйду у час.
А покуль —пісьмы пра здароўе
і думы добрыя пра вас.



## Казімір КАМЕЙША

●

●

Ваенны лётчык,
я лячу на свой аэрадром
І б'е па мне варожая зенітка...
І, нібы слова, што закрэслена
пяром,
Жыццё маё навечна хутка знікне.
Жыццё — ў абломкі,
Неба — у абломкі,
І не чакай мяне, аэрадром.
Бывай, нябесны
мне не страшны гром,
Бывайце, крыллі шчырыя — аблокі.
Гады не зікнуць,
ды абломкаў не знайсці...
Але мяне праз многа год знаходзяць
людзі
І той, што не хацелі пры жыцці,
Мне вымушаны помнік ставіць
будуць.
Пасеюць памяць залатую — кветкі,
Пратопчуць сцежку...
А ці страшна будзе,
Як, ля мяне праходзячы, бабуля
Унукам скажа:
— Асцярожней, дзеткі.

□□□





## Славамір ХАДАРОНАК



●

●

Калі мы на чужы сыходзім
бераг
У царства небаскробаў,
мітусні,
То кожнае акно,
нібыта беркут,
За намі прагна сочыць
з вышыні.
І перашкодаў позіркі
то зыркія,
То едкія,
як соль іскрыстых хваль,
Прашчупваюць
на нашых бесказырках
Молатасерпных зорачак
эмаль.
А крочым мы
не дзеля паказухі...
Адказнасць
на усіх на нас ляжыць.
Мы знаем: вельмі лёгка
«пакаўзнуцца»
На гэтых роўных вуліцах чужых.

Заплыўшы аж
за трыдзевяць зямель,
Ні на хвіліну
мы не забываем:
У гавані не проста
карабель,
А частачка Радзімы
нас чакае...

⊛

Трэці год я ужо на флоце,
Ды не гасне сум па радзіме.
Там за вёскай у сінім балоце,
Як ніколі, чарніцы ўрадзілі...

На хрыбце мяне вал дзевяты,
Як ліхі жарабец, гайдае...
Ну, а там маладыя дзяўчаты
Пра мяне па начах гадаюць.

Толькі лягу спачыць —
на буслянцы
Мяне клёкат ізноў чаруе.
Бачу: цеста расце, набухае
У дзяжы на гарачай чарэні...

... На Атлантыцы дзікай, далёкай
Памужнеў я, зрабіўся сталы.
Ад брані агрубелі далоні.
Толькі сэрца мякчэйшае стала...



Міхась ВЫШЫНСКІ



# ПРАМЕНЬ У ЗЯЛЁНАЙ ТРАВЕ

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага

З пералеску на аўтобусны прыпынак яны выйшлі пасля паўдня. Ён, як звычайна, трымаў у руках арэхавы пруток, яна — кнігу і кветкі.

Не дайшоўшы да бетоннага слупа, яна прысела на ўтравелы адхон шашы і апусціла на калені галаву. А ён стаяў непадалёк, безуважна ўзіраўся ў разгоністае палатно дарогі, у разлегласць палёў і сасновых пералескаў — туды, адкуль павінен быў з'явіцца іх аўтобус,— і разгублена маўчаў. Як і яна.

Зрэдку дзяўчына падымала галаву і з кволай вінаватасцю ўсміхалася яму; ён, адчуваючы боль, адказваў разгубленай усмешкай. За часы іх дружбы такое было з імі ўпершыню.

Чакалі доўга — нарэшце прыйшоў аўтобус; і яны, ціха ўзрадаваўшыся, што ён пуставаты, селі на задняе сядзенне, далей ад пасажыраў. Маўчалі па-ранейшаму: усё, што трэба было сказаць, было сказана, астатняе яны разумелі без слоў.

Роўна гуў, пагойдваўся аўтобус, няспынна цягнуліся між слупоў правады — ехалі.

Яна, апусціўшы вочы, спачатку перабірала кветкі, перабірала роздумна, ціха, засяроджана, а пасля непрыкметна стулілася ў сваім кутку і заціхла...

Ён сядзеў поруч і нерухомымі вачыма пазіраў за акно... Перад ім праплывалі палявыя прасёлкі і машыны на іх, вынікалі і знікалі вёскі, але гэта было, як у другім свеце: далёкае, нерэальнае, і яно не кранала яго.

Неспадзявана ён страпянуўся, выпадкова заўважыўшы ў полі высокую чараду нейкіх цёмных дрэў. Дрэвы тыя мільганулі перад вачыма і адразу прапалі. Яму тут жа здалося, што іх і не было, што яны памроіліся ў мімалётным дарожным паўсне. Але, узнепакоены, ён аглянуўся і зноў убачыў іх — на гэты раз з незвычайнай выразнасцю і яснасцю.

Цяпер ён быў у новым свеце пачуццяў і думак; ён бачыў перад сабой гарадскі парк, які так дзіўна напомнілі дрэвы ў полі.

«Калі ж быў той вечар, той парк, мокры ад імглы, голы?» — на хвіліну яму здалося, што ён забыўся.

Але толькі на хвіліну.

Была ранняя вясна, і ўсё было, як заўсё-

ды. У неспакойных развагах, у адзіноце ён хадзіў па паркавай дарожцы. Курыў. Паблізу грукаталі, пралятаючы мост, трамваі. Іх металічна-імклівае рэха часам здавалася яму ціхім громам. Тады ён спыняўся і, схамянуўшыся ад развагаў, шукаў у кішэнях запалкі: ён не заўважаў, калі тухла цыгарэта. І, як заўжды, запалкі былі не ў кішэні — ён трымаў іх, не адчуваючы, у руцэ.

Ён аглядаўся — і не пазнаваў парку: дрэвы кожны раз бачыліся нязвыкла цёмнымі і чужымі. У іх неаглядных, як неба, кронах і пад кронамі сцюдзёна разгараліся зоры і ліхтары. Адсюль па-вясноваму востра пахла пупышкамі, зямлёй.

Быў позні вечар, і ён ведаў, што там, за паркам, дзе стаіць зарава вокан і ліхтароў, у інтэрнацкім пакоі даўно ўжо сабраліся ўсе хлопцы — папрыходзілі з горада. Сядзяць хто дзе, кураць, ядуць, гуляюць у карты і гавораць пра футбол. А мо і не так, мо чытаюць перад сном кніжкі і спакойна пагладаюць на яго пусты ложак: знаюць, што вернецца ён вельмі позна, яны ўжо да гэтага прывыклі.



І неўзаметку, забыўшыся, ён як бы зводдаль, як бы вачыма староннягa, глядзеў на сябе і адчуваў холад разгубленасці і спалоху.

Чаго, чаго ён бадзяецца па гэтым парку? Што гоніць яго штовечар сюды?.. Чаму ён не ў інтэрнаце?

Цыгарэта патухла. Ён прыкурваў і паволі ішоў туды, дзе высіўся, ледзь прасветлены ліхтаром, раскідзісты вяз, яго маўклівы субяседнік, яго даўні друг. Пастаяўшы там, ён паварочваў назад...

«Я ўсё ведаю, і не хачу ашукваць сябе. Мне так патрэбна цяпер дружба, душэўная блізкасць»,— прызнаваўся сабе ён.

Ён адчуваў у сабе новы свет, народжаны нязнанымі і самымі супярэчлівымі пачуццямі.

Ён быў студэнт, займаўся ў пед-інстытуце чацвёрты год і разумеў, што юнацтва яго мінула, што ён пераступіў яго нябачны парог...

Да яго прыходзіла сталасць.

Ён разумеў гэта, але ад таго яму ўсё роўна не было лягчэй. Ранейшы душэўны свет яго быў такі супакойна-радасны, без хмар, трывог і тугі, як бы прасветлены ранішнім сонцам. Таго свету было шкада, і было балюча развітвацца з ім перад ужо спазнанай сталасцю.

Несціханыя трывогі гналі штовечар на адзіноту вуліц і парку, дзе б ён змог зразумець сябе і супакоіцца.

Але спакой не прыходзіў.

«Я стаміўся ад нязбыўных трывог і думак, ад абрыдлых турбот і мітусні ў інстытуце. У горадзе мне, як ніколі, патрэбна дружба».

Ён запавольваў крок і глядзеў на гадзіннік,—кволая, як вясновы парастак, радасць кранала яго: зараз паявіцца яна, Марта. Яна ж у такі час амаль заўсёды вяртаецца дамоў, у інтэрнат, гэтай алейкай.

І ён уяўляў, як Марта, здаўшы бібліятэкарцы кнігі, выходзіць з чытальнай залы: зграбная, маленькая, уся сцішная, як пасля сну, мінае



лесвічныя прыступкі — галава крыху нахілена, вочы глядзяць засяроджана: яна нібы штосьці прыпамінае і не можа прыпомніць...

Зараз яна паявіцца на гэтай малалюднай дарожцы. Тады ён, як і ў мінулыя вечары, стане пад сваім вязам і павітаецца з ёй. Яна, прывыкшы бачыць яго тут, яшчэ больш сцішыцца, насцярожыцца, нешта падумае, адкажа яму і пойдзе далей... А ён будзе доўга глядзець услед...

Як усё ж дзіўна: яны займаюцца ў адным інстытуце, на адным факультэце, жывуць у адным інтэрнаце — яны як быццам знаёмыя, але за час сваіх сустрэч ніколі ні аб чым не гаварылі, ні аб чым! Зрэшты, ён разумеў усё. Ён прызнаваўся сабе, што на сур'ёзную размову ў яго, нібы падлетка, не хапае рашучасці, а пачынаць якую іншую, неабавязковую размову, прычым пачынаць, як прынята, лёгка, з дурасліваў весялосцю, яму было непрыемна: тады нешта трапяткое і глыбокае, што нараджалася між імі за часы гэтых мімалётных сустрэч, абарвалася б і мо знікла б назаўсёды...

Ён чакаў. І чаканне было бясконцым. Як трывога, як роздум і крокі.

Усё ж яна для яго — невядомы свет. І як яму ўвайсці ў яго, у той нябачны далёкі свет яе думак, мар і клопатаў? Гэта яму так важна, як важна і неабходна дружба.

Яна паявілася на дарожцы нечакана — ён уздрыгнуў і адразу адчуў, што гэтая сустрэча будзе інакшая. А потым гулкая, як звон, цішыня абступіла яго, нібы ён быў не ў гаманлівым горадзе, не ў парку, а дзе за сотню кіламетраў ад іх...

Увесь свет з таямнічай хуткасцю зменшыўся да невялікага круга святла пад ліхтаром — і ў цэнтры яго была яна, Марта. Ён бачыў, чуў толькі яе, стомленую ад кніг, насцярожаную, у лёгкім паліто, з вечнай сумачкай.

І вось усё, што пакутна і затоена жыло ў ім: туга, боль, радасць і надзея — раптам за якую хвіліну паднялося са сваіх глыбінь...

Марта павінна была правільна зразумець яго, яна не магла не зразумець.

Ён ступіў насустрач ёй — і ўжо як бы пераступіў у душы нябачную мяжу, мяжу нерашучасці.

Марта спынілася, здзіўлена ўзняла вочы...

Яму здавалася, што гаворыць ён моцна, вельмі моцна, і ўсе, хто быў у парку, чуюць яго... Гэта было як прызнанне ў любві.

Колькі часу яны гаварылі — ён не мог дакладна ўспомніць.

Толькі калі растала, як веснавы снег, цішыня, ён зноў убачыў сябе аднаго на дарожцы, убачыў алеі, святло і змрок, зноў пачуў галасы і музыку — як бы вярнуўся сюды, з фантастычна далёкіх земляў... І тады яму на імгненне, на адно вострае імгненне, падумалася, што ў сапраўднасці ні сустрэчы, ні размовы не было, а што гэта былі так, мроі...

Але не! — нічога не памроілася. Ён помніў свае ціхія і простыя словы і тое, як слухала яна іх: нерухома, у маўклівым здзіўленні — толькі часам уздрыгвалі і цямнелі яе пільныя вочы; помніў, як гаварыла пасля яна: няўпэўнена, з разгубленай радасцю. Ён помніць яе развітальнае: «Канечне, Павел, заходзь... Я жыву, ты ж ведаеш, у дзвесце пятнаццатым пакоі», а пасля — застукацелі яе крокі, як ніколі, імкліва, часта...

Раптам пранізліва затармазіў аўтобус — Павел ачнуўся! У расчыненыя дзверы густа рынуліся пасажыры: быў ужо блізка горад, і дарожнага люду з прыпынку на прыпынак большала.

Марта ўжо моцна спала, абапёршыся рукамі на дужку пярэдняга сядзення.

Заклапочаны, ён нагнуўся, падняў з падлогі кнігу, якую дзяўчына выпусціла ў сне, і, калі крануўся аўтобус, разгарнуў яе, але тут жа закрыў і прыслухаўся.

У кабіне шафёра нешта адбылося: пачулася сіпенне, нешта трэснула, і раптам скрозь глухі гул матора і размоў, скрозь цеснату людзей, кашоў і чамаданаў да яго дайшла музыка.

Штосьці раздумлівае і спакойна-радаснае было ў ёй — яно востра хвалявала, але яго нельга было зразумець.

Дзіўна знаёмая музыка...

Дзе, калі ён чуў яе?..

Ці не тады, на захадзе сонца, калі ўпершыню ішоў да Марты?

Ён падымаўся з паверха на паверх, і ва ўсіх калідорах, на лесвіцах інтэрната было адно і тое, такое звычнае, штодзённае: хлопцы ў спартыўным трыко, дзяўчаты ў дамашніх халатах снавалі туды-сюды з чайнікамі, звонка размаўлялі і смяяліся. Толькі ён як бы ўсяго гэтага не заўважаў. Ён адно бачыў у вокнах і лесвічных клетках — веснавое святло... Яно ўжо страціла сваю дзённую сілу і было па-вячэрняму халаднавата-празрыстае, спакойнае. І сам ён быў, як гэтае святло, на дзіва спакойны, хаця і адчуваў дзесьці далёка на дне спакою знаёмую тугу і трывогу. Часам яму карцела спыніцца ля якога акна і радасна забыцца ў святле, у сваім чыстым, як неба, спакоі; тады — здавалася яму — у якое шчаслівае імгненне ён змог бы да канца зразумець сябе.

Аднак ён не спыняўся, а ішоў і думаў, ці застане дома Марту. Можа яна даўно ў бібліятэцы? Тады ён, вядома, пойдзе ў парк. І яшчэ ён думаў, як пастукаецца і ўвойдзе ў яе пакой. Каго ён там яшчэ ўбачыць? І што ён скажа? Яму ж там, акрамя Марты, ніхто не знаёмы. Нібы першакурснік, ён баяўся разгубіцца.

Толькі заходзіць у дзявочы пакой яму не прыйшлося. Марта была на калідоры. Яна сядзела на крэсле пры акне і чытала — і была такая чужая, такая далёкая ад усяго. Ён спыніўся, і адразу яму ўявіўся той яго апошні вечар у парку... Уявіўся з такой жывой рэальнасцю, што ён адчуў пах і сцюдзёную прахалоду паветра, пачуў шолах дрэў, свой і яе голас у гэтым шолаху...

Мусіць, ён так пільна глядзеў на яе, што яна раптам уздрыгнула, як ад штуршка, і падняла вочы.

— Ой! Гэта ты... Зачыталася я...— здзіўленне, радасць і адначасова непрыхаваны сум былі ў яе вачах.

Марта пайшла насустрач яму. Спынілася — і яны доўга і пранікнёна глядзелі адно на аднаго...

— Ты, Павел, пачакай, пабудзь тут,— нарэшце сказала яна,— я пайду пераапрануся, я зараз...

Яна знікла за дзвярыма.

А калі неўзабаве ён зноў убачыў яе, то як бы не адразу пазнаў — так змяніў яе ўбор: спаднічка, снежнабелы світар, туфелькі. І чамусьці цяпер яна выглядала яшчэ больш сумнай і стомленай.

Праз які час яны, мінуўшы ўсе чатыры паверхі, ужо выходзілі на вуліцу. Размаўлялі. І гаварылася ім незвычайна хораша, лёгка, ахвотна. Болей гаварыла яна. Голас яе быў супакоены, даверлівы, як сам вясенні вечар.

—...ага, чытаю ўсё... Ведаеш, сесія скора, а колькі яшчэ ўсяго не прачытана!.. Гэта праўда: трэці курс — самы цяжкі на літфаку... Вольнай хвіліны няма. Ды ці ж табе гаварыць?! Яшчэ гэтая стыпендыя... А! — яна ўзмахвала рукой, нібы адганяючы ад сябе нешта абрыдлае, непрыемнае. І не магла адагнаць.— Ведаеш, зайшла сёння ў дэканат... Стыпендыя, кажу, трэба. А яны: у цябе, Міронава, дзве экзаменацыйныя тройкі, у цябе бацькі настаўнікі, яны зарабляюць. Разумееш, Павел,— зарабляюць?! А калі ў сям'і пяцёра чалавек, і калі яны ўсе вучацца?



Ён слухаў яе, апусціўшы вочы.

— Вось як прыйдзе май, мо ў вёску паеду, да сястры... Далёка-далёка адсюль. Там такая прырода!..

І Марта змаўкала. Яна часта і надоўга змаўкала — тады яны моўчкі прыслухоўваліся адно да аднаго. І разам з гэтым маўчаннем, з гэтымі даверлівымі размовамі між імі паціху бурылася тое, што нябачна яшчэ раздзяляла іх.

Неўзаметку Паўлу адкрываўся яе патаемны душэўны свет, такі маленькі і такі вялікі. Ён быў вельмі знаёмы яму, гэты клопатна-трывожны свет, ён быў зразумелы і блізкі.

Слухаючы дзяўчыну, ён задуменна глядзеў перад сабой... Усё вакол было, як учора, як і раней. Але не,— чырвань, спакойна добрая чырвань пагоднага адвячорка шырока разлілася па вуліцах, вокнах, дахах. І па кронах блізкіх — збоч тратуару — каштанаў, яшчэ голых і няўтульных; у гэтым святле каштанавыя пупышкі, набрынялыя ад маладога соку, былі такімі карычнева-чырвонымі, што здаваліся гарачымі вуголлямі.

Усё гэта зорка прыкмячаў ён, і ўсё гэта адразу западала ў памяць. Разумеў: гэтая сустрэча, як і адвячорак,— асаблівыя. Яны кладуць пачатак нечаму вялікаму і важнаму ў яго жыцці. І што спакой, першы і такі раздумліва-радасны, як музыка, мабыць, надоўга ўсталёўваецца ў ім.

Музыка ў шафёрскай кабіне сціхла. «Дворжак. Мелодыя»,—падумаў ён і нібы ачнуўся, падняў галаву.

«Дворжак...»

І ўжо стаялі перад вачыма ўсе веснавыя пералескі і палі, гарадскія вуліцы, дзе нараджалася іх дружба. У цяпле гэтай таямнічай, як світальнае сонца, дружбы прападалі яго сумненні і трывогі, і вярталася страчаная радасць.

Шчаслівыя веснавыя дні!

Яны ладзілі рукзак і, калі выпадала, ехалі за горад.

Яны бачылі пералескі, вольна-гулкія, як рэха, цёмныя пасля снягоў. Бачылі сонца,—яно, гарачае, яркае, пад поўдзень выбівалася з хмар,— і ўсё ў іх забытай краіне радасці: лагчынкі, узгоркі, дрэвы і леташняе лісце вакол іх — усё наскрозь прамоклае ад начной імжы, пачынала свіціцца, курыцца парай, дымець.

Неўзабаве дзесьці ўперадзе і збоку, там, дзе гаманілі сцюдзёныя ручаі, раздаваўся тонкі і звонкі, як перастук кропель, голас сініцы.

Яны ішлі туды. І многае бачылі на сваім шляху, і ўсё было, як ад-

крыццё, нібы ніколі не жылі ў вёсцы, нібы не перажывалі за ляснымі ваколіцамі вёснаў.

Цяклі па сасновых карэннях ручаі — вада была карычнева-смольная, а пры беражках — зялёная: там жылі даўнейшыя травы.

Марта глядзела-глядзела і нечакана смяялася, бы ў мімалётна шчаслівым сне, і кранала яго за руку: між ручаёў, на заімшэлых высокіх купінах высцілаўся журавіннік з такімі свежымі пругкімі лісткамі. А між лісткоў чырванелі ягады...

Яны нагіналіся: ягады смачна кіслыя і халодныя-халодныя — аж калола ў зубах.

Бачылі пасля і другое: стаялі пералескі ў першых лістах, нібы ў зялёным дыме. І ахінала іх, прасвечваючы першародная сінявой, неба.

Яны ішлі цёплымі палянамі. Марта не-не ды нагіналася, зрывала кветкі соннай травы і, высока падняўшы іх, трымала супраць сонца — як з нетутэйшых прастораў і часоў усміхалася яму; у кветкавым ліловым кубачку, што высвечваўся кожнай пушынкай, чарадзейна гуляла ліловае святло.

А за палянамі ў твар ім, калі ішлі, нячутна пыхкалі жоўтыя воблачкі: цвіла-дацвітала сасна. Часам там трапляліся глыбокія лагі, і яны абавязкова заглядалі ў іх — адтуль, як з сутарэння, біла пранізлівым холадам, а на дне нечакана блішчаў лёд...

Вярталіся яны ў горад з такім пачуццём, быццам не былі ў ім не дзень, а год.

І вярнуўшыся, кожны раз ён бачыў горад і ўсё ў горадзе, як упершыню. Як на пачатку студэнцкага жыцця.

Ужо ў той час у яго сэрцы жылі два гарады аднаго горада: стары і новы.

Той, стары, жыў вельмі блізка: да дружбы з Мартай. Ён не разумеў яго і не любіў.

У тым горадзе вечна было холадна і непрытульна: здавалася, там ніколі не аціхалі дажджы, хмарныя вятры, імжа. І на вуліцах, каменных і стылых, як цясніны, нязменна стаяла нейкае ціха змучанае, беднае святло.

Увесь у сабе, маўклівы і разгублены, ён шыбаў тымі вуліцамі — то ў бібліятэку, то ў інстытут ці з інстытута — і заўжды пазіраў сабе толькі пад ногі: тужлівае пачуццё холаду, спешкі і нечага забытага з бясконцых клопатаў ніколі не пакідала яго.

І часта прыходзіла такое адчуванне, быццам не ён спяшаецца, не ён маўчыць, думае, поўны незразумелай тугі, а нехта чужы, нехта толькі знешне падобны на яго. Сам жа ён, сапраўдны, стаіць дзесьці блізка і сумна пазірае на таго; і станавілася не па сабе: нясцерпна хацелася пазбавіцца незнаёмца, стаць самім сабой, тым, якім быў на парозе студэнцкага жыцця.

Калі ж на хвіліну аглядваўся, як бы шукаючы сябе — заміраў: усё вакол бачылася прывідным і нейкім да нематы глухім... Як у пустым пакоі, з якога раптам вынеслі насценны гадзіннік.

Аднак кнігі, лекцыі, семінары прымушалі яго суняцца нарэшце, схамянуцца.

І ён спяшаўся — спяшаліся і дні. Аднастайныя, як сум, непрыкметныя, яны прабягалі адзін за адным і назаўсёды знікалі, нічога, акрамя горычы і змярцвелай стомленасці, не пакідаючы ў душы.

Ды неўзабаве паднялася, як у буру вецер, трывога; і ён спазнаў тады і боль, і пакутлівы роздум — усё, што прыходзіць з ранняй сталасцю.

Але той горад станавіўся ўжо ўспамінам.



Праз блаславёную радасць дружбы і зялёнай краіны ён нанава адкрываў яго сабе, як адкрываюць старую тайну.

І бачыў: у новым горадзе ўсё было іначай...

Стаяў ён з Мартай на паваротцы тратуару. А непадалёку каціліся палівачныя машыны: з гулам, сіпеннем, з нізкім паўдзёным дажджом — і навакольныя вуліцы, некалі непрытульныя, нудныя, былі як нябачаныя рэкі: яны, здавалася, цяклі і ў іх таямнічых глыбінях дрыжалі сінь неба, вокны, іскрыстыя ручайкі майскага сонца, кроны дрэў.

Хутка пачынаўся сапраўдны дождж, і палівачныя машыны кудысьці знікалі.

Ён і яна не хаваліся. На вачах гараджан, маўклівых і нерухомых у сваіх схованках, яны, як у забыцці, перасякалі вуліцу, падставіўшы пад доўгія цёплыя струмені рукі, твар... І доўга-доўга некуды ішлі... Пакуль не сціхалі тыя струмені і пакуль яны не прыходзілі ў скверык на невялікай плошчы.

Тут яны як бы прачыналіся...

Вакол уздымаліся да неба дамы. І дзе дзелася іх колішняя гнятлівасць, цёмная, каменная? Нейкая натхнёная лёгкасць адчувалася ў палёце іх сцен, калон, франтонаў. Здагадваўся: суседства скверыка — асабліва дарагога і неабходнага тут зялёнага астраўка, туману і сонца так чарадзейна перайначвала тыя дамы.

Пасля яны ішлі алейкай — і ён, аглядаючыся, адным імгненным пачуццём спасцігаў, як у пералесках, тое, што раней не прыкмячаў тут: кволыя зубочкі ліповых лісткоў, чорна-тугую дужасць сукоў, вясёлы разбег траў і зялёны, як радасць, прамень у гэтых травах.

Неўзаметку патухла неба, і ў ліўні агнёў, у гуле людзей і машын прыходзіў сюды вечар.

Тады яны садзіліся на трамвай і ехалі на ўскраіну: там былі ціхія дворыкі, старадаўнія вулачкі, домікі з аканіцамі і балкончыкамі, з дзікім вінаградам на сцяне — там было ўсё, як у забытых казках далёкіх год.

І там, як нідзе, ён моцна адчуваў сваю адноўленую душэўную сувязь з горадам.

І з людзьмі. Сэрцы іх біліся побач з яго сэрцам.

Ехаў у трамваі вясковы дзядзька. Высокі, як дрэва, насцярожана-чуйны, ён то задумваўся, то, спахапіўшыся, паглядваў на кандуктарку: ці скора яго прыпынак?

У дзядзькі былі вузлаватыя, як карэнні, і цёмныя, як зямля, рукі, і быў ля ног мяшок, грузны, увесь у плямах.

І хлопец, узрушаны, разумеў незнаёмца, як блізкага чалавека: дзядзька прыехаў у горад, ён спяшаецца нанач да сваіх знаёмых; заўтра ў яго клопатны нядзельны дзень, заўтра яму трэба і на базар, і ў магазіны, і ў час вярнуцца дамоў.

Здаралася, ля дзядзькі аказваўся прыгожы і чысценькі піжончык — гэткі бажок вуліц — і Павел, усміхнуўшыся, пераглядваўся з Мартай; бажок касавурыўся на дзядзькаў мех і, крывячы губы, усё адсоўваў ад яго свае райскія туфлі і штонікі. У яго быў свой клопат: ён ехаў, вядома, да нейкага другога бажка, каб ужо разам з ім патраляваць назад у цэнтр, у раскошна зорны вечар — там ім будзе весела.

Разумеў ён і жанчыну, што вярталася з фабрыкі.

Была яна ў мятым плашчы, немаладая: густыя маршчынкі ляжалі вакол блізарукіх, прыглушаных гадамі і працай вачэй. Ссутуліўшы плечы, жанчына сядзела на лаўцы і кратала ражок плашча: яна думала, што сыны недзе, як заўсёды, валочацца па горадзе, забыўшы пра дом і ўрокі; што дома яе чакае яшчэ гэтулькі работы — хаця б хутчэй

прыязджаў гаспадар, вечна ён у сваіх камандзіроўках... Ён па-свойму разумеў яе, як амаль кожнага ў горадзе, у новым сваім горадзе-доме: жыццё тады штодзённа адкрывала яму свае невядомыя бакі.

Ён на хвіліну выйшаў з задумення: не заўважыў, калі аўтобус увайшоў у горад...

Марта ўсё, здаецца, спала; і ён зноў задумаўся...

Што ж, неўзаметку прыйшло лета, а з ім, канечне, залікі і экзамены. Аднак у іх усё было па-ранейшаму: былі пералескі, вуліцы, радасць дружбы.

А сёння яны доўга былі ў пералесках: выпілі па шклянцы партвейну і забыліся пра ўсё на свеце.

Толькі апоўдні заўважылі, што заблудзіліся. Заблудзіліся! Ім раптам стала смешна і весела: даўно з імі такога не здаралася.

Час быў вяртацца дамоў, і яны, жартуючы, пайшлі напрамкі да шашы — па сонцы, якое квола свіцілася ў хмарнай смузе.

Са смехам яны прадзіраліся скрозь зараснікі, абміналі балотцы, даўнія зямлянкі, пакуль нечакана не выйшлі на могілкі. На старыя вясковыя могілкі.

Быў момант разгубленасці, і яны, бы ўпершыню, паглядзелі адно на аднаго. Затым, прыціхлыя, пайшлі між магілак; і ўсё іх нядаўняе: смех, жарты, бестурботныя размовы — ужо здавалася чамусьці тут, у вечнай цішы, такім да сораму і тугі недарэчным, непатрэбным, мізэрным.

Могілкі былі запушчаныя і забытыя ўсімі — нават той вёсачкай, што віднелася ўнізе ад іх, за недалёкай рачулкай: агароджы і крыжы спарахнелі, паваліліся, на горбіках, магілак разраслася трава, здзічэлы бэз, шыпшыннік. І былі скрозь сосны, тоўстыя і чорныя ад старасці сосны, з высахлымі вярхамі — яны ледзь прыкметна калыхаліся і гулі, гулі трымаючы пад сабой усё ў змроку і таямніцы,— такой маркотнай і маўклівай.

Марта ішла паперадзе — моўчкі, як і ён, спынялася ля надмагільных камянёў-помнікаў, чытала старадаўнія надпісы: і ў здзіўленні аглядвалася на яго, усміхалася, калі з-пад якога заімшэлага каменя вылятала спуджаная птушка, адразу выдаўшы гэтым сваё гняздзечка, поўнае мітуслівых пухлых птушанят з галодна раскрытымі дзюбкамі.

Яны хадзілі, глядзелі, думалі, а сосны гулі і гулі, бы званы, над імі і над усім светам, і пад гэты бясконцы, як час, гул яны, хвалюючыся, зазіралі душой за мяжу жыцця і спасцігалі ёю ва ўсёй глыбіні вядомую і невядомую дагэтуль таямніцу.

І помніць ён: калі нарэшце мінулі тыя забытыя могілкі і апынуліся на знаёмым лужку, Марта была такой далёкай, нетутэйшай, якім бывае на адзіноце чалавек, калі часам загледзіцца ў неба ці ў возера.

Ён насцярожана паглядзеў на яе, сарваў травінку, пажаваў, і раптам быццам гарачы вецер ударыў у грудзі і хтосьці, здалося, закрычаў, засмяяўся на залатым лужку ад пакуты і шчасця... Быццам толькі ў тую хвіліну ён зразумеў, што даўно-даўно — аж недзе з далёкіх сустрэч у парку — любіць Марту.

Блізка, як у небывалым сне, убачыў ён да болю дарагое, мілае: ціхае плячо, віток валасоў ля вуха, тонкі загарэлы твар з белай драпінкай на шчацэ — і спалохаўся, што можа калі-небудзь страціць Марту, сваю Марту. Заміраючы, узяў дзяўчыну за плечы і, як аднойчы на вячэрняй вуліцы, пацалаваў яе ў вочы. І ў губы.

Хвіліна цішыні была годам.

Марта ўстрапянулася, як птушка, і апусцілася на траву: яна плакала.





— Я чакала гэтага, Павел...— сказала яна раптоўна пастарэлым, журботным голасам.— Я-я... многа, доўга думала, і на лекцыях, і ў інтэрнаце, а асабліва сёння, там...— яна кіўнула на могілкі,— пра нас... цябе... пра ўсё, што мы перажылі... І не хачу — не хачу! — абманваць ні сябе, ні, тым больш — цябе... Дружба — нават самая блізкая, гэта зразумела... А любіць — сябе ж не прымусіш?!

Больш ён нічога не чуў — быццам патухла неба і знямелі вецер і травы; не помніў, як паводзіў сябе пасля яе слоў. А яна нешта гаварыла, гаварыла...

Аўтобус спыніўся — ён устаў: трэба было будзіць Марту. Была плошча, быў іх прыпынак — і ціхенька здзівіўся на міг: Марта нечакана падхапілася, пайшла за ім, выходзіць, яна даўно не спала.

За час дарогі яна прыкметна змянілася: на твары паявіўся спакой — нейкі халодны, чужы, і толькі дзесьці ў глыбіні вільготных вачэй мігцела яшчэ неперажытая да канца разгубленасць і вінаватасць.

Моўчкі яны перасеклі душную ад маторнага дыму плошчу і, крыху пакружыўшы, выйшлі на сваю вуліцу — уперадзе ўжо бялеў знаёмы будынак інтэрната з бясконцымі радамі аднолькавых вокан.

На цёмным яго ганку ён схамянуўся, рэзка зірнуў у бок плошчы. Там разыходзіліся і сыходзіліся пад ветрам хмары, барвоваззяючы, ляцела надвячэрняе сонца — і ў хмарах нараджаліся і трывожна паміралі недаступныя гарады і мары.

Ён апусціў вочы і шпарка пайшоў у расчыненыя дзверы.

На чацвёртым паверсе яны развіталіся — на гэты раз спешна, кіўком галавы. Як назаўсёды.

Ненатуральна спакойны, ён мінуў людны калідор і адамкнуў дзверы ў свой пакой...

Глухая, як камень, цішыня навалілася на яго.

Ён сеў на ложак і, не скідаючы руказака, напружана доўга глядзеў на сцяну і не бачыў яе.

Раптам страпянуўся і адным рухам уключыў прыёмнік.

> В звёздном свете, от земли не близко,
> Появились вдруг на лунном диске
> И мерцали, шевеля крылами...

— ударыла ў сэрца самотная песня, і ў яго пацямнела ў вачах ад болю і тугі.

«Ну, ну ты!..» — прыкрыкнуў на сябе ён, як на нейкага другога, незнаёмага чалавека. І гэта крыху супакоіла. Ён выключыў радыё, устаў; што ж, ён мог нарэшце прызнацца сабе — усё, што жыло паміж імі, сёння перайначылася і часткова ўжо згасла. Як сонца на заходзе.

Ён закурыў і, падышоўшы да акна, як скрозь сон, глянуў на вуліцу: там, у зялёнай траве скверыка, гулялі, свіціліся сонечныя промні.

◆ ◆ ◆



**Вера ВЯРБА**



**Сумую я у восень звонкую**
**У павуцінні русых кос.**
**Абцасікі знасіўшы тонкія,**
**Хаджу па свеце басаной.**

**За што любіць нам, мілы, выпала?**
**За што каханне берагчы?**
**Неперажытае, нязвыклае,**
**Як дзікі голуб на плячы.**

**Перабіраю ўсё у памяці,**
**Як светлы міг, як летні сон,**
**Нібы плыву па белай замеці**
**За сіняй лодкай наўздагон.**

**Парады зведаўшы разумныя,**
**Імкнуся змалку да агню,**
**Сябрую з гарадамі шумнымі**
**І ненавіджу цішыню.**

**Мы на зямлі — такая розніца!**
**Аб чым цяпер я папрашу?**
**Гляджу, разгубленая моднiца,**
**Ў тваю дзіцячую душу.**

**О, маладосць мая гаручая!**
**Світальных колаў перастук.**
**Упаду адной слязой балючаю**
**На прывакзальны мяккі брук.**

Мы развіталіся самотныя,
Уносіць час пачуцці прэч.
Запомні ж ты мяне пяшчотнаю,
У чысціні апошніх стрэч.

●

А можа,—
сама не здзіўлюся,—
Ну што ў свеце нязменна? —
І я з сям'ёй ужывуся
У чатырох сценах.
Буду варыць абеды
У дождж
і зімовую сцюжу,
Забыўшыся
на свае беды:
Ёсць беды мужа.
І будуць знаёмыя рады,
А маці ім не нахваліцца:
Усёй сям'ёй слухаем радыё —
Перадачу
«Добрай раніцы».
— Ах, Вера!
Якая Вера? —
Ніхто ўжо мне не паверыць,
І ты,
што цябе любіла
І ледзь абаіх не згубіла,
Што бегла на рэйкі,
на поезд,
У нейкі далёкі горад...
Тапіце ж мяне,
тапіце
Ў здаровым мяшчанскім быце!..
Ніколі сама не здзіўлюся.
Ну што ў свеце нязменна?
Змянюся і я.
Засмяюся
Над новай сваёй пераменай.

●

Вечар шэры, як дзядуля,
Пылу воблака абтрос,
Пад бярозай люльку курыць,
Як на палубе матрос.

Вечар, вечар, дай мне човен,
Паплыву я між бяроз
За імглістай зоркай-поўняй
Ў серабры палынных рос.

Так з маленства палюбіла
Гэты край, як дзедаў сад,
Што з любых старонак мілых
Усё вяртаюся назад

Пад халодныя крыніцы
Каля родных берагоў,
Каб спачыць, вады напіцца,
Каб забыцца пра любоў.

Я — вясковая дзяўчына,
Як галінка між імшар,
У дрыготкае каліны
На мяне падобны твар.

Тут мая любоў і шчырасць
Нарадзілася ў пару,
Тут, забыўшыся на вырай,
Пеўчай птушкаю памру.

# ДАРОГІ КРЫМА

Ці забудзеш дарогі Крыма,
З берагамі салёных хваль,
Горкія
ад пялёсткаў і дыму,
Светлыя, як далёкі жаль?..
Выведзі мяне,
выведзі на любую
Дарогу шырокую,
як марскі прастор,
У праменнях ранішніх залатую,
Што ўзвілася да самых гор.
Туды,
дзе арлы гняздзяцца горныя,
Дзе сонца ўсміхаецца з вышыні,
Сэрца ляціць маё непакорнае,
Прагнучы чысціні.
І навошта еду з табой,
летуценная,
Замінаючы па дарозе ўначы,
Валасы рассыпаўшы пенаю
На тваім плячы?..
Ты ўсё роўна
прывязеш мяне ў горад,
Дзе рэкламы не заменяць зор,
І буду сумаваць я, гордая,
Як камень з маўклівых гор.
Але я так дорага заплаціла за шчырасць,—
Не затым, каб яе згубіць.
Я так доўга была нешчаслівай,
Што баюся цябе разлюбіць.

Уладзімір АЛЯХНОВІЧ



# • БУДЗЕЦЕ ЖЫЦЬ, БУСЛЫ!

Апавяданне

Мал. Ю. Архіпава

Гэта быў высокі дуб, вельмі высокі. Здалёк ён нагадваў чалавека-волата, які ўладна пануе над шырокім прасцягам прысадзістага алешніку. Падабенству гэтаму памагае вялікае буслінае гняздо, насунутае, як чорны берэт, на самую вяршаліну дуба.

Прыкрыўшы ад сонца далонямі вочы, мы доўга і ўважліва разглядаем велічэзны дуб.

Мы — гэта Васіль, Наташа і я. Усе трое — разведвальнікі балот. З гадзіну назад нас прывёз сюды зялёны экспедыцыйны газік. Паспешліва раскінуўшы палатку, мы рушылі аглядаць мясцовасць. Заўтра нам давядзецца ісці праз гэты хмызняк, наносіць яго на карты, вымяраць глыбіню тарфянікаў...

Больш за ўсіх хвалююся я. Гэта мая першая паездка, пачатак экспедыцыйнага жыцця. Васіль і Наташа — зусім іншае. Яны, муж і жонка, ужо каторы год працуюць даследчыкамі. На тых балотах, дзе прайшлі яны некалі з рукзакамі за плячыма, ужо здымаюць ураджай.

Мы з Наташай стаім ля Васіля: ён пазірае ў бінокль. І чамусьці ўжо каторую хвіліну маўчыць. Наташа не вытрывала, адышла да лапінкі ліловых кветак і апусцілася на кукішкі. Я таксама, не трацячы часу, ссек бярозку таўшчынёй з руку і па колцах зрэзу спрабую вызначыць яе ўзрост. І тут неяк раптоўна пачуў усхваляваны Васілёў голас:

— Наташа! Паглядзі сюды! Ды гэта ж нашы буслы!

Наташа таропка падбегла да Васіля і, выхапіўшы ў яго бінокль, прыставіла да вачэй. Рукі яе ледзь прыкметна дрыжалі, і здаецца, ёй усё не ўдавалася навесці бінокль на буслінае гняздо.

— Праўда, гэта яны,— шэпча Наташа.— Вунь плямінка на шыі...

Мне было незразумела, чаму гэтыя на выгляд звычайныя птушкі так узнепакоілі маіх сябрукоў. Ці мала на свеце буслоў, асабліва на Палессі?! Даследчык страчае буслоў на кожным кроку, ды і не толькі белых, нават чорных. А Васіль і Наташа перадавалі адно аднаму бінокль, разглядвалі птушак і цешыліся, як дзеці.

Падышоўшы да Васіля, я ўзяў яго за руку, настойліва папрасіў:

— Скажы ж, нарэшце, у чым справа?

Васіль аддаў Наташы бінокль, правёў далонню па сваім спацелым ілбе і, усміхаючыся мне, сказаў:

— Ну і штучкі бываюць, браце, на свеце.





— Дык раскажы.

Васіль апусціўся на шырокі пень, дастаў «Беламор» і стаў марудна прыкурваць. Зацягнуўшыся дымам, ён спытаў у мяне:

— Ты, Саша, не думаеш, што мы, людзі, здорава падобны на буслоў?

Я з гэтым не згадзіўся. Хаця танклявы, цыбаты Васіль, адзеты ў выпалены сонцам рабочы касцюм, наводзіў на жартоўную думку, што ён для таго і нарадзіўся, каб хадзіць па балотах.

— А от быў час,— казаў далей Васіль,— калі я бачыў гэтае падабенства шмат у чым. І гэта гняло мяне.

— Прычым тут буслы? — здзівіўся я.

— Зараз даведаешся,— супакоіў мяне Васіль.

Ён зноў зірнуў на вяршаліну дуба, зацягнуўся папяросай і хрыплаватым ад дыму голасам загаварыў:

— Здарылася гэта на Ціне. Ёсць такая рэчка ў Белавежскай пушчы. Ціна была месцам першай нашай экспедыцыі, туды мы прыехалі з Наташай адразу пасля інстытута.

Умовы для работы на Ціне, як высветлілася, былі складаныя. На некалькі дзесяткаў вёрст вакол не было ніводнай вёскі — скрозь адны толькі балоты, парослыя дробналессем.

Палатку мы паставілі пад высокім дрэвам, падобным на гэты дуб. Дрэва было відно на вялікай адлегласці, і мы лёгка знаходзілі сваю стаянку. І распарадак дня ў нас з буслами быў амаль аднолькавы. На досвітку ішлі на Ціну і доўга боўталіся ў вадзе з вымяральнымі інструментамі. А паблізу хадзілі буслы, ловячы жаб і іншую драбязу. Вечарамі мы часта сядзелі з Наташай ля палаткі, а потым засыналі пад клёкат буслоў.



Прызнацца, мяне такое нашае суседства не радавала. Я шкадаваў, што мы сталі даследчыкамі, а не паехалі куды-небудзь на будаўніцтва электрастанцыі. Там, як-ніяк, жылі б сярод людзей. А то... буслы!

Але, прыглядзеўшыся да гэтых птушак, мы хутка пасябравалі з імі. І калі пакідалі Ціну, закончыўшы ўсе работы, у нас

было такое адчуванне, быццам мы разлучаемся са шчырымі сябрамі.

На Ціне давялося нам зноў пабываць выпадкова праз гады тры. На месцы былых багністых берагоў каласіліся палеткі. Дрэва, пад якім некалі была наша палатка, стаяла ў цэнтры прыгожага пасёлка...

А дзе ж буслы? Гняздо было на месцы, толькі выглядала не жылым, хоць была і сярэдзіна лета. Зразумела — буслы адцураліся. На асушаным балоце буслам не было спажывы.

Васіль змоўк. Бліскучымі, як здалося мне, сумнымі вачыма ён доўга пазіраў на вяршаліну дуба-волата.

— Дык от, гэтыя самыя буслы перабраліся сюды з Ціны.

Падышла Наташа. У адной руцэ яна трымала бінокль, у другой — букет фіялак.

Васіль, усё яшчэ пазіраючы на буслінае гняздо, старанна камячыў пальцамі папяросу. Наташа апусцілася на край пня і, абхапіўшы рукамі калені, знерухомела ў маўчанні. Па ўсім было відаць, што і яна думае пра буслоў.

Нарэшце Васіль устаў, перакінуў цераз плячо бінокль, сказаў:

— Ну, што ж... Хопіць сядзець без работы.

Я таксама ўстаў. Наташа ўсё яшчэ сядзела. Ціхая, нерухомая, з букецікам бледных вясновых кветак.

Васіль падышоў да яе, апусціўся на кукішкі і спытаў:

— Што з табой?

Яна паволі падняла павекі. Здавалася, што з вачэй вось-вось пакоцяцца слёзы.

— Гэта нядобра, вельмі нядобра — праганяць буслоў са сваіх гнёздаў! — жаласліва сказала яна.

Васіль задумаўся. Седзячы ўсё яшчэ на кукішках, ён пазіраў перад сабой кудысьці ў далячынь. Было відаць, што нялёгка і яму.

Вось ён падняўся і, стараючыся ўсміхацца, сказаў:

— Не бядуй, Наташачка. Паслухай, што я скажу. Тут, дзе цяпер мы — будзе пасёлак. Гэта самае высокае сонечнае месца. А там (Васіль паказаў на дуб) забуяюць жыты. Інакш быць не можа! У гэтай западзіне — самая ўрадлівая глеба.

Васіль уздыхнуў на поўныя грудзі, прыжмурыўся на лес, што сінеў на тым баку балота:

— Там, перад самым лесам, усю пойму ракі Усы мы пакінем пад паплавы. Туды і перасяляцца буслы, там яны будуць жыць пад аховай чалавека.

Яшчэ доўга гаварыў Васіль. І ў маім уяўленні ва ўсёй сваёй прыгажосці паўстаў цудоўны куток — буслiная калонія.

Відаць, і Наташу захапілі Васілёвы планы. Твар яе пасвятлеў, вочы ажывіліся.

Я зірнуў на дрэва. У гняздзе цяпер быў усяго адзін птах. Другі, плаўна ўзмахваючы крыламі, набіраў вышыню.

◆ ◆ ◆



**Юрка ГОЛУБ**



# КРЫЛАТЫЯ ПРОЗВІШЧЫ

Крылатае бацькава прозвішча —
Найлепшая спадчына сыну.
Я ў калысцы ляжаў яшчэ
І лапатаў крылом галубіным.

Туды, дзе грымоты з віскатам
Шлёгаюць злосна па хмарах,
Не ўзняліся дзяды мае высака,
Як Чайка або Гагарын.

Панства шалёна гыркала:
«Крылы абрэжам птахам!»
Нянавісць людская чыркала
Запалкай па панскіх дахах.

Нянавісць бацькі данеслі
Да муроў Брандэнбургскай брамы,
Ратаяў, кавалёў і цесляў
Назвалі тады арламі.

Нам далоняў жыццё не песціць,
Па крылах маланкай хвошча.
Абганяюць і час, і песню
Людзі з крылатымі прозвішчамі.

# ВЕТРАКІ

Ім крылы бязлітасна мялі
У жорнах віхураў вякі.
На ўзгорках ізноў уставалі
Уздоўж ссівелых дарог ветракі.

Уставалі, каб зноўку жорнамі
Церці скруху і хлеб, і боль...
У муку, у мяхі няспорныя
З вачэй удовы гублялі соль.

Сны атульваюць ласкай галовы.
Сняць бабулі той пах мукі.
Ля дарог, нацягнуўшы шаломы,
Парахнеюць дзяды-ветракі.

І ў неба ўсю ноч да ранку
Старэчай звычкаю з-пад рукі
Услед імклівым ракетам-маланкам
З тугою глядзяць ветракі...

●

Мяне абнялі хвайнякі.
Загуменнямі крочым да хатаў.
Гадавалі вякі-леснікі
Маладняк на зямлі жвіраватай.

Яго не скрышыла сякера, агонь,
Пяруны не спалілі маланкай...
Маё сэрца дрыжыць — у сасны абалонь
Стогне ноччу да золкага ранку.

Гэта болі трывожацца ў сне.
Хвайнякі неспакойныя вечна...
Калі нягодай жыццё сцебане,
Яны прылашчаць мяне і палечаць.

Хвайнякі-землякі,
Стаіцё вы, расправіўшы плечы...
Сваё сэрца вазьму ў дзве рукі,
Каб прынесці на вашае веча.



Павел МІСЬКО

# ● СВАЯК



Апавяданне

— Усё, сыне... З заўтрашняга дня я ў адпачынку,— сказала мама, прыйшоўшы з работы і распранаючыся.

Я ледзь не крыкнуў «ура», як маленькі. Але стрымаўся, толькі абняў маму за плечы і ўсё глядзеў як яна лічыць, раскладвае на стале грошы. Без падарункаў да брата мама не хацела ехаць. Давялося ўзяць трохі і тых грошай, што адклалі мне на новае паліто. Меліся яго купіць пад восень, як пайду ў дзесяты клас. Першае ў маім жыцці мужчынскае паліто: да гэтага я насіў перашытыя з бацькавых.

Потым я дастаю пісьмо ад цёткі Зіны, і мы зноў перачытваем яго. Пісала пісьмы чамусьці толькі яна дый то зрэдку, а дзядзька Вася — яшчэ ні разу. Праўда, у апошнім прыпісаў пару радкоў — кажа, хопіць крыўдаваць, прыязджайце ў госці. «У нас возера пад бокам. Рыба — касякамі ходзіць! Будзем з табой, Ваня, на рыбалку ездзіць».

З-за гэтай рыбалкі, казала мама, я нават пахудзеў. Аж трызніць пачаў ёю. Ведама, вырас у горадзе, людскай вады ў вочы не бачыў.

Пасля вайны мы жылі некалькі гадоў у матчынага брата. Але я гэта дрэнна памятаю —малы быў. Потым выйшлі нелады, і мы пераехалі ў горад. Калі я падрос, то спрабаваў выпытаць, што тады здарылася. Але мама або адмоўчвалася, уздыхала, або казала: «Калі-небудзь усё ўведаеш». Я разумею, ёй непрыемна ўспамінаць пра тое. Буду маўчаць. Добра, што хоць праз дзесяць гадоў згадзілася з'ездзіць да дзядзькі Васі ў госці.

І вось ужо з чамаданам у руцэ я нецярпліва пахаджваю на двары. Мама панесла ключ да суседкі, каб зайшла тая калі вазоны паліць, і нешта доўга не ідзе. «От, скажы, жанчыны, ніколі яны не нагаворацца...» — думаю я, хоць да аўтобуса яшчэ добрая гадзіна часу. Урэшце дзверы бразгаюць, на лесвіцы чуваць нейкі ненатуральны смех.

— Дык праз тыдзень чакайце нас! — гаворыць мама ў прыцемак калідора і збягае па бетонных прыступках да мяне.

* * *

Дзядзькаў дом быў новы, не той, у якім мы калісь жылі. Квадратны, прысадзісты. Вароты і брамка — суцэльныя, дашчаныя. Я штурхаю брамку першы і не магу стрымаць усмешкі, я шчаслівы — прыехалі!

Мал. В. Шрамякова

— Ваня! — раптам спалохана крыкнула мама.

Ад хлеўчука моўчкі пёр на нас сабака-велікан. Мы порстка выскачылі назад за брамку. Перавёўшы дух, я зазірнуў у шчыліну. Вялізны сабака цікаваў за дзверцамі. «Гоў! Гоў!» — задумліва і нехаця гаўкнуў ён, нібы ў барабан бухнуў.

— Ю-юп! — пачуўся на двары жаночы голас.— Юпітэр, ты на каго там, дурненькі? А ну — марш у хлеў... Марш-марш...

Счакаўшы, мы асцярожна зайшлі ў двор. Жанчына ў жоўта-вяцістым халаце, прыгнуўшыся, вяла за шыю сабаку да хлеўчука. Вяла і ўсё гладзіла другою рукою па галаве, прыжмурваючыся, аглядалася ў наш бок.

— Дурненькі, дурненькі...

— Добры дзень, Зінаіда Міхайлаўна,— вітаецца мама.— Не пазнаяце?

Цётка Зіна войкае, кідае сабаку і бяжыць да нас. Пад барадою ў яе нібы наліта чаго — дрыжыць. Косы на галаве выкладзены каронай, вочы — як маленькія, празрыстыя парэчкі.

Мама і цётка Зіна цалуюцца.

— Ах-ах, і чаго б вам было не даць тэлеграму? Вася на машыне падкінуў бы!..— цётка паспела паміж пацалункамі і гаворкаю ўсхліпнуць. Добрая цётка Зіна... Мяне яна бярэ за шчокі, як малога, прыгінаецца і цмокае ў лоб. Гучна, на ўвесь двор. Я чырванею да слёз — цярпець не магу пацалункаў. І думаецца абы-што: «Рукі яна не памыла пасля сабакі...»

Як ішлі да ганка, цётка выказвала нам усялякую ўвагу, нават за чамадан хапалася — памагчы. І ўсё гаварыла:

— Мой Вася хутка з работы прыйдзе — сёння ж субота... Апошні год даслужвае... Я вам шчыра скажу: нядобра ў нас робіцца. Дальбог, нядобра! Мой Вася ў раёне не апошнім чалавекам стаў, унь колькі сілы кладзе, каб калгасы падняць, сельскую гаспадарку... Чаму б не пускаць заслужаных людзей на пенсію раней?



Цётка Зіна вадзіла нас па шматлікіх, застаўленых сервантамі, шафамі, сталамі, столікамі, мяккімі крэсламі пакоях...

— Свой дамок паставілі... От тут анучка, выцірайце ногі. Мой Вася так любіць ванну — рыбу ў ёй трымаем...

Прыкрывала нейкімі прасцірадламі крэслы, садзіла нас у іх і зноў расказвала пра дзядзьку Васю. Потым скардзілася, што цяперашнім светам цяжка збыць «масквіч» старой маркі, каб купіць новую машыну...

Пакуль прыйшоў дзядзька Вася, у мяне чамусьці разбалелася галава. Пэўна, здарожыўся.

Дзядзька Вася спадабаўся мне. Па-мужчынску проста падаў руку маме, потым мне. Мама, як падавала сваю, глядзела долу.

— Што гэта — падарунак? Не было чаго рабіць вам...— з дакорам прабурчаў дзядзька, а потым панюхаў рукаў прыгожага блакітнага світэра і ўжо больш задаволена дадаў: — Трохі пахне шэрсцю...

У мамы ўспыхнулі шчокі, як у дзяўчынкі. Гэты шарсцяны світэр з цяжкасцю знайшлі ў нейкім камісійным магазіне. Аддалі не то сорак, не то пяцьдзесят рублёў. Палову майго паліто.

— А мне вось што падаравалі...— цётка Зіна ахінала свае плечы пухкім і белым, як снег, шалікам.

— Шалікі-малікі... Давай лепш абедаць хутчэй! — дзядзька скінуў новы, зялянкавы кіцель і апрануў стары — з зашмальцаваным абкладным каўняром і вялікімі кішэнямі. Мусіць, гэта была яго любімая адзежына.

— А я думала, што сёння не паедзеш на возера... З людзьмі пасядзім...— замітусілася цётка Зіна.

— Паспеем нагаварыцца. Не бачыла, ніхто яшчэ не ехаў у той бок?

— Ніхто, ніхто...— паспешліва адказала цётка і пачала засцілаць абрусам стол.

— Чарвякоў, канечне, не накапала...— бурчэў дзядзька, наладкоўваючы рэчавы мяшок.

— Не паспела, Васечка...

Я зразумеў, што траплю на рыбалку ўжо сёння. Вось здорава! Ну і малайчына дзядзька Вася!.. Дастаю хутчэй сваю вуду, мамін падарунак. Дзядзька зірнуў на маё прыладдзе і аўтарытэтна заявіў:

— Рана табе гэтаю лавіць. Сваю дам. А пакуль абед, бяжы чарвякоў пашукай, бляшанкі пад хлявом недзе.

Потым мы абедалі на кухні, прыляпіўшыся да невялічкага століка. Навошта было так цясніцца, я не разумеў. У зале ж гэтак прасторна, ёсць вялікі круглы стол.

Юпітэр, выпушчаны з хлеўчука, сядзеў побач з цёткай. Сам на падлозе, а галава ўпоравень з талеркамі. Я цікаваў, возьме ён што са стала ці не. Цётка Зіна нюхала кавалкі рыбы і кідала сабаку. Той гулка хламкаў пашчай. Дзядзька Вася еў, спяшаючыся. Твар яго стаў барвовы, адно толькі бялелі ямачкі ад воспы.

Як выйшлі на двор, дзядзька пакідаў у машыну гумавыя боты, фуфайку, рэчавы мяшок, пусты лубяны кош, яшчэ нейкія скруткі і скрынкі з дном-рэшатам, наўкось машыны засунуў цэлы сноп вудаў і загадаў лезці мне на задняе сядзенне. Я ледзьве ўціснуўся туды.

Нарэшце ўсё. Дзядзька націскае на старцёр...
— Васіль Дзям'янавіч, а юшку будзем варыць? — пытаюся я.
— Будзем! — нехаця адказвае ён.
— А ў чым варыць — не забылі?
— Там возьмем, на хутары...
Усю дарогу да возера — кіламетраў сорак — дзядзька гаварыў пра адно: ці ўдасца сёння прыехаць раней ад іншых. Чорт бы іх пабраў, нагледзь добрую мясціну, прыкармі рыбу, дык наляцяць, як гайня... І ўсё муштраваў мяне, як сядзець, каб можна было яму ў люстэрку бачыць задняе акно, наглядаць за дарогай.
Перад маімі вачыма падскокваў угору-ўніз таўставаты і чырвоны дзядзькаў карак. Упоперак ён быў рассечан глыбокім раўкомскладкай.

* * *

Мы ляжым пад адной пярынай у нейкай старой будыніне, мусіць, у гумне.
Ад усяго перажытага за гэты дзень у мяне ўсё яшчэ кружыцца, пабольвае галава. Шчыміць, торгаецца рассечанае брыво.
Страхі ў гумне амаль не было, над намі цямнела лапінка саломы. Голыя чорныя кроквы і латы перапляталіся ўверсе. Зняможана трапяталі, нібы залатыя рыбкі, зоркі. Зрэдку ўверсе штосьці мільгалася, чуўся жалобны не то піск, не то енк...
— Што гэта? — шаптаў я дзядзьку.
— Кажаны... Спі.
Я сцішваўся, але было не да сну.
За сцяною гумна, на возеры, рабілася штосьці незвычайнае: траскатня, шчоўканне, фырканне, свіст... Нейкія птушкі ці звяры вухкалі жудасным голасам, стагналі, ускрыквалі, нібы іх рэжуць, няўкалі па-шчанячы...
— Дзядзька, а гэта хто?
— О, божа... Толькі пачну драмаць, а ён зноў свае тры капейкі. Ну — салаўі, сычы, чаплі! Якая там яшчэ трасца? — ён рэзка паварочваецца да мяне спіною, пацягнуўшы за сабой душную пярыну.
Я не пасмеў яго больш трывожыць. Не стаў папраўляць і коўдру. У вачч у стаяла сённяшняе...
Мы прыехалі на возера раней за ўсіх. Ледзь спыніўшы машыну на хутары, дзядзька стаў выкідваць рэчы, загадаў цягнуць усё на бераг, да лодак. Сам дастаў з-пад сядзення два адмысловыя замкі. Пакуль я цягаў манаткі, ён чапляў замкі на дзверцы машыны.
— Нарві ў кустах крапівы пабольш,— пачуў я новы загад. Азірнуўся: дзядзька шыбаваў да хаты, што стаяла насупраць гумна. У руках трымаў лубяны кош.
Я паспеў ужо добра напячы аб крапіву рукі, калі на сцежцы, што вяла ад хаты да возера, паказаліся дзядзька і гаспадар хутара — заораслы рыжым шчаціннем, высокі літовец. Незнаёмы нёс на плячы чатыры вяслы.
— Ты веславаць умееш? Плаваеш? — спытаў дзядзька.
— Слаба,— прызнаўся я.
— А, чорт... Прыйдзецца тады на адной... Забірай, Мікутайціс, два вяслы назад... Дадому, кажу, нясі вось гэтыя — разумееш? — пачаў ён нервова паказваць літоўцу. Мужчына кіўнуў, забраў лішнія вёслы і пайшоў назад.
Дзядзька гроб моцна, умела. Лодка ішла шпарка. Мне было спачатку страшнавата, і я сядзеў на карме, ашчаперыўшы рукамі барты. Потым асвойтаўся, зазірнуў у глыб: цёмна-зялёная вадзяная бездань дыхнула ў твар прахалодай. Падняў вочы: у далечыні, у сіняватай смузе расплываліся зарослыя лесам берагі. Вада каля таго берагу сляпіла нясцерпным бляскам, я баяўся нават дыхаць.
— Будзеш патрашыць рыбу і класці ў крапіву...— зноў загадаў дзядзька.— Вось табе нож і соль... І вудачка на жыўцоў...— ён падаў мне начынне і дубец з лёскай, паплаўком і кручком.
Лодку спынілі і развярнулі паўз бераг. Паблізу ляжала — у ваду галлём — ссечаная вярба (няйначай дзядзька пастараўся), за спіною былі зараснікі чароту. Па знаку дзядзькі я апусціў у ваду на вяроўцы камень-пудовік — якар. Скрынкі з дном-рэшатам дзядзька ўтапіў на вяроўках за бартом (гэта былі садкі для жыўцоў і большай рыбы).
Мы застылі над вудачкамі.
Я ўсё яшчэ тарочыў вочы на свой паплавок, як лодка захісталася. Дзядзька тарганўў вуду, зняў адну, а потым неўзабаве другую верхаводку.
— Каб вы падохлі...— вылаяўся ён шэптам, апускаючы здабычу ў садок для жыўцоў.
Чаго ён лаецца? Вунь у мяне дык нават і не думае паплавок варушыцца. Але што гэта?.. Паплавок раптам задрыжэў, нырнуў і пайшоў у бок. З гарачкі я так ірвануў вудзільна, што нешта бліснула ў паветры і гучна пляснула ў ваду ля самай лодкі.
— Разява,— сказаў дзядзька.— Такая плотачка была, такі жывец!
Потым я злавіў чырванапёрку. Кінуў яе ў лодку — хай падскоквае пакуль што — і стаў чапляць новую нажыўку. Убачыўшы гэта, дзядзька засіпеў, як праколатая шына:
— Патрашы! Ты мне ўсю рыбу разгоніш лопатам!
Хапаю свой улоў, у твар ляцяць пырскі смярдзючай, застаялай паміж шпангоўтамі вады. Бліскучая, слізкая рыбіна выпручваецца ў руках, зяпае ротам. Хапаю нож, заплюшчваю вочы...
І не магу. Мне робіцца нядобра ў грудзях. Адчуваю сябе, як рыба, выцягнутая з вады... У рот набягае горкая сліна...
— Хутчэй! — падганяе дзядзька і кідае мне адразу некалькі вялікаватых верхаводак.
Настаўляю нож, заплюшчваю вочы... Ух!..
— Выбірай якар, паставім жэрліцы і донныя вудачкі.
Нагінаюся за карму і маруджу: кружыцца галава, трымцяць рукі. Камень здаўся цяжкі-цяжкі...
У галлі паваленай вярбы дзядзька прыладжвае некалькі спінінгаў і донных вудачак. Развозім па возеры канцы лёсак, пускаем гуляць начэпленых жыўцоў. Дзядзька павучае:
— Ты прыехаў на работу — разумееш? Дык і працуй, каб спіна была мокрая!.. Будзеш сачыць і за гэтымі паплаўкамі, мо шчупак схопіць.
Вярнуліся на старое месца ў затоку.
Прыпарвала нясцерпна, і рыба вар'яцела. Не паспее паплавок дакрануцца паверхні, як адразу штопарам ідзе ў глыб. Але больш лавіць не прыйшлося. Дзядзька асядлаў нос лодкі і няспынна, як дырыжор у аркестры, размахваў рукамі. На міг ён азіраўся, прыцінаў мяне чырвонымі, нібы ашалелымі, вачыма і хрыпеў:
— Патрашы, няўклюда! І гэту патрашы! А тую — у садок!
І зноў узмахваў вудзільнамі.

Кроў... Брудныя вантробы. Шчопаць солі ў нутро — і ў сумку з крапівой пад кармавое сядзенне.

Нудзіць. Падкочвае пад самае горла. Кручу галавою сюд-туд: дзе ж паплаўкі тых жэрліц, што паставілі на шчупакоў?

Кроў... Соль... На дзядзькавай патыліцы драпежна ўхмыляецца рот: «Патрашы-ы...» У скронях стукае молатамі, потым працінае, нібы токам,— бум-м!

Лячу недзе ў чорны, бяздонны нябыт.

...Мне здалося, што ў брыво ўпілося, як п'яўка, сонца. Расплюшчваю вочы. Пад мяне падкладзен дзядзькаў мяшок, галава на сядзенні. Нада мною дзядзькаў твар — распараны, нібы ў лазні.

— Стыляга няшчасны! Гэта табе не па праспекце без шапкі разгульваць, будзеш знаць, што такое сонца...— дзядзька выкідвае за борт ватку, затыкае бутэлечку з ёдам.— З-за цябе такога шчупака ўпусціў... Лёску абарваў — здаровы, гад... Самую лепшую лёску,— не можа супакоіцца дзядзька.

На возеры клёкат дажджу, хмарка невялікая, светлая. Па твары прыемна б'юць вялізныя, халодныя кроплі. Мне зусім не шкада ні шчупака, ні лёскі. Я па горла сыты рыбалкай. Я прашуся на бераг. І дзядзька з задавальненнем высаджвае мяне.

Я ішоў паўз возера і хістаўся, як п'яны. Возера ад дажджу кіпела, дымілася...

Потым зноў зырка свяціла сонца. Я купаўся і доўга нерухома сядзеў у адных трусах на беразе.

Сцямнела недзе каля адзінаццаці. І толькі тады прысунуўся да берагу цёмны сілуэт дзядзькавай лодкі.

Вячэралі сухама, залезшы ў «масквіч». Дзядзька перад гэтым раскатурхаў і прывёў з хаты хутараніна і ўсё соваў яму ў непаслухмяныя пальцы то пластмасавую шклянку з гарэлкай, то варанае яйка ці кавалак кілбасы. Гаспадар жаваў вяла, куляў чаркі лянiва, маўчаў і ўсё ківаў галавою.

— Дык ты заўтра, Мікутайціс, не забудзься прыгатаваць к абеду тое, пра што дамовіліся... Зразумеў?

Хутаранін матляў галавою...

І вось ужо каторая пара, а я не магу заснуць. Дзядзька пасвіствае носам.

Паціху ўстаю і адзяюся, выходжу на двор. Пад сцяною гумна сухая, абкораная калода. Саджуся на яе і слухаю ноч.

Недзе лапоча асіна, густа шамаціць на возеры чарот. Адтуль нясуцца цяжкія ўсплёскі — не даюць падрамаць рыбам ненажэрныя шчупакі. Не змаўкаюць і птушыныя галасы. Над усімі гукамі пануе салаўіны спеў.

* * *

—О, ранняя птушка...— Я ўздрыгнуў ад дзядзькавага голасу.— Гэта добра. Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць...

Дзядзька выйшаў з чорнага правалу дзвярэй і некалькі разоў прысеў, выстаўляючы ўперад рукі.

— Нарві сёння крапівы пабольш, у сумкі напхай,— ён подбежкам стаў насіць рэчы да лодкі. Толькі цяпер я заўважыў, што ён горбіцца і касалапа, медзведзявата ставіць ногі.

Ірваў я крапіву, сціснуўшы зубы. Адшпіліў сумку — і адхіснуўся: у твар тхнула душна, саладкавата. Адразу заняло пад грудзьмі, успомнілася ўчарашняе. Калі цяпер ужо рыба такая, то што





будзе з ёю, пакуль дабяромся дадому? Я стаў выкідваць меншых плотак і верхаводак.

— Ты што — звар'яцеў? — дзядзька вырваў з маіх рук сумку і стаў падбіраць рыбу.— Вынюхвае нешта, вынюхвае... Гэта ж табе не ў магазіне ў сталіцы. Сам бачыў, якое сонца было... Лезь у лодку!

— Я сёння буду на другой лавіць,— нечакана вырвалася ў мяне.

— На другой? — здзівіўся дзядзька.— Гм... Калі ласка, лаві адзін! — Ён зняў з учарашняй лодкі вёслы і перакінуў іх у другую, а сам пайшоў на хутр па новыя.

Я хуценька адшукаў у кучы вудак сваю ўчарашнюю, узяў бляшанку з чарвякамі і адштурхнуў ад барагу лодку.

Хутчэй бы ад'ехаць далей...

Расхінаю рукамі чарацінкі, ад'язджаю далей у зараснік. З чароту тырчыць толькі карма. Я прымасціўся на ёй і з палёгкай уздыхнуў: дзядзькі адсюль не было відаць.

Скора я забыў пра вуду. Глядзеў толькі на возера.

...Дзядзька ішоў на абед цяжка нагружаны, я — улегцы. За паўдня я злавіў тры ці чатыры рыбіны. Але настрой у мяне быў выдатны. Ляжаў на мураўцы ля гумна і дыхаў на поўныя грудзі. Бачыў, як гаспадар хутара вынес дзядзькаў лубяны кош, абвязаны марляю, і штосьці важкае, загорнутае ў белы кавалак тканіны. Дзядзька паляпаў літоўца па плячы. Узяў з рук скрутак, нібы ўзважыў яго і сказаў:

— А ў нас цяляціны нідзе не дастанеш. Увесь маладняк у калгаснікаў закантрактоўваем, разумееш? Калгасы потым забіраюць для дагадоўвання. Трэба ж планы выконваць!

Дзядзька адлічыў Мікутайцісу грошы, і той паслужліва занёс скрутак і кош у машыну. Пра кош дзядзька сам сказаў:

— Ты, хіба, Ваня, трымай гэтую штуку ў руках, а то яечні наробім.

Я змаўчаў.

* * *

...Вароты адчыніла цётка Зіна. Не паспелі спыніцца, як яна тузанула дзверцы машыны і спрытна выхапіла з-за маёй спіны цялячы сцягняк. Кош я сам хутчэй сунуў ёй у рукі. І пайшоў да мамы.

Яна стаяла ля ганка. Сумная, сумная... І глядзела толькі на мяне. Яна бачыла толькі аднаго мяне! Бедная мама... Які я дурань! Хіба ж можна было пакідаць тут адну на цэлыя суткі? Уяўляю, як цётка задурыла ёй галаву!

Я вінавата, моўчкі гляджу на родны, прыгожы твар, крыху загарэлы. Хочацца, як у дзяцінстве, прытуліцца, прылашчыцца да яе. Але мне чамусьці сорамна. Можа ад таго, што я ўжо такі вялікі, дурны бэйбус, а можа таму, што за спіною завіхаюцца ля машыны дзядзька з цёткай і, канечне, глядзяць на нас. Маме таксама хочацца абняць мяне. Але яна толькі зняла з майго пляча хваёвую іголку, папраўіла каўнер кашулі і спытала:

— Табе добра там было?

Я агакнуў. Не буду ж цяпер расказваць пра ўсё!

— Ой, як ты абсмаліўся на сонцы! І нібы пасталеў...

Я толькі ўздыхнуў.

Мы пайшлі аглядаць горад, вярнуліся пад вечар. Жывая рыба



была ўжо выпушчана ў ванну, а астатняя перасмажана. Запрасілі нас да стала. На рыбу я нават не глядзеў. Цётка Зіна паднесла да рота кавалак, паморшчылася і раптам кінула яго Юпітэру.

Дзядзька нядобра зірнуў на жонку, і тая змоўкла. Схіліўшыся над талеркай, дзядзька старанна цмокаў і пляваўся косткамі. У яго, мабыць, ніколі не псаваўся апетыт.

— Ну, дык ты знайшла там якога хахаля ці не? — урэшце азваўся ён да мамы.

Мама заірдзелася, як вішня:

— Трэба яны мне...

— Дурніца... Такога чалавека тады сватаў, такога чалавека!

— Але, мая родная... Жыве за тым удаўцом-начальнікам адна дзеўка і гора не ведае,— уставіла цётка.

— Кіньце вы пра гэта гаварыць,— просіць мама.

Памаўчалі. Потым дзядзька зноў спытаў:

— Пенсію за свайго лейтэнанта яшчэ атрымліваеш?

— Пакуль Ваня школу не кончыць, буду палучаць,— неахвотна адказала мама.

Якая ім справа да таго, што мама не пайшла другі раз замуж? Дый бацька мне другі непатрэбны. Мой тата — афіцэр, загінуў у Берліне ў сорак пятым. А праз тры месяцы я нарадзіўся...

Як доўга, нясцерпна цягнулася вячэра!..

* * *

На другі дзень мы паехалі.

Больш я ніколі не пытаў у мамы, што за нелады выйшлі калісь у яе з братам, чаму мы перабраліся ў Мінск. Не прасіўся ўжо да дзядзькі і ў госці...

◆ ◆ ◆

*Да шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння*



Муса ДЖАЛІЛЬ

●

## КАТУ

Перад табою, кат, не буду гнуць я спіну,
Не стану ўкленчыўшы, хоць я ў тваёй турме.
Хай я памру. Але я, стоячы, загіну,
Хоць галаву сякерай адсячы ты мне.

Шкадую толькі, што такіх, як ты, стварэнняў
Не тысячу, а сто забіў рукой сваёй.
За гэта буду сам прасіць я прабачэння
У радзімы, стаўшы на калені перад ёй.

Лістапад, 1943.

## ДА ДЗВІНЫ

Дзвіна! Дзе сілы ўзяць?.. Я быў бы рад,
Каб плынь тваю мог павярнуць назад,
Каб я, абняты хваляю тваёй,
Аднесен да радзімы быў сваёй.

Заўжды пад буры грознае выццё
Плячом рассоўваў хмары я з нябёс.
Нашто ў няволі марнаваць жыццё?
Ці вынесу такі ганебны лёс?



О, калі б я не толькі плынь тваю —
Мог павярнуць жыццё сваё ў баю,—
Я б без хістання павярнуў яго,
Каб зноў спяваць для краю мне свайго.

Не! Там бы я не толькі песні пеў.
Не! Я плыўцом адважным быў бы там.
Я там бы цяжкасці перацярпеў
І сэрца й розум свой аддаў людзям.

Была б на бацькаўшчыне лёгкай смерць:
Як маці, абняла б зямля свая,
І песня паднялася б нада мной
І засталася б помнікам стаяць.

Мая душа не мірыцца з ярмом.
Адно толькі гняце мне галаву:
«Вазьмі мяне, нясі мяне, Дзвіна,
У абдымках хваль дамоў я прыплыву!..»

Магчыма, суцяшэнне я знайду...
А ў землякоў не выклікаю страх,
Бо зразумеюць там любоў маю,
Калі пабачаць вернуты мой прах...

Дзвіна, Дзвіна! О, як бы быў я рад,
Каб плынь тваю мог павярнуць назад, —
Прынесла б на радзіму ты маю
Мяне і песню вольную маю.

Кастрычнік, 1943.

Пераклад Міколы АЎРАМЧЫКА.

## ПЯСНЯР МУЖНАГА ЗМАГАННЯ

Летась мы адзначылі дваццацігоддзе нашай перамогі над фашызмам. А ў нашым уяўленні па-ранейшаму застаецца маладым адзін з легендарных герояў ваеннай пары, вядомы татарскі паэт Муса Джаліль. Можа таму і не верыцца, што цяпер споўнілася б шэсцьдзесят гадоў гэтаму бясстрашнаму чалавеку і палымянаму песняру.

Гісторыя не ведала яшчэ паэта, чые творы з такой імгненнай хуткасцю абляцелі б увесь свет. У 1953 годзе мы ўпершыню прачыталі ў друку некалькі вершаў з «Маабіцкага сшытка» Мусы Джаліля. А неўзабаве гэты сшытак чыталі на сваёй мове ўкраінцы і англічане, узбекі і палякі, латышы і французы, грузіны і немцы, малдаване і кітайцы.

Але не адразу імя татарскага паэта стала вядомым усяму свету. Некалькі гадоў радзіма нічога не ведала пра лёс свайго сына. Старшы палітрук Муса Джаліль прапаў без вестак на Волхаўскім фронце, дзе загінулі гераічнай смерцю многія байцы нашай арміі, дзе часова прапаў без вестак яе генерал, які, баючыся адказнасці за гэтае паражэнне, здрадніцкім учынкам зганьбіў і зняславіў жывых і мёртвых сваіх былых

салдат і афіцэраў. Многія з тых, што пасля ўваскрэслі з мёртвых, звычайна не хочуць на людзях называць уголас прозвішча свайго былога генерала. Але затое, мабыць, многія з іх у думках шкадуюць, чаму не ў іх падраздзяленні быў старшым палітруком Муса Джаліль.

Увесну 1945 года прыйшлі на радзіму першыя весткі пра Джаліля. Пры штурме Берліна савецкія салдаты знайшлі ў Маабіцкай турме выдраны з нейкай кнігі ліст з запісам паэта. Гэты ліст быў адасланы ў Маскву. З запісу стала вядома, што цяжка паранены Джаліль трапіў у палон, змагаўся ў няволі з фашыстамі і быў кінуты імі ў турму, дзе чакаў смяротнага прысуду.

У першыя пасляваенныя гады ў Саюз пісьменнікаў Татарыі адзін за адным былі перасланы два невялічкія самаробныя блакноты з вершамі паэта. Першы блакнот перадаў былы ваеннапалонны, што вярнуўся на радзіму, а другі — пераслаў бельгійскі антыфашыст Андрэ Цімерманс, які сядзеў разам з Джалілем у камеры Маабіцкай турмы.

Можа і не даведаліся б мы пра лёс Мусы Джаліля, калі б не яго вершы:

Быццам з казкі клубок чароўны,
Песні — на ўсім маім пуці...
Ідзіце па следу да самай апошняй,
Калі пажадаеце мяне знайсці!

Паступова разматваўся гэты клубок песень і разблытвалася сплячэнне дарог, на якіх паэт доўга пакутаваў у далечыні ад радзімы. Людзі, якія хацелі адшукаць М. Джаліля і даведацца пра яго лёс, прыйшлі па слядах паэта не толькі да яго самай апошняй песні, але і да апошніх дзён яго жыцця.

На этапных дарогах тых, хто ўлетку 1942 года прапаў без вестак на Волхаўскім фронце, часовымі прыпынкамі былі наспех зробленыя пад адкрытым небам загародкі на ўскраінах зруйнаванага Ноўгарада, густа аблытаныя калючым дротам аракчэеўскія казармы Мядзведзя і кавалерыйскія стайні Пскова. Напэўна, і іх не абмінула пакутная дарога Мусы Джаліля. Праўда, у сваіх вершах ён не называе лагераў. Але калі я чытаю верш «Да Дзвіны», у якім паэту хочацца павярнуць назад рачную плынь, каб яна аднесла яго прах на радзіму, дык перада мной зноў паўстаюць свінцовыя хвалі гэтай ракі, што коцяцца з роднага краю, прыгадваецца пакручастая дарога перад страшным лагерам смерці сярод сыпучага пяску, дзе, як свежазарубцаваныя шрамы, цягнуцца даўжэзныя насыпы равоў з дзесяткамі тысяч пахаваных ваеннапалонных.

Мне чамусьці здаецца, што менавіта ў дзвінскім лагеры Муса Джаліль напісаў свой верш.

Жорстка з мяне пасмяяўся лёс:
Смерць абышла — міма чорт пранёс.
Апошні міг — і стрэлу няма!
Здрадзіў пісталет
недарма...

са шкадаваннем прызнаецца паэт Радзіме, якая страціла свайго сына. У няволі аб ёй былі ўсе яго думы і мары. Ён просіць у Радзімы прабачэння то за тое, што «не загінуў смерцю салдата ў гарачым баі», то за тое, што ў змаганні паспеў знішчыць не тысячу, а ўсяго толькі сотню катаў.

Не толькі таго, хто пакутаваў у няволі на чужыне, сумуючы па родным краі, але і кожнага да глыбіні душы кране сваёй шчырасцю і задушэўнасцю размова паэта з птушкай, якая спявае нявольнікам, седзячы на лагернай агароджы. Калі і паклікаць цябе, невядомая птушка, кажа паэт, ты не заляціш па добрай волі да нас. І не залятай! Як мы ў крыві згараем тут, ты бачыш раніцой. Але спявай нам, спявай, хаця б цераз агароджу. Нават і гэта для нас радасць... Ды толькі скажы, ці не ў апошні раз ты прылятаеш да мяне? Калі гэта так, дык ляці на Радзіму...



Па песні ранняй і па крыллях-стрэлах
Цябе пазнаюць лёгка людзі там
І скажуць:
«Нават перад смерцю пеў ён,
І песню гэтую паслаў ён нам».

«Маабіцкі сшытак» Мусы Джаліля быў яго апошняй песняй, якая гучыць сёння як песня мужнасці і змагання. Вершы гэтага сшытка надзвычай разнастайныя па сваёй тэматыцы, жанрах і стылю. Тут і філасофскі роздум, і рамантычная балада, і драматычныя замалёўкі, і гумарыстычныя сцэнкі.

У няволі паэт смяяўся з бяссілля смерці, заставаўся верным сынам сваёй Радзімы і не стаў на калені перад катамі. Вось як апісвае ён дзень фашысцкага суда над сваімі сябрамі:

Сонца захавалася ў аблокі:
Не да твару сонцу ганьбы суд.

І не росамі трава абмылася,
А слязамі горкімі зямлі...

Холадна. Нагамі на дарозе
Адчуваем цеплыню зямлі.

За сыноў маці-зямля ў трывозе,
Дыша цяжка, грэе мазалі.

Не бядуй, зямля — не задрыжым мы,
Покуль на сабе ты носіш нас...

Людзі, якія сустракалі Мусу Джаліля ў канцэнтрацыйных лагерах Прыбалтыкі і Польшчы, у турмах фашысцкай Германіі, расказваюць, што паэт сапраўды не задрыжаў перад катамі, пакуль яго насіла зямля. У жніўні 1944 года за агітацыю і актыўны ўдзел у антыфашысцкай арганізацыі ён быў пакараны смерцю.

Так загінуў мала вядомы старшы палітрук Савецкай Арміі і нарадзіўся вядомы ўсяму свету Герой Савецкага Саюза, першы з лаўрэатаў Ленінскай прэміі Муса Джаліль.

Спраўдзіліся прарочыя словы паэта:

Песняй ў народзе жыццё прагучала,
Смерць будзе песняй змагання гучаць.

**Мікола Аўрамчык.**

◆ ◆ ◆

# ЗА ЎЛАДУ САВЕТАЎ

**Фоталетапіс**

Адгрымелі гістарычныя залпы «Аўроры», што абвясцілі пра нараджэнне першай у свеце Савецкай дзяржавы, і на парадак дня было пастаўлена змаганне за заваёвы Кастрычніка. На Савецкую Расію рынуліся азвярэлыя інтэрвенты з захаду і ўсходу, яе спрабавалі падарваць знутры контррэвалюцыйныя банды мяцежнікаў. Маладая рэспубліка Саветаў згуртоўвала сілы рэвалюцыі, каб адкінуць прэч інтэрвентаў, ліквідаваць рэшткі белагвардзейшчыны.

У бой за ўладу Саветаў ішлі рабочыя, сяляне, байцы маладой Чырвонай Арміі. А наперадзе, як і ў Кастрычніку 1917 года, крочылі камуністы.

Фотаархівы даносяць да нас суровы подых легендарных бітваў грамадзянскай вайны. Тут публікуюцца здымкі, што захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага гістарычнага музея БССР.

Група партыйных работнікаў Віцебшчыны перад адпраўкай на Паўночны фронт, на змаганне з белагвардзейцамі і інтэрвентамі. Сярод іх Іван Сцяпанавіч Крывенка (другі справа) — член Віцебскага губвыканкома і губчака.







Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі — відны дзеяч Камуністычнай партыі. Родам з в. Студзянец на Магілёўшчыне. У 1917 годзе кіраваў бальшавіцкай арганізацыяй у Оршы, пазней наладжваў работу Саветаў у Беларусі.



Іван Філарэтавіч Шубін нарадзіўся ў 1881 годзе ў г. Вілейцы. У 1917 годзе ўступіў у партыю бальшавікоў і быў актыўным барацьбітом за ўладу Саветаў — арганізоўваў партызанскія атрады на Украіне, камандаваў чырвонагвардзейскім атрадам, потым кавалерыйскімі палкамі і брыгадай чырвонай конніцы на Заходнім фронце, калі ішло змаганне за вызваленне Беларусі.

Іван Мікалаевіч Хабараў камандаваў 240 палком 27 стралковай Омскай дывізіі, якая вызваляла ў 1920 г. беларускую сталіцу ад белапольскіх акупантаў.



Міхаіл Іванавіч Ландарскі родам з Беларусі. У 1917 годзе ўступіў у партыю бальшавікоў, прымаў удзел ва ўзброеным паўстанні ў Петраградзе. Потым быў намеснікам камандзіра бронецягніка «Лейтэнант Шмідт», які зрабілі рабочыя-пуцілаўцы і ў якім яны накіраваліся на фронт. Цяпер М. Ландарскі жыве ў Маскве.





**Маладая Чырвоная Армія ў баях з інтэрвентамі здабывала сабе славу непераможнай. У 1919 годзе, у дзень першай гадавіны Чырвонай Арміі, па ўсёй краіне прайшлі мітынгі. Гэты здымак быў зроблен у г. Быхаве.**

**«Ад самай тайгі і да мораў брытанскіх Чырвоная Армія за ўсіх мацней»,— спявалі ў той час усе, хто адстойваў заваёвы Кастрычніка. У няроўных баях з узброеным да зубоў ворагам чырвоныя байцы і камандзіры пакрылі сябе неўміручай славай пераможцаў.**

# ЖЫВЫ, ХОЦЬ ДВОЙЧЫ ПАМІРАЎ



Ішоў студзень 1915 года. У крывавай бойні імперыялістычнай вайны штодзённа гінулі тысячы людзей. У адным з армейскіх шпіталяў Паўднёва-Заходняга фронту рускі ваенны ўрач прафесар Піваванскі заканчваў складаную аперацыю. На аперацыйным стале ляжаў дваццаціадовы салдат, на целе якога, здавалася, не было жывога месца. Восем гарматных асколкаў выцягнуў хірург, зашыў раны.

— Павінен выжыць,— сказаў ён, здымаючы пальчаткі. — Надзвычай здаровы арганізм.

Раненага паклалі ў палату.

Праз некалькі дзён пры абходзе прафесар убачыў, што ложак, на якім ляжаў гэты салдат, пусты.

— А дзе ранены? — спахмурнеўшы, запытаў Піваванскі.

— Ён памёр не апрытомнеўшы. Я загадаў вынесці памёршага ў морг, — адказаў дзяжурны ўрач.

Прафесар не паверыў. Прыйшоўшы ў морг, ён знайшоў цела салдата, і тут выявілася, што ў целе яшчэ цеплілася жыццё.

«Памёршага» вярнулі ў палату, але праз дзень яго зноў вынеслі ў морг (жыццё радавога салдата ў царскай арміі мала каго непакоіла). Аднак хірург і на гэты раз вярнуў яго і загадаў не чапаць раненага без яго ведама.

Двойчы прызнаны мёртвым, ранены салдат усё ж такі выжыў. Гэта быў Васіль Канстанцінавіч Блюхер.

І калі праз год са шпіталя выйшаў інвалід першай групы, унтэр-афіцэр, кавалер двух георгіеўскіх крыжоў, звolены з арміі, ніхто не мог і думаць, што праз кароткі час імя Блюхера стане вядома не толькі па ўсёй Расіі, але і за яе межамі.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя адкрыла перад ім новыя дарогі. Уступіўшы ў камуністычную партыю, Васіль Блюхер становіцца верным яе сынам, да канца адданым справе рэвалюцыі. Увосень 1917 года па даручэнню старшыні Самарскага рэвалюцыйнага камітэта В. У. Куйбышава ён узначальвае атрад у 500 чалавек і накіроўваецца вызваляць горад Чалябінск. Летам 1918 года пад яго кіраўніцтвам ужо цэлая армія — дзевяць палкоў паўднёваўральскіх партызан. Ён становіцца партызанскім галоўкомам. Пра гераічныя справы гэтай арміі і яе камандуючага дакладвалася на спецыяльным пасяджэнні Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, дзе абмяркоўвалася пытанне, каго з чырвоных камандзіраў узнагародзіць толькі што зацверджаным ордэнам Чырвонага Сцяга. Гэтым ордэнам за № 1 па адзінагалоснаму рашэнню членаў УЦВК быў узнагароджаны Васіль Канстанцінавіч Блюхер.

Так у агні грамадзянскай вайны развіваўся талент выдатнага военачальніка і палкаводца Чырвонай Арміі. Разгром Калчака, баі пад Каховкай, штурм Перакопа, узяцце Валачаеўкі і вызваленне Далёкага Усходу — вось этапы яго цяжкага і гераічнага шляху.

Цікава адзначыць, што няруское прозвішча гэтага палкаводца было прычынай розных меркаванняў і здагадак. Адны сцвярджалі, што Блюхер — гэта партыйная клічка, а яго сапраўднае прозвішча Мядзведзеў, другія даказвалі, што Блюхер — нямецкі генерал, які перайшоў на службу да бальшавікоў.

А на самай справе Васіль Канстанцінавіч быў сынам рускага селяніна-бедняка. Нарадзіўся ён у вёсцы Баршчынка Рыбінскага павету Яраслаўскай губерні. Калісьці самадур-памешчык даў свайму прыгоннаму клічку Блюхер па прозвішчу прускага маршала таго часу. Клічка пераходзіла з пакалення ў пакаленне, пакуль не стала прозвішчам. Дажыві гэты памешчык да 1935 года, калі Васілю Канстанцінавічу было прысвоена званне Маршала Чырвонай Арміі, ён, чаго добрага, ганарыўся б сваёй «празарлівасцю».

Трэба сказаць, што выдатны савецкі палкаводзец быў вядомы і пад прозвішчам генерал Галін. Пад гэтым прозвішчам ён удзельнічаў у барацьбе супраць кітайскіх мілітарыстаў на баку рэвалюцыйнага ўрада Кітая, які ўзначальваў Сунь Ят-сен. Генерал Галін кіраваў групай ваенных саветнікаў, якую наш урад паслаў па просьбе Сунь Ят-сена для аказання дапамогі ў стварэнні нацыянальна-рэвалюцыйнай арміі Кітая.

З 1924 па 1927 год Васіль Канстанцінавіч памагаў братняму кітайскаму народу. За гэты час поспехі новастворанай арміі рэвалюцыйнага Кітая сталі відавочнымі. Іншакраінныя імперыялісты адкрыта ўмяшаліся ў грамадзянскую вайну. Чан Кай-шы здрадзіў нацыянальна-вызваленчай барацьбе і перайшоў на бок імперыялістаў, парваўшы супрацоўніцтва з Камуністычнай партыяй. Савецкі ўрад быў вымушаны адклікаць сваіх ваенных саветнікаў. Але імя рускага генерала Галіна яшчэ вельмі доўга гучала ва ўсім Кітаі.

За ваенна-дыпламатычную дзейнасць у Кітаі В. К. Блюхер быў узнагароджаны чацвёртым ордэнам Чырвонага Сцяга.

Увесь астатні перыяд свайго жыцця Блюхер аддаў умацаванню ўсходніх граніц нашай дзяржавы. Ён камандаваў Асобай Чырвонасцяжнай Далёкаўсходняй арміяй.

Праслаўлены герой грамадзянскай вайны не раз даваў адпор японскім захопнікам. Баі ля возера Ханка ў 1936 годзе, ля возера Хасан у 1938 годзе надоўга адбілі ў ворагаў ахвоту выпрабоўваць надзейнасць савецкіх усходніх граніц.

У снежні 1937 года працоўныя Далёкага Усходу выбралі слаўнага маршала дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Многа песень і легенд складзена пра адважнага палкаводца. Да канца жыцця Васіль Канстанцінавіч Блюхер заставаўся верным камуністам-ленінцам. Памёр ён 9 лістапада 1938 года.

**Леанід БУЛАТ.**

# САМЫ МАЛОДШЫ

**З блакнота журналіста**

З Міхасём дамовіліся: той прыходзіць у пяць. Калі ўспомніш, што хутка падмена, становіцца крыху цяплей.

Вось і канец загону. Трактар шырокім шчытом прэ перад сабой бурую хвалю торфакрошкі, упарта ўзбіраецца на ўзгорак, так што ў пярэднім шкле бачны толькі нізкія снегавыя хмары.

Рукі спрактыкавана пераводзяць рычагі. Машына робіць паварот амаль на месцы і пачынае спаўзаць уніз.

Новы заход. Можна закурыць і нават палюбавацца наваколлем.

Дрэвы стаіліся. Вецер зрывае з іх апошняе счарнелае лісце. Ля ўзгорка торфакрошкі ганяюцца адзін за другім хлопцы. Шафёры грэюцца, пакуль іхнія машыны загрузяць. «Трэба дамовіцца з каторым, каб падкінуў дахаты», — рашае Саша.

Тарфяное балота кіламетраў з пяць ад Сашавых Беразуек, і каб дабрацца сюды альбо зноў дадому, ён выходзіць на ўзбочыну дарогі і чакае падарожную машыну. У калгасе цяпер аўтамабіляў можа болей за сотню, снуюць ва ўсіх напрамках, так што даехаць у вёску не праблема. Іншая справа — раніцай на работу. Бывае, даводзіцца і пешшу.

На адзіноце многа аб чым думаецца. Ніхто не замінае. Побач толькі грукоча матор. І калі ён працуе ў звычайным рытме, дык і на яго перастаеш звяртаць увагу.

Яшчэ да арміі працаваў Саша ў часе школьных канікулаў прычэпшчыкам. Седзячы на плугах, пазіраў адтуль на кабіну трактара, і яна здавалася яму самым жаданым месцам на зямлі. Маці іншы раз кпіла з яго, што каб ён такназубок, як трактарныя дэталі, ведаў урокі, то быў бы выдатнікам. Не сказаць, каб Сашка дрэнна вучыўся, але якой маці не хочацца бачыць сына сярод лепшых.

Маці... Цяпер яна, напэўна, сядзіць недзе ля акна і ўглядаецца ў канец вуліцы — ці не ідзе сын. Хварэе маці. Старая ўжо. Ёй патрэбен догляд. Як ні кажы, а ў горадзе пакуль з гэтым лепш. Ужо тое, што з дровамі ў печы не трэба вазіцца — палёгка якая. Уключыў сабе газ — і гатова. У некаторых калгасах гэта ўжо ёсць. Прывозяць у балонах, звадкаваны. Нам бы вось таксама... Калгас багаты, маглі б зрабіць. Будзе агульны сход, трэба выступіць і сказаць. Ці хаця б спачатку ў камітэце камсамола. Шкада — не прывык выступаць. Неяк няёмка: быццам табе больш ад іншых трэба.



Пад вечар па кабіне зашархацеў сухі снег, перамешаны з торфакрошкай. Праз зацярушанае шкло не распазнаць, хто каля пагрузчыка махае шапкай. Але Саша здагадваецца: гэта Міхась. Прыйшоў на падмену.

Яны добра ведаюць адзін другога, хоць толькі з восені працуюць разам. Брыгадзір прызначыў на адзін трактар — рыхтаваць поле пад азімыя. Саша пасябраваў з Міхасём Фокіным.

Звычайна размаўляць доўга няма калі. Гаварылі больш аб справе: як трактар, ці ў парадку плугі. А то прытуляцца спінамі да разагрэтага радыятара, закураць і так стаяць колькі хвілін моўчкі. Пасля той, чыя чарга заступаць на змену, першы гасіць недакурак, гаворыць коратка:

— Ну, я паехаў.

І нейкая ў голасе асаблівая цеплыня.

***

Саша расчыняе дзверы рэзка. Нізам у хату з сенцаў перад ім коціцца шызы клубок марознага паветра.

— Ці не здарылася што? — маці ўглядаецца ў яго расчырванелы твар. — Позна ты нешта.

— Ды пакуль з Міхасём пагаварылі.

— Ну, то мый хутчэй рукі ды вячэрай. Мусіць жа, прагаладаўся.

Сын з асалодай плёхаецца ў цёплай вадзе, бярэ ручнік і, выціраючыся, ідзе да стала, дзе ўжо маці паспела паставіць страву.

— Пад такую закуску можна б і... — ён чмокае.

Варвара Сямёнаўна здзіўлена зірнула на сына — раней так не гаварыў, але адказала сур'ёзна:

— Ты ў мяне ўжо дарослы, сам ведаеш, што рабіць.

Саша засмяяўся.

— З холаду яно б, можа, і някепска, але ад гарэлкі тупее розум і цела становіцца лянотным.

Саша есць хутка, дзякуе і адразу да кніг: за дзень па іх засумаваў. Варвара Сямёнаўна выгаворвае:

— Ужо чытаць яму рупіць... Адпачнуў бы.

Саша адмахваецца:

— Потым, мама.



**Трактарыст Аляксандр Ціханенка... Разумны, начытаны. А што, калі яго выбраць групоргам?**

Яму ўсяго на пару дзён далі часопіс з нізкай новых вершаў Межалайціса, трэба спяшацца. Яшчэ Тамара ў камітэт прасіла зайсці.

На кнігах ляжыць пісьмо. Ён бярэ лісткі.

— З Сыктыўкара? Ад Фёдара і Марыі?

Варвара Сямёнаўна ківае:

— Ад іх. Зноў просяць, каб прыязджала. І табе работу знойдуць.

Саша чытае. Па яго твары нельга зразумець, як ён адносіцца да таго, што там напісана. Потым моўчкі кладзе лісткі ў канверт. Глядзіць у акно. Па шкле скрабецца белая крупка. Саша ўсміхаецца і накіроўваецца да парога. Паліто, шапка.

— Я, мама, у камітэт камсамола.

— Не баўся ж глядзі.

***

Вось ужо каторы месяц у вольную хвіліну Тамара дастае са стала сшытак і робіць кароткія запісы. Так амаль кожны дзень. Ад-




**Калі Тамару Мішчанка** (трэцяя справа) **выбралі сакратаром, першае, за што яна ўзялася, было — стварыць камсамольскія групы ў брыгадах.**

нага разу заўважылі гэта сяброўкі:

— Мусіць, раман пішаш, дзеўка?

І пацягнуліся да сшытка.

— А пра нас ёсць?

Яна нават спачатку разгубілася: заўсёды бывае ніякавата, калі хто староннi зазірае ў запісы, якія робяцца для сябе. Але ж ці для сябе толькі? Па шчырасці: Тамара думала калі-небудзь даць пачытаць членам камітэта свае нататкі, абмеркаваць іх сумесна, бо тое, што добра помніцца сёння, можа забыцца заўтра. А ёй здавалася важным зноў, праз каторы час, вярнуцца да былога і прааналізаваць яго. Тамара вядзе дзённік аб рабоце камсамольскіх груп у калгасе.

Калі яе выбралі сакратаром камітэта, першыя тыдні Тамара нервавалася, бо не магла ахапіць адным позіркам усё, што адбывалася навокал, вызначыць галоўнае. Яна бралася за адно, але яшчэ некалькі такіх жа неадкладных спраў патрабавалі да сябе ўвагі не меншай, а то і большай. Прыходзілася кідаць пачатае і канчаць незакончанае, міжволі выпускаць з поля зроку агульнае становішча.

Быў яшчэ выхад: даручаць больш членам камітэта. Яна так і рабіла. Але зноў жа, калі член камітэта паспяхова арганізоўваў моладзь на суботніку па добраўпарадкаванню спартыўнай пляцоўкі, скажам, у Беразуйках, дык тое самае ж некаму трэба было зрабіць і ў Сяльцы, Завыдзеле ці ў Слёзках. Ужо не кажучы пра тое, што нехта павінен наладжваць літаратурны дыспут сярод маладых механізатараў трактарнай брыгады, правяраць, як хто вучыцца ў вячэрняй школе і выконваць яшчэ з паўтузіна іншых важных камсамольскіх даручэнняў.

І тады паўстала пытанне аб групах. Менавіта, гэтыя невялікія атрады моладзі, дзе ўсе добра ведаюць адзін аднаго, аказаліся здольнымі зрабіць тое, што патрабавала жыццё ад камсамольскай арганізацыі. Але хто ўзначаліць групы?

Здаралася, хлопец, які здаваўся бойкім у коле сваіх таварышаў, мог пакрытыкаваць і нават даць слушную параду, — бянтэжыўся, рабіўся бездапаможным, калі прасілі яго ўзначаліць нейкую справу. І наадварот, непрыкметныя сярод многіх, часам, атрымаўшы даручэнне, раптам паказвалі сябе неблагімі арганізатарамі.

Тамарын сшытак поўніцца запісамі гутарак, выпадкаў, характарыстыкамі.

Трактарыст Аляксандр Ціханенка... Ён даўно на прыкмеце. Разумны, начытаны. Аднак вельмі ўжо сціплы. Як хлопец павядзе сябе, калі стане групоргам? Здолее? Не спалохае яго тое, што прыйдзецца, можа, і выступіць супраць блізкага сябра, калі той парушыць камсамольскую дысцыпліну?

Што Саша наогул не баязлівец, Тамара ведае даўно. З дзяцінства. Яны разам вучыліся ў школе, гулялі, хадзілі па грыбы і ягады. Пасля ён служыў у арміі. Вярнуўся ў родную вёску... Зноў сеў на трактар.

«Так, групорг з яго будзе, — запісвае Тамара. — Толькі з ім неяк трэба ўмела пагаварыць. Не то заўпарціцца. Ён такі!»

Яна думае пра тое, што Саша здольны, каб моўчкі, ні з кім не параіўшыся, зрабіць рашучы крок. Ці не будзе гэта замінаць яму кіраваць групай? Там жа трэба абмяркоўваць разам кожнае рашэнне.

Тамара пазірае на гадзіннік: хутка прыйдзе Саша. Яна рыхтавалася да нялёгкай размовы. У іх адносінах засталося яшчэ нешта ад дзяцінства. І тое, што некалі Тамара магла не задумваючыся сказаць Сашу, цяпер не падыходзіла для важнай, дзелавой размовы з Аляксандрам Ціханенкам. Так, яны — дарослыя... «Гэта таксама трэба ўлічваць у камсамольскай рабоце», — усміхаецца сама сабе Тамара.

***

Загаварылі яны адразу пра спорт. Калгас за апошні год памаладзеў, калі гаварыць пра людзей. Выпускнікам школ, якія раней нават, калі нікуды не паступалі вучыцца, усё ж кожную восень спраўна пакавалі чамаданы і ехалі ў гарады, каб там неяк прабіваць сабе дарогу ў самастойнае жыццё, цяпер усё больш і больш да спадобы прыходзіцца родная вёска. Тут ёсць дзе паказаць сябе, кожны можа знайсці і работу па густу і правесці свой вольны час так, як яму падабаецца.

Калі ўзяцца пералічваць прафесіі, што набылі пастаянную

**І ў вольны ад работы час разам бывае калгасная моладзь. Хораша прайсціся пад заснежанымі бярозамі Зоі Пруднікавай, Валі Чумаковай, Мікалаю Захараву, Тамары Мішчанка і Мікалаю Логінаву.**



«прапіску» ў калгасе, то налічыць можна столькі, колькі іх ёсць у любым раённым гарадку. Да старшыні праўлення сельгасарцелі Акіма Сцяпанавіча Лучко ў маладзі цяпер новая прэтэнзія — ён не спяшаецца ствараць музычныя курсы, хоць аматараў ёсць багата.

Пасля пленума ЦК камсамола Беларусі пра паляпшэнне фізкультурнай работы на сяле ў калгасе былі праведзены суботнікі па будаўніцтву спартыўных пляцовак. У Беразуйках створаны моцныя футбольная, валейбольная і баскетбольная каманды ды пабудаваны добры спартыўны комплекс. Такі ж і ў Ануфрыеве.

— Разумееш, а сустрэч спартыўных праводзіцца пакуль мала, — гаворыць Тамара.

Саша згодна ківае галавой: з хлопцамі ўжо меркавалі пра гэта.

Яны разам прыкідваюць, як лепей узяцца за справу.

— Ну, а як у цябе дома, Саша? Браты пішуць? А сястра? — пытае раптам Тамара.

— Сёння ад сястры атрымалі пісьмо. Запрашае нас з мамай, каб ехалі да яе.

— А што ты вырашыў? — у голасе Тамары заклапочанасць.

— Як маці. Яна ж, сама ведаеш, хварэе. У горадзе ёй было б лепш...

— То, можа, і камсамольскага даручэння табе ніякага не даваць?

— Не, чаму ж?

— Госцю, мусіць, няёмка?

— Я цябе не разумею.

— Ну, то і добра, калі не разумееш, — заканчвае Тамара сваю гутарку. — А я думала, каб ты... Ну, добра, другім разам пагаворым...

Саша ўзнімаецца, глядзіць на гадзіннік.

— Тады я пайшоў. Бывай. Мне ж яшчэ трэба дома падлогу памыць, а заўтра рана ўставаць.

Тамара пазірае яму ўслед. Вось ужо яго постаць мільганула за акном. Яна ўздыхае: яшчэ невядома, *як паступіла б яна сама, каб здарылася* такое. Тамара дастае свой сшытак, каб запісаць новыя думкі.

***

Саша прачынаўся рана: трэба ж да таго, як на работу, падсабіць маці па гаспадарцы.

Варвара Сямёнаўна ўсё чакала, што сын загаворыць пра пісьмо, але той маўчаў. Ён быў незвычайна маўклівы. І ўжо калі апранаў сваю зашмальцаваную ватоўку, не стрымала:

— Што ж мы сваім адпішам?

Саша ўважліва зірнуў на маці.

— Гэта як ты скажаш, мама.

Варвара Сямёнаўна паківала галавой.

— Што я, сынку... Як ты?

Саша засмяяўся з палёгкай:

— Ведаеш, матуля, у братоў свой шлях, у мяне — свой!

Варвара Сямёнаўна моўчкі кіўнула галавой.

...Яна глядзела, як Саша хутка ішоў па ранішняй ціхай вуліцы. Шыракаплечы, дужы. Зусім дарослы ў яе сын, хоць і самы малодшы.

**Эрнэст ЯЛУГІН.**
Фота **В. Ждановіча.**

Калгас імя Чапаева
Мсціслаўскага раёна

# НАША МАРКА

Беларусь — роўная сярод пятнаццаці савецкіх рэспублік-сясцёр, стала высакаразвітым індустрыяльным эканамічным раёнам Савецкага Саюза.

Сёння Савецкая Беларусь выйшла на сусветную і міжнародную арэну. Яе прадукцыя — справа рук і розуму беларускіх рабочых, інжынераў, тэхнікаў і вучоных — вядома амаль ва ўсіх краінах свету.

Наш карэспандэнт пабываў у Інстытуце навукова-тэхнічнай інфармацыі і прапаганды Дзяржплана Беларускай ССР і пацікавіўся, якія прамысловыя вырабы карыстаюцца найбольшым попытам за мяжой і што сёння экспартуе рэспубліка.

Дырэктар інстытута **Аляксандр Аляксеевіч АЛЯКСЕЕЎ** паведаміў, што экспарт беларускіх тавараў з году ў год расце, павялічваецца. За гэтую сямігодку ён вырас у 2,7 раза. Сёння мы гандлюем з 74 краінамі свету. У сацыялістычныя краіны і за рубеж ідуць звыш ста назваў тавараў з беларускіх прадпрыемстваў.

Рэспубліка мае магчымасць аказваць кваліфікаваную дапамогу слабаразвітым краінам і тэхнікай, і спецыялістамі.

Што мы сёння вывозім?

Натуральна, што перавагу ў нашым беларускім экспарце складаюць прамысловыя вырабы — аўтамабілі, трактары, станкі, камбайны, будаўнічыя машыны, ліцейнае абсталяванне, прыборы для радыётэхнічнай, электратэхнічнай, хімічнай і іншых галін прамысловасці, а таксама тавары шырокага ўжытку: наручныя гадзіннікі, радыёпрыёмнікі і радыёлы, веласіпеды, матацыклы, фотаапараты. Мы вывозім за мяжу медыкаменты, будаўнічыя і лесаматэрыялы, а таксама некаторыя віды сыравіны.

Хто ў нашай краіне не ведае трактараў «Беларусь!» Гэта цудоўная машына, якая добра зарэкамендавала сябе на калгасных і саўгасных палях, а таксама і ў іншых галінах народнай гаспадаркі. Звыш пяцідзесяці краін купляюць трактары «Беларусь». Сярод іх — Польшча і ГДР, В'етнам і Бірма, Аб'яднаная Арабская Рэспубліка і Гана, Куба і Індыя, Афганістан і Чылі...

Летась Мінскі трактарны завод пачаў серыйны выпуск трактараў МТЗ-52 павышанай праходнасці з чатырма вядучымі коламі. Новы трактар дасць магчымасць павысіць прадукцыйнасць працы ў сярэднім на пятнаццаць працэнтаў і дасягнуць значнай эканоміі паліва. Ім можна праводзіць увесь комплекс работ па вырошчванню цукровых буракоў.

Новы трактар ужо экспартуецца ў Балгарыю, ГДР, Чылі, на Кіпр. Ёсць заяўкі і з іншых краін.

На трактарным заводзе беражліва захоўваюцца пісьмы з раду сацыялістычных краін, у якіх выказваецца шчырая падзяка беларускім трактарабудаўнікам і гарачыя пажаданні працоўных поспехаў у інтарэсах народаў, што будуюць новае жыццё.

Заводскія канструктары ўвесь час працуюць над удасканаленнем трактараў. Ужо ідуць за рубеж машыны з шырокімі шынамі, якія вельмі зручныя для работы на рысавых палях.

Сусветнай славай карыстаюцца мінскія аўтамабілі са срабрыстай эмблемай зубра. Яны вядомыя ў многіх краінах свету. Цяпер Мінскі аўтазавод пачаў выпускаць новыя машыны. Яны высокапра-



Ідуць беларускія трактары МТЗ-52.



Гомсельмашаўцы стварылі новы сіласаўборачны камбайн.



Гонар беларускай індустрыі — дваццацісямітонны самазвал БелАЗ-540.



Прэцэзійны плоска-шліфавальны станок 3701 (злева) атрымаў пуцёўку ў жыццё. На чарзе — новыя. Каля іх пакуль спрэчкі...



Дарунак магілёўскіх машынабудаўнікоў — самаходны скрэпер.

дукцыйныя, зручныя ў эксплуатацыі і, вядома, будуць мець поспех і ў нас, і ў краінах, якія іх набудуць.

Яшчэ адна навіна — БелАЗ-540.

Беларускі аўтамабільны завод у Жодзіне — равеснік сямігодкі. У сучасны момант маладое прадпрыемства выпускае машын амаль у шэсць разоў больш, як у першы год.

27-тонны самазвал БелАЗ-540, які нядаўна асвоены, атрымаў залаты медаль на Лейпцыгскім кірмашы. Вынослівы і даўгавечны, вельмі зручны на будоўлях і рудніках, гэты самазвал паклаў пачатак стварэнню сямейства беларускіх аўтамабіляў-волатаў.

Адзін з першых аўтасамазвалаў БелАЗ-540 адпраўлены ў Федэратыўную Рэспубліку Германію.

У Беларусі, як і належыць індустрыяльнай краіне, высокае развіццё набыло сучаснае станкабудаванне. Звыш 900 мадэлей станкоў сёння вывозіцца за рубеж, і яны паспяхова канкурыруюць з лепшымі фірмамі свету.

Сярод навінак станкабудавання варта адзначыць плоскашліфавальныя станкі высокай дакладнасці, якія выпускае аршанскі завод «Чырвоны барэц», універсальныя заточныя станкі розных канструкцый віцебскага станкабудаўнічага аб'яднання, станкі гомельскага завода імя Кірава і інш. Яны з'яўляюцца гонарам нашай беларускай маркі і ідуць у шмат якія краіны свету. У тым ліку у Англію, Францыю, Японію.

Плённа працуюць над стварэннем новай тэхнікі магілёўскія машынабудаўнікі. Магутныя аўтаскрэперы, што выпускае завод імя Кірава, таксама купляюць за мяжой.

Магілёўскі самаходны скрэпер можна выкарыстоўваць для распрацоўкі грунту паслойным захватам пры капанні катлаванаў, збудаванні плацін, на іншых земляных і дарожнабудаўнічых работах, а таксама пры перавозцы зямлі. На ім можна перавезці столькі зямлі, колькі забіраюць тры самазвалы. Гэтыя скрэперы можна сустрэць у Індыі, у шмат якіх сацыялістычных краінах, у Афрыцы.

На заводзе створана яшчэ адна навінка — аўтамабіль павышанай праходнасці. Яго грузападымальнасць—18 тон. Такая машына вельмі неабходная на будоўлях, у кар'ерах, там, дзе няма добрых дарог. Ён выкарыстоўваецца пры здабычы карысных выкапняў адкрытым спосабам.



Беларускія гадзіннікі даўно ўжо заваявалі славу на міжнародным рынку.



Калі зайшла гаворка пра сельскагаспадарчыя машыны, якія ідуць на экспарт, Аляксандр Аляксеевіч сказаў:

— Тут у першую чаргу трэба назваць новы сіласаўборачны камбайн СК-2,6, што асвоены на «Гомсельмашы». Яго перавага перад ранейшай мадэллю тая, што ён мае большую прапускную здольнасць сіласнай масы, больш надзейны ў эксплуатацыі.

Сіласаўборачныя камбайны пайшлі ў серыйную вытворчасць і адпраўляюцца на экспарт.

У сацыялістычных краінах ахвотна купляюць наручныя гадзіннікі Мінскага гадзіннікавага завода. Улічваючы вялікі попыт і пажаданні пакупнікоў, заводскія канструктары працуюць над тым, каб гадзіннікі з мінскай маркай мелі прыгожы выгляд, прывабную, сучасную форму.

Год за годам шырацца і мацнеюць нашы сувязі з сацыялістычнымі і зарубежнымі краінамі. Усё больш нашых тавараў будзе ісці на экспарт. Каб удала канкурыраваць на сусветным рынку, трэба з яшчэ большай настойлівасцю змагацца за гонар нашай айчыннай, беларускай маркі.

# СЯБРЫ МАЕ—ПАГРАНІЧНІКІ

**Як і на ўсёй зямлі, суткі тут дзеляцца на дваццаць чатыры гадзіны. І самыя ўрачыстыя з іх для мяне былі тыя, што я правёў на заставе. Перад строем маладых, апранутых у маскхалаты і экіпіраваных вайсковай амуніцыяй салдат чуецца мужны голас начальніка:**

**— Загад... На ахову дзяржаўнага рубяжа Саюза Савецкіх Сацыялістычных рэспублік...**

**У цішыні замірае застава. У прасторнай казарме ў гэты час адпачываюць пагранічнікі. Нячутна завіхаецца над плітамі кухар, ля тэлефонаў і радыёапаратуры застылі дзяжурныя. Перад будынкам заставы гусцее чорнай бездаинню пляц. Пагранічнікі знікаюць у змроку ночы. Па нябачных сцежках уздоўж кантрольна-следавай паласы яны ідуць на пасты, вядомыя ім адным.**

**Я часта бываю на заставе, сярод гэтых мужных і сціплых людзей. І кожны раз, калі выходжу на «загад», мне здаецца, што я знаходжуся не ў далёкім гарнізоне, а на вялікім акіянскім караблі ў часе падняцця сцяга. Экіпаж гэтага карабля ў любы момант гатовы рынуцца на стыхію, на ворага.**

**Маё сяброўства з мужнымі людзьмі ў зялёных фуражках пачалося яшчэ ў школьныя гады, калі я быў у гуртку юных сяброў пагранічнікаў. Дзесь-**



Фларыд Хайрнасаў перад выхадам на пост.



І. Ціханаў. Франтавая кухня.



Я. Маісеенка. Чырвоныя прыйшлі.



М. Міхайлаў. Ракеты на маршы.

лыя гільзы. На дрэвах бачны сляды ад куль і снарадаў. З запісаў ваеннага архіву, з расказаў франтавікоў, паўстаюць, як жывыя, малюнкі гарачага бою.

Кулямётчыкам было цяжка, бо вораг засеў на высокім беразе. Пад раніцу на дарозе, якая прыкрываецца густым сасняком, паказаліся варожыя танкі, бронетранспарцёры.

На нашым плацдарме артылерыі не было. Гармата, якую спрабавалі сюды пераправіць уначы, разам з аўтамашынай правалілася пад лёд. У артылерыстаў-разведчыкаў былі дзве рацыі і некалькі супрацьтанкавых ружжаў.

За кароткі зімовы дзень байцы нашага палка адбілі шэсць контратак. У часе трэцяй атакі былі пашкоджаны абедзве нашы рацыі. Артылерыя па той бок заліва замаўчала. Цяпер уся надзея была на кулямёты.

Малодшаму сержанту Андрэю Парцянку даводзілася часта мяняць пазіцыі, думаць пра боепрыпасы. Маскіруючыся ў сасняку, гітлераўцы падыходзілі зусім блізка.

Некалькі разоў кулямётчыкі выразна чулі:

— Рус, здавайс!

У адказ грымелі кулямётныя чэргі, ляцелі адна за другой гранаты.

Пад вечар стала яшчэ цяжэй. Многія абаронцы плацдарма былі забіты, многія ранены. Быў ранены ў нагу і малодшы сержант Андрэй Парцянка, але ён мог яшчэ трымаць зброю і не пакідаў поля бою.

Ворагу ў некалькіх месцах удалося прарвацца да берагу. Трэба было абавязкова выбіць гітлераўцаў, якія падзялілі плацдарм на тры часткі.

— Дазвольце мне, — папрасіўся Андрэй Парцянка ў камандзіра роты.

Прабраўшыся на фланг, ён перанёс туды шмат патронаў, замаскаваў кулямёт. Нечаканы агнявы віхор сцебануў па гітлераўцах. Яны кінуліся ўцякаць, але кулі насцігалі іх.

За нейкі час стала ціха. Потым зноў вораг пайшоў у контратаку. Кулямёт Андрэя доўга касіў нямецкіх салдат, а потым нечакана заціх. Калі сябры падпаўзлі туды, яны ўбачылі мёртвага кулямётчыка, які сціскаў у руках зброю.

Уночы на касу прыбыло наша падмацаванне.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 19 красавіка 1945 года малодшаму сержанту Андрэю Антонавічу Парцянку і шасці яго таварышам пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

На месцы подзвігу цяпер пастаўлены часовы абеліск. А дзе магілы герояў? Літоўскія школьнікі, пасля доўгіх роспытаў даведаліся, што героі пахаваны ў вёсцы Кайрай. Цяпер там устаноўлены помнікі. У цэнтры магілак — 45-міліметровая гармата, якая была ў палку.

У нашай школе створаны «Куток герояў 113-га палка», дзе сабраны матэрыялы пра салдата з братняй Беларусі Андрэя Парцянку, які стаў героем.

На зямлі літоўскай яго імя ў пашане, памяць пра яго будзе жыць сярод людзей.

Павел ФРАЛОЎ,
выкладчык гісторыі
школы № 27
г. Вільнюса.

# ВЕТРЫК, ВЕЙ!

## Акцёрскія дэбюты

Яны прыйшлі ў тэатр імя Якуба Коласа адначасова, абараніўшы летась акцёрскія дыпломы ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце па класу прафесара Д. А. Арлова. Ролі, атрыманыя імі ў першай пастаноўцы на прафесіянальнай сцэне, далёка неураўназначныя. Улдыс і Барба — галоўныя героі ў п'есе Яна Райніса «Ветрык, вей!», пераклад якой з латышскай мовы зрабіў Рыгор Барадулін. Анда і Гатынь — персанажы другога плана. І натуральна, што доля поспеху ў юных дэбютантаў няроўная. Аднак не ў гэтым справа. Галоўнае, што ўсе яны ўступілі ў самастойнае жыццё, адразу заявіўшы аб сабе грунтоўна і ўсхвалявана.



**ВІЯЛЕТА КЛІМЕНКА — АНДА.**

Анда была заўсёды «падгалоскам» старэйшае сястры, знаходзячыся дзесьці паміж ёй і Барбай. У п'есе ўсе падзеі неяк абмінаюць Анду. Не да яе прыплылі жаніхі, не з-за яе ўзнімаюць спрэчкі. Яна — нібыта ні пры чым. І маладая актрыса якраз вось гэтую акалічнасць выкарыстала ў якасці асноўнага будаўнічага матэрыялу ролі. Яе Анда не можа пагадзіцца са сваім становішчам — застацца «па-за гульнёй». У яе так шмат кіпучай і неўтаймаванай энергіі і прагі да жыцця! Няхай сватоў чакае Зана — Анда рада:

«От жа радасць, от жа свята!
Колькі сёння будзе смеху!»

Прадчуваючы гэта, Анда нікому не дае спакою. Яе голас гучней за іншых гучыць у мукамольні. З гуллівым спрытам яна круціць млён жаронцаў. Нібыта падганяючы хвіліны нясцерпнага чакання і, не стрываўшы, пачынае зухавата і зычліва, хоць не без дзявочай зайздрасці, кпіць са сваёй сястры-нявесты, валтузячы яе.

Пакуль прыехалі сваты, ад Анды дасталося ўсім. Батрачку Орту, калі тая ледзь заікнулася пра стому, яна са здзекам, нібыта мімаходзь, абсекла: «Жорнам хоць загаласі». Сарамлівасць стрыечнай сястрыцы Барбы дасціпна параўнала з прысакам, дзе вуголле не стыне, тым самым папярэдзіўшы нявесту, а заадно і нас, што тут належыць трымаць вуха востра. А потым распачала дзівосную гульню з калекам-пастушком, няшчасным Гатынем, якога выстаўляла за жаніха сіротцы Барбы. І жарт Анды, калі мы прыгадаем яго потым, быў не такі ўжо і бяскрыўдны. У Барбе яна бачыла магчымую саперніцу не толькі Зане, а і сваю, і жарт яе меў пэўную задачу: намякнуць стрыечнай прыгажуні пра яе месца ў тым выпадку, калі жаніхі пачнуць да Барбы заляцацца.

Пра Анду можна бясконца гаварыць і думаць, уяўляючы яе жыццё, — настолькі пэўна і выразна раскрыт Віялетай Кліменка характар гераіні. Увішная і кемлівая, ганарыстая і вальналюбная, яна хоча як найхутчэй стаць гаспадыняй свайго жыцця і выйсці з-пад апекі маці. Анда ведае, што выхад — толькі праз замуства. А хіба выйдзеш замуж, пакуль старэйшая сястра ў нявестах! Вось і памагае яна Зане, бо ў той няма такога спрыту.

А колькі ваяўнічай вынаходлівасці ў ёй раскрываецца, калі трывогі адносна Барбы пачалі збывацца! Яна адразу скеміла, што да чаго. Драпежнай птушкай кружыць Анда, хаваючы ад Даўгаўца саперніцу сястры, і абгаворвае яе, і падштурхоўвае непаваротлівую Зану, і лашчыцца сама да Улдыса. Яе драпежнасць мае і грацыю і прыгажосць. І часам Анда на ней-

кае імгненне спыняецца ў здзіўленні: чаму гэта не маюць плёну яе чары? Што ўбачыў Улдыс у «маленькім кураняці» — Барбе?.. Бо і маці кажа:

«Лепей бы ён Анду ўзяў:
Задзірака — неўступаку».

Нарэшце, Андзе надакучыць і клопат пра старэйшую сваю сястру, і сам Улдыс. І выбера яна сабе тоўстага Дыдзіса, больш памяркоўнага, бязвольнага. Балазе, што ў час змовін той быў п'яны:

«Спіць у ложку,
Як устане — мужам стане».



## СВЯТЛАНА НЕКІПЕЛАВА — БАРБА.

«Вы ўбачыце сіротку-чарацінку,
Яна ў сабе нясе людскую шчодрасць,
Што чалавецтва лічыць кветкай шчасця.
За гэта шчасце бедная сіротка
Аддаць сваю душу была гатова».

Так Райніс дакляруе нам знаёмства з Барбай ва ўступе да п'есы «Ветрык, вей!»

...Працуючы ў мукамольні, яна таксама чула, што сёстры чакаюць жаніхоў. Іх радасць адбівалася пяшчотным, сарамлівым бляскам у яе вачах. Калі ж з-за Даўгавы дыхнуў моцны вецер, ад якога загуло наўкола, дзяўчынка-чарацінка трывожна выпрасталася, нібыта прадчуваючы штосьці няведанае, новае, што нейкім чынам закране і яе лёс. Калісьці ад нягод жыцця яна хавалася пад засенню ялінкі. Ёй даверала свае крыўды, слёзы. А сёння... Барба заслухалася спевам ветру, песням Улдыса і жалейкай. Мелодыі змагаліся паміж сабой, аднак у яе сэрцы ўсе яны знаходзілі жывы, дзівосны водгук. Жалейка Гатыньша ёй скардзілася на моцны вецер, а Улдыс уладарна клікаў той вецер прадзьмуць усе вуглы ў сялібе, каб дыхалася тут гэтак жа вольна, як на прасторах белапеннай Даўгавы.

Каб зразумець усё тое, што раскрыта Святланай Некіпелавай у Барбе, трэба ведаць, што латышскі рэжысёр А. Кродарс, якога запрасілі ў тэатр паставіць гэты спектакль, адкінуў фальклорную інтэрпрэтацыю п'есы «Ветрык, вей!». Ён паглыбляецца ў філасофскую структуру твора, шукае ў ёй вытокі характараў, падзей. Жанр п'есы, вызначаны Райнісам як «народная песня», ператвараецца ў А. Кродарса ў высокі паэтычны гімн свабодзе чалавека.

І Барба для яго — не толькі «сіротка-чарацінка», самаахвярная істота з цнатлівай прыгажосцю. У ёй жыве высакародства маленькага народа, які праз стагоддзі гістарычных навальніц, нягледзячы на здзекі і пакуты, захоўваў свой высокі гонар. Ён трываў, чакаючы магутнай буры, каб у часе яе ўзняцца на вышыню сакалінага палёту. Таму для Кродарса пры вызначэнні месца Барбы ў вобразнай сістэме п'есы важней не тое, як яна прадстаўлена ў пралогу, а ўскосныя характарыстыкі, якія часам і не адрасуюцца да Барбы непасрэдна. Напрыклад, парабчанка Орта кажа такія словы:

«Ой, сарока стракатала,
Сакаліхай стаць жадала:



Доўгі хвост, а крылаў мала, —
разам не змагла ляцець».

Гэта — пра Анду, чые заляцанні да Улдыса засталіся марнымі.

Акрылёнасць душы — вось што адрозніваe Барбу ад Анды, Заны, Гатыня, Цыепы і ўсіх герояў п'есы (нават, пэўным чынам, і Улдыса, чый нораў спачатку ведаў толькі прагу да разбурэння).

Святлана Некіпелава стварае мужны вобраз. Яе Барба выклікае не жаль, а зачараванасць сілай духу, якая спалучаецца з кранальным лірызмам і непераадольнай, мудрай верай у чалавека.

Як цудоўна ўмее яе Барба не заўважаць эгаістычнасці сваіх сясцёр! Як яна зносіць крыўды, нідзе не даўшы ім сябе прынізіць. А з Улдысам — тут і пяшчота, і нібыта безабароннасць, і ў той жа час нязломная, напружаная воля, якая дазваляе Барбе не збочыць і не адступіцца ад дзявочай годнасці. Смерць Барбы — высакародны акт, глыбока ёю ўсвядомлены. Яна ідзе на гэта, бо не бачыць, як інакш давесці мачысе і сёстрам іх непраўду. Яна нікога не карае, але адначасова і не даруе нічога. І разам з тым, трымае слова, дадзенае Улдысу, — ідзе за ім.

## ВАЛЕРЫ АНІСЕНКА — УЛДЫС



«Ідзе забраць сіротку сын народа —
Ідзе з-за Даўгавы, ад пены белай,
Як веснік сонца — золак, ад якога
Заранка трапяткая блякне, гасне.
Так сіла юная зямлі рунее,
Ідзе, каб свет па-свойму перайначыць».

Так у пралогу сказана пра Улдыса. І вобраз, створаны Валерыем Анісенкам, адпавядае гэтай характарыстыцы. Каб апраўдаць яе, тэатр, ідучы ад асаблівасцей паэзіі Я. Райніса, ужывае сцэнічныя метафары, якія ўзбуйняюць вобраз. Па п'есе Улдыс павінен увайсці ў спектакль, узламваючы дзверы мукамольні. Рэжысёра А. Кродарса, напэўна, не задаволіў такі ўваход. Улдыс, нібыта казачна-былінны волат, рассоўвае сцены. Герой Валерыя Анісенкі не хоча ведаць ніякіх перашкод.

Прывабны, дзёрзкі, моцны і свавольны, Улдыс ва ўсім кіруецца імкненнямі сваёй душы, сваіх жаданняў, як вольны вецер з Даўгавы. Прыехаўшы ў сваты да Заны і ўпадабаўшы Барбу, ён тут жа аддаецца ўладзе пачуцця. Што для яго спрадвечны звычай? Нездарма ж ён — вольны даўгавінец і нездарма прыехаў пад грукат навальніцы і шум буры!

Цудоўна выяўляе Анісенка супярэчлівыя парыванні Улдыса пасля таго, як Барба асекла яго. Спачатку гэта зусім не засмуціла хлопца. Наадварот, Барбіна ўпартасць нават цешыць упэўненага ў сваіх звышадмысловых якасцях гуляку:

«Паланю цябе сягоння ж
У абдымкі трапяткія
І з вачэй сарву хусцінку».

Сарваць хусцінку — гэта азначае зноў-такі парушыць звычай, захаваны праз стагоддзі (у Латвіі паўстаць перад мужчынам з непакрытай галавой магла толькі законная нявеста альбо жонка).

А далей адбываецца такое, што ўзнімае вобраз Улдыса нават над аўтарскай характарыстыкай:

«На хвілю не задумаўшыся, нішчыць
Сваю красу цнатлівую і шчасце...»

Улдыса не назавеш згубцам сваёй каханай. Ён ваяўніча агрэсіўны толькі да таго часу, пакуль яму здавалася, што непрыступнасць Барбы — ад прымхлівай яе вернасці спрадвечным забабонам, якія раздражняюць і злуюць Улдыса.

«Гоніш ты мяне ў труну!» — тлумачыць Барба з болем. «Не, ганю цябе ў мой човен!» — смяецца ўпарта Улдыс. І трэба бачыць, як горда выпрасталася дагэтуль кволая дзяўчына, з якім вялікім гневам, з якім усведамленнем сваёй годнасці яна нарэшце кідае ўсім:

«Слёзы — прэч! І просьбы — прэч!
За сябе сама ўступлюся:
Раз ты сораму не маеш,
Сорамам цябе зняслаўлю:
Я сама адкрыю вочы,
Каб ты ўбачыў, што пагардай
Да цябе гарэць яны!»

Бунт Барбы абуджае Улдыса. Ён бачыць не палахлівую, а натуру, якая яму да спадобы. Ён успамінае, як раней яна казала, што толькі той, «хто злічыць усе сумее зоркі, што прайшлі праз неба, і карэнні — праз дарогу, той засватае мяне».

Улдыс — Анісенка пасля трэцяй карціны ўжо не той вясёлы дэман разбурэння, які, «на хвілю не задумаўшыся, нішчыць...» Мудрасць Барбы абудзіла ў ім пяшчоту, імкненне быць ашчадным да свайго шчасця. Ён кліча Барбу на прасторы Даўгавы, ужо інакш даводзячы сваё на гэта права. «У руках маіх — жыццё!» — вось што становіцца галоўным замест ранейшай зухаватай упартасці. Калі ж яна згаджаецца «прыбрацца падвянечна», на сцэне гучыць урачыста-меднагалосы гімн вясноваму сонцавароту: «Ліга! Ліга!» — радуецца Улдыс. Ён уздымае рукі і вырастае ў чалавека-бога: праекцыя святла малюе сілуэт героя на ўсю шырыню барвова-пеністага краявіду.

«Ветрык, вей, гані жвавей
Човен зноў у Відземе!
Трэці дзень куляем чаркі,
Хай паскачуць нам баяркі!
Ліга! Ліга!»

## БАРЫС СЯЎКО — ГАТЫНЬШ

Складанасць райнісаўскіх вобразаў у тым, што кожны з іх вымагае ад выканаўцы адначасова і гранічнай жыццёвай адпаведнасці і сімвалічнай кандэнсацыі ідэі. Нездарма сам Райніс кажа пра аднаго з герояў — «сіла юная зямлі» ці «сын народа», другую ж атоесамлівае з «людскою шчодрасцю» і г. д.





Тэатразнаўцы з Рыгі, якія прысутнічалі на прэм'еры «Ветрык, вей!» у Віцебску, казалі, што ім ніколі не даводзілася бачыць так адметна ўвасобленых на сцэне Анду і Гатыньша.

Што за фігура Гатыньш? Пастушок, калека. Грае на жалейцы. Пакорлівы і сарамлівы. Кахае Барбу. Яна яго шкадуе. Усе навокал кпяць з яго кахання, здзекуюцца з хлопца. Калі ж ён заступіў дарогу Улдысу, той ненарокам забіў яго.

Усё гэта — бытавы бок вобраза, і калі ставіць п'есу ў фальклорнай традыцыі, можна ім абмежавацца. У чым жа адметнасць Гатыня, увасобленага маладым артыстам Барысам Сяўко? Рэжысёр А. Кродарс заўважыў, што тэме Улдыса ў п'есе скрозь спадарожнічае тэма ветру («Стань чоўнам, песня, станьце ветрам, гукі!»). Жалейка Гатыня супроцьпастаўлена гэтай асноўнай тэме. Упершыню яе мы чуем якраз у тую хвілю, калі мацнее вецер, і Барба нам тлумачыць:

«Ох, там Гатыньш на жалейцы.
Зноўку занямог, нябога,
Вецер сэрца развярэдзіў —
Грае, боль суцешыць хоча».

Жалейка — гэта жальба пакорлівых, прыгнечаных і ціхіх. І Гатыньш — Сяўко выклікае ў нас спачуванне сваёй безабароннасцю. Мастацкі тактоўна адзначана артыстам мера фізічнай і духоўнай непаўнацэннасці свайго героя. Сяўко тут карыстаецца ледзь-ледзь прыкметным намёкам: яго Гатыньш, не заікаецца, а часам вытрымлівае толькі паўзачку, перш чым сказаць. І хоць бывае, што навакольныя даволі бязлітасна кпяць з Гатыня, ён тут, у гэтай сялібе — свой. Ён заўсёды будзе зносіць усё, нічым не выкажа свайго пратэсту. Свежы вецер — не для яго занепалых грудзей.

Але побач — Улдыс, пра якога кажуць:

«Едзе Даўгавай пярун,
Ветраў сын — вясляр-вястун...»

І вось здараецца так, што «сын пакорлівасці» паўстае супраць «сына ветру», бо адчувае, што навальніца змые тыя пацяробкі, што даставаліся яму дагэтуль ад жыцця.

Бунт Гатыня ў артыста Сяўко — адчайны і бяссільны. Смерць яго аднесена на другі план, калі на авансцэне вырашаецца лёс Барбы. А потым рэжысёр дае павольнае і ўрачыстае разгарненне сцэны пад гукі харалу, і гледачы, праводзячы ў далёкі шлях асноўнага героя з целам гераіні на руках, развітваюцца заадно і з Гатынем, аддаючы часцінку смутку недарэчнаму яго жыццю і недарэчнай смерці.

* * *

Значнасць кожнага з гэтых чатырох дэбютаў вынікае не толькі з асабістых якасцей і дасягненняў артыстаў, што ўступаюць у самастойнае жыццё. Аснова поспеху — у тым ансамблі, што вызначае пастаноўку, і па-за ім наўрад ці можна ацаніць здабыткі дэбютантаў.

**Георгі КОЛАС.**
Фота **С. Кохана.**

◆ ◆ ◆



# ПЯРОМ АНАЛІТЫКА

Кожны, хто сочыць за развіццём беларускай прозы і трымае руку на яе не заўжды роўным пульсе, у апошні час не можа не адзначыць некаторага супакаення яе эмоцый, пэўнай запаволенасці яе дыхання.

Сапраўды, у апошнія некалькі год было апублікавана самае значнае, адгрымелі і сціхлі крытычныя баталіі вакол «Птушак і гнёздаў», «Каласоў пад сярпом тваім», адзінадушна былі ўхвалены «Людзі на балоце» і «Сэрца на далоні». Тыя з маладзейшых аўтараў, якія азадачвалі крытыку ў пачатку свайго творчага шляху, набралі моцы і працуюць роўна. Здаецца, у бліжэйшы час сенсацый не прадбачыцца. Беларуская проза набыла даволі салідны ідэйна-мастацкі капітал, збольшага асэнсавала яго і цяпер нібы запаволіла сваю хаду ў можа нядоўгім, але прынцыповым роздуме — як рухацца далей?

Пэўна вядома — звароту да старога не будзе. Колішнія эталоны, што ў якасці такіх не дажылі нават да сучаснага, ніколі не дамогуцца гэтага ў дачыненні да будучага. Зноў жа, ці варта спадзявацца на тое, што ў хуткім часе з'явіцца нейкі літаратурны месія, які адрыне традыцыі і павядзе літаратуру па зусім новым, адметным ад папярэдняга шляху. Значыць, застаецца сучасны метад і ўзровень, дасягнуты дагэтуль, плюс папраўка на канкрэтныя ўмовы развіцця. У гэтым — той вектар, які вызначыць лёс нашай літаратуры на нейкі адрэзак будучыні.

Але якая будзе гэтая папраўка? З якім знакам і ў якой абсалютнай велічыні? Не прэтэндуючы на якое б там ні было прароцтва, цікава паразважаць пра гэта.



Самае дзеяздольнае, на мой погляд, у сучасны момант — сярэдняе пакаленне літаратараў. Яно стварыла, мабыць, самае значнае ў нашай прозе. Яно даволі пераканаўча засведчыла сваёй творчасцю тую выказаную Стэндалем ісціну, што мастацтва патрабуе моцных страсцей. Вайна і ўсе звязаныя з ёй катаклізмы далі яму ў гэтым сэнсе выдатны жыццёвы матэрыял. Моцныя пачуцці рухаюць учынкамі герояў Адамовіча, Асіпенкі, Брыля, Карпюка, Кулакоўскага, Навуменкі, Шамякіна. Пэўныя хібы майстэрства, што мелі месца ў творах названых аўтараў, даволі шчасліва кампенсаваліся аўтарскай страснасцю, сапраўднай любоўю і непадробнай нянавісцю. Шчырасць і паўнагучнасць пачуцця напоўнілі дзесяткі найлепшых кніг пра вайну.

Але, мне здаецца, што за апошні год-два ў нашай літаратуры назіраецца некаторы спад творчай актыўнасці ў гэтай тэме. Справа, мусіць, у тым, што дасягнуты за апошнія гады даволі глыбокі пласт праўды аб вайне, як гэта, зрэшты, і заканамерна,— вычэрпваецца. Тыя, хто меў што сказаць у гэтым плане — выказаліся. Далейшае, болей змястоўнае і значнае, чакае на новым, болей глыбокім гарызонце мастацкага адлюстравання. Для пранікнення туды патрэбны, відаць, больш магутныя таленты, з большай, чым раней, грамадзянскай смеласцю. Але тыя, хто ваяваў, дарэчы, як і ўсё на зямлі, не бессмяротныя. Значыць, літаратура наша апынаецца перад альтэрнатывай: вельмі значнае і, можа, самае важнае пра мінулую вайну або будзе сказана ў бліжэйшыя дзесяць-дваццаць гадоў, або наогул ніколі не з'явіцца ў свет. Гэтае меркаванне, на мой погляд, бясспрэчнае, бо вялікую праўду аб мінулай вайне суджана выказаць толькі яе ўдзельнікам або сведкам. Іншым гэта не дадзена. Іншыя могуць стварыць нават геніяльныя творы, але гэта ўжо будзе з поваду вайны, а не яе горкай і крывавай праўдай.

Сказанае, такім чынам, у большай меры датычыць сярэдняга і старэйшага пакаленняў стваральнікаў літаратуры. А якая ж тады роля моладзі? Тых, што нарадзіліся пасля вайны і цяпер дружна ідуць у літаратуру і будуць ісці, трэба спадзявацца, яшчэ болей напорна? Мне здаецца, што эмацыянальны зарад іх творчасці рэзка зніжаецца. І гэта заканамерна: жыццё набыло іншыя рытмы, канфлікты яго знікаюць з паверхні, зло нярэдка так спрытна камуфліруецца пад дабро, што іх цяжка адрозніць. Але разам з эмацыянальнасцю знікае і значнасць твора, таксама як і яго займальнасць. Мастацтва страчвае свае найпершыя якасці. І тады, як гэта часта здараецца, творы замешваюць на сурагатах: прыблізнасцях пачуцця, эрзацах любві і нянавісці. Аўтар быццам бы захапляецца, любіць і ненавідзіць, а чытач застаецца абыякавы. Колькі па гэтай прычыне загублена найлепшых намераў, часам і пры несумненных здольнасцях!

Шчырасць у мастацтве нельга падрабіць. Пачуццё нельга выдумаць. Значнасць не вырасце з дробязнасці. Могуць сказаць: дык што ж — у маладзейшых пакаленняў мастакоў менш творчых магчымасцей? Я думаю, што не. Проста яны ў яго свае, адметныя ад папярэдніх. Можа быць, яны якасна іншыя і, несумненна, больш складаныя. Яны ляжаць крышку ў іншым кірунку. У кірунку аналітыкі.

Сапраўды, калі пара голых эмоцый мінае, дык часы рамантызацыі даўно ўжо скончыліся. Фальшывая ўзнёсласць, сентыментальнасць, слюнявае сюсюканне ў паказе чалавечых лёсаў даўно вычарпалі сябе. У такой сталай літаратуры, якой робіцца наша, ім няма месца. Свет, што раздзіраецца напалам між дабром і злом, чакае не элегічных песнапенняў, а лекара і выратоўцы. У сярэдзіне XX стагоддзя людзі на зямлі не меней, чым калі-небудзь раней, заклапочаны ўсё той жа ад-

вечнай праблемай — як жыць? Цяпер, у атамную эру, гэтая праблема набывае асаблівае значэнне. На карту пастаўлены лёс чалавецтва і лёс мастацтва. І ў гэтым сэнсе мастацтва рызыкуе, як не рызыкавала ніколі: або яно паможа людзям знайсці выйсце з таго тупіка, у які яны забрылі, або страціць усё.

Здаецца, агульнавядома, што найпершы абавязак літаратуры ў тым, каб ускрываць гнойныя раны чалавецтва і тым дамагацца іх вылячэння. (Вядома, гэта складаная справа, і для яе патрэбны таленты геніяў. Але геніі не з'яўляюцца на голым месцы. Кожны папярэдні талент — прыступак у хадзе наступнага. Генію ў мастацтве папярэднічаюць сотні негеніяў, якія ў выніку і падрыхтоўваюць магчымасць яго паяўлення.)

І таму — перавага скальпелю аналітыка. Удумлівага, самаахвярнага, мужнага і бязмежна праўдзівага. На пачатку, можа, не так ужо і важна форма, у якой, на жаль, маладыя бачаць звычайна залог поспеху. Стыль для такіх — усё. Але стыль не ўсё і нават не палавіна. Стыль толькі сродак. Аднак сродак — нішто без мэты. «Калі пісьменнік празмерна непакоіцца аб стылі, урэшце ў яго не застаецца нічога, апроч стылю»,— сведчыць такі выдатны майстар літаратуры, як Уільям Фолкнер. Праўда, гэта не трэба разумець як вызваленне пісьменніка ад патрабаванняў і законаў мовы. Бліскучы стыль — гэта здорава! У ім віртуознасць пісьменніка. Але найвышэйшае майстэрства ўсё ж заключаецца ў тым, каб у творы яно не адчувалася.

Ці варта грэбаваць выдатнымі словамі не менш выдатнага мастака Эрнста Хэмінгуэя: «Проза — гэта архітэктура, а не мастацтва дэкаратара». Менавіта архітэктура, якая мае справу з буйнапанельнымі блокамі жыцця, сталлю ідэй і гіганцкай разнастайнасцю людскіх лёсаў. Цяжкая справа — дойлідства? Вельмі. Куды лягчэй і, мабыць, прыемней распісваць шкатулкі і наводзіць бардзюрчыкі на пабудаваным. Толькі ці варта! Ці даравальна мастаку забываць, што талент — гэта труба, вечавы звон, барабан ці там-там, але не жалейка і не свісцёлка. Што ён з'яўляецца на свет не для таго, каб усыпляць элегіямі, а каб гучаць як сігнал трывогі, які будзіць людзей для барацьбы за лепшую будучыню.

Родная літаратура ўступае ў новы этап развіцця. Яе раздумная запаволенасць у развіцці — адна з прыкмет сталасці. За ёй следуе выбар. Гэты выбар і вызначыць яе ролю і яе годнасць на пэўным адрэзку гісторыі.

**Васіль БЫКАЎ.**

# ТАВАРЫШ ЛЮДЗЯМ

**Іван ЧЫГРЫНАЎ. Птушкі ляцяць на волю. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1965.**




Не патрэбны ніякія даследчыцкія намаганні, каб упэўніцца, наколькі апавяданні Чыгрынава традыцыйныя па форме, перш за ўсё па тыпу сюжэта. Як гэта ні дзіўна, сёння, сярод так пашыранага і таму некалькі штучнага і павярхоўнага захаплення літаратурнай моладзі пошукамі сучаснага стылю, здольнасць устаяць перад спакусай быць абавязкова сучасным у апрацоўцы і падачы матэрыялу, смеласць пісаць так, як пісалі ўжо да цябе і задоўга да цябе, не толькі не выглядае як недахоп, а нават становіцца добрай якасцю, адзнакай самастойнасці і сур'ёзнасці.

Узяць хаця б чыгрынаўскія зачыны. «На золку, калі яшчэ спявалі пеўні, я пакінуў Брады, каб да сонца выйсці праз расцяроб на Пычаў бераг» («Апавяданне без канца»). Альбо яшчэ: «Мы сядзім з леснікам Даўгалёвым на паваленай сасне: у ёй была бортня, і нехта паквапіўся на пчолы.

— От, слухай, — кажа ён і намацвае ў кішэні курыва... — Мяне звяла аднойчы нялёгкая дарога з чалавекам, перад якім я застаўся вінаватым».

Што нагадваюць гэтыя зачыны? Нарыс, замалёўкі з натуры, як справядліва заўважыў А. Вярцінскі, у № 10 «Полымя» (1965 год). Прыгадваецца і іншае — апавяданні, з дзяцінства знаёмыя і ўжо амаль забытыя: «Я ехал с охоты вечером один на беговых дрожках. До дому ещё было вёрст восемь...» Альбо яшчэ: «Однажды осенью, на возвратном пути с отъезжего поля, я простудился и занемог. К счастью, лихорадка застигла меня в уездном городе, в гостинице; я послал за доктором... Не знаю, чем я заслужил доверенность моего нового приятеля; только он, ни с того, ни с сего, как говорится, «взял» да и рассказал мне довольно замечательный случай...» Ці пазнаеце? Тургенеў, «Запіскі паляўнічага». Апавяданні «Бірук», «Стукае!», «Павятовы лекар».

Не сёння, вядома, гэтак сталася, што, дакладна ўсведамляючы сваё адрозненне ад «веку мінулага», мы ўсё больш забываемся на тое, у чым ён нам блізкі, і ўсё радзей аглядваемся на яго ў сваіх практычных мастацкіх пошуках. Відаць, дарэмна...

За вельмі натуральнымі, быццам бы нарысавымі, зачынамі ў Чыгрынава пойдуць разгортвацца апавяданні-сустрэчы. У іх герой-апавядальнік ці то будзе расказваць пра ўбачанае, пра сустрэтае ў жыцці, ці то будзе выслухоўваць нечыю споведзь, ці то апавяданне будзе весціся ў трэцяй асобе, але ва ўсіх гэтых выпадках увесь ход яго, таксама як і зачын, будзе пераконваць нас у верагоднасці сустрэч, падзей, пачуццяў. Тургенеў жа сам, як і яго сучаснікі, называў свае «Запіскі паляўнічага» нарысамі, альбо яшчэ — «гісторыямі».

Тым не менш падабенства замалёўкі і апавядання, якое ідзе ад факта і не дазваляе сабе не толькі прыдумваць, але і пераканструяваць жыццё, падманлівае, зыходнае. Яно збівала і працягвае збіваць з толку не аднаго прастадушнага літаратара, у выніку гэтага з'яўляюцца — і шмат! — апавяданні з адзінай мізэрнай «думкай»: і гэтак у жыцці бывае. Між тым, гэта вельмі не проста — зрабіць так, каб атрымалася «карціна болей жывая, красамоўная і поўная думкі, чым сапраўдны выпадак, які даў повад напісаць гэтую карціну». Для гэтага пісьменніку трэба ўмець, як пісаў Бялінскі, перапрацаваць узяты «гатовы змест па свайму ідэалу», г. зн. мець такі ідэал, інакш кажучы, развіты і акрэслены светапогляд, сістэму маральных уяўленняў аб жыцці, і да таго яшчэ, зразумела, «...у пэўнай меры паэтычны талент».

Іван Чыгрынаў з яго актыўным пошукам усё новых і новых сустрэч і ўражанняў, з яго чуйнасцю, вострай і імгненнай рэакцыяй на перажыванні другога, іншага чалавека, з яго здольнасцю неяк непадкрэслена, але тым не менш дакладна здабываць з убачанага ў жыцці яго маральны сэнс, — адным словам, з усімі асаблівасцямі свайго таленту як бы прызначаны для таго, каб уліцца ў тую плынь нашай навелістыкі, якая — ужо ў вельмі развітым выглядзе — бярэ свой пачатак ад Тургенева.

Нельга не сказаць, што, апрача прыроднай схільнасці, малады пісьменнік яшчэ і свядома пераконаны ў сваім абавязку менавіта так — у няспынным пошуку сустрэч з новымі людзьмі і мясцінамі — даследаваць жыццё. У гэтым сэнсе прынцыповае значэнне мае апавяданне «Адна ноч», якое стаіць амаль у пачатку зборніка «Птушкі ляцяць на волю».

Стары цыган Мікала, які на

сваім шляху сустракае ўсё больш падарожнікаў у «волгах» і «масквічах», што імчаць па люстраным асфальце на поўдзень, да мора, пытае ў свайго выпадковага маладога субяседніка, што падарожнічае па глухіх лясных і лугавых дарогах: «Ты ўсё ж не ўтаі, што цябе пацягнула на гэтыя бадзянні. Мне цікава будзе паслухаць. Ці сам вучышся, ці другіх збіраешся вучыць, га?» У самім гэтым пытанні, гэтак сфармуляваным, тоіцца ўжо і адказ: вучыцца — напэўна, вучыць — у нясмелай покуль надзеі, у мары, у мэце.

Стары ўсхвалявана гаворыць пра радасць сустрэчы з новым месцам і боль расстання з ім, пра адчуванне непаўторнасці сустрэчы, немагчымасці вяртання, і мы разумеем, як блізкія гэтыя пачуцці апавядальніку і самому пісьменніку: «І сёння вось гэта грыва. Думаеш, не зашчыміць маё сэрца, калі заўтра буду пакідаць яе, га? Зашчыміць, бацю! Ды яшчэ як зашчыміць! Бо другі раз сюды ўжо не вернеш...

Стары млява адмахнуўся ад дыму, які пацягнула ў яго бок. Гэта аднекуль з-за кустоў вербалозу наляцеў лёгкі вецер: зашастаў па макаўках пажарніку, скалыхнуў дым і задыхнуўся на краі грывы. І зноў настала цішыня».

Чыгрынаў умее не толькі слухаць чалавека, пра якога піша, але і бачыць яго, і нямногімі, быццам бы зусім звычайнымі, але ёмістымі словамі расказаць пра гэта. «Млява адмахнуўся» — так ахарактарызаваны жэст старога Мікалы, і як многа ўмясціла гэтае слова: і прывычнасць чалавека да дыму вогнішчаў, і занятасць, зацікаўленасць размовай, і хваляванне, ёю выкліканае, і, нарэшце, яго немаладыя гады.

Звычайна гавораць, што чалавек задыхнуўся ветрам ці дымам, які вецер прынёс. А Чыгрынаў кажа, што вецер сам задыхнуўся. Гэта нечакана, экспрэсіўна.

Стары цыган строгі да свайго, па ўсім відаць, адукаванага субяседніка. Яго памяць захавала ўспаміны пра тых, хто даўней хадзіў па дарогах у пошуках праўды — трэба разумець, пра народнікаў, рэвалюцыянераў. Параўнанне з імі — не ў карысць героя-апавядальніка. Але сам факт такога параўнання яшчэ раз выяўляе вышыню і сур'ёзнасць адносін маладога пісьменніка да жыцця, меру яго патрабавальнасці да сябе.

Сустрэчы ў апавяданнях Чыгрынава — гэта перакрыжаванні розных часоў і плоскасцей жыцця, розных лёсаў і характараў, у звычайнай сваёй плыні вельмі далёкіх адзін ад аднаго, як, напрыклад, сустрэча вясковых хлапчукоў, што перажылі акупацыю, з групай салдат, якія вызвалілі іх вёску, — кароткае далучэнне малых да вялікага свету дарослых, шмат у чым незразумелага, суровага і добрага («Бульба»).

Згадаўшы гэтае апавяданне, нельга не сказаць і яшчэ пра адно: Чыгрынаў не баіцца па-новаму, у нязвычнай танальнасці маляваць вядомыя жыццёвыя сітуацыі, якія маюць ужо ўстойлівыя традыцыі адлюстравання ў нашай літаратуры. Напрыклад, карціны вызвалення з-пад акупацыі ў шмат якіх творах падаюцца ў мажоры. А ў апавяданні Чыгрынава «Бульба» вызваленне вёскі намалявана так: «На папялішчы патроху сыходзіліся людзі. Ніхто не плакаў.

Не смяяліся і салдаты».

Незвычайна, праўда? Як быццам бы людзі і не рады. А на самай справе, у гэтай маўклівай, невясёлай карціне больш праўды, чым у якой-небудзь іншай, бо за гэтай маўклівасцю, запаволенасцю мы адчуваем невымерную стомленасць людзей — ад прыніжэнняў, ад гора, ад смяртэльнай небяспекі, ад соцень пройдзеных кіламетраў — стомленасць, якая не хутка знікае.

Калі б малады пісьменнік з дапамогаю ўлюбёнага ім прыёму здолеў паказаць хаця б толькі тое нядоўгае душэўнае ўзаемапранікненне, якое адбываецца з удзельнікамі сустрэч, толькі той эмацыянальны «ўсплёск», які гэтыя сустрэчы пакідаюць, дык і гэта ўжо было б добра. Чыгрынаву ж удалося стварыць шэраг арыгінальных чалавечых характараў, вобразаў людзей адначасова звычайных і ў нечым адметных і таму вартых нашай увагі і роздуму. Гэта — і да канца верны сваёй цыганскай, як ён гаворыць, праўдзе, стары Мікала: і нястрымны і добры Аляксей Кузмянок, які моцна любіць родныя мясціны («Ці бываюць у выраі ластаўкі»); і ні ў чым не падобныя адзін на аднаго ў сваіх адносінах да жыцця вадалаз Сухаў і экскаватаршчык Картыжоў («Вадалазы Сухавы, Віцька Картыжоў і нафтаправод»); і жанчына з апавядання «Жыве ў апошняй хаце ўдава», якая дваццаць гадоў чакае мужа з вайны, баючыся выехаць з вёскі, дзе ён яе пакінуў; і ляснік Даўгалёў, што доўгія гады не можа забыцца на сваю віну перад чалавекам, якому не паверыў («Праз гады»).

Вельмі цікава чытаць тыя апавяданні, дзе маладому пісьменніку ўдалося ўлавіць сувязь паміж чалавекам і часам. Такое «Апавяданне без канца». У ім Чыгрынаў пазнаёміў нас з вельмі рэльефнай фігурай Чыкілёнка. Гэта чалавек, якога ў пасляваенны час выкінула наверх, як выкідвае пену на паверхню імклівага патоку.

Чыкілёнак, выбіўшыся ў начальнікі, пакінуў сваю жонку Вольгу, ціхую вясковую жанчыну. І яшчэ добра было б, каб проста кінуў, а то самым здрадніцкім чынам зганьбіў, напісаўшы заяву, быццам бы дачку яна нарадзіла ад немца. Начальнік, у чыім кабінеце сядзіць разгубленая, ашаломленая Вольга, спакойны, бо перад ім паперка. Чыкілёнак ведаў, што рабіў, хаваючыся за паперку.

«Дапусцім, што вам можна паверыць, — спыніў яе той жа вялы голас. — Але ж і мужу вашаму я мушу паверыць. Тым больш, што дакументы пацвярджаюць...»

Зняслаўленая, слабая — у вайну яе катавалі за мужа немцы — Вольга памерла. А Чыкілёнак пахаджвае па зямлі з абыякавай упэўненасцю, з насмешлівай паблажлівасцю чалавека, якому ўсё дазволена, які быццам ведае аб жыцці такое, чаго не ведаюць іншыя. Вельмі цікавы вобраз стварыў малады пісьменнік — некалькі ўзбуйнены, абагульнены, але ўсімі сваімі карэннямі ў нашым рэальным учарашнім дні.

Ігнат Смаляkoў з апавядання «Па дарозе дамоў» чалавек, які ў жыцці бачыць адно толькі дрэннае, гультай, рвач — таксама параджэнне недалёкай мінуўшчыны.

Персанажы, якія супрацьстаяць Чыкілёнку і Смалякову ў гэтых двух апавяданнях, — людзі вельмі сімпатычныя, мяккія, чыстыя. Але, на жаль, яны вельмі слаба ўзброены супраць зла, з якім сустракаюцца ў жыцці, амаль безабаронныя супраць яго.

«Апавяданне без канца», відаць, таму так і называецца, што канца, г. зн. спосабу сутыкнення персанажаў, аўтар не ведае. У пачатку апавядання герой гаворыць: «Я меў што сказаць яму. Напрыклад, пра тое, як памірала яго жонка». А ў канцы: «Цяпер ён меў нешта сказаць пра Пычаў бераг. Але я пабрыў далей...»

Тое самае і ў апавяданні «Па дарозе дамоў». На запрашэнне Смалякова Сяргей адказвае: «Добра». А сам сабе думае: «Не, брат, дудкі! Ты мне ўжо і так душу выматаў». Аднак уголас усё ж такі сказаў «добра»...

Відаць, гэта ідзе ад жадання пісьменніка быць дакладна верным жыццю, не пераступаць рамкі ўбачанага. Праўда, у апошнім апавяданні зборніка «Вадалазы Сухавы, Віцька Картыжоў і нафтаправод» працілеглыя сілы праяўляюцца ярка і поўна ў мастацкім і ў жыццёвым сэнсе — і ўжо не толькі сутыкаюцца, але і ўзаемадзейнічаюць.

Кожнаму з нас даводзілася чытаць такія зборнікі прозы, якія ўспрымаюцца не як мастацкае цэлае, а проста як механічная сума пэўнай колькасці апавяданняў. Гэта могуць быць нават творы цікавыя па жыццёваму матэрыялу і ндрэнна напісаныя. Але яны не нясуць на сабе адзнакі прыналежнасці аднаму, менавіта гэтаму аўтару, яго своеасаблівых адносін да свету, яго арыгінальнай думкі аб жыцці. Гэта адбываецца таму, што аўтар такіх твораў або нецікавы, неглыбокі як асоба, або проста не мае акрэсленага духоўнага аблічча, альбо таму, што асоба яго яшчэ не выспела, не развілася. Галоўная, на мой погляд, вартасць зборніка Івана Чыгрынава ў тым, што апавяданні, сабраныя ў ім пад агульнай назвай, утвараюць кнігу цэласную, цікавую. Адбылося гэта дзякуючы цэласнасці, акрэсленасці асобы яе

аўтара. Прысутнасць асобы аўтара, чалавека добрага, мяккага, чыстага, сумленнага і прынцыповага, бачыш у кожным апавяданні.

Што ж галоўнае ў тым характары, які на працягу ўсёй кнігі, ад апавядання да апавядання накоплівае свае якасці і які мы можам сумаднесці з асобай аўтара, пісьменніка? Тут вагацца не прыходзіцца, бо яна свеціць амаль з кожнай старонкі, аб'ядноўваючы ўсе апавяданні кнігі,— яго актыўная, арганічная, не ад разважанняў, а ад душэўнай патрэбы — чалавечнасць. Яна адчуваецца ў аўтарскіх адносінах да людзей, якія жывуць у кнізе, да ўсяго, што з імі адбываецца; яна праяўляецца ў імкненні пісьменніка і яго герояў імгненна «настроіцца» на перажыванні іншага чалавека, разгадаць, зразумець гэтага чалавека, каб паспачуваць яму і памагчы.

Суздалеў з апавядання «Шукаючы скарбы» без усякага папярэдняга абдумвання і разліку прапануе выйсці за яго замуж жанчыне, якую зазнаў толькі сёння. І не таму нават, што раптоўна пакахаў, а галоўным чынам таму, што адчуў — яна не вельмі шчаслівая. Максім Перавалаў з апавядання «Сустрэча на пероне», выпадкова сустрэўшы тую, якую кахаў у юнацтве, зразумеў, што ёй нясоладка жывецца з яе нядобрым, грубым мужам, і адразу «занына, засаднела» ад жалю Максімава сэрца і «чужое няшчасце... так неспадзявана зрабілася сваім».

Не магло быць ніякай асабістай, тым больш эгаістычнай зацікаўленасці ў маладога хлопца з «Апавядання без канца», калі ён падабраў на бязлюднай дарозе з вёскі ў райцэнтр незнаёмую жанчыну, у якой пачаўся сардэчны прыступ, і нёс яе, а страціўшы надзею, бег па ўрачоў, потым прыйшоў адведаць хворую ў бальніцу. Жанчына памёрла, але хлопец не забыў яе. І вось як незвычайна ён аб гэтым кажа: «Гэтая магіла і мяне параднiла з Брадамі». Чужы лёс, у які ён умяшаўся, стаў часцінкай яго лёсу, увайшоў назаўсёды ў яго памяць.

І нарэшце яшчэ адно апавяданне — тое, што дало назву зборніку. Стары, па прозвішчу Дземідзёнак, купляе і выпускае на волю птушак. Хто смяецца з яго, хто абыякава паціскае плячыма, а хто зарабляе на дзівацтве Дземідзёнка. А адносіны апавядальніка да старога зусім іншыя, адметныя: «Паступова я пачаў лавіць сябе на тым, што ўжо не магу не думаць аб ім. Мяне неяк цалкам захапіў гэты пануры дзівак...»

Зблізіўшыся з Дземідзёнкам, герой апавядання ўбачыў аднойчы, як той выпускаў птушак. «Нарэшце я ўбачыў чалавека, які перажываў вялікую радасць...» Вось, аказваецца, што яго цікавіць і вабіць і можа зрабіць шчаслівым: убачыць шчаслівым другога! Такому чалавеку суджана і каханне, і сяброўства, і няспынная радасць еднасці з людзьмі. Толькі б не страціць гэтай здольнасці да самааддачы, гэтага душэўнага таленту!

Аднак апошняе апавяданне — яшчэ і ўрок стрыманасці, неабходнасці абмяжоўваць сябе і кіраваць сваімі, нават лепшымі пачуццямі, бо самае бескарыслівае, але няўмелае ўмяшанне ў чужое жыццё можа нанесці і шкоду. Вельмі спецыфічны ўрок.

Пры ўсім багацці сардэчных адносін да чалавека і вялікай эмацыянальнасці, І. Чыгрынава нельга назваць лірыкам. Ён наогул вельмі «нармальны» ў лепшым сэнсе гэтага слова пісьменнік — ураўнаважаны, памяркоўны, гарманічны. Апавяданне ў яго развіваецца натуральна, эканомна, нешматслоўна, без аніякай нацягнутасці альбо напружанасці. Чыгрынаў умее ў большасці сваіх апавяданняў своечасова спыніцца, прапусціць неабавязковую падрабязнасць ці эпізод, як бы вывесці іх за рамкі апавядання. І мова яго не паэтызаваная, не рытмізаваная, але ясная, дакладная.

Ну, а *недахопы*? Няўжо іх няма ў гэтай кнізе? Зразумела, ёсць, як у кожнага маладога пісьменніка. Але гэта — прыватнасці. Галоўнае ж — перад намі кніга па-юнацы чыстая і разам з тым сур'ёзная і самастойная, якая ўсім, што ёсць у ёй, сцвярджае вялікую праўду, вялікую мэту нашых дзён: чалавек чалавеку — друг, таварыш, брат.

**Юлія КАНЭ.**






# ПРАЎДА ЧАЛАВЕЧАГА СЭРЦА

**Вечаслаў АДАМЧЫК. Міг бліскавіцы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965.**

Падлетак Мечык па-дзіцячы сарамліва, затоена, але да болю моцна адчуў улюбёнасць да настаўніцы арыфметыкі. Часлава Карлаўна ў яго ўяўленні была чалавек надзвычайны. Вакол — прынесеныя ваенным ліхалеццем разбурэнні, неўладкаванасць, нястачы. Вакол — штодзённае, звыклае, нецікавае. А настаўніца заўсёды такая прывабная, ласкавая. І апранута яна не так, як усе; і трымае сябе па-асабліваму — спаважна, упэўнена, хораша. Для хлапчука, які яшчэ так недасведчаны ў жыцці, але ўжо бачыў людскія трагедыі, гвалт, несправядлівасць, настаўніца стала ўвасабленнем самага светлага, прыгожага, чалавечнага, усяго таго, да чаго ўпарта імкнулася яго даверлівая, чыстая душа. Яна стала яго марай «пра нязнаны празрысты свет», пра тое, што павінна быць дзесьці там, куды кожны дзень спяшаюцца цягнікі.

І калі Чаславы Карлаўны не стала ў школе, у Мечыка «застаўся сум, нейкі выразны сум, як сум перад восенню па яснай вясне». Прайшло нямала гадоў, а ў сэрцы Мечыка ўсё яшчэ жыве «радасная туга», каб сустрэцца са сваёй колішняй марай. «Але, пэўна, і цяпер я не сказаў бы ёй пра тое, што я яе любіў, любіў з неразважнай, смешнай дзіцячай затоенасцю. Не сказаў бы. Бо мы заўсёды мала добрага гаворым другім, баючыся чужое радасці і, мусіць, гэтак трацім сваю», — так канчаецца апавяданне «Урок арыфметыкі», змешчанае ў новай кніжцы Вечаслава Адамчыка «Міг бліскавіцы».

Нам цяжка ўявіць аблічча гэтай, так апаэтызаванай дзіцячай фантазіяй, настаўніцы. Цяжка хаця б таму, што мы не адчуваем яе душы, яе парываў, не пранікаем у свет яе думак. Ды гэта, пэўна, не вельмі і важна. Бо апавяданне мае зусім іншы творчы «прыцэл». «Урок арыфметыкі» — гэта вельмі шчырая, даверлівая размова пра чысціню, хараство душы таго чалавека, у якога ўсё яшчэ ўпераздзе, якому ўжо цесна ў няўтульнай будзёншчыне, якога цягне нязведанае, рамантычнае. Гэтая размова вядзецца проста, без усялякай прэтэнзіі на знешнюю займальнасць, на эфект.

У звычайным, у побыце, у штодзённым жыцці Адамчык убачыў сапраўдную паэзію, здолеў данесці да нас заўсёды мілую рамантыку дзяцінства, «прымусіў» успомніць перажытае, паглядзець «дарослымі» вачыма на пройдзенае, узважыць ранейшыя ўчынкі. Ажыццявіць сваю задуму аўтару дапамагло ўменне бачыць кожную, здавалася б, дробязь побыту, стварыць павышаную эмацыянальную настраёвасць, паэтычную атмасферу апавядання. Кожная падзея ў яго творы сагрэта лірычным аўтарскім пачуццём — яна ўспрымаецца як асабістая, самім зазнаная, прадуманая.

І яшчэ, у Адамчыка вельмі востра адчуваецца ўвага да чалавечнага ў чалавеку. Пісьменнік імкнецца ўславіць хай і непрыкметныя на першы погляд, добрыя ўчынкі людзей, выказаць спагаду чужой бядзе, заклапочанасць будучыняй парасткаў здаровага, светлага, усяго таго, што ўпрыгожвае, робіць абжытай, утульнай нашу зямлю.

Героі Вечаслава Адамчыка не любяць выхваляцца сваімі добрымі справамі; ім гэта не ўласціва, бо для іх быць сумленнымі, добразычлівымі, спагадлівымі, чыстымі ў пачуццях і намерах — тое ж, што дыхаць, працаваць, жыць. Але пісьменнік не можа не расказаць пра чалавечнасць сваіх сціплых герояў. Ён упэўнены, што калі людзі больш чуюць пра добрае, яны больш радуюцца і тым самым становяцца здольнымі прыносіць радасць іншым. Мабыць, не будзе памылкай сказаць, што лейтматыў зборніка «Міг бліскавіцы», яго ўнутраная тэма — гэта паэтызацыя светлых і чыстых крыніц чалавечага жыцця, паэтызацыя акрылёная, узнёслая, але не бяздумная, напышлівая, не ўсхваленне дзеля таго толькі, каб паведаміць, што пры нашым ладзе ўсё добрае ідзе насустрач чалавеку, спадарожнічае яму і ў справах, і ў штодзённым побыце.

Пры павярхоўным знаёмстве з творамі Вечаслава Адамчыка можа здацца, што пісьменнік у нечым быццам бы салідарны з застарэлай, бясплённай традыцыяй нядаўніх часоў: у яго ж апавяданнях, бачыце, не бурляць вострыя канфлікты, не разгортваюцца трагедыйныя калізіі. Празаік, бы знарок, абмінае іх, хоць дзесьці на заднім плане яны і

*Далей гл. стар. 130.*

# ПАЛОТНЫ, ПОЎНЫЯ ЖЫЦЦЯ



*Яўсей Маісеенка ў майстэрні.*

Амаль кожны год Яўсей Яўсеевіч Маісеенка прыязджае на радзіму — у Беларусь, тут чэрпае натхненне, знаходзіць вобразы і тыпажы для карцін. Паводле слоў самога мастака, усе вобразы яго карцін навеяны сустрэчамі з землякамі, людзьмі працавітымі і мужнымі.

Дзяцінства і юнацтва Я. Маісеенкі прайшло ва Уваравічах на Гомельшчыне. Пасля заканчэння сямігодкі ў 1933 годзе юнак паступае ў Маскоўскі мастацка-прамысловы тэхнікум, які выпускаў тады майстроў для Лагуціна, Палеха, Мстэры. «Было фанатычнае жаданне працаваць»,— успамінае мастак. І ён упарта і настойліва працаваў: маляваў у вучылішчы пасля заняткаў, капіраваў у Траццякоўскай галерэі і музеі заходняга мастацтва. Штодзённае назіранне чалавека ў працы, жыцці, яго манеры размаўляць, хадзіць, апранацца — папаўнялі мастацкі багаж студэнта.

У 1935 годзе Я. Маісеенка абараніў дыпломную работу «Чапаеў». Жаданне прадоўжыць мастацкую адукацыю прыводзіць яго ў Акадэмію мастацтваў. Сістэматычная праца і заняткі ў майстэрні прафесара А. Асмеркіна далі свой плён — Маісеенка становіцца адным з лепшых вучняў Акадэміі і паспяхова прыступае да выканання дыпломнай карціны «Шчорс». Аднак вайна спыніла вучобу, і толькі праз шэсць гадоў Я. Маісеенка здолеў вярнуцца ў Акадэмію мастацтваў, дзе стварыў поўную аптымізму і ўрачыстасці перамогі карціну «Генерал Даватар». Карціна прысвечана славутаму рэйду кавалерыйскага корпуса генерала Даватара па лясах і палях Смаленшчыны.

Пасля заканчэння вучобы Маісеенка піша карціны, якія экспануюцца на ленінградскіх і ўсесаюзных мастацкіх выстаўках: «За ўладу Саветаў», «62-ая пераправа», «Партызаны». У іх прыкметна эвалюцыя мастака, выяўленне ім свайго творчага аблічча. Адначасова ён стварае карціны, лірычныя па зместу. І ўсё ж яго больш хвалююць ваенныя тэмы, слаўныя паходы гераічнай Чырвонай Арміі.

Карціна «Першая конная» — гэта гімн Першай коннай арміі С. М. Будзённага. Мастак адлюстраваў у ёй імклівасць, сілу і трыумф поступу чырвоных коннікаў. Усе фарбы тут зведзены ў прыгожы гарманічны акорд. Пад канец 50-х гадоў Маісеенка стварае выдатную па сваёй выразнасці сюіту з невялікіх карцін: «Арлёнак», «Трубач Першай коннай», «Развітанне». Гэта жывапісная песня пра юных чырвонагвардзейцаў і разам з тым поўны смутку рэквіем па загінуўшых байцах.



Малюнак да карціны «Чырвоныя прыйшлі».

У 1960 годзе Я. Маісеенка заканчвае два свае творы: «Апалчэнцы» і «Чырвоныя прыйшлі».

Народныя апалчэнцы размясціліся на хвіліну адпачыць. Твары людзей задуменыя і напружаныя. Яны аглядаюцца навокал, дыхаюць паветрам абпаленай зямлі, якую павінны адваяваць. Трывога і гатоўнасць да подзвігаў — асноўны настрой карціны. Я. Маісеенка змог тонка паказаць чалавечую псіхалогію, перадаць багацце пачуццяў. Мастак працаваў над гэтым творам доўга, часта перапісваючы асобныя месцы. У карціне многа выдатных жывапісных фрагментаў і дэталей: абпалены акоп, выцвілыя гімнасцёркі, твары салдат. Каларыстычнае рашэнне падпарадкавана тэме і агульнаму настрою твора. Карціна «Апалчэнцы» з'яўляецца вузлавым момантам у творчасці Я. Маісеенкі: да мастака прыходзіць прафесійная сталасць.

Чатыры гады працаваў мастак над карцінай «Чырвоныя прыйшлі». Жыццёвы матэрыял даў магчымасць мастаку дасягнуць яркай індывідуальнасці, непаўторнасці і, адначасова, характэрнасці кожнага вобраза.

Вельмі цікавы пейзаж напісаны да гэтай карціны ва Уваравічах.

Карціна «Чырвоныя прыйшлі» навеяна ўспамінамі дзяцінства. Сам мастак так піша пра яе стварэнне: «Я памятаю сябе хлапчуком у глухім сяле Беларусі — Уваравічах. Стоячы за дашчатай агароджай, я з захапленнем глядзеў на



Эцюд да карціны «Зямля».



**Таварышы. 1963—1964 г.**

запыленых коннікаў-чырвонаармейцаў, якія праносіліся міма мяне. Яны мне здаваліся волатамі. Гэта было незвычайна. Такімі я памятаю іх і цяпер — яны сапраўды былі волаты...»

«Чырвоныя прыйшлі» — адна з этапных работ мастака. Яна заваявала шырокую папулярнасць і гарачую любоў усюды, дзе выстаўлялася. Карціна пабывала ў многіх краінах: Германіі, Даніі, Бразіліі, Мексіцы, на Кубе.

Апошнія карціны Я. Маісеенкі, паказаныя на другой мастацкай выстаўцы «Савецкая Расія» — «Зямля», «З маленства», «Таварышы», «Ясенін з дзедам» — даюць падставу гаварыць пра выключнае майстэрства мастака. У параўнанні з папярэднімі работамі гэтыя карціны — самы значны этап яго творчасці. Саюз мастакоў СССР прадставіў іх сёлета на атрыманне Ленінскай прэміі 1966 года.

Характар жывапісу апошняга перыяду адзначаны шырокім дыяпазонам выяўленчых сродкаў, разнастайным падыходам мастака да вырашэння тэмы. Для творчасці Маісеенкі гэтых год характэрна арыгінальная, прадуманая кампазіцыя, мудрая нешматслоўнасць усіх мастацкіх сродкаў, каштоўныя навацыі ў разуменні жывапіснага мазка, дэкаратыўнасць і пластыка вобраза і поўная гармонія ўсіх выяўленчых сродкаў з задумай твора.



Ясенін з дзедам. 1963—1964 г.

Творы мастака ўзаемназвязаны не знарочытымі «пошукамі» індывідуальнага стылю, а выяўляюць яго сваёй сутнасцю, мастацкім бачаннем і значнасцю вобразаў. Гэта дасягаецца многімі спосабамі: і выкарыстаннем колеру ў залежнасці ад зместу твора, і трактоўкай дэталей у карціне, і падкрэсліваннем самага грунтоўнага ў форме і змесце твора.

У пошуках характэрнасці і жыццёвай праўдзівасці вобразаў у карціне «Зямля» Я. Маісеенка стварае мноства партрэтных эцюдаў. Ён піша іх са сваіх землякоў і пераносіць тым самым у карціну рэальныя, непаўторныя рысы жывых людзей. «Зямля» — твор натхнёны, рэалістычны. У ім няма непатрэбнай пампезнасці, дзяжурных шырокіх усмешак на тварах. Галоўнае ў тым, што гэтыя людзі, якія працуюць на зямлі, умеюць думаць. Яны не проста жывуць, працуюць і адпачываюць, яны цвёрда ведаюць, чаму ім так любая зямля, якой яны аддаюць усе свае сілы.

Такія ж моцныя, мужныя людзі і ў карціне «Таварышы». Яны адстаялі заваёвы рэвалюцыі і грамадзянскай вайны і адкрылі пачатак новай эры ў гісторыі чалавецтва.

У карціне «Ясенін з дзедам» не трэба шукаць канкрэтнага вобраза Ясеніна. У асобе паэта мастак бачыць апаэтызаваную Русь, Русь дзедаўскую, з цэркаўкамі, пахіленымі платамі, шэрымі хатамі. І побач маленькі паэт, які глядзіць у будучыню цікаўнымі вачыма.

1963—1964 гады — плённы перыяд у творчасці мастака. Акрамя карцін «Зямля», «З маленства», «Таварышы», «Ясенін з дзедам», ён напісаў мноства іншых твораў — партрэтнага і пейзажнага жанраў. Творчасць Яўсея Яўсеевіча Маісеенкі — гэта паўсядзённыя пошукі: пластыкі, кампазіцыі, колеру. Знамянальныя ў гэтых адносінах словы Рэната Гутуза, звернутыя да мастака: «Дзякуй вам за ваша мастацтва, за няспыннае яго развіццё». І тыя водгукі, якія атрымліваюць палотны Маісеенкі пасля кожнай выстаўкі, сведчаць, што пажаданні італьянскага мастака, адрасаваныя свайму калегу, спраўджваюцца — мастацтва нашага земляка няспынна развіваецца.

**Галіна КЕКУШАВА.**

г. Ленінград.



*Пачатак на стар. 127.*

прысутнічаюць, уплываюць на падзеі, што адбываюцца на сюжэтнай пляцоўцы твора. Але ўся справа ў тым, што ў Адамчыка іншы, сучасны погляд на чалавека, свая ацэнка яго грамадзянскіх і маральных якасцей.

У хату да Ходаса (апавяданне «Дзень ранняе восені») нечакана прыходзіць хлапчук. Высвятляецца, што ён — Ходасаў сын, аб існаванні якога бацька не ведаў, бо ўжо нават забыў, што некалі часта сустракаўся з Аксеняй... Вось дзе, здаецца, павінна разгарнуцца драматычная барацьба пачуццяў. І Ходас, і яго жонка, і Ванька — кожны знаходзіцца ў стане душэўнай узрушанасці, у кожнага ёсць свая праўда і свая крыўда. Сітуацыя сапраўды драматычная. Але такая ўжо манера ў Адамчыка, што драматызм гэты мала адчуваецца — ён быццам тоне ў шырокай павольнай і разам з тым няструмнай лірычнай плыні. Героі і сустрэліся нібыта дзеля таго, каб стаць лепшымі, каб хоць крыху прыадкрыць сваю душу.

Якая ні цяжкая была навіна для жонкі Ходаса, але жанчына не дала волі нахлынуўшай крыўдзе, а, пэўна, усё цвяроза абдумала і рабіла ўсё так спакойна, па-жаноцку спагадліва, што нават Ходас быў здзіўлены — каму ж, як не яму, ведаць яе характар. А яна не прытваралася, яна як маці зразумела сэрца гэтага шчуплага хлапчука, пашкадавала яго: ён жа вырас без бацькі... Таму такім натуральным выглядае яе, папраўдзе, высакародны ўчынак: тыя грошы, што нават ад сябе хавала на чорны дзень, яна аддала хлопцу на паліто. І вось бацька і сын ідуць па мястэчку — самыя звычайныя людзі, добрыя людзі. «На іх ніхто не глядзеў: усё было чалавечае — дзень, сонца, ранняя восень і хараство нядзелі».

Унутраным драматычным напружаннем вылучаецца апавяданне «Салодкія яблыкі». Падзеі тут адбываюцца ў час вайны; яна і ўнесла ў душу падлетка Тоніка трывожную ўзрушанасць, прымусіла нечакана і не ў час пасталець.

Здарылася так, што ў тую ноч, калі чарга быць сельскім старастам дайшла да Тонікавай хаты, у вёску нахлынулі паліцэйскія, і хлапчук вымушаны быў паказаць ім, у каго ёсць коні. У абоз забралі і Сямёна Мокуця, таго самага Арсенікавага бацьку, якога горш агню баяўся Тонік, бо ведаў, што той памятае, хто рабіў набегі ў яго сад па салодкія яблыкі. «Мне ўжо не будзе каго баяцца, калі Мокуця забяруць у абоз», — радаваўся Тонік. Але Сямён з абозу не вярнуўся. І Тонік усё больш і больш стаў усведамляць сваю віну, хоць на самай справе вінаваты ён быў хіба толькі таму, што жыў у час, калі ішла вайна. Тонік, як і іншыя героі Адамчыка, — натура ўражлівая, сумленная, чыстая і, значыць, не можа не браць адказнасці на сябе, не можа змірыцца з тым, што і ён меў дачыненне да няшчасця. Хлопец цяжка захварэў, яго сілы былі падарваны неўтаймаванай унутранай барацьбой.

Такія апавяданні, як «Салодкія яблыкі» ці «Раяль з адламаным вечкам»,— страсныя антываенныя творы, напісаныя з пазіцый нашага, актыўнага гуманізму. Накіраванасць іх найбольш ярка выяўляецца ў заключных радках апавядання «Раяль з адламаным вечкам»: «Мы яшчэ былі дзеці, але ў нашых вачах стаяла вайна. Мы яе бачылі малымі, каб разумець і ненавідзець дарослымі».

Мастацкай перакананальнасці малюнка Адамчык дабіваецца не толькі ўдумлівым раскрыццём псіхалогіі герояў, праўдзівым выяўленнем руху іх пачуццяў. Добрую службу служыць яму і канкрэтны паказ бытавых абставін, тых акалічнасцей, у абсягу якіх знаходзяцца героі. Пісьменнік добра ведае побыт заходнебеларускай вёскі. Чытаеш яго творы, прынамсі тыя, дзе згадваецца маленства і юнацтва герояў, і зноў нібы вяртаешся ў родныя мясціны. Прызнаюся, мне часам здаецца, быццам апавяданні Адамчыка напісаны менавіта пра маю вёску, пра тыя падзеі, якія надоўга засталіся ў памяці.

Лірычная і бытавая плыні ў лепшых творах Адамчыка не канфліктуюць між сабой. Іх мірнае суіснаванне дае магчымасць пісьменніку весці размову пранікліва, усхвалявана і разам з тым вельмі праўдзіва, проста, непасрэдна. Аднак іншы раз здараецца, што пісьменнік занадта давяраецца творчай інтуіцыі, і тады ў яго апавяданнях не адчуваецца строгай мэтанакіраванасці ў адборы матэрыялу. Бывае і так, што дзеля паэтызацыі аўтар ахвяруе глыбінёй псіхалагічнага аналізу. У ранейшых творах Адамчыка («Млечны шлях», «Свой чалавек») можна было назіраць недастатковую псіхалагічную матываванасць учынкаў персанажаў — даследаванне характараў часам падмянялася простай канстатацыяй учынкаў героя. Не цалкам пазбавіўся гэтага пісьменнік і ў некаторых творах апошняга зборніка.

Мне здаецца, не надта шанцуе Адамчыку ў паказе закаханых («Міг бліскавіцы», «Белы снег»). Празаік становіцца нейкі сентыментальны, героі, як ні стараецца аўтар падкрэсліць глыбіню і шчырасць іх пачуццяў, выглядаюць надта ж будзённымі — ім, уласна, няма пра што і паразважаць, памарыць, застаецца толькі глядзець адно аднаму ў вочы, захапляцца, адчуваць сваю радасць. Уяўны ці, калі можна так сказаць, апісальны псіхалагізм тут нярэдка замяняе сапраўдны аналіз пачуццяў.

Герой апавядання «Міг бліскавіцы» Анатоль Лазаковіч — чалавек сур'ёзны, нядрэнны сем'янін — выпадкова трапіў на хрэсьбіны, сустрэўся з жанчынаю і адразу, што называецца, закахаўся. Яго розум супраціўляецца, але сэрца не слухае, і спаважны Анатоль у сваіх учынках пачынае нагадваць пераросдага блазна. Бясспрэчна, і такая сітуацыя можа быць жыццёвай. Але ж для мастака недастаткова занатаваць яе, сказаць, што пасля нечаканай сустрэчы і мімалётных пацалункаў у Лазаковіча «на сэрцы рабілася хораша, прыемна, радасна, і ён усё думаў, што ў гэтай маленькай радасці, можа, і ёсць вялікае чалавечае шчасце». Думка, магчыма, і слушная. Але яна не даведзена логікай твора. «Міг бліскавіцы» тут хоць у пэўнай ступені і загадкава рамантычны, аднак не такі ўжо і прывабны, бо бліскавіца не асвятліла душу героя так, каб мы па-сапраўднаму ўбачылі яе, зацікавіліся героем, задумаліся разам з ім над складанасцю жыцця. Твор жа, дзе ўчынкі героя тлумачацца амаль выключна падсвядомымі імпульсамі, шмат траціць у сваёй мастацкай праўдзівасці.

Добра, што В. Адамчык засяроджвае свой позірк на духоўным абліччы ге-

роя, імкнецца пранікнуць у самыя паэтычныя тайнікі чалавечага сэрца. Але было б яшчэ лепш, каб ён, развіваючы ў далейшым гэтыя каштоўныя якасці свайго таленту, шырэй глядзеў на свет, смялей паказваў чалавека ў яго грамадскіх сувязях, у барацьбе за здзяйсненне светлых ідэалаў нашага жыцця. Хацелася б бачыць героя Адамчыка больш дзейсным, актыўным, наступальным. У пісьменніка ж ёсць творчыя магчымасці, настойлівасць у працы, каб упэўнена ўздымацца да абагульненняў высокага грамадзянскага гучання.

Герой апавядання «Жывая вада» так звяртаецца да любай сэрцу, роднай рачулкі:

«Ятранка, я яшчэ прыйду на твой бераг, каб глянуць у тваю чыстую глыбіню. Ты цячэш праз маё сэрца. Ты помніш—на тваім беразе радзіўся я. Яшчэ не раз я прыйду да цябе, каб зачэрпнуць у прыгаршчы твае жывучае святой вады і напіцца».

Красамоўнае прызнанне. Талент Вечаслава Адамчыка жывіцца сокамі роднай зямлі, праўдай нашага сёння. Настойлівая праца пісьменніка, які ўжо някепска заявіў пра свае здольнасці, прынясе нашай літаратуры добры плён.

**Міхась ЯРОШ.**

## Кнігарня „Маладосць"

# ІСЦІНУ НАРАДЖАЕ РОЗУМ

«...І ўзмацнілася вада на зямлю надзвычайна, так што пакрыліся ўсе высокія горы, якія ёсць пад усім небам... Усё, што мела дыханне духу жыцця ў ноздрах сваіх на сушы, памерла. Знішчыліся істоты, якія былі на паверхні ўсёй зямлі: ад чалавека да жывёліны і гадаў, і птушак нябесных, усё знішчылася з зямлі — *застаўся толькі* Ной і што было з ім у каўчэгу», — так апавядае біблія пра нібыта пасланы богам на зямлю за грахі людзей «сусветны патоп».

Адкуль бярэ вытокі гэтая легенда? Як яна трапіла на старонкі «свяшчэннага пісання?» Якую ролю адводзяць ёй царкоўнікі?

Адказ на гэтыя пытанні чытач знойдзе ў нядаўна выпушчанай выдавецтвам «Беларусь» брашуры **В. ВАСІЛЬЕВА «НОЕЎ КАЎЧЭГ»**. Гэта шчырая, цёплая гутарка аўтара з веруючым чалавекам. Васільеў не навязвае субяседніку свае погляды, не прымушае адразу ж прымаць напісанае на веру. Ён уважліва аналізуе біблейскае паданне аб патопе, пакідаючы рэлігійнаму чалавеку права самому задумацца, асэнсаваць напісанае і прыйсці да правільнага вываду.

Брашура напісана папулярнай мовай, вельмі пераканаўча. Аўтар спыняецца на супярэчнасцях бібліі. Бог нібыта сказаў Ною: «З усіх па пары ўвойдуць да цябе», г. зн. загадаў узяць у каўчэг па пары з кожнага віду жывёл. А ў другім месцы той жа бібліі бог ужо гаворыць Ною зусім іншае: «І ўсякай жывёлы чыстай вазьмі па сямі мужчынскага і жаночага, а з жывёлы нячыстай два, мужчынскага полу і жаночага». А чым харчаваліся некалькі месяцаў у часе патопу жывёлы? — адразу ж напрошваецца пытанне.

В. Васільеў шляхам аб'ектыўнага аналізу дае правільнае тлумачэнне біблейскай легендзе, адказвае на многія пытанні, якія цікавяць веруючага.




Ужо сама назва брашуры **Л. МІНЬКО «СВЯТАЯ» ВАДА»** гаворыць аб тым, якое пытанне імкнецца растлумачыць аўтар свайму чытачу. Бадай няма такога чалавека, які не чуў бы пра «святую» і «нагавораную» ваду, што нібыта вылечвае ад хвароб. Ёсць людзі, якія і цяпер імкнуцца вылечыць сваю хваробу такім зеллем.

Л. Мінько пабываў у многіх людзей, якія доўгі час лячыліся «святой» і «нагаворанай» вадой, наведаў і саміх «лекараў», а таксама многія «святыя» крыніцы, азнаёміўся з лабараторнымі даследаваннямі іх вады.



Аб тым, якую карысць «святая» і «нагавораная» вада прыносіць хворым, чытач сам можа даведацца з брашуры. Скажам толькі, што брашура напісана на падставе багатых назіранняў і цікавых фактаў, узятых з жыцця.




Брашура **М. ЛЕНСУ «ДАБРО І ЗЛО»** пабудавана ў форме пісем да веруючага чалавека.

Дабро і зло! Па-рознаму разумелі і тлумачылі гэтыя маральныя катэгорыі людзі розных эпох, ідэалогій, рэлігій, класаў. Часам бывала так, што адна і тая ж з'ява адным сацыяльна-грамадскім класам разглядалася як увасабленне дабра, а для іншых яна выступала як выяўленне зла.

Багасловы ўсіх веравызнанняў лічаць, што толькі рэлігія дае правільнае тлумачэнне дабра і зла. «Няма дабра, якое было б не ад бога»,— павучаюць «святыя» айцы. І ўжо вядома: зло прыпісваецца абаронцамі рэлігій толькі атэістам.

Што ж такое дабро і зло?

Аб'ектыўны адказ на гэтае пытанне дае ў сваёй брашуры М. Ленсу. Аўтар даказвае зямное, чалавечае паходжанне дабра і зла, паказвае, што зло, як правіла, з'яўляецца спадарджэннем сацыяльнай няроўнасці.

У чым сутнасць жыцця? У імя чаго жыве чалавек? Якое яго прызначэнне? Што трэба рабіць, каб жыццё тваё не прайшло бясследна?

Не сыходзяцца погляды на гэтыя пытанні ў атэістаў і веруючых Абаронцы рэлігіі гавораць, што сэнс жыцця чалавека заключаецца ў пазнанні бога, у падрыхтоўцы сябе да жыцця ў вечным царстве, у так званым замагільным свеце.




Аўтар брашуры **«АБ СЭНСЕ ЖЫЦЦЯ» Л. ГУЦАЛЕНКА** даказвае негрунтоўнасць рэлігійнага вучэння пра сэнс жыцця людзей, паказвае, што сапраўднае прызначэнне чалавека — служэнне грамадству, свайму народу. Ілжэнавуковым выдумкам рэлігіі супрацьстаўляецца марксісцка-ленінскае разуменне сэнсу жыцця, раскрываецца вялікі сэнс барацьбы савецкага чалавека за ўсталяванне камуністычнага ідэалу — сапраўднага шчасця на зямлі.

Усе брашуры, пра якія гаварылася вышэй, выдадзены выдавецтвам «Беларусь» у серыі «Гутаркі з веруючымі». Па цане яны роўныя звычайнай газеце, прыгожа, з густам аформлены, маюць невялікі, зручны фармат.

Не прыходзіцца сумнявацца, што гэтыя невялікія кніжкі зробяць неацэнную дапамогу ў фарміраванні правільнага погляду на жыццё, на свет.

**Іван КОШМАН.**



---

Папраўка: У мінулым выпуску кнігарні «Маладосць» у артыкуле «Пісьменнік пра мастацкае слова» пераблытаны радкі. Другі сказ першага абзаца трэба чытаць так: «А нядаўна масавы чытач упершыню сустрэўся з Міхасём Стральцовым—крытыкам. Выйшла ў свет першая кніжка яго літаратурна-крытычных артыкулаў «Жыццё ў слове» (выдавецтва «Беларусь»)».

Рэдакцыя просіць у чытачоў прабачэння за прыкры недагляд.




## ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ДАТЫ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ
## 1966 ГОД

**ЧЭРВЕНЬ**

| | |
|---|---|
| **1** | 15 гадоў з дня выхаду (1951) першага нумара газеты «Фізкультурнік Беларусі». |
| **3** | 50 гадоў назад (1906) адбылася эканамічная забастоўка рабочых гільзавых фабрык у г. Брэсце. |
| **5** | 40 гадоў назад (1926) было створана таварыства кампазітараў і драматургаў Беларусі. |
| **9** | 35 гадоў назад (1931) адбылася забастоўка рабочых лесапільнага завода «Горбур» у м. Янава былога Драгічынскага павету. |
| **10** | 10 гадоў з дня адкрыцця (1956) Заслаўскага водасховішча (Мінскага мора). |
| **12** | 45 гадоў з дня пуску (1921) лесапільнага завода «Дрэваапрацоўшчык» у Мінску. |
| **18** | 25 гадоў назад (1941) пачалося запаўненне штучнага возера ў Мінску, якому далі назву Камсамольскае. |
| **22** | 25 гадоў з дня нападу (1941) фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза. |
| **22 чэрвеня — 14 ліпеня 1941** | Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці. |

Пачатак гл. № 1.

Падрыхтаваны аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.





# ДУНАЙСКІЯ ХВАЛІ

**БЕЛЫ ГОРАД.** Важка ўздымаюцца хвалі Дуная. Яны чулі вальсы Штрауса і бадзёрыя рытмы чардаша, у іх адлюстраваліся гатычныя вежы Браціславы і сонечныя ружы Балгарыі. У глыбокай старажытнасці на Дунаі быў пабудаваны горад. Здалёку ён здаваўся белым. Яго так і назвалі Белград.

...Мы стаім на высокім узгорку, дзе захаваліся руіны старой крэпасці, самага першага збудавання югаслаўскай сталіцы. Унізе — велічны Дунай і яго прыток Сава, суднаходная рака, якую не аднойчы прыходзіцца пераязджаць, падарожнічаючы па Югаславіі. Здаецца, што Дунай адкінуў свой прыток толькі дзеля таго, каб абняць блакітнай істужкай старадаўні ўзгорак. У гэтым важным, стратэгічным пункце скрыжаваліся дарогі на Усход і Захад. Зліццё Дуная і Савы было граніцай паміж Аўстра-Венгерскай манархіяй і Турэцкай імперыяй. Старая крэпасць, пабудаваная яшчэ ў IV стагоддзі, не адзін раз была разбурана і адноўлена зноў.

Уся гісторыя Сербіі — гэта гісторыя разбурэння яе шматлікімі заваёўнікамі. Харватыя, Славенія, Боснія, Герцагавіна і Чарнагорыя таксама пакутавалі на працягу стагоддзяў ад турэцкіх набегаў.

Мы аглядаем разваліны крэпасці, падымаемся на вежу. У ёй знаходзіцца музей воінскай славы. Буйна цвіце акацыя, ператвараючы гэты старадаўні ўзгорак ва ўтульны парк. Сёння нядзеля. Навокал і ў парку людна. Раптам з кішэннага прыёмніка, які трымае хлопчык год дзесяці, даносіцца: «Пачынаем радыёперадачу: «Гаво-

| | |
|---|---|
| **23** | 50 гадоў назад (1916) адбылася забастоўка рабочых друкарняў у г. Брэсце. |
| **26** | 25 гадоў з дня гераічнай гібелі (1941) М. Ф. Гастэлы, Героя Савецкага Саюза. |
| **29** | 60 гадоў з дня нараджэння (1906) І. Д. Чарняхоўскага, генерала, савецкага ваеннага дзеяча, двойчы Героя Савецкага Саюза, які камандаваў 3-м Беларускім фронтам. Загінуў у 1945 годзе. |
| **30** | 30 гадоў назад (1936) у Мінску адбыўся 30-тысячны парад фізкультурнікаў Беларусі. |
| **Чэрвень** | 50 гадоў назад (1916) адбылася палітычная забастоўка рабочых ільнопрадзільнай фабрыкі «Дзвіна» ў Віцебску. |

**ЛІПЕНЬ**

| | |
|---|---|
| **3** | 90 гадоў з дня нараджэння (1876) Цёткі (А. С. Пашкевіч), выдатнай беларускай паэтэсы. Памёрла ў 1916 годзе. |



Белградскай вуліцай.

рым па-руску». Хлопчык уважліва прыслухоўваецца.

Прыгожы мост цераз Дунай звязвае старую і новую часткі югаслаўскай сталіцы. Жамчужынай архітэктуры новага Белграда з'яўляецца будынак Цэнтральнага Камітэта Саюза камуністаў Югаславіі. Яшчэ вечарам, пад'язджаючы да горада, мы звярнулі на яго ўвагу. Шмат шкла. На плошчы перад фасадам вялікі фантан. Але мы не атрымалі б поўнага ўражання, калі б нашы сябры не паказалі нам гэты будынак увечары. Святло можа тварыць цуд! А фантан! Кожны яго струмень свеціцца паразнаму. То ўзлятаючы, то падаючы, то мудрагеліста акругляючыся, струмені ўтвараюць за тры гадзіны 120 розных камбінацый. Кожная з іх адрозніваецца ад папярэдняй не толькі формай струменяў, але і колерам. У канцы гэтага каскада ўзнікае трохколерны сцяг Югаславіі.

**З ТЫМІ, ХТО ПРЫНЁС ВЫЗВАЛЕННЕ.** Невялікая арка ля ўваходу. З двух бакоў гарэльефы. На левым дзяўчына — увасабленне свабоды — уздымае сцяг сваёй радзімы. Справа — сустрэча воінаў-вызваліцеляў жыхарамі горада.

Магілкі. Тут пахаваны тыя, хто загінуў за вызваленне Белграда, за светлыя ўсмешкі дзяцей, якія гуляюць тут жа ў цяністых алеях. Белыя пліты з двух бакоў пад разгалістымі дрэвамі. І надпісы, якія абпальваюць сэрца. Імёны, прозвішчы і «112 невядомых байцоў Чырвонай Арміі». Зноў імёны, прозвішчы... і «115 невядомых байцоў». Яркачырвоныя гваздзікі прыкрылі пліту з надпісам «Маша». Алеі вядуць да цэнтра магілак, да помніка савецкім воінам. Фігура салдата з аўтаматам, прыціснутым да грудзей. «Ён застаўся не проста салдатам, а воінам-вызваліцелем», — гаворыць Бранка, студэнт з Белграда.

Гваздзікі, якіх у майскія дні шмат на вуліцах югаслаўскай сталіцы, ляжаць на п'едэстале помніка. Ціха-ціха ліецца песня: «как много их, друзей хороших, лежать осталось в темноте, у незнакомого посёлка, на безымянной высоте...» Жанчыны, што сядзелі на лаўках з дзецьмі, усталі, падышлі. Іх твары становяцца журботнымі: магчыма, успомніўся родны горад, засыпаны руінамі. Яны добра разумеюць нас, а мы іх. І не патрэбны тут словы: што можа быць мацней дружбы, змацаванай крывёю!

**СВЯТА МАЛАДОСЦІ.** Традыцыйнае свята маладосці — гэта дзень, калі юнацтва краіны перадае эстафету сваіх спраў старэйшаму пакаленню.

Здаецца, не толькі ўвесь Белград, але і ўся Югаславія сабралася на стадыёне народнай арміі. Першымі на дарожкі выходзяць музыканты аркестра ў форме нацыянальнай арміі, за ім — хор. Свята пачынаецца выступленнем самых маленькіх яго ўдзельнікаў, дашкольнікаў. Потым выходзяць вучні гімназій, студэнты, спартсмены. Змяняецца рытм музыкі, змяняюцца сінія, чырвоныя, белыя, жоўтыя майкі. Раптам над полем стадыёна загучаць словы: «Віншуем Ціта». Аказваецца, сёння дзень нараджэння югаслаўскага прэзідэнта і іменна яму перадаецца традыцыйная эстафета.

**АЎТАМАБІЛЬНЫ ЗАВОД.** Самы вялікі завод аўтамабіляў «Црвена застава» (Чырвоны сцяг») знаходзіцца ў горадзе Крагуевац.



Адроджаны Белград.

Гэта — тры гадзіны язды ад Белграда. Завод з абсталяваннем быў куплены ў Італіі разам з ліцэнзіяй на вытворчасць аўтамабіляў «Fiat» (у Югаславіі яны называюцца «Застава») і пабудаваны два гады таму назад сіламі моладзі на грамадскіх асновах. Дарэчы, гэта форма вельмі папулярная сярод Саюза моладзі Югаславіі. Студэнты, ма-

| | |
|---|---|
| **3** | 10 гадоў з дня адкрыцця (1956) Палаца культуры прафсаюзаў у Мінску. |
| **6** | 115 гадоў з дня нараджэння (1851) Янкі Лучыны (І. Л. Неслухоўскага), беларускага паэта. Памёр у 1897 годзе. |
| **9** | 25 гадоў з дня арганізацыі (1941) у Суражскім раёне Віцебскай вобласці партызанскага атрада. |
| **10** | 60 гадоў назад (1906) адбылася забастоўка пекараў Брэста. |
| **10** | 35 гадоў назад (1931) адбыліся буйныя забастоўкі ў Слоніме. |
| **22** | 60 гадоў з дня нараджэння (1906) М. С. Бялінскай, народнай артысткі БССР. |
| **24** | 25 гадоў з дня арганізацыі (1941) Мінскага падпольнага абкома КПБ. |



| | |
|---|---|
| **26** | 30 гадоў (1936) з дня антыфашысцкай дэманстрацыі і мітынгу рабочых Гродна. |
| **31** | 60 гадоў назад (1906) пачаліся хваляванні салдат 151-га Пяцігорскага пяхотнага палка ў м. Картуз-Бярозе Пружанскага павету. |
| **Ліпень** | 25 гадоў назад (1941) у Гомелі быў створан полк народнага апалчэння. |
| **Ліпень** | 35 гадоў назад (1931) арганізаваны Усесаюзны навукова-даследчы інстытут балотнай гаспадаркі ў Мінску. |

**ЖНІВЕНЬ**

| | |
|---|---|
| **6** | 25 гадоў назад (1941) Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў беларускім партызанам Ц. П. Бумажкову і Ф. І. Паўлоўскаму званне Герояў Савецкага Саюза, першым сярод народных мсціўцаў. |



Крагуевац. Помнік ахвярам. На ім надпіс: «Тут фашысцкія злачынцы расстралялі вучняў, якіх вывелі са школы разам з настаўнікамі, што пайшлі з імі на смерць».

ладыя рабочыя ў вольны час, часцей за ўсё летам, пракладваюць шасейныя дарогі, будуюць школы, заводы.

Нас сустракае галоўны інжынер завода і прадстаўнікі маладзёжнай арганізацыі. У велізарных цэхах радамі стаяць станкі. Раз-пораз расступаемся, прапускаем машыны, цялежкі. Наша камсамольская турысцкая група налічвае трыццаць чалавек. Задаем пытанні рабочым, большасць з іх — моладзь. Яны ахвотна адказваюць, расказваюць пра завод, пра свае жыццё. Завод выглядае вельмі прыгожа. Шкляны дах, шмат святла. Станкі, афарбаваныя ў вясёлкавыя тоны, уздымаюць настрой. А вось і канвеер. Невялікая «Застава», падобная на наш «Запарожац», пакідае цэх.

— На гэтым заводзе толькі збіраюць аўтамабілі?

— Так, — адказвае пажылы майстар. — Амаль 650 прадпрыемстваў пастаўляюць прадукцыю нашаму заводу.

У двары некаторыя з нашых турыстаў паспелі пакатацца ўжо ў новай машыне. Мы таксама не адмовіліся: усё-такі цікава быць самымі першымі пасажырамі.

**СУСТРЭЧА З МІНУЛЫМ.** Дождж заганяе нас у аўтобус. Едзем у заводскі камітэт Саюза моладзі. Міця, сакратар Саюза, з захапленнем расказвае гісторыю свайго горада. Крагуевац — горад невялікі, але вельмі стары. Гэта адзін з цэнтраў ліберальнай думкі, горад першых рэвалюцыйных выступленняў рабочай Сербіі.

— А вось тут, — гаворыць Міця, — моладзь нашага завода разбівае памятны парк.

Памятны парк...

Кастрычнік 1941 года. Акупіраваная германскімі і італьянскімі войскамі Югаславія пачынае партызанскую вайну. Кароль і ўрад збеглі, партыя камуністаў узначаліла народнае Супраціўленне.

Гітлер ішоў на Усход. Праз Крагуевац праходзіў атрад эсэсаўцаў, але яны заблудзіліся: хтосьці пераставіў дарожныя знакі. На пошце таксама працавалі партызаны: была спалена карта мясцовых дарог. Фашысты затрымаліся на тры дні.

Сем тысяч мірных жыхароў, сярод іх і вучні гімназіі, былі расстраляны тут. Сем тысяч — гэта амаль кожны чацвёрты ў горадзе. Не было ніводнага дома, дзе б не вісеў чорны жалобны флаг.

Кажуць, у фашыстаў былі ў крыві боты, калі яны вярнуліся з экзекуцыі. Маленькіх цыганят яны прымусілі чысціць іх, а потым тут жа расстралялі дзяцей.

Помнік, збудаваны ў памятным парку, вырашаны ва ўмоўнай манеры. Велічная белая фігура паранёнай дзяўчыны. Галава яе горда, высока ўзнята. Апошнія словы гэтай дзяўчыны, члена Саюза моладзі, ведае кожны крагуевац. «Няхай жыве Савецкі Саюз! Няхай жыве Саюз камуністаў Югаславіі!» — крыкнула дзяўчына ў твар катам.

Выкладзеная плітамі дарожка вядзе да помніка вучням гімназіі. На плоскасцях, якія перакрыжоўваюцца, выступаюць абрысы твараў і апошнія словы вучняў да бацькоў.

Мне ўспамінаецца размова з нашым першым знаёмым на югаслаўскай зямлі, інжынерам з Белграда. Мы разам ехалі ў цягніку. Драгамір вяртаўся з Савецкага Саюза, дзе быў па службовых справах. З захапленнем гаварыў ён пра Ленінград, Маскву. Ён добра валодае рускай мовай, вельмі любіць яе.



Крагуевац. Помнік на месцы, дзе на пачатку вайны фашысты расстралялі вучняў.

— Але чаму ў вашай прыгожай мове ёсць слова... бутэрброд? — нечакана спытаў інжынер.

Мы спрабавалі было паглыбіцца ў разважанні аб пластах лексікі, аб запазычаных словах, але

| | |
|---|---|
| **21** | 60 гадоў з дня нараджэння (1906) М. Т. Паслядовіча, беларускага пісьменніка. |
| **21** | 40 гадоў назад (1926) дэлегацыя рабочых г. Эссэна (Германія) уручыла сцяг клубу імя К. Маркса ў Мінску. |
| **22** | 40 гадоў з дня адкрыцця (1926) Усебеларускай алімпіяды фізкультурнікаў у Мінску. |
| **31** | 40 гадоў назад (1926) прыбыла першая дэлегацыя галандскай рабочай моладзі ў Мінск. |
| **Жнівень** | 25 гадоў назад (1941) у Лёзненскім раёне Віцебскай вобласці пачаў баявую дзейнасць партызанскі атрад «Радзіма». |

**ВЕРАСЕНЬ**

| | |
|---|---|
| **3** | 35 гадоў з дня пуску (1931) панчошна-трыкатажнай фабрыкі «КІМ» у Віцебску. |



| | |
|---|---|
| **4** | 60 гадоў з дня нараджэння (1906) І. Ц. Дуброўскага (Чарняўскага), беларускага пісьменніка. |
| **18** | 30 гадоў назад (1936) адкрыты Дом Чырвонай Арміі (цяпер Акруговы Дом афіцэраў) у Мінску. |
| **20** | 45 гадоў з дня адкрыцця (1921) у Мінску выстаўкі твораў мясцовых мастакоў. |
| **27** | 60 гадоў з дня нараджэння (1906) І. Ф. Ждановіч, народнай артысткі БССР. |
| **29** | 30 гадоў назад (1936) быў адкрыты Палац піянераў і школьнікаў у Мінску. |
| **Верасень** | 25 гадоў назад (1941) у Магілёўскай вобласці быў арганізаваны Клімавіцкі партызанскі атрад. |

наш субяседнік усміхнуўся і сказаў:

— Хлеб з маслам — было б куды лепш.

— Ну, хлеб з маслам, хлеб з сырам — дзе ж лаканічнасць? — не здаваліся мы.

Мы яшчэ доўга гаварылі, спрачаліся з Драгамірам і расталіся добрымі сябрамі, хоць нашы думкі не ва ўсім супадалі.

**ЗНАК НА ДАРОЗЕ.** Вечарэе. Халаднаваты вецер урываецца ў расчыненыя вокны аўтобуса, за якімі імкліва разгортваецца стужка шашы. Мы вяртаемся ў Белград.

Стракоча матор, мільгаюць таполі, акацыі па абочыне дарогі, чарэшні. Па дарозе едзе воз на велізарных колах, запрэжаны валамі. Наверсе мужчына ў капелюшы, з люлькай і, вядома, з вусамі. Жанчыны ў доўгіх спадніцах, кофтах з шырокімі рукавамі. О, ды гэта, напэўна, цыганы — справа ад шашы раскінулася некалькі буданоў.

— Так, у нас ёсць і вандроўныя цыганы, хоць большасць ужо асела, — тлумачыць шафёр Срэтцен.

Цямнее хутка. Узгоркі зацягнула смугой. Па дарозе часта сустракаюцца невялікія дамы, асветленыя агнямі. Тут падарожнік можа адпачыць. павячэраць з ракіяй, якую гаспадар дастане са скляпка. Наведвальнікаў шмат. Каго не прывабіць прыемны пах смажанага парасяці? А гэта звычайны ласунак у дарожных рэстаранах. Нават на ўказальніку, што стаіць на дарозе, намалявана парасё на ражне. Срэтцен, аматар такіх страў, спыніў аўтобус ля аднаго доміка, і мы ўбачылі, як гэта робіцца. Проста на вуліцы ля ўваходу стаіць жароўня з распаленымі вугаллямі, над ёй ражон, яго ўвесь час паварочваюць, і вось ужо смачную ежу гаспадыня нясе гасцям.

**РАНІЦА Ў ЗАГРЭБЕ.** Цэнтр Харватыі прамысловы Загрэб прачынаецца рана. Ледзь толькі вуліцы асвятляцца першымі промнямі сонца, у магазінах ужо снуюць прадаўцы. Скрыні з бутэлькамі малака, мясныя тушы, зяляніна — усё гэта нібы застыла ў чаканні, пакуль на ўсіх вокнах падымуцца жалюзі. Ціха. Чуваць толькі крокі тых, хто вяртаецца з рынка. Амаль кожны нясе авоську салаты, без якой не абыходзіцца ні снеданне, ні абед, ні вячэра. Звычайная салата: яе не рэжуць, як у нас, а падаюць цэлымі лістамі з вострай, як і ўся югаслаўская кухня наогул, заправкай. Побач з авоськамі стракацяць букеты: кветак з рынка нясуць таксама вельмі шмат.

Паступова расчыняюцца ўсе балконы, усе вокны дамоў. Наш гід па Загрэбу, сухарлявы, ужо не малады, але на дзіва жвавы і энергічны, з любоўю расказваў пра кожны дом, пра гаспадароў. Аказваецца, заможнасць уладальнікаў гэтых будынкаў вызначалася колькасцю вокнаў верхняга, другога паверху. Мець тры-чатыры і больш акон дазвалялі сабе толькі вельмі багатыя гараджане.

Пачуўшы рускую мову, да нас падышла група моладзі. Разгаварыліся. Гэта студэнты з Чарнагорыі, у Загрэбе праходзяць практыку. Мы пацікавіліся, ці ведаюць яны, колькі насельніцтва ў Савецкім Саюзе. «Вядома, — адказваюць, — 220 мільёнаў плюс яшчэ 400 тысяч... чарнагорцаў!»

Сапраўды, чарнагорцы — самыя дасціпныя людзі.



Самая старая плошча Загрэба.

**МАЛЕНЬКАЯ ШВЕЙЦАРЫЯ.** Кантрасная прыгажосць Славеніі. Сонечныя даліны рэк Савы і Драва з багатымі вінаграднікамі і садамі размясціліся ў цяню лясоў, над якімі ўзнімаюцца пакрытыя снегам горныя вяршыні. «Маленькая Швейцарыя», — так называюць гэтую чароўную рэспубліку.

Узгоркі Альп пакрыты па-веснавому сакавітай зелянінай. Дарога ўвесь час віецца між імі. Вельмі шмат сустрэчных машын, наш аўтобус сігналіць на кожным павароце. На дзіва незразумелае надвор'е ў гарах: не паспее сонца высушыць дарогу, як на яе зноў падаюць цяжкія кроплі дажджу. Мы пад'язджаем да возера Блед. Яно надзвычай маляўнічае, з маленькім востравам у цэнтры і царкоўнай вежай на ім. Абедаем ва ўтульным паляўнічым доміку і едзем яшчэ вышэй, у горы.

Прыгожае, таксама халоднае,

**КАСТРЫЧНІК**

| | |
|---|---|
| 1 | 40 гадоў назад у Мінску (1926) была створана першая рабочая камсамольская дружына па барацьбе з хуліганствам. |
| 1 | 60 гадоў назад (1906) адбылася забастоўка рабочых кравецкіх і шавецкіх майстэрняў Брэста. |
| 2 | 5 гадоў (1961) з дня пачатку заняткаў у Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце. |
| 8 | 25 гадоў назад (1941) пасля перапынку пачалося выданне ў Маскве газеты «Савецкая Беларусь». |
| 11 | 50 гадоў з дня нараджэння (1916) Эдзі Агняцвет (Э. С. Каган), беларускай паэтэсы. |
| 15—20 | 45 гадоў назад (1921) праходзіў V з'езд КПБ. |
| 18 | 40 гадоў з дня прысваення (1926) Якубу Коласу (К. М. Міцкевічу) звання Народнага паэта Беларусі. |
| 22—26 | 50 гадоў з дня пачатку (1916) паўстання салдат на размеркавальным пункце ў Гомелі. |
| 30 | 45 гадоў з дня адкрыцця (1921) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. |
| Кастрычнік | 25 гадоў назад (1941) у Мінску была створана падпольная друкарня. |

**ЛІСТАПАД**

| | |
|---|---|
| 6 | 15 гадоў назад (1951) адкрыты Дзяржаўны ўніверсальны магазін у Мінску. |
| 7 | 70 гадоў з дня нараджэння (1896) Міхася Чарота |



**Пасля прыёму ў Крагуевацкім маладзёжным камітэце савецкія і югаслаўскія сябры танцавалі «Козарэчка-кола».**

захутанае ў туман возера Бохінь. Атэль, у які нас пасялілі, гэта двухпавярховы драўляны дом з тэрасай, балконам, надбудовай. Аканіцы з выразанымі сардэчкамі, утульныя пакоі з драўлянай мэбляю — усё гэта гарманіруе з лесам, які схаваўся за снежныя вяршыні, з шызымі скаламі, што збягаюць да халоднай вады. Ноччу холадна, днём горача, калі не лье дождж. Хадзілі ў горы да вадаспада. Каля яго сядзіць чалавек і бярэ плату. Смешна...

Вечарам сабраліся ля тэлевізара. Перадача вялася з маладзёжнага спартыўнага лагера. Своеасаблівыя спаборніцтвы — хто хутчэй распілуе бервяно, дастане ваду з калодзежа — выклікалі вясёлы настрой.

**САВЕЦКАЯ ПЕСНЯ Ў АЛЬПАХ.** У Югаславіі савецкіх людзей сустракаюць як родных. Вялікая дружба паміж братнімі славянскімі народамі адчувалася ва ўсіх імправізаваных сустрэчах. Вось і зараз: у атэлі «Залаты рог» мы спяваем «Широка страна моя родная» і яе падхопліваюць усе. Якая вялікая, моцная, мірная наша Радзіма і як прыемна далёка за яе межамі сустракаць блізкіх сяброў!

У Югаславіі ведаюць і любяць нашы песні. Напэўна, многія засталіся з часоў вайны — «Катюша», «На рейде», «Полюшко-поле», «По долинам и по взгорьям». Іх запявалі амаль на ўсіх сустрэчах то на рускай, то на серба-харвацкай мовах. Так было і на заводзе «Іскра» ў Кране, невялікім гарадку непадалёку ад Любляна. «Іскра» — гэта буйнейшае прадпрыемства, якое экспартуе амаль ва ўсе краіны свету электронныя, электрамеханічныя, тэлекамунікацыйныя прыборы. Мы агледзелі цэхі завода. Тут працуе вельмі многа жанчын і дзяўчат. Гэта і зразумела: многія працэсы патрабуюць спрытных і далікатных жаночых рук. Вельмі прыгожа выглядаюць кінаапараты, прыёмнікі і многія іншыя прыборы, ужо гатовыя да адпраўкі.

У клубе нас чакала сустрэча з моладдзю завода «Іскра».

Як жыве і адпачывае савецкая моладзь, якія праблемы вырашае наша камсамольская арганізацыя — усё цікавіць маладых рабочых «Іскры». Расказалі мы і пра справы нашай беларускай моладзі. Пасля выступалі пермякі.

Пачуўшы слова «Перм», хтосьці з прысутных сцепануўся: «Сібір, холадна».

— Ды што вы, наша Сібір цяпер — прыгажуня. Мы курорты там будуем. А сібірскія азёры і рэкі на дзіва прыгожыя. Прыязджайце — пераканаецеся самі.

Гутарка ў самым разгары: абаяльная, смуглявая Тоні — тэхнолаг завода — паказвае фатаграфію свайго жаніха, які служыць у арміі. Сакратар камітэта Саюза моладзі Іва запісвае для нас словы народнай песні Славеніі.

Цёпла заканчваецца наша сустрэча. Мы дорым моладзі «Іскры» самы папулярны цяпер савецкі сувенір — макет нашага спадарожніка. Ён іграе мелодыю «Широка страна моя родная».

«Мы ніколі не забудзем вас, вашу групу, а гэты сувенір будзе самым дарагім нашым падарункам», — гаворыць кіраўнік Саюза моладзі «Іскры». Фатаграфуемся на развітанне, беражліва трымаючы цудоўныя гвоздзікі, разам з усмешкамі добрых сяброў мы павязем іх дамоў.

**ЛЮБЛЯНА.** «Так была абгароджана Эмона, горад Рымскай імперыі, пабудаваны ў першым стагоддзі нашай эры», — гід паказвае нам невысокую каменную сцяну, месцамі рэстаўрыраваную. У пятым стагоддзі горад быў разбураны варварскімі плямёнамі готаў. Пазней тут пасяліліся славяне і зрабілі яго сталіцай сваёй дзяржавы. Да Напалеона ў Любляне змянілася шмат заваёўнікаў: кельты, франкі, габсбургцы. Кожная эпоха пакінула след у архітэктуры горада. Царква, якая праслаўляе яднанне з грэкамі, опера ў новарэнесансным стылі, манастыр і палац крыжаносцаў з амфітэатрам і, нарэшце, сучасны стыль — атэль «Леў» са шкла і металу. Перамяшаліся новыя і старыя, высокія і нізкія будынкі, адны амаль з суцэльнага шкла, другія з вузкімі, па-гатычнаму падоўжанымі вокнамі. Такой паўстае Любляна з вышыні сямідзесяцітрохметровай вежы старога замка, пабудаванага калісьці на гары ў цэнтры горада. Адсюль горад выглядае цікім, хоць на самай справе яго вуліцы даволі ажыўленыя, асабліва суботнім вечарам. Моладзь збіраецца ў парках, кафэ, дзе можна патанцаваць, паслухаць музыку, пакаштаваць цудоўныя віны Славеніі.

**САД ПАД ЗЯМЛЁЙ.** Горача... На ўзбярэжжы будзе яшчэ гарачэй. А пакуль што нам прадстаіць выпрабаванне холадам у Пастойнскай пячоры. Цяжка ўявіць, што за гэтымі жалезнымі дзвярыма,

| | |
|---|---|
| | (М. С. Кудзелькі), вядомага беларускага паэта, празаіка, драматурга. |
| **13** | 45 гадоў з дня ўрачыстага адкрыцця (1921) будаўнічага тэхнікума ў Мінску. |
| **16** | 40 гадоў назад (1926) адбылася забастоўка рабочых сталярных майстэрняў у Пінску. |
| **20** | 30 гадоў назад (1936) пачаў работу XII Усебеларускі з'езд Саветаў у Мінску. |
| **21** | 40 гадоў назад (1926) быў адкрыты Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску. |
| **Лістапад** | 25 гадоў назад (1941) у Мінску быў створаны падпольны гарадскі камітэт КПБ. |
| **Лістапад** | 35 гадоў назад (1931) адбыўся I Усебеларускі з'езд жанчын-калгасніц у Мінску. |
| **Лістапад** | 85 гадоў назад (1881) нарадзіўся беларускі вучоны-геафізік акадэмік А. І. Кайгародаў. Памёр у 1951 г. |
| **Лістапад** | 10 гадоў назад (1956) быў адкрыты музей гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці. |

**СНЕЖАНЬ**

| | |
|---|---|
| **4** | 40 гадоў назад (1926) адбылася забастоўка рабочых пякарняў у Пінску. |
| **10** | 75 гадоў з дня нараджэння (1891) М. А. Багдановіча, вядомага беларускага паэта. |
| **10—16** | 45 гадоў назад (1921) праходзіў III з'езд Саветаў Беларусі ў Мінску. |

асветленымі шчодрым сонцам — тэмпература — 8°, і што тут самае халоднае месца ў Югаславіі.

Пячоры каля 3 мільёнаў год, даўжыня яе 24 кіламетры. Да паслуг турыстаў — невялікая вузкакалейка. Садзімся на лаўкі, поезд кранаецца. Едзем пад навіслымі гіганцкімі глыбамі: час ад часу самым высокім даводзіцца нахіляцца. Холадна. Падымаем каўняры, завязваем касынкі.

Звісаюць рознакаляровыя сталактыты, знізу да іх цягнуцца сталагміты. Здаецца, што гэта злы чараўнік зачараваў тут велізарны сад. Некаторыя сталактыты звісаюць тонкімі карункавымі галінкамі. А вось сава — і нават вушы ёй адтачыла прырода. Калі пастукаць у беламармуровы слуп, што знаходзіцца злева, то прагучыць «ку-ку». Магчыма, гэта зачараваная зязюля. Вакол вельмі многа цёмных глыб, што нагадваюць то мядзведзя, то вялізарны грыб. Колькі ж год прайшло, каб у пустаце гары драбнейшыя кропелькі вады выкрышталізаваліся і назаўсёды застылі ў такіх фантастычных формах?

Поезд спыняецца, ідзем пешшу па цьмяна асветленых ліхтарамі дарожках цераз масты, перакінутыя ў скалах, — унізе вада, тут працякае падземная рака Піўка. Вось велізарная падземная зала з пачарнелым купалам. Тут у 1944 годзе партызаны Славеніі зрабілі адну з самых смелых апэрацый, спалілі склад нямецкага гаручага. Гітлераўцы захоўвалі ў пячоры 20 вагонаў бензіну і боепрыпасы. Бензін прызначаўся для танкаў, рыхтавалася новае наступленне. Але вясновай ноччу група партызан-добраахвотнікаў, перахітрыўшы ахову, чорным падземным ходам прабралася ў пячору і падпаліла ўвесь склад. Велічнае і жудаснае полымя ахапіла мёртвы лес, густы дым зацягнуў усё. Да гэтага часу каменне навокал чорнае.

**СОНЦА І МОРА.** Якое яно, Адрыятычнае або, як тут яго называюць, Ядранскае мора?

Вельмі маляўнічая дарога ў гарах. Вось пасяленне Планіна; да 1944 года праз яго праходзіла граніца з Італіяй, проста праз дамы, як у фільме «Закон ёсць закон». Непадалёку ад сяла ў даліне — закінутая вежа, былая рэзідэнцыя Мусаліні. Горы расступіліся. Удалечыні паказалася мора. Яно зліваецца з небам, і таму здаецца, што горад Трыест велічна выступае з суцэльнага блакіту. Шчодрая прырода ўзбярэжжа: вінаграднікі, масліны, апельсіны, чарэшні, між імі хаваюцца дамы.

Невялікі заліў, адгароджаны ад мора, застаўлены сеткамі. Тут разводзяць вустрыц. Іх гадуюць тры гады, пакуль можна ўжываць у ежу.

Міжнародны турысцкі лагер у горадзе Ровіне. Невялікія двухпавярховыя катэджы прыступкамі ўзбягаюць на гару. Першае, што мы робім — бяжым да мора, яно амаль побач. Бераг Адрыятыкі незвычайны: велізарныя порыстыя каменні даламіту далёка ўваходзяць у мора. У шчылінах між імі хаваюцца спрытныя крабы, марскія вожыкі.

Сонца Адрыятыкі бязлітаснае, і мы, забыўшыся на засцярогу, абпаліліся ў першы ж дзень.

Вечарам разам з моладдзю горада мы зрабілі прагулку па моры. Феерверкам разбягаюцца пырскі ад вінта катэра. Мора ляніва ўздыхае, ліжа астравы, якіх мноства раскідана ля берагу.

З мора добра бачны Ровінь. Горад, здаецца, вырастае з мора, фундаменты першых дамоў стаяць проста ў вадзе.

У хвост нашага катэра прыстроіліся дэльфіны. Выгінаючы спіны, яны гуляюць з хвалямі.

У Ровіне ў той час было мала турыстаў і ўсе — з Заходняй Германіі. Заходнія немцы аказаліся вельмі добразычлівымі, запрасілі нас на сустрэчу. Большасць з гэтых юнакоў і дзяўчат — служачыя, студэнты. Яны вельмі мала ведаюць пра нашу краіну, жыццё, мастацтва, літаратуру. Праўда, яны называюць імёны Пушкіна, Шолахава. А вось пра Маякоўскага не ведаюць наогул. Амаль любую размову яны зводзяць да грошай. Грошы — жыццёвае крэда многіх з іх.

— Калі ласка, прачытайце нам вершы гэтага паэта, як вы яго называлі?.. Маякоўскі? — просіць адзін з нямецкіх турыстаў.

Гучаць «Вершы аб савецкім пашпарце». Уважліва слухае іх Клаус і раптам гаворыць:

— Як гэта добра, што мы можам спакойна сядзець, чытаць вершы, гутарыць. Нашым жа бацькам даводзілася страляць адзін у аднаго.

— Так, мы добра ведаем цану міру. Скажыце, чаму ў вашай краіне зноў спрабуюць паўтарыць мінулае? — пытаем мы.

— О, гэта палітыка, — бянтэжыцца Клаус. — Мы лічым за лепшае ёю не займацца.

...Тут, ля мора, мы пакідаем на памяць нашаму шафёру апошні сувенір — керамічны кубак работы івянецкіх майстроў.

Пагранічная станцыя Субоціца. За ёй засталося многа цёплых сустрэч, шмат сяброў, за ёй застаецца Сацыялістычная Югаславія, якая моладзь, якая хоча міру. Спадзяемся, што мелодыі нашых спадарожнікаў будуць заўсёды напамінаць ім пра адзінства нашых поглядаў, імкненняў.

**Ірына ШАБЛОЎСКАЯ.**

**Фота аўтара і В. Янкоўскага.**

| | |
|---|---|
| **17** | 40 гадоў назад (1926) адбыўся першы Усебеларускі перапіс насельніцтва. |
| **19** | 25 гадоў з дня гібелі (1941) Л. М. Даватара, генерала, Героя Савецкага Саюза. |
| **23** | 60 гадоў з дня нараджэння (1906) К. Л. Губарэвіча, беларускага драматурга. |
| **29** | 5 гадоў з дня пуску (1961) першага агрэгата Бярозаўскай ДРЭС. |

# У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

## Нарыс Зінаіды МАЖЭЙКІ

## ПРА ТОНЕЖСКІХ НАРОДНЫХ СПЯВАЧАК.

# НАРОДЫ МЯНЯЮЦЦА СЛОВАМІ

Як і ўсякая іншая, наша беларуская мова — гэта мова слоў. Кожнае слова мае сваю цікавую гісторыю. Адны з іх гэта свае, уласнабеларускія або агульнаўсходнеславянскія ці агульнаславянскія, а другія — чужыя. Яны трапілі ў нашу мову з іншых моў і змаглі так асвоіцца ў ёй, што іх часам цяжка пазнаць без спецыяльнага даследавання. Яны так «акліматызаваліся» ў нашай мове, што і гучаць, як свае словы.

Пераважная большасць у нас, вядома, сваіх, уласных слоў. Гэта словы, якія жывуць са старажытных часоў і служаць свайму народу, напрыклад: *сяліба, пралеска, вырай, пяшчота, палетак, збажына, каханне, бацька, працаваць, дачушка, хуценька, сум, смутак, маркота* і іншыя.

Іншамоўныя словы часам раскрываюць нам цікавыя моманты з гісторыі нашага народа, расказваюць пра яго ўзаемаадносіны з іншымі народамі. Узяць хоць бы слова *аркуш*. Яно нічым не выдае сябе як іншамоўнае. А між тым, гэта лацінскае слова: дзе arcus азначае «дуга», «лук».

А чаму ж усё-такі *дуга?* І якія адносіны слова *аркуш* да *дугі*? Справа ў тым, што словы маюць па некалькі значэнняў і запазычваюцца часам не ўсе гэтыя значэнні, а якое-небудзь адно. Лацінскае слова arcus мела асноўнае значэнне «дуга». Яно было запазычана беларускай мовай, магчыма, праз польскую ў значэнні *ліст паперы.* Зазначым у гэтай сувязі, што і слова *арка* таксама паходзіць ад таго ж лацінскага слова arcus — «дуга», а нямецкае слова der Bogen таксама як і лацінскае arcus мела значэнне *дуга, арка, смычок* (у скрыпцы), *лук, ліст паперы.* Усё стане зусім зразумела, калі мы ўспомнім, што калісьці і паперу, асабліва важную, дзяржаўную, згортвалі ў трубачку (у дугу) і змацоўвалі пячаткай.

*Вежа* — слова славянскае. Яно было ў старажытнай рускай мове вѣжа са значэннем *шацёр, кібітка,* з праславянскага veža vězą — *вязу,* гэта значыць, *дом* — павозка на палазах або калёсах. Гэтае значэнне, як паказваюць даследчыкі, пазней перайшло ў значэнне «перамяшчальная вежа» (руск. башня).

Слова *цукар*, якім мы шырока карыстаемся ў нашай мове, таксама мае цікавую гісторыю. Яго крыніцай з'яўляецца стараіндыйскае szarkara, а пазней sakkhara, адкуль грэчаскае sakchar і рускае *сахар.* А калі цукар з Індыі трапіў да арабаў, то там з'явілася слова sukkar, якое пасля трапіла ў італьянскую мову zuchero, а потым у нямецкую Zucker, з нямецкай у польскую cukier і ў старабеларускую мову *цукеръ*, ад яго нарадзілася сучаснае — *цукар.*



Возьмем словы *вальс* (танец) і *вальцы* (тэхнічны тэрмін). Здаецца, што няма нічога агульнага паміж гэтымі словамі, але, калі заглянуць у іх гісторыю, то выходзіць, што *вальцы, вальс, вальцоўка, вальцаваць* маюць адзін корань — старажытнае нямецкае walzen, што азначала круціцца, вярцецца. У народных гаворках ёсць слова *вальц* са значэннем «вальс». Слова *вальс*, акрамя нямецкай Walzer, ёсць і ў французскай valse, і ў польскай walc, і ў рускай — *вальс.* Магчыма, што і ў беларускую мову яно трапіла праз польскую. Цяпер нам будзе зразумела і паняцце *вальцаваная мука*, гэта значыць мука, якая малолася на вальцах. Цікава, што ў польскай мове слова walcować азначае «прасаваць, гладзіць». А сучаснае нямецкае die Walze — азначае вал, валок, цыліндр, каток (тэх.), а дзеяслоў walzen — пракатваць, вальцаваць, а таксама танцаваць вальс, а ў гутарковай мове яшчэ і вандраваць.

Слова *вага* шырока сустракаецца ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці, народных гаворках і сучаснай беларускай літаратурнай мове. Маючы ў сваёй аснове старажытнае нямецкае wâga, wage, яно вядома з некалькімі значэннямі: 1. вага, цяжар; 2. вага — прылада для ўзважвання; 3. рычаг для падважвання цяжару; 4. павага, аўтарытэт. Слова гэтае шырока бытуе і ў польскай мове waga, чэшскай váha, лужыцкай waha, у рускай і ўкраінскай мовах. Магчыма, што яно трапіла да нас праз польскую мову.

Возьмем, напрыклад, слова *глеба.* Яно нічым не выдае сябе як запазычанае. А між тым, яно ўзята з лацінскай мовы gleba.

Лексічны склад беларускай мовы ўвесь час папаўняецца і ўзбагачаецца. «Усе народы мяняюцца словамі» — пісаў В. Р. Бялінскі. І ў беларускай мове мы знаходзім нямецкія, польскія, літоўскія, лацінскія, французскія, англійскія, італьянскія і іншыя словы.

Якім шляхам прыйшлі да нас іншамоўныя словы? Як яны трапілі ў беларускую мову? Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба звярнуцца да гісторыі.

Гістарычныя ўмовы складваліся так, што тэрыторыя сучаснай Беларусі доўгі час знаходзілася пад уладай літоўскіх і польскіх феадалаў, якія падтрымлівалі гандлёвыя і іншыя сувязі з многімі народамі Заходняй Еўропы. Такія кантакты выклікалі тую акалічнасць, што іншамоўная лексіка пачала ўплываць на беларускую мову. Асабліва шырокі ўплыў польскай мовы адзначаецца ў XVI—XVII ст. ст. Гэта быў час, калі вышэйшыя колы тагачаснага грамадства, і асабліва шляхта, імкнуліся да перайманця ўсяго замежнага, іншамоўнага.

## ПЧОЛЫ АДДАЮЦЬ ЯД



Ледзь-ледзь прыкметную кропельку — 0,2 міліграма — столькі мае яду пчала. Як жа забяспечыць вытворчасць каштоўных лекаў, не знішчаючы пчол?

Гэтую складаную праблему ўдала вырашылі супрацоўнікі Талінскага навукова-тэхналагічнага інстытута Вальдан Спірка і Вірве Кулыбін. Яны стварылі спецыяльны электрычны прыбор. Яго ставяць ля ўваходу ў вулей. Пчол, якія спяшаюцца ў вулей, б'е электраток (безумоўна, няшкодна), і яны аддаюць яд. Яд капае на шкляное дно, хутка высыхае і ператвараецца ў крышталікі. З адной пчалінай сям'і можна атрымаць дзесяць грамаў такога рэчыва.

Пачынаючы з XIII—XIV ст. ст. насельніцтва паўночных гарадоў Беларусі было звязана з портамі Прыбалтыкі, дзе замежнае купецтва, а таксама прадстаўнікі развітага рамяства і гандлю Беларусі знаходзіліся ў гаспадарчых зносінах з нямецкімі купцамі, якія прывозілі ў гарады Беларусі свае тавары і вырабы.

Некаторая частка нямецкіх запазычанняў магла непасрэдна трапіць у жывую народную беларускую мову, так, як польскія, лацінскія ці іншыя словы. Гэты факт адзначаў і акадэмік Я. Ф. Карскі.

У XVI—XVII ст. ст. на Беларусі было зроблена шмат перакладаў літаратуры розных жанраў з польскіх выданняў. Перакладчыкі шырока карысталіся паланізмамі і іншымі запазычаннямі, заносячы ў лексіку старажытнай беларускай мовы і адпаведную колькасць слоў нямецкага, французскага, лацінскага паходжання.

Значную колькасць іншамоўнай лексікі можна сустрэць у празаічных творах, рыцарскіх аповесцях, бо трэба было абазначыць новыя бытавыя паняцці, асабліва з шляхецкага жыцця, а таксама вайсковыя тэрміны. Ды і, наогул, карыстанне замежнымі словамі лічылася модным.

Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці даюць цікавы матэрыял для гісторыі і этымалогіі як асобных слоў, так і цэлых выразаў з народнай мовы. Так, слова *бунт* у сучаснай беларускай мове мае адно значэнне, а ў старабеларускай яно мела два значэнні: *бунт* мела значэнне *звязка*. І цяпер у гаворках Віцебшчыны можна пачуць *«бунт грыбоў»*. Што агульнага паміж гэтымі словамі? А тое, што ў аснове іх ляжыць слова старажытнай нямецкай мовы binden — *звязваць*.

Чалавек гаворыць вам, што ён хоча *«зрабіць мары»*. Ці не памылка тут якая?

Не, памылкі ніякай няма. Сапраўды можна зрабіць і мары. *Мары* — гэта ў гаворках Віцебшчыны прыстаўныя сценкі воза, зробленыя з палак або тонкіх жэрдак, якія прыстаўляюцца, калі возяць сена або снапы. А ў старажытнай беларускай мове слова *мары* мела значэнне «насілкі для нябожчыкаў». Паходзіць гэтае слова ад старажытнага нямецкага bâre, barre — насілкі, заслонкі, бар'ер.

Часам можна пачуць: *«Рымкі няма»*. *Рымка* гэта не імя якой-небудзь дзяўчыны, а другая пасля баса струна ў скрыпцы. Паходзіць яно ад сярэдневерхненямецкага слова rim — рыфма, верш. Цікава, што і ў польскай мове rym таксама азначае верш, паэзію, а rymarz — паэт.

*«Грунт, што не вінаваты...»* Як можа быць грунт вінаваты ці не вінаваты? Не, тут справа ў іншым. Словам грунт мы карыстаемся ў значэнні — зямля, глеба, пласт глебы, а ў помніках старажытнай пісьменнасці і ў значэнні «зямельны ўчастак», «зямельная ўласнасць». А вось у гаворках Навагрудскага раёна слова *грунт* ужываецца ў значэнні «галоўнае», «самае галоўнае», «аснова». Вытокі гэтага слова трэба шукаць у старажытнанямецкім grunt з многімі значэннямі, адно з якіх у сэнсе «самае галоўнае» рэалізавалася ў нашай мове ў слове *грунт*.

Цікавую гісторыю мае і слова *штука*. Яно паходзіць ад старажытнага нямецкага stück — кавалак чаго-небудзь, кавалак сукна, мера. Гэтае слова ўваходзіць у склад слова das Mundstück — муштук, гэта значыць «кавалак у рот». Пазней слова stück, stuck — стала абазначаць уменне зрабіць што-небудзь цікавае і незвычайнае. Адсюль і нашыя словы *штука, штукар, штукаваць*. Гэтае значэнне пашырылася ў польскай мове, дзе *sztuka* — азначае і *мастацтва*.

Слова *кірмаш* значна змяніла сваё значэнне. Мы ўжо так прызвычаіліся разумець пад гэтым словам — базар, гандаль, што цяжка ўявіць сабе яшчэ якое-небудзь іншае. А між тым, раней гэтае слова абазначала царкоўны малебен. Сучаснае нямецкае die Kirche—царква і die Messe—багаслужэнне, малебен былі прадстаўлены ў сярэдневерхненямецкай мове адным словам kirchmësse-kirmësse. Нашае беларускае слова *кірмаш* прыйшло, як відаць, з нямецкай мовы праз польскую. Параўнайце польскае kiermasch, якое ўжо ў польскай мове азначала абход касцёла, а гэты абход заўсёды суправаджаўся гандлем.

*«Ён наехаў з возам на друк...»* Ці магчыма гэта? Вельмі магчыма. Друк ляжаў на дарозе (гэта не той друк, які мы бачым у газеце ці часопісе, хоць гэтыя словы і з'яўляюцца сваякамі). Што мы робім з друччком, калі хочам падвярнуць цяжкі камень або які-небудзь іншы прадмет? Мы націскаем на яго. А пры друкаванні? Каб атрымалася літара, таксама трэба націснуць на паперу набранай літарай. У старажытнай беларускай мове ёсць і дзеяслоў *друковати* ў значэнні «націскаць» (ад старажытнага нямецкага drucken).

Вам, мусіць, не раз даводзілася чуць такі выраз: *«даць пытлю»*. У старажытныя часы слова *пытэль* азначала не толькі машыну ў млыне, якая пытлюе (меле) муку, але і сам млын, нават чалавека, які абслугоўваў пытляванне, таксама звалі *пытэль*. Гэтае слова ёсць і ў чэшскай мове: pytel — сіта ў млыне, як і ў нямецкай мове pútil, Beutel — з тым жа значэннем.

Калі параўнаць іншамоўныя словы, ну, скажам, нямецкія запазычанні са словамі нямецкай мовы таго часу (сярэдневерхненямецкай

## РЭЧЫВЫ СТРАХУ



Нямецкі іхтыёлаг Кары Фрыш шмат гадоў займаўся вывучэннем слыху ў рыб. У часе аднаго з доследаў ён заўважыў дзіўную з'яву: у акварыуме ўсе рыбы шарахаліся і ўцякалі ад сяброўкі, якую вынялі раней і падверглі аперацыі. Паніка, што ўзнікла сярод рыб, навяла на думку працягваць доследы менавіта ў гэтым кірунку. У выніку вучоны выявіў у рыб так званае рэчыва... страху.

Аказалася, што ў скуры многіх парод рыб, асабліва ў тых, якія ратуюцца ад небяспекі ўцёкамі, знаходзіцца растваральная ў вадзе субстанцыя. Калі драпежнік пашкодзіць скуру адной з рыб, то ў ваду трапляе спецыяльнае рэчыва. Рыбы адчуваюць яго і адразу ўцякаюць.

Гэтую субстанцыю назвалі рэчывам страху. Стала таксама вядома, што ў большасці нашых рыб рэакцыя страху заўважаецца толькі пасля шасці-васьмі тыдняў жыцця.

## МАЛПЫ НА МЕСЯЦЫ



На падставе доследаў і вопытаў з'явіліся меркаванні, што раней за чалавека трапяць на месяц малпы. Шматлікі персанал навуковых і тэхнічных супрацоўнікаў на ваенна-паветранай базе ў Нью-Мексіка прыкладае шмат намаганняў, каб выдрэсіраваць 83 шымпанзе для касмічных палётаў.

Некаторыя малпы рыхтуюцца стаць пасажырамі арбітальных караблёў у палётах вакол Зямлі, іншыя зоймуць месцы на «перасадач-

і новаверхненямецкай), не цяжка заўважыць, што многія з іх вельмі змяніліся, прыйшоўшы ў беларускую мову. Іх часам цяжка пазнаць, яны сталі вельмі падобныя на карэнныя словы старажытнай беларускай мовы.

Возьмем для прыкладу слова *шляга*. Яно ўжывалася ў старажытныя часы, ужываецца і цяпер у народных гаворках і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. У сярэдневерхненямецкай мове некалі было слова slag ад старога нямецкага дзеяслова slahan. Мела яно некалькі значэнняў: удар, след, дарога. Адно з гэтых значэнняў (удар) было запазычана нашай старажытнай мовай і замацавалася са шлягай — прыладай для забівання калоў. Каб забіць кол, трэба ўдарыць па ім. Другое значэнне (след) прыйшло да нас са словам *шляк* (аблямоўка). Трэцяе замацавалася за словам *шлях* (шырокая дарога). Цікава, што слова *шляхта* таксама паходзіць ад таго кораня, што і наша шляга; старанямецкае slahta азначала род, парода, паходжанне.

Часам кажуць: *«Тут яму і клямка!»* — гэта значыць — «Тут яму і канец!». Пры чым тут клямка? А пры тым, што слова *клямка* паходзіць ад нямецкага слова klam — зацiскач, сутарга, кайданы. У гаворках Віцебшчыны ўжываецца слова *клямка* ў значэнні канец. Слова *клямар* таксама паходзіць ад гэтага кораня.

Слова *пляшка* і слова *бутэлька* ў сучаснай беларускай мове — сінонімы. І ў старажытнай нашай мове было слова *фляша*, якое паходзіць ад сярэдневерхненямецкага vlasche — бутэлька, а тое ў сваю чаргу ад слова flechten — плесці, таму што першыя бутлі калісьці былі выплецены з лыка і потым абмазаны глінаю. Такім чынам, наша пляшка гэта тая самая фляша толькі іншых памераў і формы. Раней у славянскіх мовах не было гука *«ф»*, ён замяняўся гукам *«п»*, што замацавалася на пісьме і дайшло да нашага часу.

У помніках старажытнай беларускай мовы сустракаюцца такія іншамоўныя словы, якімі цяпер ужо не карыстаюцца. Напрыклад, слова *зэгар* (гадзіннік). Паходзіць яно ад нямецкага дзеяслова seigen, які раней меў значэнне *працэджваць*. На першы погляд здаецца, што няма ніякай сувязі паміж словамі *працэджваць* і *гадзіннік*. Але ж не заўсёды былі такія гадзіннікі, як цяпер. Даўнейшыя былі вельмі простыя: дзве шкляныя колбачкі, з адной пясочак працэджваўся ў другую. Па тым, колькі працадзілася пяску, людзі вызначалі час. Цяпер зразумела, чаму слова *зэгар* паходзіць ад слова *працэджваць*. Яно з нямецкай мовы перайшло ў польскую. Слова *зэгар* можна пачуць часам у некаторых мясцовасцях на захадзе Беларусі. Там кажуць часам: «Паглядзі на загарак, ці не пара ўжо абедаць» або: «Што-то загарак наш сапсаваўся».

Ёсць і такія іншамоўныя словы, якія значна змянілі сваё значэнне ў сучаснай беларускай мове. На першы погляд можа здацца, што слова *драт* тое самае, што і *дрот* (нямецкае Draht — дрот). Але ў помніках мы чытаем, што ў маленькіх шкатулках разам з іголкамі было шмат рознакаляровага *драту* для вышывання. Зразумела, гаворка ідзе не пра дрот, а пра ніткі. А чаму ж усё-такі драт, а не ніткі? Справа ў тым, што і сучаснае слова нямецкай мовы der Draht паходзіць ад сярэдневерхненямецкага drat, дзе яно мела значэнне нітка. У сваю чаргу яно ўтварылася ад дзеяслова drehen — віць, сукаць. Як відаць, нітку калісьці называлі драт. Адсюль атрымалі сваю назву і тоўстыя ніткі — дратва, якой карыстаюцца шаўцы.

На працягу ўсяго гістарычнага развіцця беларускай мовы іншамоўныя запазычанні развівалі і ўзбагачалі яе слоўнікавы склад. Гэты працэс, хаця і ў значна меншай ступені, ідзе і цяпер.

Але ж асноўныя пласты запазычанай лексікі ў беларускай мове прыпадаюць на рускую мову, як самую блізкую да нашай роднай. Мова рускага народа ва ўсе часы і эпохі рабіла свой плённы ўплыў на іншыя мовы, узбагачаючы іх лексічна і стылістычна. Гэты працэс асабліва бурна ідзе ў нашы дні, калі шырацца і мацнеюць палітычныя, эканамічныя, культурныя сувязі з краінай, дзе агульнадзяржаўнай мовай з'яўляецца руская мова.

У англійскай, нямецкай і французскай мовах можна сустрэць пэўныя пласты лексікі, што трапілі з славянскіх моў, у тым ліку з рускай і беларускай. Так, напрыклад, у англійскай мове ўжо даўно былі вядомы словы *рубель, вярста, крэмль, стэп, суслік, самавар, собаль,* а ў нямецкай мове — *баярын, капейка, залатнік, квас, тайга, балалайка* і іншыя.

У сувязі з сацыяльна-палітычнымі пераўтварэннямі, што адбыліся ў нашай краіне пасля перамогі Кастрычніка, у сувязі з развіццём новага сацыялістычнага ўкладу ад нас ў заходнееўрапейскім і іншыя мовы трапілі такія словы, як *савет, ленінізм, камсамол, калгас, саўгас* і іншыя, якія шырока бытуюць і цяпер у многіх мовах свету, як словы «інтэрнацыянальныя».

Але ўзаемаўплывы рускай і беларускай моў, рускай і беларускай з мовамі іншых народаў — гэта ўжо тэма асобнай гаворкі.

**Іван ЧАРТКО,**
**аспірант Інстытута мовазнаўства АН БССР.**

ных станцыях» паміж Зямлёй і Месяцам, астатнія ж—паляцяць на Месяц.

Малпаў трэніруюць і дрэсіруюць так, каб яны маглі выконваць прасцейшыя дзеянні ў касмічных умовах.

## ХТО КАМАНДУЕ ДОМА



Адзін з інстытутаў даследавання грамадскай думкі ў Францыі распаўсюдзіў сярод мужчын анкету з пытаннем: «Хто камандуе ў вас дома?» Анкетай было ахоплена ўвогуле пяцьсот мужчын рознага занятку і грамадскага становішча. Трыста пяць апытаных паведамілі: «Мая жонка». Сто дзевяноста чатыры мужчыны былі яшчэ шчырэйшыя і адказалі: «Мая цешча». І толькі адзін даў найкарацейшы адказ: «Я».

Але пры гэтым было ўстаноўлена, што мужчына той ужо чатыры гады ўдавец.

## ПРЫЧЫНА ХВАРОБЫ— ТЭЛЕВІЗАР



Нядаўна амерыканскія вучоныя зарэгістравалі новую хваробу, якая ўзнікае ад злоўжывання тэлевізійнымі перадачамі. Асабліва пашырана яна сярод дзяцей.

Сімптомы захворвання—няма апетыту, баліць галава, бяссонніца, адчуванне страху, страта прытомнасці і ванітаванне.

Урачы сцвярджаюць, што такі стан бывае пасля штодзённых, па некалькі гадзін запар, прагляду тэлеперадач.



# ХОЧАЦЕ ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ ПРАВЕРЦЕ

● **Мільённы па чарзе дзень ад пачатку нашай эры надыдзе толькі прыблізна праз 800 гадоў.**

● **Калі б у календары не рабілі папраўкі, дык у 10565 годзе нашай эры першае студзеня прыйшлося б на 21 сакавіка.**

● **Заолагам вядома паўтара мільёна розных відаў насякомых. Але ж спецыялісты мяркуюць, што на зямлі іх каля трох мільёнаў.**

● **На адным квадратным метры сухазем'я жыве насякомых больш, чым людзей на ўсім зямным шары.**

● **На падставе інфармацыі, якую даюць спадарожнікі і ракеты, падлічана, што кожны дзень на Зямлю падае каля 10 тысяч тон касмічнага пылу.**

● **Паводле англійскіх даных, цяпер зарэгістравана каля 2 600 розных таноў фарбавальнікаў. З іх — 200 жоўтых, 80 чырвоных, 430 сініх, 270 шэрых, 160 ружовых, 630 карычневых, 60 аранжавых.**

● **За адну мінуту цераз пошты ўсяго свету праходзіць у сярэднім каля 5 мільёнаў лістоў.**

● **Чатырохгадовае дзіця задае старэйшым у сярэднім 437 пытанняў у дзень.**

● **На Зямлі жыве каля 2 500 відаў змей. З іх самая ядавітая — тыгравая змяя. Яе яд дзейнічае непасрэдна на дыхальныя цэнтры ў мозгу.**

● **На Зямлі існуе каля 450 відаў насякомаедных раслін.**

● **У Парыжы жыве 6 тысяч варажбітоў, астролагаў і яснабачцаў. За адзін дзень яны даюць каля 50 тысяч сеансаў і штогод атрымліваюць ад лёгкаверных кліентаў вялізную суму — да 500 мільёнаў новых франкаў.**

● **З дня смерці Напалеона да нашых дзён пра яго напісана ўжо каля 10 тысяч кніг.**





# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ХАКЕЙ!



Шайба адбіта. Мінскія тарпедаўцы—дружныя хлопцы.

За апошнія гады гульня ў хакей з шайбай атрымала ў нашай краіне заслужанае прызнанне і велізарную папулярнасць. Гэтаму, вядома, садзейнічала паспяховае выступленне зборнай каманды Савецкага Саюза на чэмпіянатах свету і Еўропы.

У чэмпіянаце краіны 1964—1965 гадоў Беларусь прадстаўляла каманда «Вымпел», якая не зусім паспяхова выступіла і была вымушана пакінуць вышэйшую лігу. На базе гэтай каманды ў мінулым годзе была створана новая, якую назвалі — «Тарпеда».

Хто ж яны, гэтыя хакеісты?

Асноўным варатарам у нас гуляе майстар спорту Юры Ніканаў, які раней выступаў за каманду горада Чалябінска «Трактар». Яму заўсёды гатоў прыйсці на змену мінчанін Яўген Акрайка.

Нягледзячы на тое, што абаронцы Юры Дужы і Станіслаў Малкоў гулялі ў розных камандах (Юры — у новакузнецкім «Металургу», Станіслаў — у чалябінскім «Трактары»), яны хутка здружыліся і, трэба сказаць, не толькі паспяхова абараняюць зону ля сваіх варот, але і не губляюцца, калі трэба нападаць. Не ўступае ім у тэхніцы і другая пара абаронцаў — Юры Ульянаў і Мікалай Міцюгін.

У нападзенні гуляюць Сяргей Шыткоўскі, які раней гуляў у камандзе «Молат» (Перм), Валянцін Яраслаўцаў і Уладзімір Гусеў (абодва з каманды «Крыллі Саветаў», Масква), Анатоль Пронкін («Дынама», Кіеў) і Канстанцін Юфа («ЦСКА», Масква). Астатнія ігракі — Станіслаў Булатаў, Уладзімір Грамякін, Валянцін Кротаў, Аляксандр Юрзінаў, Станіслаў Чупроў разам з капітанам каманды Генадзем Какорыным ужо вядомы мін-



У хакеіста заўсёды цяжкі багаж. Але нічога — у Канстанціна Юфы дужыя плечы.

скім балельшчыкам па былой камандзе «Вымпел».

Гэта асноўны склад. Ёсць у камандзе і малады рэзерв. Гэта мінчане Юры Мартынаў, Уладзімір Гладкі, Уладзімір Сумцоў, Павел Чарноў.

Новы сезон каманда пачала ў заходнеўральскім горадзе Глазаве, дзе сустрэлася з камандай спартыўнага клуба «Прагрэс». 3:1 і 2:2 — такі вынік гэтых двух гульняў. Нават тады, калі каманда заставалася ў меншасці (па правілах хакею суддзя за парушэнні мае права выдаляць іграка на 2,5 і больш мінут), гульня ішла арганізавана, з поўнай аддачай сіл.

Другім моцным «арэшкам» для тарпедаўцаў была Казань. Тут яны сустрэліся з камандай спартыўнага клуба імя Урыцкага. Надвор'е было вельмі снежнае. Замест трох перыядаў давялося гуляць чатыры. Рабочыя стадыёна ледзь паспявалі ачышчаць снег. Лопаліся асвятляльныя лямпы, і суддзі вымушаны былі не адзін раз спыняць гульню, каб прыбраць шкло. Калі да гэтага дадаць яшчэ, што каманда Казані з'яўляецца лідэрам другой падгрупы, дзе гуляе «Тарпеда», то стане ясная ўся складанасць гульні. Яна прайшла напружана, але перавага была на баку казанцаў. Лік 2:4. Гэты пройгрыш не збянтэжыў тарпедаўцаў, і на другі дзень гульня, вострая і цікавая, закончылася ўнічыю — 1:1.

Пенза. Тут для аматараў хакею пабудаван спецыяльны стадыён на пятнаццаць тысяч гледачоў. Ды зноў падвяло надвор'е. Лёд растаў, і гульня была перанесена на наступны дзень. Натуральна, хакеісты пензенскага «Дызеліста» не хацелі, каб дзень адкрыцця сезону быў змрочны. Яны прыклалі ўсё стараннне і выйгралі з лікам 6:3. Другая гульня, як і ў Казані, закончылася ўнічыю — 1:1.

Пераезды з горада ў горад з грувасткім хакейным багажом, кожны раз новыя пляцоўкі, новыя балельшчыкі. Як хочацца пачуць знаёмы голас з трыбуны — шайбу! Яшчэ шайбу! Тым не менш, тарпедаўцам спадарожнічае поспех.

Куйбышаў. Да прыезду мінчан спартсмены куйбышаўскай каманды СКА ні разу не прайгралі на сваім полі, але 19 снежня яны спазналі горыч паражэння. Хакеісты «Тарпеда» перамаглі з лікам 2:1. Праўда, на другі дзень куйбышаўцам удалося ўзяць рэванш на апошніх мінутах гульні з лікам 4:3, і то пасля таго, як у аўтазаводцаў былі выдалены два ігракі за вельмі нязначныя парушэнні.



Барыс Ржаннікаў і Валянцін Кротаў перад трэніроўкай.

Апошнія дзве гульні, якімі заканчвалася вялікае турнэ аўтазаводцаў, праведзены ў Саратаве з мясцовай камандай «Энергія». Вынік гэтых сустрэч 7:2 і 4:4.

Дзесяць гульняў, дзесяць ачкоў. Спецыялісты гэта лічаць добрым вынікам.

Наперадзе ў аўтазаводцаў гульні ў Мінску. Беларускія аматары хакею здолеюць сёлета самі ацаніць майстэрства каманды «Тарпеда», якая, трэба спадзявацца, пастараецца паказаць сапраўдны сучасны хакей.

На гэты раз у Мінску надвор'е не будзе перашкодай. У строй уступае выдатнае збудаванне — Палац спорту са штучным ільдом.

**Дабраслаў ЦЕРАХАЎ.**

Фота аўтара.



По дарозе на чарговую гульню.

# НА БЛАКІТНАЙ АРЭНЕ

На аэрадроме Мінскага авіяспартыўнага клуба праходзіла вялікае свята, прысвечанае Дню паветранага флоту СССР. Сваё майстэрства паказвалі лётчыкі, планерысты, авіямадэлісты. Але вось іх змянілі парашутысты. У небе, як казачныя кветкі, распускаюцца блакітныя, сінія, аранжавыя купалы парашутаў...

Самалёт дасягнуў зададзенай вышыні. Ад яго аддзяляецца маленькі чорны камячок. Над ім — белы парашут. Але што гэта? Парашутыст вызваляецца ад прывязной сістэмы. Тысячы гледачоў напружана пазіраюць угару. Хто гэты смяльчак? Што ён збіраецца рабіць?

Пад парашутам на тонкіх тросах павісае трапецыя. Спартсмен спускаецца на яе і пачынае рабіць гімнастычныя практыкаванні. Ухапіўшыся адной рукой за металічную пярочку, ён робіць «гарызонт», потым вугал, некалькі пераваротаў. Зачапіўшыся пальцамі ног за трапецыю, спартсмен павісае ўніз галавой...

Усё бліжэй зямля. Стаіўшы дыханне, гледачы назіраюць за гэтым смелым, арыгінальным нумарам.

Паветраных гімнастаў прывыклі бачыць пад купалам цырка. Але пад купалам парашута!.. Такое было для мінчан навіной.

— Гімнастычныя практыкаванні пад купалам парашута выконваў майстар спорту СССР Уладзімір Гурны! — данесцца з магутных радыёдынамікаў, устаноўленых на аэрадроме. І адразу ж з усіх бакоў — шквал воплескаў.

...Валодзю Гурнаму, калі ён вучыўся ў Беларускім інстытуце фізкультуры, прарочылі бліскучую будучыню ў гімнастыцы. Але яго захапіў другі від спорту, які патрабуе смеласці і адвагі — парашутызм. У Мінскім авіяспартыўным клубе адразу заўважылі навічка. Ён хутка становіцца членам зборнай каманды рэспублікі, а потым зборнай краіны, выконвае нарматыў майстра спорту, заканчвае інстытут фізкультуры.

Парашутны спорт цікавы сваёй разнастайнасцю. Тут саскокі на дакладнасць прызямлення, і зацяжныя, і камбінаваныя. У апошні час, між іншым, адчуваецца яўная тэндэнцыя да ўсё большага ўскладнення парашутызму. Гурнымгімнаст надумаў пад купалам раскрытага парашута выканаць цэлы комплекс гімнастычных практыкаванняў. Заманлівая ідэя! Такога дагэтуль яшчэ ніхто не бачыў ні ў нас, у Савецкім Саюзе, ні ў якой-небудзь іншай краіне свету. Справа ў тым, што ў часе такога спуску парашутыст становіцца не кіруемы, і павялічваецца небяспека для яго жыцця.

Уладзімір Гурны настойваў на сваім. Ён намаляваў схему такога саскоку, склаў табліцу, усё разлічыў да драбніц. Небяспекі ніякай. Наадварот, пры знаходжанні спартсмена на трапецыі, якая



**Уладзімір Гурны пасля саскоку.**

прымацавана на два метры ніжэй за падвясную сістэму, цэнтр цяжару перамяшчаецца ўніз, і тым самым павялічваецца ўстойлівасць парашута. А кіраваць ім можна пры дапамозе дадатковых стропаў.

Галоўны трэнер зборнай краіны, заслужаны майстар спорту Павел Андрэевіч Старчыенка, сам выдатны парашутыст, падтрымаў Валодзю Гурнага. Яму было дазволена падрыхтаваць гімнастычны нумар да вялікага авіяцыйнага свята ў Ташкенце.

Саскокі праводзіліся на іпадроме, дзе былі гледачы. На вышыні восемсот метраў Уладзімір пакінуў самалёт. Парашут раскрыўся. Адразу ж спартсмен пачаў рыхтавацца да выступлення. Адкінуў за спіну запасны парашут і апусціў уніз на тросах трапецыю. Потым расшпіліў на грудзях карабін падвяснай сістэмы, вызваліўся ад нажных абхватаў і, трымаючыся за тросы, пачаў паціху спускацца на трапецыю.

Парашут, злёгку пагойдваючыся, плаўна зніжаўся. Яго шаўковы купал прасвечваўся сонцам, туга напятыя стропы звінелі пад націскам струменяў паветра. Уладзімір паглядзеў на вышынямер. Трыста пяцьдзесят метраў. Час!

Гледачы ўбачылі яго нумар. Уладзімір пачаў выконваць комплекс, які складаўся з дванаццаці практыкаванняў. Апошнюю сотню метраў ён спускаўся, павісшы на трапецыі ўніз галавой. І амаль ля самай зямлі вярнуўся ў звычайнае становішча.

Моцны штуршок. Парашут воблакам кладзецца на зямлю. У Валодзі такое адчуванне, нібы яму давялося ў хуткім тэмпе прабегчы не адну сотню метраў. А да яго ўжо з усіх бакоў спяшаюцца сябры. Віншуюць з перамогай. Уладзімір Гурны, спартсмен з Беларусі, упершыню ў свеце выканаў такі складаны саскок.

Потым саскок на парашуце з трапецыяй Гурны паказваў у многіх гарадах краіны. У Туле, на авіяцыйным свяце, як звычайна, Уладзімір пакінуў самалёт на вышыні васьмісот метраў. Парашут раскрыўся, і Уладзімір пачаў пераходзіць на трапецыю. У гэты момант трапецыя стала вертыкальна і на яе тут жа намотаўся трос ды яшчэ і зачапіўся за вышынямер на левай руцэ і за рамень на спіне. Спартсмен апынуўся ў пастцы, аблытаны па руках і нагах. Але не разгубіўся. На вольнай руцэ падцягнуўся да трапецыі, вызваліў вышынямер і рамень, потым левай рукой пачаў разблытваць трос, памагаючы сабе нагамі.

У гэты момант каментатар тлумачыў гледачам пра тое, якія практыкаванні выконваліся. Уладзімір чуў кожнае слова. Спяшаўся разблытаць трос. Да зямлі заставалася не больш трохсот метраў. З трапецыі зняты апошні віток, і Уладзімір у выключна хуткім тэмпе робіць увесь комплекс практыкаванняў і шчасліва прызямляецца.

Насустрач бягуць Вячаслаў Крылоў, Ібрагім Фасхутдзінаў...

— Што здарылася, Валодзя? — здзіўлена пытаюць яны.— Можа новы комплекс прыдумаў?..

— Тут, браткі, не да комплексу было,— стомлена ўсміхнуўся Уладзімір і пачаў расказваць сябрам пра свае паветраныя прыгоды.

У адважнага парашутыста ўжо ёсць паслядоўнікі. Цяпер больш за пятнаццаць савецкіх спартсменаў дэманструюць саскок на парашутах з трапецыямі. Некаторыя з іх выконваюць практыкаванні на гімнастычных колцах, падвешаных да парашутаў.

А Уладзімір Гурны ўжо распрацоўвае новыя арыгінальныя практыкаванні, якія можна паказваць на блакітнай арэне. Адзін такі нумар ён упершыню прадэманстраваў на міжнародных спаборніцтвах парашутыстаў у Югаславіі, дзе аспрэчваўся кубак Адрыятыкі.

...Увішны АН-2 ляціць на вышыні дзвесце метраў. У яго кабіне — Уладзімір Гурны, кіяўлянін Яўген Ткачэнка. З парашутамі, у касках, у ахоўных акулярах... Нечым яны нагадваюць касманаўтаў.

Уладзімір адчыняе дзверцы самалёта. За борт выкідваецца дванаццаціметровы капронавы фал. І Уладзімір спускаецца па фале за борт. Яго адразу падхоплівае паветраны паток.

За Гурным па фале спускаецца Ткачэнка. Вось яны разам, моцна абхопліваюць адзін другога рукамі, абвіваюць нагамі, замацоўваюцца дадатковым счэпам. Ужо два чалавекі з нераскрытымі парашутамі — за бортам самалёта.

Самалёт паволі набірае вышыню. Пад крылом — бераг мора, даліны, горы ў зеляніне вінаграднікаў, невялікі прыморскі гарадок...

Зададзеная вышыня дасягнута. Ткачэнка рэзкім узмахам нажа абразае туга нацягнуты фал Гурнага. Цяпер Уладзімір трымаецца толькі за таварыша.

Нарэшце, паказваецца двухпавярховы дом — загадзя вызначаны арыенцір. Ткачэнка абразае свой фал. Спартсмены каменем падаюць уніз. Праз некалькі секунд над імі раскрываецца парашут. Цяпер Гурны аддзяляецца ад Ткачэнкі. І над ім паяўляецца шаўковы купал. Спартсмены ўдала прызямляюцца ў вызначаным месцы.

Міжнародная судзейская калегія адзначыла майстэрства савецкіх парашутыстаў дзесяццю баламі — самай высокай ацэнкай. Гурны і Ткачэнка заваявалі прыз, устаноўлены саюзам турыстаў Югаславіі. Прадэманстраваны імі саскок мае велізарнае прыкладное значэнне. Калі парашутыст, саскокваючы, раптам «завісне» за хвастом самалёта, то другі яго таварыш, спусціўшыся да яго па фале, акажа яму дапамогу. Яны змогуць прызямліцца на адным парашуце.

Такую дарогу ў парашутызме пракладвае беларускі спартсмен Уладзімір Гурны. Адну тысячу дваццаць шэсць разоў ён саскокваў з самалёта на парашуце. Ён — уладар чатырох сусветных рэкордаў у саскоках на дакладнасць прызямлення.

Уладзімір Гурны старанна рыхтуецца да першынства свету па парашутызму, якое адбудзецца гэтым летам у Лейпцыгу. І спадзяецца дасягнуць новых выдатных вынікаў. Зычым яму ўдачы!

**Станіслаў АСЛЁЗАЎ.**

 

## Усмешкі маладосці

### НА СПАРТЫЎНЫЯ ТЭМЫ




Усебаковая загартоўка.
«Крокодил».





Без слоў.
Венгрыя.

У часе гульні і... пасля.
«Советский спорт».









На недасягальнай вышыні.
Польшча.




А дзе ж шайба?
Венгрыя.

## Я ЎЖО НЕ САЛДАТ

Салдат сказаў:— Курыць хачу,
Аж нават цёмна ўваччу,
Хоць ты згарні цыгарку з
лісця...
Яфрэйтар кажа:—На,
бяры,
Мой «Беламорканал»
куры.
Я сам салдатам быў
калісьці.

**Мікола ВЯРШЫНІН.**



# Нашы аўтары

**КУЛЯШОЎ Аркадзь** нарадзіўся ў 1914 годзе ў мястэчку Самацеевічы Касцюковіцкага раёна. Вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме і Мінскім пединстытуце імя А. М. Горкага. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, часопісаў, на радыё і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Аўтар зборнікаў: «Па песню, па сонца», «Медзі дождж», «Мы жывём на граніцы», «На сотай вярсце», «Камуністы», «Прыгоды цымбал» і іншых шматлікіх кніг паэзіі.

За паэмы «Сцяг брыгады» і «Новае рэчышча» яму двойчы прысуджаліся Дзяржаўныя прэміі. Творы А. Куляшова перакладзены на многія мовы народаў свету.

А. Куляшоў — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, Старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру.

●

**ШАМЯКІН Іван** нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў в. Карма Добрушскага раёна на Гомельшчыне.

Шырокую вядомасць у чытача здабылі яго раманы: «Глыбокая плынь», «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», аповесці з цыкла «Трывожнае шчасце», шматлікія кнігі апавяданняў. Выступае І. Шамякін і як драматург (п'есы «Выгнанне блудніцы», «Не верце цішыні»).

І. Шамякін — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і Рэспубліканскай прэміі імя Я. Коласа. Дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі. Цяпер працуе намеснікам старшыні Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

●

**ТАРМОЛА Раман** нарадзіўся ў 1936 годзе ў мястэчку Мір. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Працуе ў Мінскай студыі тэлебачання. Аўтар зборніка вершаў «Асколкі і росы».

●

**МАЕУСКАЯ Ніна** нарадзілася ў 1938 годзе ў г. п. Любань. Скончыла аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер працуе адказным сакратаром заводскай шматтыражнай газеты ў Мінску.

●

**ПАНІЗНІК Сяргей** нарадзіўся ў 1942 годзе ў Міёрскім раёне. Скончыў Магілёўскае медыцынскае вучылішча і працаваў фельчарам.

Цяпер вучыцца ў Вышэйшым ваенна-палітычным вучылішчы.

●

**КАМЕЙША Казімір** нарадзіўся ў 1943 годзе ў в. Навікі Стаўбцоўскага раёна. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Цяпер служыць у Савецкай Арміі.

●

**ХАДАРОНАК Славамір** нарадзіўся ў 1941 годзе ў в. Укля на Браслаўшчыне. Працаваў у рыбалавецкай арцелі. Скончыў Полацкае педвучылішча. Цяпер служыць на Балтыйскім флоце.

●

**ВЫШЫНСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1940 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна і цяпер працуе настаўнікам на Брэстчыне.

●

**ВЯРБА Вера** нарадзілася ў 1942 годзе ў г. Талачыне. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Выйшаў яе зборнік вершаў «Вочы вясны».

●

**АЛЯХНОВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1938 годзе на Слонімшчыне. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны эканамічны інстытут. Тры гады працаваў інжынерам у экспедыцыях Беларускага інстытута воднай гаспадаркі, а цяпер — у Дзяржаўным камітэце па друку пры Савеце Міністраў БССР.

У «Маладосці» выступае ўпершыню.

●

**ГОЛУБ Юрка** нарадзіўся ў 1947 годзе ў Мастоўскім раёне. Вучыцца на першым курсе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

●

**МІСЬКО Павел** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Старцавічы на Случчыне. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер — супрацоўнік рэдакцыі рэспубліканскай «Сельскай газеты».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ», № 2**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Лідзія ТАЎЛАЙ** і **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.I.66 г. Падпісана да друку 29.I.66 г.
АТ 08509. Тыраж 8110 экз. Зак. 736. Цана 40 кап. Папера $70\times108^{1}/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.



САЛЮТ.



Уладзімір КУЗЬМЕНКА. З серыі лінагравюр. «МІНСК».

РАБОЧЫ ДЗЕНЬ.

